УДК 811.161.3+821.161.3
ББК 81.411.3+83.3(2 Беи)
Л48

**Лепешаў І.Я.**
У пошуках ісціны

У гэтым навукова-папулярным выданні змешчаны некаторыя, актуальныя і сёння, артыкулы мовазнаўчай, літаратуразнаўчай, гістарычнай і грамадска-палітычнай тэматыкі, апублікаваныя за апошнія пяць гадоў у перыядычным друку – у газетах («Наша слова», «Літаратура і мастацтва», «Народная воля»), часопісах («Роднае слова», «Крыніца», «Вышэйшая школа» і інш. ).

УДК 811.161.3+821.161.3
ББК 81.411.3+83.3(2 Беи)

# «НАЛЯТАЎ ВІХОР З НАВАЛЬНІЦАЮ, ДЫ НЕ ГНУЎСЯ ЁН ПЕРАД БУРАЮ»

[Тут, замест уступу да гэтай кнігі, змяшчаецца перакладзены на беларускую мову нарыс **Вадзіма Жураўлёва,** апублікаваны 20.06.2006 года ў газеце «Перспектива».]

Гэта нарыс пра жыццё доктара філалагічных навук Івана Лепешава, прафесара кафедры беларускай мовы ГрДУ імя Янкі Купалы, аўтара 35 кніг. Яго імя адлюстравана ў «Беларускай Энцыклапедыі», у «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», «Беларуская мова: Энцыклапедыя», «Беларусь: Энцыклапедычны даведнік».

## *«Индийская гробница» і Архіпелаг ГУЛАГ*

У жніўні 1949 года ў Гродне круцілі фільм «Индийская гробница». «А вы першую серыю бачылі?» – спытаў «чужы» і прыцягнуў увагу Лепешава да афішы на Ажэшцы. – Абавязкова паглядзіце». – «Не, ужо не пагляджу», – мільганула ў галаве студэнта-завочніка, настаўніка Свіслацкай школы.

Праз хвіліну-другую – ужо на Тэльмана, у кабінеце чэкіста – маёр В-аў выняў з кішэні пісталет і – як адрэзаў: «Ты арыштаваны!» – а яшчэ ў педінстытуце ён быў холадна ветлівы: «На вас кляўза паступіла. Трэба пагаварыць». Пагаварылі (ішоў другі тыдзень «мядовага месяца» Івана Лепешава)... Сюжэт страшнейшы, чым у драме Кальдэрона «Жыццё ёсць сон», дзе многае

... было смутой,
И школой низостей, предательства,
И академией пороков.

Гэта быў не «сон Сехісмунда»: ужо ў кастрычніку Ваенны трыбунал войск МУС Гродзенскай вобласці прыгаварыў Лепешава да дзесяці гадоў «Архіпелага». Лёс закінуў яго к мору-акіяну, у ГУЛАГаўскія лагеры Находкі і Спаска. Там Іван Якаўлевіч зведаў тое ж, што Іван Дзянісавіч у «крамольным» апавяданні Салжаніцына: канвой, барак, рабскую працу, баланду, нары, шмон, парашу... Там ён стаў тынкоўшчыкам 5-га разраду і вырас да брыгадзіра, пазнаў прамудрасці сацыялістычнага спаборніцтва сярод зэкаў.

У далёкаўсходніх лагерах Лепешаў навучыўся курыць, лаяцца; і там жа пісаў вершы:

По раскврашенным улицам Спасска
Я иду, потупясь головой.
Не один, а в колонне. С опаской

Озираюсь на грозный конвой…

Калі дазваляў рэжым, зэк-філолаг чытаў слоўнік Ожагава і «Русский язык» Вінаградава. Кнігі выслала Ганна – першая жонка Івана Якаўлевіча. З гэтымі кнігамі ды з майстаркам тынкоўшчыка ён выйшаў на волю – «здраднік Радзімы», двойчы ранены ў баях за Савецкую Радзіму. Яго сямейны агмень даўно патух: настаўніца Ганна не вытрымала гнёту грамадскай думкі, пагроз пазбавіцца работы і падала на развод…

### *«Годен под пули, без вести годен пропасть»*

У Луі Арагона ў «Вальсе двaццацігадовых» ёсць характарыстыка «гарматнага мяса»:

Годен для ветра, для грязи, для тьмы.
Годен под пули. Годен для марша.
Годен легендой бродить меж людьми.

У 1944 годзе Іван Лепешаў стаў кулямётчыкам. Ён удзельнічаў у штурме горада Інстэрбурга, крэпасці Пілау (Усходняя Прусія), узнагароджаны медалямі «За адвагу», «За баявыя заслугі», «За ўзяцце Кенігсберга» і інш. Прафесар Лепешаў дагэтуль носіць у сабе кавалачак варожага «жалеза». Ваенныя хірургі двойчы аперыравалі раненага, але палічылі, што асколак, замерлы ля пазванка, бяспечней не чапаць…

Тады чаму – «здраднік Радзімы», чаму – ахвяра ГУЛАГа? У «віцебскі перыяд» жыцця Лепешава быў архідраматычны момант: у 1943 годзе ён, юнак, быў загнаны фашыстамі ў паліцыі. Уцякаў, але быў схоплены гестапаўцамі і кінуты ў Круглянскую турму. Яго збівалі, цкавалі сабакамі… Без вестак не прапаў – вызваленне прыйшло з Усходу.

### *Саламяная страха, «Мертвые души»*

У 2005 годзе прафесара Лепешава знайшло пісьмо з Інтэрнэту. Іераманах Міканор (у міры Дзмітрый Лепешаў) – сакратар вучонага савета Хабараўскай духоўнай семінарыі – пытаўся пра лёс «нашага агульнага генеалагічнага дрэва». Адказ з Гродна: «Ці былі нашы дзяды або прадзеды стрыечнымі ці траюраднымі братамі, дакладна сказаць не магу, бо, як пісаў А.Твардоўскі:

Мы все – почти что поголовно –
Оттуда люди, от земли,
И дальше деда родословной
Не знали: предки не вели,
Не беспокоились о древе…»

Іван Лепешаў нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Іскозы Віцебскай вобласці. Бабуля Арына пытала ўнукаў: «Можа, на руські бок хадзілі?» А «руські бок» – зямля Смаленская – за чатыры кіламетры ад Іскоз. Якаў Маллянавіч – бацька прафесара Лепешава – быў калгаснікам, ведаў сталярную справу. Яго запрашалі чытаць псалтыр над памерлымі, а жонка Якава – Лісавета – была непісьменнай.

Пад саламянай страхой вялікай хаты Лепешавых не ведалі голаду. Іх сыны – Бог тройцу любіць – рана зразумелі, што народжаны для працы. Запрэгчы каня ў калёсы, зняць колы і змазаць дзёгцем, касьба – справа для Івана прывычная. У пятым класе Ваня зачараваўся, а потым шмат разоў перачытваў «Мертвые души» Гогаля. І прыйшлі да яго Янка Купала, Якуб Колас, Кандрат Крапіва…

### ***Праўда – крыўда, карцэр і пісталет***

«Повесть о настоящем человеке» Барыса Палявога настаўнік Лепешаў аналізаваў – насуперак прэзідыуму чытацкай канферэнцыі – на беларускай мове. Ён не крытыкаваў герояў і духоўны свет кнігі, але сказаў, што стыль, паэтыка выдаюць у аўтары журналіста. І тады нарадзілася «кляўза», а ў карных органах успомнілі аб Лепешаве-паліцэйскім. Ён зведаў карцэр, перад ім буяніў чалавек з пісталетам, і вось – прызнанне. Прыгадаем радкі Багушэвіча:

Як простая праўда згінула ў свеце,
Дык праўды і з свечкай шукаюць…
Як камень у воду, так праўда прапала!

Пры Хрушчове праўды стала больш. У 1955 годзе Лепешаў-зэк быў адпушчаны на волю (умоўна-датэрмінова), рэабілітаваны ў 1963 годзе. Выпускнік Аршанскага настаўніцкага інстытута доўга не мог знайсці работу ні ў Беларусі, ні ў Расіі: чыноўнікаў палохаў «ярлык»… У цяжкія мінуты Іван думаў аб шахтах Данбаса, але атрымаў-такі «класы» на Гродзеншчыне. «Купалаўскі» педінстытут закончыў на выдатна і асабліва доўга – дзесяць гадоў – настаўнічаў у в. Бершты Шчучынскага раёна. Тут Лепешаў напісаў дзве кнігі і кандыдацкую дысертацыю. У педінстытуце – з 1971 года. Прапанова рэктара Бадакова ўзначаліць кафедру беларускай мовы Лепешава не спакусіла…

### ***«Галава раба», пісьмо Талстога***

– Іван Якаўлевіч Лепешаў праявіў сябе ў многіх галінах лінгвістыкі, але любімым дзецішчам яго з'яўляецца фразеалогія. Ён стаяў у вытокаў гэтай навукі, аддаючы ёй душу і сэрца. Яго вучні і паслядоўнікі працуюць не толькі ў Беларусі, але і ў Украіне, Польшчы, – гаворыць доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларус-

кага і тэарэтычнага мовазнаўства Мікола Даніловіч (ГрДУ). – Нягледзячы на салідны ўзрост, прафесар Лепешаў захаваў захопленасць, адданасць навуковай справе, надзвычайную працаздольнасць. Яго новая, трыццаць пятая кніга – гэта салідная манаграфія, у якой рашаюцца важныя праблемы беларускай парэміялогіі – навукі аб прыказках. Знаходзіцца ў пастаянным пошуку, ствараць – нязменны прынцып Лепешава.

Абарона ж доктарскай дысертацыі не абышлася без «стукацтва» (1985 г.). Нехта з апанентаў напомніў вучонаму савету аб ГУЛАГаўскім мінулым спашукальніка. Пра падобных «нехта» слушна сказаў Феагнід-грэк: «Не, не стаць галаве раба прамой, ганарлівай».

Прайшоў час, і Лепешаў атрымаў «строга канфідэнцыяльнае» пісьмо з Масквы ад доктара філалогіі Талстога – унука Льва Мікалаевіча Талстога: «Пішу Вам, каб супакоіць Вашу душу...» Мікіта Ільіч Талстой даў станоўчае («закрытае») заключэнне аб доктарскай дысертацыі Лепешава, і яго прыняў Экспертны савет.

### *«В своей стране я словно иностранец»*

У кватэры прафесара Лепешава ёсць вялікая шафа, у ёй – сорак чатыры скрыначкі. Гэта унікальная картатэка збіральніка, жняца і сейбіта слоў, фразеалагізмаў, прыказак... Тысячы прачытаных кніг, дзесяцігоддзі інтэлектуальнай працы, лекцыі, «уласны збор твораў» у трыццаці пяці кнігах. Разгорнем «Дазнанні». У гэтай кнізе Лепешаў – вучоны і грамадзянін, патрыёт, беларус. Ён не можа пець оды двухмоўю. Прызнаючы рускі геній Пушкіна-паэта, Лепешаў не заплюшчвае вочы на яго імперска-расійскія настроі. Ён, як некалі Ларыса Геніюш, пакутуе ад таго, што «Сёння на пласе родная мова».

– Хоць мы з Іванам Якаўлевічам і сустракаемся «гады ў рады», але і пры рэдкіх сустрэчах ён азарае цябе, цісне руку тваю – уласнай, якая збірае скарбы, ён песціць іх і аберагае. А гэта скарбы нашага слова, трапяткога і даверлівага, як – несумненна! – і душа Лепешава, – кажа старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, паэт Юрка Голуб. – Ён, Іван Якаўлевіч, і свой «Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў» падпісаў незабыўна і нечакана: «Дай, Божа, каб усё было гожа, а што не гожа – не дай, Божа». Ды і сам Лепешаў – чалавек прыгожы. Асоба, постаць. А ў сваёй кроўнай справе – усяму галава.

### *Боская сіла, воля «вялікага савета»*

Ваню Лепешаву запомнілася, як раніцамі малілася яго бабуля, а сам ён рос упоравень з эпохай бальшавізму – бязбожнікам. Калі ў

суседняй вёсцы разбіралі храм, Лепешаў-пяцікласнік быў у захапленні: «Як цікава!» – і дапамагаў грузіць царкоўную маёмасць. Дамоў вярнуўся з маніфестам Мікалая Другога… У Віктара Гюго ёсць дакладнае назіранне:

Так движется время: однажды выходит из церкви
И новую церковь находит…

Атэізм – таксама вера, як і вера ў бажаство, у сурокі, у мудрасць правадыра. Іван Лепешаў, камсамолец і кулямётчык, верыў у камуністычную будучыню. Ён і ў канцэнтрацыйных лагерах не браў пад сумненне савецкі лад. Адмаўленне ранейшых лозунгаў прыйшло пазней, але асяняць сябе «крестным знамением» ён стаў яшчэ ў засценках Архіпелага, таемна ад зэкаў, молячы Бога: «Дай выжыць! Дай выжыць…» І сёння, завяршыўшы пад поўнач прывычныя турботы свае, прафесар не-не ды і перахрысціцца.

– У храм не хаджу, але я хутчэй праваслаўны, чым атэіст, – гаворыць Іван Якаўлевіч. – Даволі добра ведаю Біблію і веру ў якуюсь звышнатуральную сілу. Смерці не баюся, а паміраць страшна. І не хацелася б…

І не дадуць: у чэрвені на «вялікім савеце» ГрДУ доктару філалагічных навук Лепешаву зноў вынесены – адзінагалосна! – жыццясцвярджальны прыгавор: пяць чарговых гадоў прафесарскай «катаргі» на мілай яго сэрцу кафедры беларускай мовы. За гэты час Косця-ўнук увойдзе ў маладецтва, унук Ігар закончыць амерыканскі універсітэт, а трэцяя жонка (экс) пад небам Італіі напіша мемуары…

## З ПЕРАЖЫТАГА

Адны здарэнні, падзеі, выпадкі з асабістага жыцця з цягам часу амаль зусім забываюцца, а іншыя, – можа, таму, што яны у нейкай меры ледзь не лёсавызначальныя, – не сціраюцца з памяці, так і паўстаюць перад вачыма, як жывыя. А можа, і таму, што пра іх даводзілася неаднойчы расказваць то аднаму, то другому. Ды і цяпер напісаць пра адзін незабыўны жыццёвы эпізод прымусіў мяне мой калега па працы, якому, па ягонай просьбе, я што-нішто распавёў пра сябе.

...Была вясна 1949 года. Я тады працаваў у Свіслацкай сярэдняй школе, выкладаў беларускую мову і літаратуру. Першы год працы пасля заканчэння (двухгадовага) Аршанскага настаўніцкага інстытута імя Янкі Купалы. Пры размеркаванні мне вызначылі Гродзенскую вобласць, а аблана накіраваў у Свіслач.

Аднойчы дырэктар школы паклікаў мяне у свой кабінет і сказаў, што званілі з райкама камсамола:

– Хочуць правесці канферэнцыю чытачоў, прасілі, каб я параіў ім аднаго з літаратараў выступіць на той канферэнцыі. Я адразу ж назваў ім Ваша прозвішча. Схадзіце да іх сёння пасля ўрокаў.

Маладая жанчына, здаецца, другі сакратар райкама, родам, як я даведаўся ад яе, з Магілёўшчыны, размаўляла са мной па-руску, а калі ў маіх адказах не разумела якога-небудзь слова, дык ветліва перапытвала, прасіла перакласці. Тады яшчэ я, камсамолец, выхаваны ў марксісцка-ленінскім духу дружбы народаў, не адчуваў, што «в своей стране я словно иностранец», вялізную масу начальнікаў з ліку «прыезджых» вытлумачваў «недахопам мясцовых кадраў» і лічыў гэта нармальнай з'явай. І нават у думках не абураўся, што рэктарам Аршанскага настаўніцкага інстытута быў Сагацелян (з Арменіі), а дырэктарам Свіслацкай СШ – Сафонаў (з Кубані). Тады яшчэ не было ніводнага выпадку, каб начальнік у размове са мной сказаў: «Говорите на человеческом языке».

Праўда, мяне часам здзіўляла, што не толькі на маёй радзіме, у Дубровенскім раёне, але і тут, у Свіслачы, начальства размаўляе з падначаленымі не на іх роднай мове і, як здавалася, у душы лічыць іх асобамі ніжэйшага гатунку. Толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў я зразумеў, што і тады, і пасля праводзілася планавая, з далёкім прыцэлам русіфікацыя нашага краю. На пачатку 1990-х гадоў стала вядома з архіўных партыйных матэрыялаў, што ў 1953 годзе «са 150 кіраўнічых работнікаў органаў міліцыі заходніх абласцей мясцовым ураджэнцам быў толькі адзін чалавек», «у апаратах Баранавіцкага абкама і гаркама партыі, Берасцейскага і Гродзенскага гаркама партыі, Ваўкавыскага райкама партыі няма ні аднаго работніка з мясцовага насельніцтва» (гэтыя звесткі нядаўна паўтораны ў мемуарах Ніла Гілевіча). Гэтак жа рабілася не толькі ў Беларусі; напрыклад, у Латвіі, як паведамлялася падчас гарбачоўскай перабудовы, карэннае насельніцтва (латышы) складала ўжо толькі 52 працэнты. А ў тыя часы, у 1949 годзе, мне і ў галаву не прыходзіла рабіць якія-небудзь абагульненні і браць пад сумненне савецкі лад і родную, самую, як думалася, справядлівую ўладу.

Вернемся, аднак, у райкамаўскі кабінет. Там адбылася прыкладна такая размова:

– Ведаеце ж, канешне, што кніга Барыса Палявога «Повесть о настоящем человеке» адзначана Сталінскай прэміяй, і, напэўна, прачыталі яе? – запытала сакратар.

– А як жа! Ведаю, прачытаў, з вялікім задавальненнем. Выдатны твор!

– Плануем праз два тыдні правесці чытацкую канферэнцыю па гэтай кнізе. Рыхтуем каля 10 выступоўцаў. Хацелася б, каб Вы таксама выступілі і ў асноўным гаварылі пра мастацкі бок гэтай аповесці, пра майстэрства пісьменніка. Разлічвайце на 7-10 хвілін.

Я, зразумела, даў згоду, падзякаваў за запрашэнне.

Нагадаю, што тады і пазней, калі чыя-небудзь кніга ўдастойвалася Сталінскай прэміі, то для аўтара гэта было як бы знакам прыжыццёвай кананізацы, а сама кніга ўсяляк прапагандавалася, выдавалася масавым тыражом, перакладалася на мовы народаў Савецкага Саюза, абмяркоўвалася на чытацкіх канферэнцыях.

Імя Б.Палявога мне было добра знаёмае яшчэ да гэтай «Повести...», але не як празаіка, а як ваеннага карэспандэнта «Правды». Яго шматлікія цікавыя, захапляльныя нарысы даводзілася чытаць і на фронце у 1944–1945 гадах, і у шпіталі, дзе лячылі пасля ранення, і ў пасляваенны армейскі час.

Пасля той размовы з камсамольскім сакратаром я яшчэ раз прачытаў «Повесть», цяпер ужо досыць уважліва. Зрабіў шмат выпісак. Прадумаў сваё выступленне. Накідаў план, дзе былі і выпісаныя з твора прыклады.

Помніцца, я схадзіў у гарадскую бібліятэку, доўга гартаў мастацкія часопісы і падшыўкі цэнтральных газет. Знайшоў там артыкулы пра Б.Палявога і яго аповесць. Даведаўся, што ў даваенны час аўтар больш як дзесяць гадоў працаваў у газеце, быў журналістам, апублікаваў адну нязначную аповесць пра рабочы клас. «Повесть о настоящем человеке» станоўча ацэньвалася у друку, былі і сякія-такія крытычныя заўвагі. Адна з іх – пра газетны стыль асобных мясцін у аповесці. Гэта і мне шмат разоў кідалася ў вочы пры чытанні кнігі.

У вялікай зале, дзе была канферэнцыя, людзей сабралася сотні дзве, пераважна моладзь. Былі і настаўнікі з нашай школы. Пярэднія рады крэслаў паспелі заняць старшакласнікі, усе яны пераросткі: не вучыліся ў гады нямецкай акупацыі. На сцэне за сталом прэзідыума – некалькі жанчын, супрацоўнікаў райкама камсамола, і, здаецца, два ці тры асноўныя дакладчыкі.

Усе, хто выступаў перада мною, гаварылі ці чыталі з ліскоў па-руску, многія з выразным беларускім акцэнтам. А калі далі слова мне, то не паспеў я і вымавіць першую фразу пра выключна багаты ідэйна-патрыятычны змест аповесці, як адна з дам, што былі ў прэзідыуме, нечакана перабіла мяне:

– Говорите, пожалуйста, по-русски, ведь мы обсуждаем произведение русского советского писателя.

Я прыпыніўся на хвіліну, а пасля, пазіраючы на сцэну, сказаў, што у гэтай зале сядзяць нашы настаўнікі, з якімі я заўсёды размаўляю па-беларуску, школьнікі-старшакласнікі, якім я выкладаю беларускую мову і літаратуру, і што тут амаль усе астатнія – мясцовыя людзі, тутэйшыя, беларусы. Два ці тры чалавекі з залы выгукнулі:

– Няхай па-нашаму, па-беларуску кажа!

Падахвочаны гэтымі выкрыкамі, я дадаў, што неяк выходзіць ніякавата: жывём у Беларусі, а выступаць на роднай мове нельга; ім, тутэйшым, за польскім часам не дазвалялі гаварыць па-беларуску, а цяпер, калі Заходняя Беларусь вызвалена Чырвонай Арміяй, мы ўсе маем гэта права.

Некалькі чалавек запляскалі ў далоні. Другая дама са сцэны, пашаптаўшыся з суседкай, сказала:

– Говорите по-белорусски, товарищ Лепешев!

Стараючыся не паўтараць ужо сказанага папярэднімі выступоўцамі, я напачатку ахарактарызаваў аповесць Б.Палявога як выдатны твор савецкай літаратуры з непаўторным сюжэтам, пабудаваным на рэальнай аснове. Гаварыў пра сваё вельмі добрае ўражанне ад чытання гэтай кнігі, пра вобразы асноўных і другарадных герояў аповесці, выдатнае ўменне аўтара індывідуалізаваць мову персанажаў, пра запамінальныя пейзажныя карціны, мноства арыгінальных, яркіх эпітэтаў, параўнанняў, разгорнутых метафар. І ўсё гэта пацвярджаў адпаведнымі прыкладамі. Ніколькі не прыніжаючы гэтай аповесці, я зазначыў, што ў ёй часам адчуваецца прывычны для аўтара стыль журналіста і ў добрую прозу іншы раз урываецца газета. Памятаю, што прыводзіў прыклады некаторых, як мне, чытачу, здавалася, непраўдападобных ці непераканальных сітуацый, сказаў пра неаднаразовае дакучлівае паўтарэнне выразу «ключик подобрать» у абмалёўцы камісара. Завяршыў свой выступ нейкай загадзя прадуманай канцоўкай у гонар вобраза Мярэсьева і яго жывога прататыпа лётчыка Аляксея Марэсьева, што і выклікала у слухачоў дружныя воплескі.

Пасля канферэнцыі тая самая сакратар райкама, што давала мне заданне выступіць, шчыра падзякавала за, як сказала, цудоўны выступ. А нехта напісаў у карныя органы данос, што нібыта я на канферэнцыі займаўся антысавецкай агітацыяй, спрабаваў ачарніць мастацкі твор, удастоены Сталінскай прэміі, выказваў нацыяналістычныя погляды. Хутчэй за ўсё, у зале падчас канферэнцыі сядзеў і які-небудзь маёр-чэкіст у штацкім.

Праўда, гэтае абвінавачванне ўсё ж не атрымала далейшага развіцця, але стала «началом всех начал», дало чэкістам зачэпкуштуршок да глыбокага капання ў маёй біяграфіі. Яны ўчапіліся за адзін важкі для іх нібыта праступак, хоць пра яго ведалі, аднак не лічылі падсуднай справай і «смершаўцы», калі я служыў у савецкім войску, і мясцовыя, раённыя кадэбісты, калі дэмабілізаваўся з арміі, і аршанскія чэкісты, калі вучыўся у інстытуце. Гэта – маё вымушанае кароткачасовае знаходжанне ў паліцыі пры канцы нямецкафашысцкай акупацыі.

Як цяпер ацэньваюць, 1949 год па сваім нястрымным шквале масавых рэпрэсій быў падобны на 1937 год. Хлынула магутная плынь новай сацыяльнай прафілактыкі. Тады асуджалі за «палітыку», як правіла, на 25 гадоў.

У кастрычніку 1949 года мяне прыгаварылі да 10 гадоў «Архіпелага», завезлі да мора-акіяна, у ГУЛагаўскія лагеры Находкі і Спаска. «Там Іван Якаўлевіч, – як пісаў пра мяне журналіст В.Жураўлёў, – зведаў тое ж, што і Іван Дзянісавіч у «крамольным» апавяданні Салжаніцына: канвой, барак, рабскую працу, баланду, нары, шмон, парашу».

Пры Хрушчове у 1955 г. я быў адпушчаны на волю, а затым пасля маіх шматлікіх скаргаў органы КДБ правялі «пераправерку». У выніку суд адмяніў ранейшы прыгавор і апраўдаў мяне «за отсутствием состава преступления». У пастанове суда аб рэабілітацыі сказана, што пераправеркай устаноўлена: «Лепешев в полицию мобилизован в принудительном порядке, никакого участия в карательных операциях не принимал, наоборот, поддерживал связь с партизанами, за что был арестован немцами и содержался в тюрьме до их изгнания. После изгнания немецких оккупантов Лепешев был призван в Советскую Армию, принимал участие в борьбе с немецкими оккупантами, был дважды ранен, награждён».

З Масквы былі вернутыя мне раней адабраныя медалі «За адвагу», «За баявыя заслугі», «За ўзяцце Кенігсберга» і «За перамогу над Германіяй». У адпаведнасці з існуючым тады заканадаўствам, мне, як беспадстаўна рэпрэсаванаму, а пасля рэабілітаванаму, выплацілі кампенсацыю – адвалілі аж цэлых 235 рублёў (два месячныя аклады па ранейшым, да арышту, месцы працы). Смех дый годзе, але, як кажуць, дзякуй і за гэта. З паршывай авечкі хоць воўны клок.

Вось такія бываюць перыпетыі пры таталітарным рэжыме.

## ЯК Я АБАРАНЯЎСЯ

Усё пачалося з таго, як вядомы журналіст Вадзім Жураўлёў, былы галоўны рэдактар не менш вядомага ў перабудовачныя гады выдання «Высота», летам 2006 года апублікаваў у гродзенскай рэгіянальнай газеце «Перспектива» вялікі нарыс «Налятаў віхор з навальніцаю, ды не гнуўся ён перад бураю». Дарэчы, у цэнтры нарыса пад фотаздымкам — мае́ ад рукі напісаныя словы: «Сёння мяне асабліва хвалюе і непакоіць лёс нашай нацыі і яе сарцавіны — мовы, ужыванне якой звужаецца, бы шчыгрынавая скура».

Наклад «Перспективы» параўнальна не малы для сённяшняга часу (каля 5 тысяч), і яе прачыталі многія. Пры сустрэчы са мною і калегі па працы, і шматлікія знаёмыя гараджане неаднойчы прасілі як бы расшыфраваць асобныя трохі эскізна апісаныя ў нарысе здарэнні, падзеі, выпадкі. А калі я «расшыфроўваў» што-небудзь, то звычайна казалі: вось бы апублікаваць гэта, каб людзі ведалі, якія душэўныя драмы спараджаюцца ў недэмакратычным грамадстве. Пра некаторыя драматычныя жыццёвыя эпізоды я ўжо расказаў у артыкуле «З пражытага» (Наша слова. 4.10.2006). А цяпер, па настойлівай просьбе вельмі многіх чытачоў, «расшыфроўваю» яшчэ адзін эпізод, пра які досыць сцісла (усяго 14 газетных радкоў) гаворыцца ў памянёным нарысе – у невялічкім раздзеле пад загалоўкам «Галава раба, пісьмо Талстога».

17 мая 1985 года я, дацэнт Гродзенскага універсітэта, абараняў у Інстытуце мовазнаўства АН БССР доктарскую дысертацыю «Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы». Годам раней у рэспубліканскім выдавецтве «Навука і тэхніка» пабачыла свет мая манаграфія пад такой жа назвай, станоўча ацэненая ў пяці надрукаваных рэцэнзіях. У спісе публікацый па дысертацыйнай тэме значыліся яшчэ тры мае раней выдадзеныя кнігі і 47 артыкулаў.

За некалькі дзён да абароны ў спецыялізаваны савет Д.006.15.01 прыслалі ці перадалі ў цэлым адабральныя водгукі тры апаненты, загадзя прызначаныя гэтым саветам, – два вядомыя вучоныя з Расіі (У.П.Жукаў, В.М.Макіенка) і член гэтага ж савета П.П.Шуба, якія дэталёва азнаёміліся з дысертацыяй і аўтарэфератам. Пяць добрых водгукаў на аўтарэферат даслалі асобныя вучоныя-спецыялісты з Масквы, Харкава, Арла, Кастрамы, Чарапаўца. Здавалася б, усё спрыяла паспяховай абароне.

Згодна з інструкцыяй, спецыялізаваны савет высылае за месяц да абароны дысертацыю, а таксама аўтарэферат і на адрас ім жа

прызначанай вядучай (апаніруючай) арганізацыі. Ёю быў Гомельскі універсітэт. Іх водгук, падпісаны прафесарам У.В.Анічэнкам, завяршаўся высновай, што даследаванне ў цэлым заслугоўвае станоўчай ацэнкі, але пытанне аб прысуджэнні І.Я.Лепешаву вучонай ступені доктара філалагічных навук павінна рашацца саветам «з улікам не толькі навуковай значнасці гэтай работы, але і маральна-палітычных якасцей дысертанта ў час Вялікай Айчыннай вайны».

Вучоны сакратар савета апавясціў гэты водгук, а пасля зачытаў уключаныя ў справу дысертанта копіі дакументаў аб маёй поўнай рэабілітацыі як беспадстаўна рэпрэсаванага ў 1949–1955 гадах, аб вяртанні мне ўрадавых узнагарод, раней адабраных, аб залічэнні, у сувязі з рэабілітацыяй, гадоў зняволення як у мой агульны працоўны стаж, так і ў педагагічны. З хваляваннем адказваючы на пытанні некаторых членаў савета, я ў сваю чаргу прачытаў урывак з пастановы суда аб рэабілітацыі (гэты ўрывак ужо цытаваўся вышэй – у нататках «З перажытага»).

На далейшым пасяджэнні савета хоць у асноўным абмяркоўвалі дысертацыю і яе сем палажэнняў, вынесеных на абарону, але многія выступоўцы не маглі прайсці міма гомельскага водгуку. Афіцыйны апанент ленінградскі прафесар В.М.Макіенка сваё выступленне пачаў так: «Упершыню чую, каб у водгуку знешняй арганізацыі ацэньваўся маральны воблік дысертанта. Як мы ведаем, гэта кампетэнцыя той установы, якая прымае чалавека да абароны. І неяк нават горка чуць усё гэта, бо такія абвінавачванні чалавеку далучаць да навуковай ацэнкі, мне здаецца, вельмі неасцярожна і таксама, напэўна, не зусім маральна. Таварышы ж, што пісалі гэты водгук, маглі б запатрабаваць дакументы, якія мы зараз заслухалі. І тады б не было той няёмкасці, і чалавечай, і навуковай, якая ўзнікае і ў дысертанта, і ў членаў вучонага савета, і ва ўсіх, хто тут прысутнічае. Я, як чалавек і як вучоны, ніяк не магу пагадзіцца з такім, я б сказаў, парушэннем нормаў нашага заканадаўства... І тут праблема маралі паўстае ўжо з другога боку».

Член савета А.Я.Супрун, ахарактарызваўшы маю дысертацыю як «вырашэнне буйной, фундаментальнай навуковай праблемы», дадаў: «Таму я быў непрыемна здзіўлены, пачуўшы, што прафесар Анічэнка падпісаў дзіўны, каб не сказаць, ганебны водгук, які змяшчае ў сабе, на жаль, элементы кепска прыхаванага паклёпу, заснаванага на пустых плётках. Мяне засмуціла, што кіраўніцтва нашага савета не адхіліла і не вярнула гэты водгук рэктару Гомельскага універсітэта як не адпаведны ні па форме, ні па этыцы,

ні па «Палажэнні» нормам, таму, што павінна быць у водгуку па дысертацыі».

Непасрэдна ці ўскосна закранаўся гомельскі водгук ў выступленнях першага апанента прафесара У.П.Жукава (з Ноўгарада), прарэктара Гродзенскага універсітэта С.А.Габрусевіча. Пасля трохгадзіннага пасяджэння быў перапынак для тайнага галасавання. З вялізным напружаннем чакаў я ягоных вынікаў. І вось аб'яўляюць: усе 15 членаў савета прагаласавалі «за».

Але апошняе слова — за Масквой. Як тады было ўзаконена, усе матэрыялы па абароне дысертацыі адправілі ў Вышэйшую Атэстацыйную Камісію (ВАК). Пачаліся доўгія і трывожныя дні чакання. Хто ведае, як там паставяцца да маёй працы? Ці паўплывае на іх той злашчасны водгук?

Нездарма гаворыцца, што свет не без добрых людзей. 22 ліпеня нечакана-негадана атрымліваю пісьмо з Масквы — ад Мікіты Ільіча Талстога. Да гэтага я два ці тры разы бачыў яго на навуковых канферэнцыях у Мінску і Гомелі. Ведаў, што ён унук Льва Талстога, нарадзіўся і жыў да 1944 г. у Югаславіі, а пасля вярнуўся ў Савецкі Саюз. Доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт Акадэміі навук.

І сёння не без хвалявання перачытваю радкі гэтага дарагога для мяне пісьма, у якім словы «строго конфиденциально» падкрэслены: «Спешу сообщить Вам, пока строго конфиденциально, что я имел удовольствие ознакомиться в ВАКе с Вашим делом и дать по нему положительное заключение. Мое заключение принял Экспертный совет, и теперь надо ждать осенью, после летнего перерыва, утверждения Президиумом ВАКа. Пишу Вам, чтобы успокоить Вашу душу, которую, судя по делу, беспокоили изрядно и несправедливо». Былі пад канец і такія словы: «Надеюсь, что и Вам, и мне Бог определит остаток дней наших послужить науке и людям».

Пасля гэтага пісьма я адчуў палёгку. Нікому, зразумела, не паказваў яго і ні з кім не гаварыў пра яго. І толькі пасля таго, як у снежні атрымаў з ВАКа паштовую картку з паведамленнем, што 13.12.1985 г. мне прысуджана ступень доктара, пісьмо майго анёла-ахоўніка паказвалася самым блізкім мне асобам. А цяпер, калі дарагога Мікіты Ільіча ўжо няма на свеце, пра гэта можна расказаць і ўсім.

## «ЖЫВЕ ШЫЛА, ГРЫБ, МАМОНЬКА...»

Сказ, пастаўлены ў загаловак гэтых нататкаў, – з трагікамедыі Янкі Купалы «Тутэйшыя». Прозвішчы, ужытыя тут, нічога не гавораць

сённяшняму чытачу ці гледачу Купалавай п’есы. А між тым гэта не абы-якія постаці. Але спачатку некалькі слоў пра саму п’есу.

Трагікамедыя «Тутэйшыя», напісаная ў 1922 г. і апублікаваная ў 1924 г., хутка была забароненая і толькі ў 1988 г. зноў вернутая да жыцця. У энцыклапедычным даведніку «Янка Купала» (1986, с. 598) беспадстаўна сцвярджаецца, што «ідэйна-мастацкая супярэчлівасць не дала п’есе мажлівасці заняць значнае месца ў беларускай савецкай драматургіі». Сапраўдная ж прычына замоўчвання гэтай трагікамедыі больш як 60 гадоў зусім іншая. Не так даўно апублікаваныя дакументы з фондаў былога партыйнага архіва (ЛіМ. 10.11.1995) сведчаць, што 17 снежня 1926 г. на закрытым пасяджэнні ЦК КП(б)Б п’еса была забаронена па палітычных матывах. У сакрэтнай пастанове гаварылася: «Лічыць мэтазгодным пастаноўку п’есы на сцэне пасля яе радыкальнай перапрацоўкі аўтарам і пасля таго, як перапрацаваная п’еса будзе прынята да пастаноўкі адпаведнымі органамі». Ды аўтар не пайшоў на ганебны гвалт над ягонай душой.

У п’есе, час напісання якой аддалены ад нас многімі дзесяцігоддзямі, нярэдка ўпамінаюцца якія-небудзь імёны, факты, падзеі. Для чытача, аўтаравага сучасніка, аднаго гэтага ўпамінання магло быць дастаткова, каб зразумець, што ці каго меў на ўвазе пісьменнік, на што намякаў. Праз некалькі дзесяцігоддзяў гэтыя імёны, факты, падзеі аказваюцца забытымі, незразумелымі для чытачоў новага пакалення. А каб правільна асэнсаваць твор, патрэбна разумець усе дэталі яго зместу. Некалькі прыкладаў.

1920 год. Перад прыходам бальшавіцкага войска ў Менск Мікіта Зносак, ужо гатовы прыстасавацца да новай «палітычнай сітуацыі», хваліцца, што ён «не зусім такі ўжо несвядомы беларус – нават з вашай літаратурай знаёмы», дэкламуе нейкі куплет:

Беларусь, мая старонка,  
Куток цемнаты,  
Жыве Шыла, Грыб, Мамонька, –  
Будзеш жыць і ты.

Хто такія Шыла, Грыб, Мамонька? Адказу на гэта пытанне не знойдзеш у нядаўна выдадзеным дзевяцітомным Поўным зборы твораў Я.Купалы, у прыватнасці, у 7 томе, дзе змешчана п’еса «Тутэйшыя». Ніякага рэальна-гістарычнага каментавання ў гэтым томе няма. Да апошняга часу не ўпаміналіся гэтыя прозвішчы ні ў энцыклапедыях, ні ў вялікіх працах па гісторыі нашай краіны. Але цяпер у «Беларускай Энцыклапедыі» і ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» даюцца пэўныя звесткі пра Я.Мамоньку і Т.Грыба. А пра М.Шылу па-ранейшаму маўчок…

*Язэп Мамонька* (28.01.1889 – 10.09.1937) – відны беларускі палітычны дзеяч. Быў членам Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Двойчы арыштоўваўся царскімі ўладамі і амаль тры гады сядзеў у турме. Адзін з арганізатараў і дэлегатаў 1-га Усебеларускага з’езда ў 1917 г. Пасля – член Вялікай беларускай рады, член Рады БНР. У 1919 г. яго арыштоўвалі польскія ўлады, а ў 1918 і 1921 гадах – савецкія ўлады. Да 1928 г. жыў, працягваючы займацца палітычнай дзейнасцю, у Празе, Коўне, Вільні, Рызе. У 1928 г. вярнуўся ў Менск, але хутка быў арыштаваны, асуджаны на 10 гадоў, а ў 1937 г. расстраляны. Як пазначана ў энцыклапедыі, «рэабілітаваны ў 1989 і 1993 гг.».

*Тамаш Грыб* (7.03.1895 – 21.01.1938) – вядомы беларускі палітычны і культурны дзеяч. Удзельнік 1-га Усебеларускага з’езда ў снежні 1917 г., член Рады БНР і яе Выканаўчага камітэта. Адзін з кіраўнікоў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. З канца 1920 г. жыве ў эміграцыі спачатку ў Коўне, а пасля ў Празе. Скончыў філасофскі факультэт Карлава універсітэта (1928), абараніў доктарскую дысертацыю. Працягваў актыўную палітычную і асветніцкую дзейнасць за мяжой. Супрацоўнічаў у розных газетах і часопісах. Апублікаваў шмат артыкулаў па гісторыі. Пахаваны ў Празе.

*Мікола Шыла* – актыўны ўдзельнік беларускага адраджэнскага руху, адзін з кіраўнікоў партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Як ужо адзначалася, пра яго ў беларускіх энцыклапедыях ніякіх звестак не даюць. Мусіць, з той прычыны, што ён і ў перыяд Другой сусветнай вайны, і пасля яе працягваў актыўную барацьбу за самастойную, незалежную Беларусь. У часопісе «Крыніца» (1998. № 11. С. 69) быў змешчаны дакументальны матэрыял, як у 1948 г. у Германіі, у лагеры для перамешчаных асоб беларускай нацыянальнасці, адзначалі дзень 25-га сакавіка. Тут жа падаецца ліст Міколы Шылы, дасланы ўдзельнікам гэтай акцыі:

«Хваробаю цяжка прыкуты да ложка, у гэты Вялікі Урачысты Дзень не магу сам асабіста прыняць удзел у святкаванні. Дзеля гэтага, як удзельнік Акту 25 сакавіка 1918 года, ад усяго сэрца вітаю Вас з Вялікім Нацыянальным Святам і ад усяе душы зычу, каб у наступным годзе на Роднай Бацькаўшчыне, якая стогне пад чужацкім ярмом, мы ў сваіх родных хатах з сваім родным Урадам у вольнай Радзіме супольна святкавалі гэты Вялікі дзень і закончылі яго аднагалосным тостам: «Жыве Беларускі народ!», «Жыве вольная, незалежная, непадзельная Беларусь!»

На жаль, як сказана ў згаданым матэрыяле, у Міколы Шылы гэта быў апошні Сакавік, бо вельмі хутка пасля гэтага ягонае вялікае сэрца перастала біцца.

У Купалавай трагікамедыі сустракаем нямала іншых «несцэнічных» персанажаў, якія ўпамінаюцца толькі аднойчы. Так, у чацвёртай дзеі ёсць такі дыялог:

Мікіта: Ужо нават едзе і старшыня Беларускага Рэўкому Чарвякоў – толькі затрымаўся недзе пад Менскам на папаску.

Алена: А я чула, што і цётка Бадунова таксама едзе на белай кабыле з Смаленска.

Мікіта: Ну, яна, между протчым, эсэр-беларус і ў рахунак не йдзе: доўга тут не заседзіцца.

Зрэшты, тут Мікіта Зносак сапраўды як у ваду глядзеў.

Імя першага са згаданых дзеячаў, *Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова*, сёння ў Беларусі ведаюць амаль усе. У 1920–1937 гадах ён быў старшынёй ЦВК БССР. Гэтага аднаго з найбольш аўтарытэтных кіраўнікоў Беларусі пачалі ў перыяд масавых сталінскіх рэпрэсій усяляк шальмаваць, і 16 чэрвеня 1937 г. ён скончыў жыццё самагубствам. Да 1956 г. ягонае імя было ў забыцці. З вобразам Чарвякова сустракаемся ў аповесці В.Быкава «Знак бяды» і ў рамане «Палеская хроніка» І.Мележа.

Што да *Палуты Бадуновай*, то пра яе пачалі згадваць толькі нядаўна. А між тым гэта даволі значная дзеячка беларускага нацыянальна-палітычнага руху, адзін з лідэраў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Подпіс П.Бадуновай стаіць пад вядомымі Устаўнымі граматамі БНР. Падчас польскай акупацыі яе арыштоўвае дэфензіва, а ў 1921 г. яе абвінавацілі ў антысавецкай дзейнасці і восем месяцаў трымалі ў маскоўскай «Бутырцы». Пасля былі гады змагання за беларускую справу ўжо за межамі рэспублікі – у Заходняй Беларусі, у Празе. Цяжка захварэўшы, яна вяртаецца ў Менск, адыходзіць ад палітычнай дзейнасці, пасля пераязджае ў родны Гомель, жыве ў цяжкай матэрыяльнай нястачы. У 1937 г. яе арыштавалі, а праз год расстралялі.

З другога боку, у трагікамедыі ёсць іншага кшталту сцэнічныя і «несцэнічныя» героі, якіх Янка Здольнік ахарактарызаваў так: «тожа беларусы, з пароды рэнегатаў і дэгенератаў».

Дарэшты зрусіфікаваны, Мікіта Зносак пагардліва ставіцца да ўсяго беларускага, лічыць сябе «істым рускім патрыётам», які тут, у Беларусі, «стаіць на варце сваіх рангавых і руска-ісцінных інтарэсаў», стойка выконвае «сваю місію». Ён кажа Здольніку: «Между протчым, не забывайце, пане беларус, што я найздальнейшы вучань акадэмікаў

Скрынчанкі і Саланевіча. Апрача таго, нас бацька Пурышкевіч, быўшы ў Менску тут, замеціў і, ад'язджаючы, на гэтую місію багаславіў».

Пра гэтых вялікадзяржаўнікаў і чарнасоценцаў Я.Купала пісаў у артыкуле «А ўсё ж такі мы жывём!..» (1914): «Калі Мураўёў гаспадарыў у Беларусі, то ў тым часе і паміну яшчэ не было аб тых патэнтаваных расійскіх нацыяналістах, створаных на абраз і падобіе саламевічаў, пурышкевічаў, замыслоўскіх і таму падобных. Іх, гэтых патэнтаваных «валяй-патрыётаў», вытварылі нашы апошнія часы: безупынная рэакцыя, наступіўшая пасля светлых праблескаў 1905 г.»

Л.Саланевіч (выхадзец з беларускай вёскі) і Д.Скрынчанка былі рэдактарамі шавіністычных выданняў, тапталі ў гразь усё беларускае, падрывалі нацыянальны рух, які ўзначальвала газета «Наша ніва». Л.Саланевіч у сваёй газеце адну нашаніўскую публікацыю Я.Купалы назваў «галиматьёй», вартай нецэнзурнай лаянкі. У раней названым артыкуле Я.Купала пісаў: «Панам Саланевічам усё будзе «галиматьёй», што толькі па-беларуску ні напішацца. Для перакінчыкаў законы жыцця і праўда-справядлівасць у рахунак не ідуць». «Бацька» ж гэтых перакінчыкаў У.Пурышкевіч, бесарабскі памешчык, узначальваў чарнасоценныя арганізацыі Расіі «Саюз рускага народа» і «Саюз Міхаіла Архангела».

Пакуль што няма ў нашых гарадах, мястэчках, вёсках вуліц, якія б насілі імя Бадуновай, Шылы, Грыба, Мамонькі. Замест іх ёсць іншыя, чужыя. Дык няхай жа хоць у нашых сэрцах, кажучы Купалавымі словамі, «жыве Шыла, Грыб, Мамонька».

## КНІГА ПРА АДЧАЙ, БОЛЬ І ГОРЫЧ

*Калектывізацыя...* Сёння гэта слова амаль ва ўсіх людзей, за выключэннем хіба зачарсцвелых, закаранелых саўкоў, спараджае адмоўныя пачуцці. Гэта толькі ў савецкіх энцыклапедыях і розных даведніках, нярэдка і сучасных, яна вызначаецца як сацыялістычная перабудова сельскай гаспадаркі шляхам паступовага і добраахвотнага аб'яднання аднаасобных сялянскіх гаспадарак у калектыўныя. Фактычна ж гэта была гвалтоўная ліквідацыя сялянства як класа, ператварэнне сялян у прыгонных рабоў. Кіравала гэтым генацыдам ВКП(б) – «Всесоюзная коммунистическая партия большевиков» (у народзе гэта «ВКП(б)» употай расшыфроўвалася інакш: Второе Крепостное Право большевиков). Каб запалохаць сялян і прымусіць іх ісці ў калгасы, ВКП(б) дала каманду «раскулачваць» – схопліваць разам

з сем'ямі лепшых хлебаробаў, называючы іх кулакамі, і «без усякай маёмасці, голымі, выкідваць ў паўночнае бязлюддзе, у тундру і тайгу» (А.Салжаніцын). І хлынула на здзек і выміранне шматмільённая плынь раскулачаных. «Гэта быў п е р ш ы такі пачын, ва ўсякім разе ў Новай гісторыі. Яго потым паўторыць Гітлер з яўрэямі і зноў жа Сталін з няверными ці падазронымі нацыямі» (А.Салжаніцын).

У апошняе дваццацігоддзе пра калектывізацыю і раскулачванне праўдзіва расказана ў шмат якіх мастацкіх творах, публіцыстычных і навуковых працах. А нядаўна ў Гродне выйшла яшчэ адна кніга на гэтую ж тэму – «Адчай, боль і горыч» Мікалая Мельнікава. Яна вызначаецца сярод іншых аднатэмных кніг сваёй шчырасцю і непасрэднасцю. У ёй пра нялюдскія дзеянні ўлад у 1929 і наступных гадах апавядаецца на асабістым, канкрэтным матэрыяле, з уласнага досведу. Гаворыцца пра тое, што бачыў, адчуў і перажыў шасцігадовы Міколка, што калісьці страшэнна ўразіла яго і назаўсёды засталося ў памяці. Гэта – яго незагойная рана, нядрэмная немач.

Кніга пачынаецца так: «Мая душа баліць за Беларусь, за наш шматпакутны народ, з якога выйшлі мае дзяды і прадзеды. «Кулацкая» адысея дзедавага роду захапіла нямала добрых і шчырых людзей. На іх долю выпалі неверагодныя пакуты. Усе іх беды прайшлі праз маё дзіцячае сэрца. Калі ў нашай мясцовасці пачалося высяленне «кулацкіх сем'яў», мне было шэсць гадоў. Крайняя жорсткасць, з якой я тады сутыкнуўся, пахіснула маю веру ў справядлівасць свету».

У апошняе дзесяцігоддзе аўтару не раз хацелася ўзяцца за пяро і распавесці чытачу пра ўбачанае і перажытае ў сірочым «кулацкім» дзяцінстве. Расказаць пра тое, пра што ў папярэднія дзесяцігоддзі ён («кулацкое отродье», «сын врага народа») асцерагаўся гаварыць нават вельмі добра знаёмым калегам па працы. Бо была ў ранейшыя гады ў аўтабіяграфічнай анкеце злавесная графа пра сацыяльнае паходжанне…

Са старонак кнігі яскрава паўстаюць з замілаваннем апісаныя родныя мясціны – хутар Броды Чавускага раёна, жытло трох пакаленняў Мельнікавых. У дзеда Восіпа было чатыры дарослыя сыны і дзве дачкі. Усе працавалі ад зары да зары, і гаспадарка таму была добрая: малатарня з прывадам, веялка, коні, каровы, авечкі, свінні. І сабака Валет, які яшчэ задоўга да раскулачвання прадчуваў няшчасце і пранізліва-жалобна выў, а калі вывозілі ўсю сям'ю да чыгункі, каб, пагрузіўшы, як жывёлу, у таварняк, адправіць у далёкую Валагодскую вобласць, не пабег следам за гаспадарамі. Застаўся на хутары, а пасля быў па-зверску забіты мясцовымі актывістамі.

Нельга без хвалявання чытаць па-майстэрску напісаныя старонкі пра высяленне, двухтыднёвы рух па чыгунцы, жыццё за калючым дротам, пра штодзённую шматгадзінную працу на лесапавале і будоўлі баракаў, пра голад і холад. І яшчэ пра смерць малых дзяцей. Маці «гатовыя былі ахвяраваць сваімі жыццямі. Казалі, што самае жахлівае для іх – бачыць, як згасаюць дзіцячыя вочы… Утрапёна маліліся: прасілі Госпада абараніць».

Міколку пашанцавала. Яго цётцы (па мацярынскай лініі) удалося выкупіць хлопчыка ў лагерных ахоўнікаў. І хутка ён апынуўся ў сям'і другога дзеда. Таксама раскулачанага, але не вывезенага ў чужыя краі. А яшчэ праз некалькі месяцаў яго забраў да сябе ў Алтайскі край дзядзька, які з'ехаў туды яшчэ да раскулачвання.

У кнізе ёсць вельмі многа цудоўных, мастацкіх апісанняў. Асабліва хвалюе плач бабулькі, які застаўся ў памяці ўнука «як сімвал нашых пакутаў, нашай беларушчыны». Асобныя старонкі прысвечаны трагічнаму лёсу маці (неаднойчы ўцякала з лагераў і чатыры разы арыштоўвалася), бацькі (не вярнуўся з турмы), іншых сваякоў.

А цяпер некалькі слоў ужо пра дарослага Міколку, аўтара гэтай кнігі – Мікалая Аляксандравіча. Ён, як сам піша, «усё-такі не зламаўся, выстаяў, вытрымаў, захаваў сваю душу і сумленне чыстым ва ўмовах бальшавіцкага тэрору». Жыў сіратою, пад апекаю дзядзькі, у Алтайскім краі. Пасля сканчэння дзесяцігодкі паступіў у 1940 г. у Магілёўскі педінстытут. У 1941 г. у складзе студэнцкага батальёна абараняў Магілёў, пасля партызаніў у атрадзе «Беларусь», ваяваў у Чырвонай Арміі, удзельнічаў у штурме Кенігсберга.

Пасля заканчэння ў 1949 г. Магілёўскага педінстытута, а пазней аспірантуры пры Маскоўскім педінстытуце працаваў у Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце, Барнавульскім педінстытуце. З 1965 г. – у Гродзенскім педінстытуце імя Янкі Купалы. Дацэнт. Кандыдат педагагічных навук. Аўтар трох навукова-метадычных кніг для настаўнікаў, каля сотні артыкулаў.

Апошнія гады ён на пенсіі. Але не сядзіць склаўшы рукі. Нягледзячы на старасць і няважны стан здароўя, актыўна, няўрымсліва і неадступна змагаецца за ідэі Беларушчыны, з болем успрымае ўсё негатыўнае, што робіцца ў краіне. Кіруе гарадскім дэмакратычным аб'яднаннем ветэранаў вайны, працы і ўзброеных сіл. Па яго ініцыятыве ў офісе гэтага аб'яднання створаны музей Васіля Быкава. Шмат піша і час ад часу друкуецца. Больш як год працаваў з рукапісам успамінаў «Адчай, боль і горыч».

Шкада толькі, што гэта кніга выдадзена малым накладам. А хацелася б, каб яе прачыталі і нашы маладыя людзі, бо тут праз лёс

аднаго чалавека добра бачыцца і гісторыя краіны – у многім не такая, якую падаюць у сённяшніх падручніках і дапаможніках.

Адзін невялікі радзел з гэтай кнігі апублікавалі ў часопісе «Дзеяслоў» (№ 19), яшчэ адзін – у газеце «Народная воля». Някепска было б, каб «Наша слова» таксама змясціла на сваіх старонках які-небудзь кавалак з «Адчаю…», напрыклад, пра плач бабулі.

## З НЯЛЁГКАГА ЖЫЦЦЯ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА

«Наша слова» (20.06. 2005) у гонар юбілею выдатнага нашага празаіка змясціла (з партрэтам ) артыкул «Кузьме Чорнаму –105». Тут даюцца сціслыя звесткі пра жыццёвы і творчы шлях класіка беларускай літаратуры. Шкада, аднак, што няма тут нават упамінку пра трагічныя старонкі з жыцця пісьменніка, які пражыў усяго толькі 44 гады.

Пад канец 1930-х гадоў з некалькіх сотняў беларускіх творцаў ацалела толькі чатырнаццаць чалавек. Сталінскі хапун не абмінуў і Кузьму Чорнага. Хоць і не знішчыў яго, як іншых, але зламаў вялікага чалавека, укараціў ягоны век. 13 кастрычніка 1938 года К.Чорнага арыштавалі, трымалі ў камеры-адзіночцы і выпусцілі з кадэбісцкіх кіпцюроў толькі праз 8 месяцаў. А як здзекаваліся з яго, пра гэта ён згадвае ў сваім дзённіку 3 кастрычніка 1944 года – незадоўга перад заўчаснай смерцю: «У яжоўскай турме мяне саджалі на кол, білі вялікім жалезным ключом па галаве і палівалі збітае месца халоднай вадой, паднімалі і кідалі на рэйку, білі паленам па голым жываце, устаўлялі ў вушы папяровыя трубкі і раўлі ў іх на ўсё горла, уганялі ў камеру з пацукамі...»

Ён мужна вытрымліваў усе катаванні і аніяк не пагадзіўся з тым, чаго садысты дабіваліся ад яго, – прызнання, што ён «нац-фашыст» і польскі шпіён. Але мусіў, каб застацца жывым, пагадзіцца з іх бескампраміснай прапановай стаць сакрэтным супрацоўнікам з «органамі».

У беларускім друку доўгі час бытавала сцвярджэнне, быццам вызваліў К.Чорнага з турмы Панамарэнка – сталінскі стаўленік у Мінску, галоўны тагачасны кіраўнік кампартыі Беларусі. Зрэдку гэта сцвярджэнне сустракаецца і цяпер. Так, у 2000 г. у серыі «Беларускі кнігазбор» пабачылі свет «Выбраныя творы» К.Чорнага (608 с.). Сярод іншых лепшых твораў пісьменніка тут упершыню на аснове аўтографа змешчаны (без ранейшых рэдактарскіх і цэнзарскіх скарачэнняў) «Дзённік». У каментары да «Дзённіка», як бы між іншым, сказана, што прызначэнне П.К.Панамарэнкі ў чэрвені 1938 г. на

пасаду першага сакратара ЦК КП(б)Б «супадае з выхадам К.Чорнага з турмы на волю (8 чэрвеня 1938 г.)».

У гэтым каментары – істотная блытаніна датаў: Кузьма Чорны выйшаў на волю сапраўды 8 чэрвеня, але не 1938 года, а пасадзілі яго ў турму, як ужо згадвалася вышэй, 13 кастрычніка 1938 года. І пасадзілі са згоды Панамарэнкі, які з 18 чэрвеня 1938 года стаў узначальваць беларускіх бальшавікоў. І, дарэчы, ужо праз месяц пасля прыезду ў Мінск рапартаваў сваім маскоўскім апекунам (Сталіну, Яжову): «Добиваюсь рассмотрения в несудебном порядке на особой тройке две тысячи по первой категории и три тысячи по второй». (Па «першай катэгорыі» – гэта расстрэл, а «па другой катэгорыі» – па дзесяць гадоў канцлагераў.)

Сцвярджэнне ж пра Панамарэнку як пра вызваліцеля, як пра сталінскага анёла пайшло гуляць з кнігі Б.Сачанкі «Сняцца сны аб Беларусі...». Тут Б.Сачанка ў форме ўспамінаў М.Лынькова перадае вусны аповед Панамарэнкі, як той ратаваў ад арышту Я.Купалу, Я.Коласа, З.Бядулю, К.Крапіву, М.Лынькова, як вызваляў К.Чорнага з турмы. З гэтай жа кнігі Барыса Сачанкі і іншых яго публікацый распаўсюдзіўся міф, як Купалу і Коласу ордэры на арышт замянілі, дзякуючы Панамарэнку, ордэнамі Леніна.

Паводле слушнага евангельскага выказвання, няма нічога тайнага, каб не стала яўным. Георгій Колас, вядомы беларускі крытык і літаратуразнаўца, на пачатку 1990-х гадоў, калі часова і часткова рассакрэцілі партыйныя і кадэбісцкія архівы, займеў магчымасць пазнаёміцца з некаторымі справамі «нацдэмаў» і сакрэтнымі партыйнымі дакументамі, а пасля што-нішто апублікаваў у сваёй кнізе «Карані міфаў» (1998). На аснове гэтых матэрыялаў ён развенчвае міфы пра «анёла» Панамарэнку, прыводзіць шэраг вытрымак, ад якіх, як кажуць, нідзе не дзенешся.

З песні слова не выкінеш. Ёсць тут і пра вымушаныя паказанні К. Чорнага. Напрыклад, пра Янку Купалу: «Разгром нацдемов до сих пор Купалой переживается как «разгром белорусского народа», как «вечная несправедливость». Это я сам много раз слышал от жены Купалы, которая является точным рупором самого Купалы». 1 пасля таго ўжо, як К.Чорнага выпусцілі на волю, ён 1 верасня 1939 года мусіў ісці ў суд, дзе судзілі пісьменніка Міколу Хведаровіча, і сведчыць супраць яго як нацдэма. Але, як удакладняе, на аснове архіўных матэрыялаў, В.Скалабан у газеце «Советская Белоруссия» (5.01.2007), К.Чорны на гэтым працэсе адмовіўся ад сваіх ранейшых паказанняў і сказаў, што адправіў на імя Панамарэнкі пісьмо, у якім

распавёў пра тое, як кадэбісты выбівалі з яго патрэбныя ім звесткі пра «ворагаў народа».

У дзённікавым запісе, зробленым незадоўга да смерці, чытаем: «Доўгія годы мяне мучыла ГПУ-НКВД».

У 1941 г., калі пачалася вайна з нямецкім фашызмам, К.Чорны разам з жонкай і дачкой пешшу пайшоў на ўсход. У Крычаве ўступіў у шэрагі Чырвонай Арміі. Пасля стаў супрацоўнікам газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». А са студзеня 1942 г. ён жыве ў Маскве. Займае з сям'ёй невялічкі нумар у гатэлі «Якар».

Нягледзячы на цяжкую хваробу, ён працаваў дзённа і ночна. Яшчэ ў даваенны час ён задумаў серыю раманаў пра гісторыю беларусаў «ад паншчыны і да нашых дзён». У вайну напісаў тры раманы, шмат апавяданняў і публіцыстычных артыкулаў. З дзённікавых запісаў 1944 года відаць, як яго пастаянна адрывалі ад непасрэднай пісьменніцкай працы: «Я мог бы звацца не Чорны Кузьма, а чорнарабочы. Колькі за свой век я зрабіў гэтых перакладаў і напісаў усяго, што без майго подпісу запоўнівае старонкі ўсёй нашай прэсы...». «Пісаў і пішу бесперапынна публіцыстычныя артыкулы без подпісу, яны друкуюцца, устаўляюцца ў тэксты рэзалюцый антыфашыстоўскіх, скажам, з'ездаў, друкуюцца ў зборніках Купалы як купалаўская публіцыстыка... А я хаджу спрацаваны і хворы і жыву ў катушку». У запісе за 5 ліпеня 1944 г. К.Чорны прыгадвае: «Кліч да беларускага народа» і выступленне на першым беларускім радыёмітынгу з Казані зімой 1941 г. пісаў Купалу я».

Яшчэ некаторыя запісы, якія сведчаць пра многае. «29 верасня 1944 г. ужо якраз тыдзень, як я ў Мінску. Яшчэ жыву на падлозе ў доме Саюза пісьменнікаў. Няма дзе адаспацца і адляжацца. Усе дні баліць галава, хіліць на сон, і зрок пагоршаў».

І самы апошні запіс з «Дзённіка» – за 22 лістапада 1944 г. (у гэты дзень перастала біцца сэрца вялікага чалавека з незайздросным жыццёвым лёсам). Пададзім гэты запіс поўнасцю: «Бадай што ўжо месяц, як у «кватэры», дадзенай мне Саўнаркомам. Але ж якраз як тая камера ў турме, дзе я сядзеў у 1938 годзе. Можна сказаць, што я ўжо дайшоў да апошняй мяжы. Бруд, цемень – вокны глядзяць у чорны трохкутнік з высозных муроў. Пісаць няма як і жыць няма як. А тут жа, па адным калідоры, рамантуюць кватэру Рыжыкаву. Там светла і добра. Там Рыжыкаву можна будзе круціць патэфон і гуляць у «пульку». У нас няма ўласнага жыцця, мы ўсё аддаём дзяржаве. Мы аддалі дзяржаве свае душы і таленты. Але мы не Рыжыкавы. Я жыву як апошняе пакідзішча. І не таму, што мне хто зла хоча, а таму, што ў нас не эўрапейская дзяржава, дзе інтэлектуальныя асаблівасці чала-

века робяць яго жыццё арганізаваным. А ў нас азіятчына. Падхалімства, хабарніцтва, чыноўніцтва, паклёпніцтва – за апошнія гады паднялося на вялікую вышыню. Колькі нашай інтэлігенцыі без дай прычыны гніе ў турмах і на высылцы! У мяне ўжо няма 70% здороўя. Я гіну і не магу выкарыстаць як бы трэба свой талент... Замест таго, каб рабіць тое, што мне трэба рабіць, я палю ў печы, цягаю ваду, змываю гаўно ў прыбіральні, краду дровы, дастаю з дошчак цвікі, мыю сваю парваную і вываленую адзежу. Тут вайна не да канца вінавата. Тут многа ад хамства. Апарат НКГБ і тысячы чыноўнікаў займаюць увесь горад – яны ўмеюць і любяць рваць адзін аднаго і ўсіх за горла, а я гэтага не ўмею рабіць, дык не магу нават дастаць хоць тоненькі праменьчык дзённага святла ў вакно і мучуся ў пограбе».

А гэта апошні сказ з таго ж дзённікавага запісу – перад адыходам у іншы свет: «Божа, напішы за мяне мае раманы, хіба так маліцца, ці што?»

## ГЭТА БЫЛО НЕ ТАК

Прачытаў я ў «Нашым слове» (№ 47, 2000 г.) артыкул Васіля Цярэшкі «Па Коласавых мясцінах на Коласавых машынах». Баюся, каб адно сцвярджэнне з гэтага артыкула, падхопленае чытачамі, не стала пашыраным. Таму і ўзяўся за пяро.

Нагадаю, што гаворка ідзе пра разгул сталінскага тэрору ў трыццатыя гады. Якуб Колас і Янка Купала, як піша В.Цярэшка, «тры гады клаліся спаць не распранаючыся, чакалі, калі па іх прыйдуць». Аднойчы кіраўнік беларускага наркамата ўнутраных спраў «паклаў на стол першаму сакратару ЦК КПБ Панамарэнку ордэр на арышт беларускіх пісьменнікаў, у першых шэрагах якіх ішлі Купала і Колас. Штосьці затрымала руку Панамарэнкі, ён адразу не падпісаў чорны спіс, папрасіўшы пачакаць да панядзелка. Пэўна, праца кіраўніком рэспублікі ва ўмовах таталітарызму не пазбавіла яго рэшткаў чалавечнасці... Панамарэнка хутка выпраўляецца з паперай у Маскву. Нейкім чынам яму ўдаецца прабіцца да Сталіна... Сталін доўга пыхаў сваёй люлькай, нарэшце сказаў сваю сакраментальную фразу: «Ордэры на арышт я замяняю ордэнамі». Так бацька народаў падараваў жыццё нашым класікам, узнагародзіўшы ордэнамі Леніна...»

Тут усё як у казцы. У гэтым міфе Панамарэнка (родам з Краснадарскага краю) паўстае, як анёл, а Сталін – як добры бог і збавіцель. На самай жа справе ўсё было інакш. Пра гэта адназначна сведчаць апублікаваныя ў першай палове 90-х гадоў сакрэтныя

дакументы з фондаў былога партыйнага архіву. Чарговы сталінскі стаўленік у Беларусі П.К.Панамарэнка прыбыў з Масквы ў Мінск 18 чэрвеня 1938 года. За ліпень-жнівень, не без ведама гэтага самага высокага партыйнага кіраўніка, было арыштавана пяць з паловай тысяч чалавек. Праз месяц пасля прыезду ў Мінск Панамарэнка пасылае сакрэтную шыфроўку Сталіну, Яжову, Андрэеву: «... Дабіваюся разгляду ў несудовым парадку на асобай тройцы дзве тысячы па першай катэгорыі і тры тысячы па другой». Першая катэгорыя – гэта, як ужо згадвалася, бальшавіцкі эўфемізм у сэнсе «расстрэл», а другая катэгорыя – дзесяць гадоў канцлагераў.

Са згоды гэтага ж «анёла» 13 кастрычніка арыштавалі Кузьму Чорнага і восем месяцаў катаваннем дамагаліся, каб ён «асвятляў дзейнасць беларускіх пісьменнікаў».

21 лістапада 1938 года Панамарэнка піша Сталіну вялізны сакрэтны ліст «О белорусском языке, литературе и писателях». Гэты жахлівы дакумент 15 кастрычніка 1993 года апублікавала на сваіх старонках «Літаратура і мастацтва». Панцеляймон Кандратавіч, у прыватнасці, нібы скардзіцца: «НКУС Беларусі запрасіў з цэнтра санкцыю на арышт Купалы і Коласа ўжо даўно, а санкцыя пакуль што не дадзена». Паведамляе «бацьку Сталіну», што маюцца шматлікія паказанні «выкрытых і арыштаваных ворагаў», якія абвінавачваюць Купалу і Коласа «аж да сувязяў з польскай дэфензівай. У дачыненні да Янкі Купалы ёсць 41 паказанне, у большасці прамыя; Якуба Коласа – 31 паказанне».

Яшчэ толькі некалькі ўрыўкаў з гэтага дакумента: «Янка Купала нядаўна сказаў: «Усе нашы карты біты, лепшыя людзі вынішчаны, трэба самому рабіць харакіры». (Ён ужо спрабаваў аднойчы пакончыць з сабой.) У другі раз ён пачаў скардзіцца (у сваім асяроддзі) на нястрымную тугу на тое, што ніякай Беларусі ён не бачыць вакол сябе, што ён хутка памрэ з такім жа смуткам аб Беларусі, з якім пачынаў сваё жыццё ў маладосці... Янка Купала гаворыць, што тое, што ён пісаў пры Савецкай уладзе, не творчасць, а дрындушкі. Яны гавораць, што цяпер літаратура зведзена да ролі прыдатка, растлумачальнага ці ўсхвалялынага, што гэта не творчасць, а ілюстрацыя. У літаратуры нельга нічога ставіць або вырашаць, бо партыя ўсё ўжо вырашыла на шмат гадоў наперад, план складзены, і ілюструй тое, што прайшло».

Кампрамат, як бачым, забойчай сілы. Але Панамарэнка разумеў тагачасную складанасць унутраных і міжнародных абставін і тое, што ён мае справу не абы з кім, а з Янкам Купалам і Якубам Коласам, якія «карыстаюцца папулярнасцю, праславілі іх вельмі моцна». Таму і

просіць Сталіна даць параду «аб адносінах да пісьменнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа». Сам жа выказваў дваякае меркаванне: «Іх трэба або арыштаваць, або, улічваючы абставіны, прыняць, пагаварыць шчыра, паказаць, што нам вядомыя ўсе іх «памылкі», калі гэта дапушчальна так назваць, сказаць, што яны могуць выкупіць сваю віну перад Савецкай уладай, калі ў якойсьці меры пойдуць на гэта, то скарыстаць у мэтах разлажэння групы, адрыву найбольш сумленных і ліквідацыі рэшткаў нацдэмаўшчыны».

Газета «ЛіМ», публікуючы памянёны ліст, пісала, што гэты дакумент уносіць пэўныя карэктывы ў даволі распаўсюджаную версію аб ратаванні Панамарэнкам Купалы і Коласа.

Панамарэнка пісаў свой ліст 21 лістапада 1938 года, а Указ «Аб узнагароджанні савецкіх пісьменнікаў» апублікавалі 1 лютага 1939 года. Тут у ліку 172 асоб з усяго Савецкага Саюза былі і прозвішчы Купалы ды Коласа. Самі ж ордэны Леніна Купала і Колас атрымалі не ад Панамарэнкі, а з рук «усесаюзнага старасты» Калініна праз месяц пасля Указа.

Гэтыя ўзнагароды маюць сваю гісторыю. 26 снежня 1938 года, у сувязі з 20-годдзем БССР, у Крэмль было накіравана (за подпісам Панамарэнкі) хадайніцтва аб узнагароджанні 40 чалавек «за заслугі перад радзімай». Былі ў спісе Купала і Колас. На гэты раз Панамарэнка характарызаваў іх ужо як народных паэтаў рэспублікі, класікаў беларускай літаратуры, якія «за гады Савецкай улады напісалі шэраг выдатных савецкіх твораў». Аднак да дваццацігадовага юбілею БССР нікому не далі ордэнаў. Масавае ўзнагароджанне прадстаўнікоў з усіх савецкіх рэспублік прымеркавалі да «гістарычнай» даты – у гонар адкрыцця ХУІІІ з’езда ВКП(б). На пачатку лютага адзін за адным друкуюцца Указы аб узнагародах. Пасыпаліся ордэны пісьменнікам, работнікам кіно, метрабудаўцам, перадавікам сельскай гаспадаркі і г.д.

Як бачым, легенда пра тое, што былі заменены ордэры на ордэны, не вытрымлівае ніякай крытыкі.

В. Цярэшка, апісваючы аўтарэтрападарожжа па Коласавых мясцінах, добрым словам успамінае экскурсавода – «латышку па нацыянальнасці з цудоўным веданнем беларускай мовы». Ці не ад яе ён і запазычыў гэтыя міфічныя звесткі пра ордэры і ордэны? А яшчэ і наступнае: «... узнагародзілі ордэнамі Леніна, а на грашовую прэмію Якуб Колас і Янка Купала атрымалі навюткія аўтамабілі савецкай вытворчасці: дзве чорныя «Эмкі», ГАЗ-М-1. Дарэчы, на Коласавай «Эмцы» сем’і Купалы і Коласа адз’язджалі з палаючага Мінска ў канцы чэрвеня 1941 года».

І тут усё гэта таксама няпраўда. Пра якую «грашовую прэмію» ідзе размова? Ніякіх прэмій ардэнаносцам не давалі. Была толькі нязначная штомесячная грашовая плата за ордэн. Машыну за яе не купіш.

Каб задобрыць Янку Купалу і ператварыць у прыдворнага паэта, яго ў другой палове 30-х гадоў робяць членам ЦВК БССР, дэпутатам гарадскога, а пасля і Вярхоўнага Савета БССР, адным з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў. Яшчэ ў 1935 годзе Галадзед падпісаў урадавую пастанову «ўзнагародзіць народнага паэта рэспублікі т. Янку Купалу легкавым аўтамабілем (за каштоўнасць яго апошніх твораў, у прыватнасці паэмы «Над ракой Арэсай») і ў тым самым годзе – пастанову «Аб прыняцці на ўтрыманне за кошт дзяржавы дома і аўтамашыны і аб пабудове дачы для народнага паэта Янкі Купалы».

Не «на Коласавай «Эмцы», а на сваёй машыне з асабістым шафёрам Яртымікам (гэта прозвішча сустракаецца ў пераліку тых вадзіцеляў-супрацоўнікаў НКУС, што вывозілі зняволеных з Мінскай турмы на расстрэл у Курапаты) ад'язджаў Я.Купала «з палаючага Мінска». І не «ў канцы чэрвеня», а ў той самы дзень, калі пачалася вайна. Яна застала паэта ў Каўнасе. Вярнуўшыся цягніком адтуль, Купала разам з жонкай у той жа дзень выехаў на Аршаншчыну, у Ляўкі, дзе была паэтава дача.

А эвакуацыю Я.Коласа можна па праву назваць адысеяй. Пра яе ён распавёў у апублікаваным лісце М.Лынькову: «Я выехаў з Мінска вечарам 24 чэрвеня, калі агонь падбіраўся пад маю хату. Шафёра ў мяне не было, забралі па мабілізацыі. Вывез мяне нейкі хлопец. Завёз у лес пад саўнаркомаўскую дачу, а сам паехаў вывозіць сваю сям'ю... Не дачакаўся я ні яго, ні машыны... Машына стукнулася з другой машынай і загінула... Паначавалі (з сям'ёй) у лесе... Пайшлі пехатой на паўстанак, адтуль у Калодзішчы. З Калодзішч пад вечар выехалі ў Оршу... Пад вечар прыслаў Янка сваю машыну – ён выехаў загадзя на дачу. Паначавалі ў яго. Потым у Копысі прысуседзіліся да грузавіка, што ішоў з Гродна, і так ехалі да Калініна, а адтуль поездам да Масквы...»

## ЛЕНД-ЛІЗ – ЗАБЫТАЯ СТАРОНКА ГІСТОРЫІ

Мне ўжо даводзілася аднойчы, шмат гадоў таму, пісаць пра ленд-ліз, але што-ніштo пачутае з тэлевізара ці прачытанае ў кнігах, газетах, часопісах змусіла яшчэ раз вярнуцца да пытання пра нечуваны гвалт над ісцінай.

У майскім нумары «Полымя» (2004), прысвечаным Дню перамогі, Іван Шамякін пісаў: «Цяпер мы ведаем, што саюзнікі паставілі нам усяго чатыры працэнты ўзбраення, дзевяноста шэсць – выкавала айчынная прамысловасць, зрабілі нашы маці, дзеці». Калі б ён ведаў праўду пра «пастаўкі саюзнікаў», дык наўрад ці паднялася б ягоная рука пісаць такое.

Гэтыя ж чатыры працэнты фігуруюць і ў навучальным дапаможніку (з міністэрскім грыфам) для студэнтаў ВНУ «Вялікая Айчынная вайна савецкага народа ў кантэксце Другой сусветнай вайны». Дарэчы, чытачы, напэўна, і не ведаюць, што вучэбная дысцыпліна пад такой жа назвай уведзена два гады назад ва універсітэцкія навучальныя планы для ў с і х факультэтаў. Такога, зразумела, няма нідзе ў былых рэспубліках Саюза, і ў Расіі таксама няма. І тут ідзём наперадзе прагрэсу.

Згаданыя «чатыры працэнты» пайшлі гуляць па свеце, перадавацца з вуснаў у вусны, вандраваць з кнігі ў кнігу яшчэ ў першы пасляваенны год, калі на сесіі саюзнага Вярхоўнага савета старшыня Дзяржплана афіцыйна далажыў, што доля заходніх паставак складае толькі каля чатырох працэнтаў ад выдаткаў Савецкага Саюза ў ваенныя гады. І ніхто нават не спрабаваў ўдакладніць гэтыя лічбы і зацікавіцца самой методыкай падліку, хоць усе ведалі пра несумяшчальнасць тагачасных курсаў рубля і долара.

У аповесці В.Быкава «Пакахай мяне, салдацік» ёсць, здаецца, нязначная сцэнка, якая, аднак, мае непасрэднае дачыненне да гэтых нататак. Дзеянне ў аповесці адбываецца на завяршальным этапе мінулай вайны, у Дзень перамогі. Лейтэнант-артылерыст Барэйка, ад імя якога вядзецца аповед, сустрэўся ў аўстрыйскім гарадку з васемнаццацігадовай зямлячкай Франяй. Вывезеная два гады таму з Беларусі ў Нямеччыну, яна робіць прыслугай у сям'і старога прафесара біялогіі Шарфа. Калі Барэйка заходзіць з Франяй у катэдж Шарфа, той хоча пачаставаць госця каньяком. Лейтэнант пасылае салдата ва ўзвод па закуску. І далей:

*Я чакаў Кананка, які хутка прынёс цагліну салдацкага хлеба і банку свіной тушонкі, – усё паклаў на край цеснага століка.*

*– О, амэрыкэн, – ціха зазначыў стары, згледзеўшы пяціканцовыя зоркі на банцы.*

*– Ленд-ліз, – сказаў я.*

Больш у аповесці гэты «ленд-ліз» не ўпамінаецца.

Сёння рэдка хто з моладзі ды і людзей сярэдняга пакалення адкажа: а што ж такое «ленд-ліз»? І толькі, можа, які ветэран, пагардліва ці іранічна махнуўшы рукой, вымавіць: «Ат, глупства...

Гэта – тушонка амерыканская ды шмоткі розныя...» Не ўспамінаюць ленд-ліз ні ў Дзень перамогі, ні ў буднія дні, ні ў газетах, ні ў падручніках, ні ў энцыклапедыях. А калі дзе і сустрэнеш у друку два-тры радкі, мімаходзь сказаныя, дык нічога канкрэтнага з іх не возьмеш. Забылі праўду аб вялізнай ваеннай і эканамічнай дапамозе савецкаму войску з боку саюзнікаў, найперш ЗША.

«Ленд-ліз» – англійскае слова, у якім *lend* абазначае «даваць у пазыку», а *lease* – «здаваць у арэнду». Закон аб ленд-лізе быў прыняты Кангрэсам ЗША 11 сакавіка 1941 года. Паводле гэтага закону, Злучаныя Штаты Амерыкі абавязваліся пастаўляць у краіны-саюзніцы па антыгітлераўскай кааліцыі ўзбраенне, боепрыпасы, стратэгічную сыравіну, прадукты харчавання, розныя іншыя тавары.

Спачатку істотная дапамога аказвалася Англіі, другім краінам Брытанскай імперыі, Францыі, Кітаю. А пасля, калі гітлераўская Германія пачала вайну з Савецкім Саюзам, закон аб ленд-лізе распаўсюдзіўся і на СССР.

Лічылася, што ўзбраенне і ўсё іншае перадаецца Злучанымі Штатамі Амерыкі ў пазыку або арэнду, але ў пагадненнях аб пастаўках гаварылася, што «матэрыялы, знішчаныя, страчаныя і выкарыстаныя ў перыяд вайны, не падлягаюць аплаце». Інакш кажучы, пастаўкі гэтыя былі фактычна дармовымі.

Амерыканскія судны, нагружаныя тэхнікай і матэрыяламі, рухаліся праз акіян у Архангельск, Мурманск, Уладзівасток. Хоць марскія караваны добра ахоўваліся, але не раз на іх нападалі нямецкія самалёты ці падводныя лодкі. Дастаўляліся грузы і праз тэрыторыю Ірана, дзе з 1942 года знаходзіліся амерыканскія і савецкія войскі.

Першыя ленд-лізаўскія пастаўкі прыбылі ў Савецкі Саюз ў лістападзе 1941 года, і амерыканскія танкі ды самалёты бралі ўдзел у снежаньскім контрнаступленні пад Масквой. Удзельнічалі і англійскія танкі (іх пастаўку ў СССР аплачвалі ЗША).

У пасляваенным савецкім друку, у прыватнасці ў працах Н. Дунаевай, К. Германа, А.Арлова і шмат іншых, усяляк прымяншалася ленд-лізаўская ваенная дапамога. Пры гэтым абавязкова паўтараліся тыя ж «каля чатырох працэнтаў».

У апошнія гады на старонках газеты «Аргументы и факты», а таксама кнігі В.Шункова «Оружие Красной Армии» (М., 1999) пададзены зусім іншыя колькасныя паказчыкі асобных відаў узбраення, завезеных з-за акіяна. Так, за ваенныя гады савецкая прамысловасць выпусціла 97 700 танкаў і самаходных артылерыйскіх установак. А яшчэ Чырвоная Армія атрымала ленд-лізаўскія 19 734

танкі і самаходкі. І гэта ўжо далёка не тыя памянёныя чатыры працэнты…

Яшчэ лічбы ленд-лізаўскіх паставак: 18 700 самалётаў, 9 600 гармат, 131 000 кулямётаў. Ад саюзнікаў атрымалі пораху амаль у 3 разы, тэлефоннага проваду ў 15 разоў, а паравозаў у 22 разы болей, чым было зроблена ў Савецкім Саюзе за гады вайны. У адпаведнасці з заяўкай, было дастаўлена нават 4 000 кіламетраў калючага дроту (відаць, спатрэбіўся не толькі для перадавой лініі на фронце, а і ў гулагаўскай сістэме).

Былы франтавік В.Быкаў у эсэ «Вайна і перамога» прыгадвае: «Вельмі дапамагалі саюзнікі, асабліва ЗША, іх славутыя пастаўкі па ленд-лізе. Амаль увесь наш франтавы аўтатранспарт складаўся з амерыканскіх аўтамабіляў – «фордаў», «шэўрале», «студэбекераў», «доджаў», «вілісаў». Нашмат горш было з прадуктамі харчавання, хлебам». А ў памянёнай напачатку аповесці В.Быкава паказана, што ў супрацьтанкавай брыгадзе – толькі аграмадныя «студэбекеры», начальства ж ездзіць на амерыканскіх «вілісах» і «доджах».

459 тысяч аўтамашын далі саюзнікі. Гэта ў два разы больш, чым выпусцілі нашы аўтамабільныя заводы за чатыры ваенныя гады.

А колькі было завезена да нас прадуктаў харчавання! Як зазначана ў «Аргументах и фактах» (1998. № 19), савецкія гісторыкі звычайна паказвалі гэтыя харчы «ў тонах, хоць ведалі, што ў СССР увозіліся перш за ўсё канцэнтраваныя або абязводжаныя прадукты. Аднак разлікі каларыйнасці – нават без уліку харчовага спірту! – паказваюць, што атрыманых па ленд-лізе прадуктаў харчавання было дастаткова для таго, каб карміць Чырвоную Армію на працягу ў с ё й вайны». І яшчэ: «Па асобных відах вайсковага рыштунку СССР на 80–100% залежаў ад саюзнікаў».

Здаецца, не цяжка зразумець, чаму ад нас увесь час хавалі і хаваюць праўду. І не толькі пра ленд-лізаўскія пастаўкі. У Германіі, Японіі, Англіі, ЗША і іншых краінах, як толькі адгрымелі ваенныя залпы, былі складзены дакладныя пайменныя спісы ўсіх, хто загінуў у перыяд 2-й сусветнай вайны. А ў былым Савецкім Саюзе да гэтага часу усё падлічваюць і пералічваюць. І ніяк не могуць дайсці да толку. Спачатку (пры Сталіне) называлася лічба 7 мільёнаў (гэтак, як і ў Германіі), пасля (пры Хрушчове) – каля 20 мільёнаў, затым (пры Гарбачове) – 25–27 мільёнаў. Цяпер адны пішуць, што «ў апошняй вайне загінула 30 мільёнаў», другія называюць лічбу, большую на дзесятак мільёнаў.

Часам у друку можна напаткаць дзівацкія, міфічныя звесткі, заснаваныя на чутках. Так, аднойчы ў «Народнай волі» (19.05.1999 г.),

у нататках М.Тычыны, было сказана, што Амерыка за аказаную Савецкаму Саюзу дапамогу «ваенным рыштункам па так званым ленд-лізе атрымала не адну сотню тон золата ад Сталіна». І Ленін, і Сталін, і іхнія паслядоўнікі – не з той пароды людзей, якія расплачваюцца за пазычанае. Яны любяць толькі браць. Гэта і да іх дастасоўваюцца такія радкі з К.Крапівы: «Калі ўзяць, дык – надта хітры, як аддаць, дык – «носік вытры», увільне не сяк, дык так...»

Ужо гаварылася, што амаль усе лінд-лізаўскія пастаўкі мы, па сутнасці, атрымалі бясплатна. Праўда, у кошт пагашэння паставак, у адпаведнасці з пагадненнямі, уваходзілі некаторыя паслугі і розныя тавары. Адпраўляючыся ў зваротны рэйс, амерыканскія судны іншы раз загружаліся рознымі відамі сыравіны. Дакументальна засведчана, што саюзнікі атрымалі з СССР 300 тысяч тон хромавай і 32 тысячы тон марганцавай руды, 175 унцый плаціны. Атрымлівалі таксама пушніну і некаторыя іншыя тавары. У савецкіх портах рамантаваліся амерыканскія гандлёвыя судны, забяспечваліся неабходнымі матэрыяламі. Пад канец вайны на савецкіх базах запраўляліся амерыканскія самалёты, а каманды атрымлівалі ежу і разнастайнае абслугоўванне. Усё гэта бралася на ўлік, афармлялася дакументальна, ацэньвалася ў доларах.

Падлічана, што амерыканцы далі Саветам дапамогу на 9,8 мільярда долараў, а назад атрымалі ўсяго 2,2 мільярда долараў.

У ленд-лізаўскіх пагадненнях гаварылася, што ўсё ўзбраенне, боепрыпасы і іншае, завезенае, але нявыкарыстанае, па заканчэнні вайны застаецца ў краіне-атрымальніцы, але ўрад ЗША мае права запатрабаваць гэта назад. Аднак амерыканцы ні разу не скарысталі гэта права.

У пасляваенны час, у кастрычніку 1945 года, было заключана яшчэ адно савецка-амерыканскае пагадненне ў форме доўгатэрміновага крэдыту на агульную суму 244 мільёны долараў. Паводле пагаднення, амерыканцы абавязаліся даставіць разнастайнае заказанае абсталяванне. Праз год дзейнасць пагаднення была прыпынена.

Пасля паміж Савецкім Саюзам і ЗША вяліся неаднаразовыя перамовы (у 1947, 1960, 1972 гадах) аб разліках па ленд-лізе. Амерыканцы запрасілі частковую кампенсацыю спачатку ў суме 1,3 мільярда долараў, а пасля мусілі знізіць яе да 700 мільёнаў. Але СССР рашыў і гэтага не аддаваць, абгрунтоўваючы сваё адмаўленне рознымі выдуманымі прычынамі. У сродках масавай інфармацыі разгульвала хадзячая фраза, што, маўляў, іхнюю ваенную дапамогу мы аплацілі крывёю савецкіх людзей.

Ужо пры Ельцыне Расія фармальна прызнала свае ленд-лізаўскія даўгі, як, здаецца, і царскія даўгі шмат якім заходнім краінам,ануляваныя пасля кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту. Але фінансавае і іншае становішча ў сучаснай Расіі такое, што гэтыя даўгі наўрад ці будуць калі-небудзь вернуты. У такіх выпадках кажуць: аддадуць – як рак на гары свісне…

Суб'ектывізм пры вызначэнні ролі ленд-лізу непрымальны.

З аднаго боку, наўрад ці можна цалкам пагадзіцца з такімі, напрыклад, сцвярджэннямі амерыканскіх і іншых гісторыкаў: «Без амерыканскіх аўтамашын і чыгуначнага абсталявання быў бы немажлівы шэраг вялікіх савецкіх перамог 1943 і 1944 гадоў», без ленд-лізу «Савецкі Саюз не мог бы выстаяць супраць націску фашысцкіх армій», «Без амерыканскіх паставак прадуктаў харчавання СССР прайграў бы вайну, бо яго насельніцтва памерла б з голаду, а савецкая армія не магла б ваяваць». Тут можна спаслацца і на Сталіна, які несумненна, ведаў толк у гэтым і гаварыў амаль ва ўнісон з памянёнымі гісторыкамі. У кнізе А.Уткіна «Вторая мировая война» (М., 2003) прыводзяцца словы Сталіна ў размове з Рузвельтам: «Злучаныя Штаты можна назваць краінай машын. Не маючы гэтых машын праз сістэму ленд-лізу, мы б прайгралі гэтую вайну».

З другога боку, ніяк нельга забываць пра ленд-ліз, прымяншаць яго значэнне. Менавіта ў многім-многім дзякуючы ваеннай дапамозе ЗША, былі выгнаны гітлераўцы з савецкай тэрыторыі, а пасля разбіты на палях Польшчы, Чэхаславакіі, Румыніі, Венгрыі, Аўстрыі, Балгарыі. Праўда, пасля гэтага, будзем шчырымі, адна акупацыя краін Цэнтральнай Еўропы змянілася другой, толькі куды даўжэйшай – на цэлыя дзесяцігоддзі, аж да таго часу, пакуль не развалілася Берлінская сцяна.

## ПІСАЛАСЯ І ТАКАЯ АНКЕТА…

Сярод многіх кніг маёй бібліятэкі я беражліва захоўваю паэму А.Твардоўскага «Тёркин на том свете» з аўтографам слыннага паэта і датай: 17.04.1964. Тут у казачна-ўмоўнай форме гаворыцца пра тое, як герой трапляе «на той свет», дзе ў сатырычных фарбах увасоблены коснасць, бюракратызм, фармалізм, шкурніцтва, злавесная падазронасць ці, як пісаў сам паэт, тыя рысы тагачаснай рэчаіснасці, «якія перашкаджаюць нашаму руху наперад і барацьба з якімі – адна з задач нашай літаратуры». Тады, на пачатку 1960-х гадоў, гэта сатырычная паэма была сенсацыяй. Яе апублікаванне, пасля шматгадовага замоўчвання, было сустрэта з найвялікшай цікавасцю.

Паднятыя ў ёй праблемы, здавалася, нікога не маглі пакінуць абыякавым. Але хутка наступіў доўгі «застойны перыяд» і пра паэму перасталі гаварыць і пісаць.

Сённяшнія выпускнікі сярэдняй школы і вышэйшых навучальных установ або зусім нічога не чулі пра гэту паэму, або маюць пра яе толькі вельмі цьмянае, павярхоўнае ці скажонае ўяўленне. Аднойчы я працытаваў па памяці маладым калегам два ўрыўкі з гэтага сатырычнага твора, і аднаму слухачу захацелася прачытаць усю паэму. Як і меркавалася, многія яе мясціны для сучаснага чытача патрабуюць рэальна-гістарычнага каментару. Мой калега-чытач адчуў гнеўнае выкрыццё савецкага таталітарызму. А пра асобныя эпізоды сказаў, што гэта, напэўна, аўтарская фантастыка. Смешным і, відаць, надуманым палічыў і апісанне таго, як тагасветны Стол праверкі прымусіў Цёркіна пісаць аўтабіяграфію («по графам: вопрос – ответ») і як Цёркін «начал с предков – кто был дед»:

Дед мой сеял рожь, пшеницу,
Обрабатывал надел.
Он не ездил за границу,
Связей также не имел.
Пить – пивал. Порой без шапки
Приходил, в сенях шумел.
Но, помимо как от бабки,
Он взысканий не имел.
Не представлен был к награде,
Не был дед передовой.
И отмечу правды ради —
Не работал над собой.
Уклонялся. И постольку
Близ восьмидесяти лет
Он не рос уже нисколько,
Укорачивался дед…
Так и далее – родных
Отразил и близких,
Всех, кто числился в живых
И посмертных списках.

І гэта не паэтава прыдумка, а камічнае адлюстраванне таго, што было пры савецкай уладзе. Сённяшняму маладому чалавеку не верыцца, што была такая татальная праверка і скразное, бы на рэнтгене, прасвечванне кожнага чалавека. Але пра гэта трэба ведаць. І забываць такое нельга. Як пісаў А.Твардоўскі ў іншым творы і з другой нагоды, «Боль взывает к людям: давайте, люди, никогда об этом не забудем!»

У мяне захаваўся «форма № 4» – анкета для напісання аўтабіяграфіі – з пералікам пытанняў, якія патрабуюць абавязковых адказаў. Вось адно з гэтых пытанняў (у перакладзе па-беларуску): «Ці быў за граніцай, калі, дзе і чым займаўся. Хто (прозвішча, імя і па бацьку) знаходзіўся ці знаходзіцца з родных ці родзічаў самога і жонкі (мужа) за граніцай. Калі выехаў, дзе пражываў або пражывае, чым

займаўся ці займаецца. Ці ёсць сувязь самога і жонкі (мужа) або іншых сваякоў і якая. Калі сувязь спынілася, то калі».

Яшчэ некаторыя з аж 15 анкетных пытанняў: «Ці пазбаўлены па суду выбарчых правоў бацькі самога і жонкі (мужа) або сваякі (браты, сёстры), за што, калі і дзе. Іх прозвішчы, імёны і па бацьку»; «Ці быў у палоне ў перыяд Айчыннай вайны. Калі, дзе і пры якіх абставінах трапіў у палон. Колькі часу і дзе там знаходзіўся. Калі быў вызвалены або ўцёк з палону. Ці знаходзіўся ў акружэнні ў перыяд Айчыннай вайны, калі, дзе і колькі часу. У якім складзе, як і куды выйшаў з акружэння. Ці пражываў на тэрыторыі, занятай нямецка-фашысцкімі акупантамі ў перыяд Айчыннай вайны, і калі пражываў, то дзе і колькі часу. Дзе і ў якасці каго працаваў або служыў, з кім пражываў і ў якім узросце»; «Хто з радні (жонка, дзеці, браты, сёстры – самога і жонкі) знаходзіліся на акупаванай немцамі тэрыторыі ў перыяд Айчыннай вайны. Дзе і колькі часу знаходзіліся і чым займаліся».

Не абыдзены ў анкеце і спагнанні («зняты спагнанні ці не, калі зняты – кім і калі») ды ўзнагароды ( «кім і калі ўзнагароджаны»). Дарэчы, Цёркін, трапіўшы на той свет, даведаўся, што яго ўзнагародзілі пасмяротна і можа тут жа атрымаць ордэн і што ён «не знал наверняка, как о мёртвом человеке здесь забота велика».

На тым свеце, як і на гэтым, ва-ўсю дзейнічае стукацтва. Даўні сябар, з якім сустракаецца Цёркін і які цяпер там «на віду ў замагільнага начальства», зразумеў, што Цёркін – «непаўнацэнны мярцвяк», і па-сяброўску прызнаецца:

Но о том, что хочешь жить,
Дружба, знаешь, дружбой.
Я обязан доложить...
– Ясно...
– ... куда нужно.

Гэта – на тым свеце, а на гэтым свеце стукачоў было (а можа, і цяпер ёсць) – хоць гаць гаці. Як пісаў В.Быкаў у артыкуле «Будучыня рэспублікі» са спасылкай на апублікаваныя ў Маскве крыніцы, «напярэдадні вайны... сексотаў было ў нас 10 мільёнаў».

Думаецца, не лішнімі будуць і такія ўспаміны В.Быкава, нядаўна пасмяротна надрукаваныя ў «Дзеяслове» (2005. № 19. С.172). Тут прыгадваецца пачатак лета 1953 года, калі пад канец афіцэрскіх курсаў група чалавек з 25 сядзела ў полі каля дарогі. «Заняткі праводзілі самастойна, таму скончылі раней часу. Сядзелі, гаварылі. Гаворка зайшла пра сексотаў, усе пагаджаліся, што, як і ўсюды, у нас былі сексоты. Але колькі: меркавалі, чалавек пяць. Іншыя сцвярджалі:

палавіна. Тады нехта прапанаваў напісаць паперкі і кінуць у шапку. Хай сексоты зробяць метку-крыжык, а іншыя – прочырк. Так і зрабілі. Ананімнасць была захавана. Пасля разгарнулі паперкі. Аказалася, з 25 паперак у 18 былі крыжыкі. Усе былі ашаломленыя. Але кожны лічыў, што ён паставіў прочырк. Між іншым, членаў КПСС у нас таксама было 18...»

Тое, што тут лічбы 18 і 18 супалі, не значыць, што адны камуністы і толькі яны былі сексотамі. Хапала іх і сярод беспартыйных.

Можна было б пра згаданую анкету і іншае гаварыць, як пра пачварныя, перажытыя з'явы мінулага часу. Але не так даўно ў «Народнай волі» (10.01.2006) паведамлялася пра сучасную аўтабіяграфічную анкету, якую патрабуюць запаўняць пры ўладкаванні на працу ў адным з прадпрыемстваў. Анкету складалі на аснове інструкцый, атрыманых з самага верху. Ёсць у анкеце і такія пункты: «Ці быў (была) за мяжой, калі, дзе і з якой мэтай (акрамя краін – удзельніц СНД)?»; «Ці падтрымліваеце Вы, Ваш муж ці Вашы блізкія (бацька, маці, браты, сёстры і дзеці старэйшыя за 16 гадоў) неслужбовыя сувязі з асобамі, якія пастаянна пражываюць за мяжой (акрамя краін-удзельніц СНД)?».

Няўжо зноў усё вяртаецца на кругі свае?

## БІБЛІЯ І БІБЛЕІЗМЫ

Само слова *Біблія*, у перакладзе з грэчаскай мовы, абазначае «кнігі». Гэта зборнік разнастайных формай і зместам твораў старажытнага пісьменства, святое пісанне іудзейскай і хрысціянскай рэлігій. Біблія складалася на працягу доўгага гістарычнага перыяду – з 12 ст. да н.э. па 2 ст. н. э. – на старажытнаяўрэйскай (Стары запавет) і старажытнагрэчаскай (Новы запавет) мовах. У ёй адлюстраваны драматычны шлях развіцця чалавечай духоўнасці, пачынаючы з сімвалічнай выявы ўзнікнення Сусвету і канчаючы сімвалічнымі малюнкамі «канца свету».

Гэта самая вядомая, самая папулярная кніга ў свеце. Яна, паводле апублікаваных звестак ЮНЕСКА, займае першае месца ў свеце па колькасці перакладаў на розныя мовы. А перакладзена яна на 1250 моў і дыялектаў. У шмат якіх краінах яна ёсць амаль у кожнай сям'і.

У нас жа пры савецкім рэжыме Біблія была фактычна забаронена. Калі і была ў каго гэта кніга, дык ён хаваў яе за сямю замкамі. Атэістычная прапаганда насіла ваяўнічы, наступальны характар. Як гаварыў шмат гадоў назад А.Салжаніцын, толькі ў Савецкім Саюзе слова «Бог» пішуць з малой літары, але затое тут

«КДБ» пішацца аж з трох вялікіх літар. У «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» (1970, т.2, с.322) сказана, што змест Бібліі – «шматлікі набор бязглуздзіцы» і што яна «выкарыстоўвалася і выкарыстоўваецца пануючымі класамі для таго, каб трымаць працоўных у паслушэнстве, зацямняць іх свядомасць і ўвекавечыць эксплуататарскі лад».

Здаецца, у 1977 г. я, займаючыся этымалогіяй слоў і фразеалагізмаў, некалькі дзён сядзеў у галоўнай рэспубліканскай бібліятэцы. Даведаўся, што тут, у спецфондзе, ёсць надта ж патрэбная мне Біблія, але пакарыстацца ёю можна толькі пры ўмове, калі прадставіш адпаведныя завераныя пячаткамі паперы-просьбы з установы, дзе працуеш. Перад ад'ездам у Гродна па гэтыя паперы я завітаў на кватэру да свайго былога навуковага кіраўніка прафесара Ф.М.Янкоўскага. Размаўлялі мы з ім і пра Біблію. І тады Фёдар Міхайлавіч пад вялікім сакрэтам прызнаўся, што мае гэтую кнігу. Ён даў мне яе, сказаўшы: «Толькі доўга не трымай і, крый божа, нікому не паказвай і нікому не кажы пра гэта». Так упершыню Біблія апынулася ў маіх руках.

На пачатку 90-х гадоў была ліквідавана манаполія кампартыі на ўладу. Падзьмуў вецер часу ў іншы бок, і цяпер амаль усе былыя бязбожнікі сталі нібыта шчырымі вернікамі, а некаторыя ваяўнічыя атэісты, не пакаяўшыся, пасябравалі з вышэйшымі духоўнымі асобамі. І цяпер у вусных выказваннях і друку слова «Бог» адно з самых высокачастотных. А Біблія стала ледзь не настольнай кнігай. Яе лёгка можна набыць у кнігарнях і кіёсках.

Біблія, – чытаем мы сёння ў «Беларускай Энцыклапедыі» (1996, т. 3, с. 140), – «адзін з самых багатых і складаных помнікаў сусветнай культуры, многія старонкі якога насычаны глыбокай жыццёвай мудрасцю і вызначаюцца вялікай мастацкай сілай». Асаблівым майстэрствам, высокай ступенню вобразнасці, вышынёй мастацкай якасці вылучаюцца такія, напрыклад, часткі (кнігі) Бібліі, як «Прытчы Саламона», «Песня песняў», «Эклезіяст».

Ніякая іншая кніга ў свеце не аказала такога вялікага ўздзеяння на развіццё сусветнай культуры, як Біблія. Біблейскія сюжэты, матывы, вобразы і сімвалы шырока выкарыстоўваліся на працягу стагоддзяў і цяпер выкарыстоўваюцца ў сусветнай літа-ратуры, жывапісе, тэатры, музычным мастацтве, кіно. Біблія стала крыніцай шматлікіх тэм і сюжэтаў, напрыклад, у творчасці Дантэ, Тасо, Гётэ, Байрана. Біблейскія матывы ёсць у творах шмат якіх рускіх пісьменнікаў (Ламаносаў, Пушкін, Л.Талстой, Дастаеўскі, Блок, Ясенін і інш.). Вобразы і матывы Бібліі знаходзім у творчасці Я.Купалы,

З.Бядулі, У.Караткевіча, В.Быкава, Р.Барадуліна і іншых беларускіх пісьменнікаў.

Пакажам гэта на адным прыкладзе. Верш М.Багдановіча «З песняў беларускага мужыка» пачынаецца радкамі:

Я хлеба ў багатых прасіў і маліў,
Яны ж мне каменні давалі;
І тыя каменні між імі і мной
Сцяною вялізнаю ўсталі.

Каб правільна зразумець верш, трэба найперш мець на ўвазе, што ён пабудаваны на развіцці вобразнай асновы евангельскага выслоўя. У Евангеллі (Матфей, 7, 9) чытаем: «Ці ёсць паміж вас такі чалавек, што ў яго сын папросіць хлеба, а ён падаў бы яму камень?» Гэты выраз стаў крылатым, выкарыстоўваецца ў многіх творах сусветнай літаратуры. Напрыклад, у вершы М.Ю.Лермантава «Жабрак» тая самая вобразнасць, што і ў М.Багдановіча:

Куска лишь хлеба он просил,
И взор являл живую муку,
И кто-то камень положил
В его протянутую руку.

Параўнаем таксама ў паэме «Дзесяты падмурак» П.Труса:

Бо ці ж ёсць на свеце людзі
Без душы й сумлення,
Каб дарылі замест хлеба
Чорствыя каменні?

Элементы евангельскага выслоўя, у якім асуджаецца чэрствасць, бяздушнасць, выразна адчуваюцца і ў паэме А. Куляшова «Хамуціус»:

Узняўшы бунт, народу-жабраку
Мы камень падалі, а не руку.
Мы гінем ад таго, што абяцалі
Зямлю яму, а не далі ні цалі.

Кнігі Старога і Новага запаветаў доўгі час у шматлікіх народаў былі амаль што адзінай крыніцай асветы. Яны перакладаліся на розныя мовы, у тым ліку на старую беларускую мову, і сталі вытокам многіх фразеалагізмаў. У гэтых адносінах зноў-такі ніводная іншая кніга не можа параўнацца з Бібліяй. У сучаснай беларускай літаратурнай мове, па нашых падліках, ёсць 115 фразеалагізмаў, якія сваім жыццём абавязаны Бібліі. Далей менавіта пра іх і пойдзе размова.

Тут у сваю чаргу можна вылучыць дзве групы. У першую ўваходзяць выразы, што склаліся на аснове якіх-небудзь асобных біблейскіх эпізодаў. Другую групу складаюць выразы, якія ўзніклі з адпа-

ведных словазлучэнняў (іншы раз ужо метафарызаваных), што сустракаюцца ў Бібліі. Дарэчы, даследчыкі адзначаюць як адну з асаблівасцей Бібліі яе сінкрэтызм – злітнасць, нерасчлянёнасць, адзінства рэальнасці і міфа, гістарычных фактаў і цудаў, філасофіі і паэзіі.

Вытокі фразеалагізмаў першай групы, як ужо гаварылася, – асобныя біблейскія сюжэты. Часам на аснове аднаго аповеду склалася некалькі фразеалагізмаў. Так, выраз *манна нябесная* прыйшоў да нас як паўкалька з французскай мовы, стаў ужывацца з двума значэннямі: «што-небудзь вельмі патрэбнае, доўгачаканае» і «багацце падазронага паходжання». А ўтварыўся ён з біблейскага аповеду пра «сыноў Ізраіля», якія на працягу 40 гадоў елі манну, пакуль не прыйшлі ў зямлю абяцаную. Манну, калі іудзеі ішлі пустыняй, кожную раніцу нібыта пасылаў з неба Бог. На аснове гэтага фразеалагізма з цягам часу ўзніклі яшчэ тры, кожны з якіх адрозніваецца ад папярэдняга іншым значэннем і спалучальнасцю: *манна з неба сыплецца* (каму, у каго, для каго), (чакаць) *манны нябеснай, як манны нябеснай.*

З імем Адама, які, паводле біблейскага аповеду, быў першым чалавекам на зямлі, звязана ўзнікненне трох фразеалагізмаў: *ад Адама* (мае два значэнні: «з даўніх часоў, здаўна» і «здалёк»), *адамаў яблык* (другая назва кадыка ў мужчын), *у касцюме Адама* («без усякага адзення, голы»). Ёсць і выраз *у касцюме Евы* («без усякага адзення, голая»). Этымалагічна з гэтым самым сюжэтам маюць сувязь яшчэ два фразеалагізмы: *зямны рай* («незвычайна прыгожая мясціна, дзе можна шчасліва і бесклапотна жыць») і *забаронены плод* («штосьці прывабнае, спакуслівае, але недазволенае»). Адам і Ева напачатку жылі ў раі – прыгожым Эдэмскім садзе. Бог дазволіў ім есці плады з усіх дрэў, апрача дрэва пазнання дабра і зла: «І не датыкайцеся да іх, каб вам не памерці». Аднак занадта цікаўная Ева не ўтрымалася, каб не сарваць забаронены плод, і спакусіла таксама Адама. За гэта абое былі пакараны і выгнаны з раю. Варта сказаць, што згаданы вышэй выраз *адамаў яблык* скалькаваны з нямецкага назоўніка *Adamsapfel* і засноўваецца на народным павер'і: калі Адам пачаў есці яблык, што дала яму Ева, то кавалачак засеў у горле і назаўсёды ператварыўся ў выступ, які як кляймо грэху перадаецца ўсім мужчынам.

З прытчы пра Юду Іскарыёта паходзяць выразы *трыццаць срэбранікаў* («плата за здраду, цана здрады») і *юдаў пацалунак* («здрадніцкі ўчынак пад маскай добразычлівасці, дружбы»). Юда – адзін з дванаццаці вучняў Ісуса Хрыста – прадаў свайго настаўніка за трыццаць срэбранікаў. Каб стражнікі ведалі, хто з дванаццаці Ісус і каго трэба схапіць, Юда падышоў і пацалаваў яго. Ускосна з гэтай жа прытчай звязваецца паходжанне выразаў *асіна плача* па кім («хто-

небудзь заслугоўвае павешання»), *як асіна, як асінавы ліст* (клапаціцца, дрыжаць, трымцець). Існуе павер'е пра асіну як праклятае дрэва: здраднік Юда пасля раскаяння нібыта павесіўся на асінавым суку, з таго часу асінавыя лісты асуджаны на вечнае трымценне.

У беларускай і польскай мовах ёсць фразеалагізмы *адправіцца да Абрама на піва* і *трапіць да Абрама на піва*. Абодва абазначаюць «памерці» і склаліся па мадэлі з сэнсава тоесным выразам *адправіцца на той свет*. Абрам – біблейскі персанаж. Ён быў вельмі адданы Богу, у чым апошні пераканаўся, загадаўшы яму праз анёла ахвяраваць родным сынам. За пакорлівасць і адданасць Бог узяў Абрама пасля смерці ў нябеснае царства. *Адправіцца да Абрама* першапачаткова абазначала «адправіцца на той свет, туды, дзе знаходзіцца Абрам». А «на піва» – дасціпны жартоўны дадатак, які (паводле М.А.Даніловіча) каламбурна накладае на імя біблейскага персанажа іншае, тоеснае, пашыранае ў мінулыя стагоддзі сярод яўрэйскага насельніцтва Польшчы і Беларусі імя *Абрам* (як гаспадар карчмы, куды заходзілі «на піва»).

З уласнымі імёнамі маюць непасрэдную сувязь выразы *арэдавы вякі* («вельмі доўга») і *мафусаілаў век* («вельмі доўгае жыццё, даўгалецце»). Паводле біблейскага тэксту, патрыярх Іарэд пражыў 962 гады, а Мафусаіл – 969 гадоў.

Фразеалагізм *Лазара пець (спяваць)* абазначае «бедаваць, прыкідвацца няшчасным, старацца расчуліць кагосьці». Даўней улюбёнай песняй многіх жабракоў была песня пра беднага Лазара. Яна склалася на аснове евангельскай прытчы пра Лазара, які, хворы, пакрыты струпамі, ляжаў каля варот багацея, чакаючы, пакуль яму выкінуць аб'едкі. Тэкст песні і яе жалобны матыў скіроўвалі на тое, каб расчуліць слухачоў, выпрасіць у іх міласціну. Пад выглядам жабракоў часам хадзілі пад вокнамі ці ў людным месцы і пелі «Лазара» і такія, што прыкідваліся няшчаснымі. Гэта і стала падставай для пераасэнсавання свабоднага словазлучэння.

Вельмі многія выразы біблейскага паходжання з'яўляюцца інтэрнацыянальнымі. Узнікшы ў якой-небудзь адной мове, яны пасля пераходзілі як калькі або паўкалькі ў іншыя мовы. Так, выраз *іерыхонская труба* («чалавек з вельмі гучным голасам») – паўкалька з французскай мовы. А яго выток – біблейскі тэкст («Кніга Ісуса Навіна»). Тут апавядаецца, як ізраільцяне, вызваліўшыся з егіпецкага палону, накіраваліся ў Палесціну і па дарозе асадзілі горад Іерыхон. Сцены горада былі вельмі моцныя, і, здавалася, іх немагчыма разбурыць. Але па волі Божай, калі свяшчэннікі затрубілі ў юбілейныя

трубы, а ўвесь народ усклікнуў гучным голасам, сцены паваліліся і горад быў узяты.

Фразеалагізм *воўк у авечай скуры* («крывадушнік») у такой ці вельмі падобнай форме бытуе ва ўсходнеславянскіх і польскай мовах. Параўнаем яго аналагі, напрыклад, у нямецкай мове: *Wolf im Schafpelz* (воўк у барановым кажусе), у чэшскай мове: *vilk vrouchu berancim* (воўк у адзенні бараковым). Склаўся гэты выраз на базе выказвання з Бібліі: «Сцеражыцеся хлуслівых пракрокаў, якія прыходзяць да вас у авечым адзенні, а ўнутры ёсць ваўкі драпежныя».

У Бібліі расказваецца пра старажытнаяўрэйскі абрад «казлаадпушчэння»: адзін раз у год, у дзень адпушчэння грахоў, прыводзілі ў пэўнае месца казла, і на яго галаву першасвятар (вярхоўны жрэц) ускладваў абедзве рукі, што сімвалізавала перакладанне грахоў усяго народа на казла, якога пасля праганялі («адпускалі») у пустыню. На гэтай аснове ўзнік фразеалагізм *казёл адпушчэння,* які абазначае «чалавек, на якога звальваюць чужую віну, адказнасць за другіх».

У беларускай мове ёсць выраз *конь божы.* Ён ужываецца як эўфемізм, стылістычны сінонім да слова *асёл* у яго значэнні «тупы, абмежаваны чалавек». З гэтым жа значэннем у польскай мове бытуе выраз *koń Pana Jezusa.* Паводле Бібліі, Ісус Хрыстос ездзіў па свеце на асле. Параўнаем у байцы К.Крапівы «Асёл Ісуса Хрыста»: «Калі ўязджаў Ісус Хрыстос у Іерусалім, Асёл яго на спіне вёз, натоўп ішоў за ім». Выраз узнік як перыфраза, як другая назва асла пры адначасовым перанясенні назвы з зыходнага значэння слова *асёл* («жывёліна») на другаснае, метафарычнае («тупы, неразумны чалавек»).

Пералічым шэраг іншых фразеалагізмаў (першая група), якія сфармаваліся на аснове біблейскіх сюжэтаў і пра паходжанне якіх можна прачытаць у маім нядаўна выдадзеным «Этымалагічным слоўніку фразеалагізмаў» (Мн.: БелЭн, 2004, 448 с.): *блудны сын, богу душу аддаць, вавілонскае стоўпатварэнне, валаамава асліца, валтасараў баль, да другога прышэсця, егіпецкая кара, заблудная авечка, за сачавічную палійку, каінава пячаць, калос на гліняных нагах, пасыпаць галаву попелам, пуцяводная зорка, садом і гамора, спяваць асанну, Фама (Хама, Тамаш) няверны.*

Словы, фразеалагізмы, прыказкі, якія ўвайшлі ў літаратурную мову з Бібліі, называюць біблеізмамі. Вышэй гаварылася пра выразы-біблеізмы першай групы. Далей размова будзе ісці пра фразеалагізмы другой групы. Яны ўзніклі не на аснове біблейскіх сюжэтаў, а з адпаведных словазлучэнняў, якія ёсць у Бібліі.

Нярэдка гэтыя словазлучэнні ўжо ў самім біблейскім тэксце маюць цэласнае, сэнсава непадзельнае значэнне, інакш кажучы,

выступаюць як фразеалагізмы. Так, выраз *кінуць камень* – паўкалька з царкоўнаславянскай мовы (*верзити камень*) – мае сэнс «асудзіць, ачарніць, абвінаваціць каго-небудзь». Ён паходзіць з евангельскай прытчы (Іаан, 8,77). Аднойчы кніжнікі і фарысеі прывялі Ісусу Хрысту на расправу жанчыну, якую абвінавачвалі ў распусце, але ён нават галавы не падняў на іх. Толькі сказаў: «Каго вы, людзі, судзіце?! Ану, кіньце камень у яе, хто без граху!» І ніхто не кінуў. Узнікненне фразеалагізма звязана са звычаем караць смерцю, «забіваючы камянямі», які быў у старажытнай Іудзеі. Дарэчы, у даўніх помніках беларускай пісьменнасці яшчэ адчуваецца жывая сувязь з крыніцай яго ўзнікнення, спасылкай на Евангелле; напрыклад, у «Гістарычна-палемічным даследаванні пра пачатак і распаўсюджанне уніі ў Літве і Заходняй Русі» (1600–1605): «А тамъ отъ местъ разные на них скарги чинено до митрополита, который бы моглъ первшый камень кинути, по евангельскому слову». Можна зазначыць, што ў сучаснай беларускай мове выкарыстоўваецца ўтвораны на базе гэтага выразу фразеалагізм *камяні кідаюцца* (у каго), структурна арганізаваны як двухсастаўны сказ. Ён абазначае «хто-небудзь асуджаецца, абвінавачваецца, ганьбіцца»; напрыклад, у Р.Барадуліна чытаем: «І зноў непрыемна чытаць некаторыя ўспаміны, дзе кідаюцца камяні ў жонку М.Стральцова». Зрэшты, са згаданай прытчы паходзіць яшчэ адзін фразеалагізм – *з мірам*. У прытчы гаворыцца, што Хрыстос адпусціў жанчыну, сказаўшы ёй: «З мірам!» І ў сённяшняй мове гэты выраз мае значэнне «без пакарання, мірна», якое рэалізуецца пры дзеясловах «адпусціць», «пакінуць» і інш.

Большая частка біблеізмаў другой групы прыйшла ў нашу мову з царкоўнаславянскай як непасрэдныя запазычанні (напрыклад, *прытча ва языцах, цямна вада ва облацэх, раб божы)* або як калькі ці паўкалькі (*уліць у старыя мяхі новае віно, у поце твару свайго, блуканне па пакутах, перакаваць мячы на аралы, сыпаць бісер перад свіннямі* і інш.).

Некаторыя з гэтых і іншых фразеалагізмаў мелі ў Бібліі больш канкрэтны змест, абмежаваны пэўнымі рэаліямі, а пасля развілі ў нашай і іншых мовах новыя значэнні. Так, выраз *святая святых* у Бібліі фігуруе як тэрмін для абазначэння той часткі Іерусалімскага храма, дзе захоўваўся каўчэг з запаведзямі, пасудзіна з маннай, цудадзейнае жазло і куды дазвалялася заходзіць толькі першасвяшчэнніку адзін раз у год. Апрача таго, гэтым тэрмінам называўся ахвярны хлеб, што прыносілі ў Іерусалімскі храм і які маглі з'есці толькі жрацы гэтага храма. На аснове названых канкрэтных значэнняў у выразе развіліся пераносныя, звязаныя з памяшканнем або аб'ектам: І)

недаступнае памяшканне, якое строга ахоўваецца; 2) месца, якое з'яўляецца вельмі дарагім, да якога адносяцца з пашанай; 3) памяшканне, дзе вядуцца адказныя работы, знаходзяцца важныя прыборы і пад.; 4) самае важнае, дарагое, запаветнае.

На аснове некаторых біблеізмаў з цягам часу склаліся іншыя, новыя выразы. Напрыклад, фразеалагізм *альфа і амега*, што значыць «самае галоўнае, сутнасць чаго-небудзь», неаднаразова сустракаецца ў біблейскіх тэкстах. Ён узнік як спалучэнне першай і апошняй літар грэчаскага алфавіта. На базе гэтага назоўнікавага выразу ўтварыўся прыслоўны *ад альфы да амегі* («цалкам, ад пачатку да канца»).

У Бібліі пра стварэнне першых людзей на зямлі гаворыцца, як Адам, прачнуўшыся і ўбачыўшы Еву, зробленую Богам з Адамавай рабрыны, сказаў: «Вось гэта косць ад касцей маіх і плоць ад плоці маёй». Выраз *косць ад косці* (каго, чыёй), які ў словах Адама меў і канкрэтны сэнс, стаў вобразным абазначэннем кроўнай роднасці («роднае дзіця каго-небудзь»), а таксама ідэйнай роднасці («спараджэнне каго- ці чаго-небудзь»).

Самастойна, з тымі самымі значэннямі жыве ў мове і фразеалагізм *плоць ад плоці*. На аснове гэтых фразеалагізмаў склаліся яшчэ і такія, семантычна тоесныя: *кроў ад крыві, плоць і кроў*, а таксама дзеяслоўны выраз *уваходзіць у плоць і кроў* («арганічна засвойвацца, моцна ўкараняцца, станавіцца прывычным, неабходным»).

Запазычаны з царкоўнаславянскай мовы фразеалагізм *вока за вока, зуб за зуб* («адплата злом за прычыненае зло») з'яўляецца часткай біблейскай формулы закону адплаты: «Пералом за пералом, вока за вока, зуб за зуб: як ён зрабіў пашкоджанне на целе чалавека, так і яму трэба зрабіць». Другая частка гэтага выразу (*зуб за зуб*) ужываецца і самастойна, захоўваючы той самы сэнс. А на аснове гэтай часткі ў нашай мове развіўся асобны фразеалагізм *зуб за зуб зайшоў* (у каго з кім). Ён абазначае «склаліся непрыемныя адносіны, пры якіх адзін не ўступае другому».

Яшчэ прыклады, блізкія да папярэдніх. Выраз *ва векі вякоў* паходзіць з формулы праслаўлення Бога ў часе хрысціянскага царкоўнага набажэнства (абедні). На базе гэтага выразу склаліся два іншыя: *векі вечныя* («заўсёды») і *на векі вякоў* («назаўсёды» і «ніколі»). Фразеалагізм *божай міласцю* (калька з лацінскай мовы) паходзіць з «Першага паслання апостала Паўла да карынфянаў». Доўгі час ён ужываўся ў тытулах найвышэйшых духоўных і свецкіх асоб як сцвярджэнне, што ім улада дадзена Богам. У далейшым за фразеалагізмам замацавалася сучаснае значэнне «прыроджаны, сапраўдны, таленавіты, з выключнымі здольнасцямі». У беларускай мове не без уплыву

гэтага выразу развіўся сінанімічны з ім *з божай ласкі*. Фразеалагізм *пад спудам* паходзіць з царкоўнаславянскага тэксту Евангелля: «Запаліўшы свечку, не ставяць яе пад спудам». Ён абазначае «без выкарыстання, ужывання, прымянення». На яго аснове ўзнік як антанімічнае ўтварэнне, як яго сэнсавая супрацьлегласць выраз *з-пад спуду* («з забыцця»).

Як паказвалася на прыкладзе *кінуць камень*, многія біблеізмы другой групы ўжо ў саміх біблейскіх тэкстах выкарыстоўваліся з фразеалагічным значэннем. Так, *песня песняў* («выдатны твор, вяршыня творчасці») паходзіць ад назвы адной з біблейскіх кніг, напісанай з высокім паэтычным майстэрствам. Не меншым майстэрствам вызначаецца і «Кніга Эклезіяста», адкуль пачалі жыццё два выразы. Першы – *на кругі свая* («да ранейшага стану, на былое месца») – ужыты ў такім кантэксце: «Вяртаецца вецер на кругі свая». Другі – *збіраць камяні* – ужываецца пры слове *час*. Абазначае «(час, пара) сумеснымі намаганнямі прыводзіць у пэўны парадак што-небудзь раней разбуранае, раскіданае, занядбанае», а ўпершыню выкарыстаны ён у такіх радках: «Усяму свой час і час усякай рэчы пад небам... Час раскідаць камяні, і час збіраць камяні».

Шырокавядомы фразеалагізм *каменя на камені не пакінуць* шмат разоў сустракаецца ў тэкстах Евангелля, у прыватнасці, там, дзе расказваецца, як Хрыстос прарочыць пагібель Іерусаліма: «Дакладна кажу вам: не пакінецца тут каменя на камені, усё будзе разбурана». Метафарызаваны выраз *выпіць чашу да дна* ўжыты ў іншым тэксце – у звароце да Іерусаліма, які выпіў з рук Госпада чашу да дна і павінен паўстаць, падняцца. Ужо ў часы стварэння Бібліі атрымалі пераасэнсаванне і такія фразеалагізмы: *волас з галавы не ўпадзе, перці супраць ражна, галаву прыхінуць, язык прыліп да горла, як зрэнку вока, як неба ад зямлі.*

Шмат якія іншыя выразы маюць у Бібліі адначасова падвойны сэнс – прамы і пераносны. Так, *умыць рукі* ў сучаснай мове абазначае «ўхіліцца ад адказнасці, ад удзелу ў чымсьці». Гэты выраз ідзе з евангельскага сюжэта пра распяцце Ісуса. Рымскі намеснік у Іудзеі Пілат, перад тым як аддаць натоўпу Ісуса на пакаранне, узяў вады, умыў рукі перад народам і сказаў: «Не вінаваты я ў крыві праведніка гэтага, глядзіце вы». У старажытных яўрэяў быў сімвалічны абрад умывання рук як знак няўдзельнасці ў чым-небудзь. Біблія, напрыклад, павучае тых, хто знойдзе мёртвае цела, умыць рукі: гэта абазначала, што яны не віноўнікі забойства.

Прыкладна тое самае можна сказаць і пра фразеалагізм *абтрэсці прах з ног* (чый, каго, чаго), які абазначае «канчаткова парваць

з кім- ці чым-небудзь». У евангельскім тэксце (Лука, 9, 5) даецца парада: «Калі хто не прыме вас і не паслухае слоў вашых, то, выходзячы з дома ці горада гэтага, абтрасіце прах з ног вашых». Тут словазлучэнне *абтрэсці прах з ног* (са стараславянізмам *прах* у значэнні «пыл») адначасова мае прамы сэнс, бо звязваецца з былым, тагачасным звычаем: назаўсёды парываючы сувязь з кім-небудзь, сімвалічна абівалі пыл са сваіх ног, тупнуўшы некалькі разоў ля парога.

Асобныя словазлучэнні на старонках Бібліі ўжываюцца неаднолькава. Так, *краевугольны камень* у адным тэксце ўжыты з прамым, канкрэтным значэннем яго слоў (як «камень, пакладзены ў фундамент будынка»): «Кладу ў падмурак на Сіёне камень краевугольны». У другім – мае абстрактнае значэнне, выступае ўжо як фразеалагізм; гаворка ідзе пра Зямлю як планету: «На чым стаіць аснова яе, хто паклаў камень краевугольны на ёй?» Дарэчы, са значэннем «аснова чаго-небудзь» фразеалагізм выкарыстоўваецца ў старажытных беларускіх тэкстах; напрыклад, у раней цытаваным «Гістарычна-палемічным даследаванні...»: «Павелъ святый проповедалъ быти Христу головою церкви и камнемъ краеугольным».

У Бібліі ёсць і такія словазлучэнні, якія ў перыяд яе напісання яшчэ не былі метафарычнымі, але стваралі аснову для іх пераасэнсавання ў будучыні. Напрыклад, агульны амаль для ўсіх сучасных славянскіх, а таксама французскай, нямецкай і некаторых іншых моў фразеалагізм *будаваць на пяску* мае значэнне «засноўваць што-небудзь на ненадзейных звестках, паказчыках». А склаўся ён на базе евангельскай прытчы: «Усякі, хто слухае гэтыя словы мае і не выконвае іх, стане падобны на чалавека безразважнага, які пабудаваў дом свой на пяску. І пайшоў дождж, і разліліся рэкі, і падзьмулі вятры, і налеглі на дом той, і ён паваліўся».

Фразеалагізм *несці свой крыж* абазначае «цярпліва пераносіць цяжкасці, выпрабаванні». Ён узнік у выніку пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, пашыранага ў евангельскіх тэкстах, напрыклад: «Хто не нясе крыжа свайго і ідзе за мною, не можа быць маім вучнем». Крыж быў прадметам культу і сімвалам прыхільнікаў Хрыста, іх гатоўнасці да выпрабаванняў: «Тады Ісус сказаў вучням сваім: калі хто хоча ісці за мною, няхай зрачэцца сябе самога і возьме крыж свой і ідзе за мною». Або сказ з прыпавесці пра распяцце Хрыста, у якой гаворыцца пра вялізны крыж, які Ісусу загадалі несці да месца яго-нага пакарання смерцю: «І, несучы крыж свой, ён выйшаў на месца... лобнае, па-яўрэйску Галгофа». Відаць, гэты вобраз, адлюстраваны таксама ў карцінах і скульптуры, і лёг у аснову фразеалагізма.

*Камень спатыкнення* – паўкалька з царкоўнаславянскай мовы (*камень преткновения*) – мае ў сучаснай мове сэнс «значная перашкода, цяжкасць». У Бібліі ж гэта спалучэнне ўжываецца толькі з канкрэтным значэннем, бо гаворка ішла пра пакладзены Богам у Сіёне камень, аб які спатыкаліся нявернікі ці тыя, хто не скараўся перад строгімі законамі. Дарэчы, у сучасным друку сустракаецца няправільнае, памылковае ўжыванне гэтага выразу – з парушэннем яго формы. Напрыклад, у «Настаўніцкай газеце» за 7.10.2000 г.: «Менавіта пісьмовы экзамен па мове з'яўляецца каменем сутыкнення для многіх абітурыентаў».

Сучасны, праўда, не часта ўжывальны выраз *кесарава кесараві* («кожнаму належнае, тое, чаго заслужыў») таксама ўтварыўся ў выніку пераасэнсавання адпаведнага словазлучэння, выкарыстанага ў наступнай маўленчай сітуацыі. Паводле Евангелля, пасланцы фарысеяў, праціўнікаў Ісуса, правакацыйна спыталіся ў яго пры натоўпе, ці дазваляе хрысціянская рэлігія плаціць падаткі кесару – рымскаму імператару. У Іудзеі, тады калоніі Рыма, ужываўся дынарый з адбіткам на ім кесара. Паказаўшы на гэты адбітак і надпіс на манеце, Ісус сказаў: «Аддавайце кесарава кесараві, а Божае Богаві».

Некаторыя біблеізмы другой групы прыйшлі ў нашу мову не з царкоўнаславянскай, а з іншых моў. Напрыклад, *закапаць свой талент у зямлю* – паўкалька з рускай мовы (*зарыть свой талант в землю*), *гог і магог* – паўкалька з англійскай мовы, *не гледзячы на асобы* – калька з нямецкай, *і пальцам не варухнуць, для ачысткі сумлення, скінуць з сябе ветхага Адама* – калькі з французскай, *пуп зямлі, ні на ёту* – калькі з грэчаскай мовы. Прычым і ў гэтых мовах біблеізмы складваліся неаднолькавымі шляхамі, але аналагічнымі з тымі, пра якія гаварылася вышэй.

Пералічым яшчэ шэраг біблеізмаў другой групы, якія асобна тут не разглядаліся: *вечная памяць, воля ваша, царства нябеснае, дзённа і ночна, за сямю пячаткамі, злоба дня, імя (*каму, чаму*) легіён, на руках насіць,* (аддзяляць) *авец ад козлішч, біць сябе ў грудзі, ад мала да вяліка, узносіць да нябёс, смяротны грэх.*

Біблія прыкметна папоўніла і прыказкавы склад літаратурнай мовы.

Традыцыйна лічаць прыказкі афарызмамі народнага паходжання, узніклымі непасрэдна ў жывой мове таго ці іншага народа. Але гэта не зусім так. Ёсць нямала прыказак, якія перайшлі ў нашу мову з іншых моў, як запазычанні, калькі ці паўкалькі. Так, *Іван ківае на Пятра* – запазычанне з рускай мовы; *Што задужа, то не здрова* – паўкалька з польскай мовы; *Рука руку мые* – калька з лацінскай

мовы; *Прывычка – другая натура* – паўкалька з лацінскай мовы; *Хто плаціць грошы, той і заказвае музыку* – недакладная калька з англійскай мовы; *Добра смяецца той, хто смяецца апошні* – калька з французскай мовы.

Ёсць шэраг прыказак, якія паводле сферы свайго першапачатковага ўжывання з'яўляюцца афарызмамі кніжнага паходжання, крылатымі выразамі, што адарваліся ад сваёй літаратурнай крыніцы і цяпер ўспрымаюцца як звычайныя прыказкі, фіксуюцца ў фальклорных зборніках ці парэміяграфічных слоўніках – без паказу, хто аўтар гэтых афарызмаў-прыказак.

Сёння амаль усе ўжываюць у пэўнай маўленчай сітуацыі прыказку *Апетыт прыходзіць у часе яды.* І дастасоўваюць яе зусім не да яды, а выкарыстоўваюць ў значэнні: жаданне, патрэбнасць, цікавасць да чаго-небудзь павялічваецца па меры таго, як пазнаеш што-небудзь, захапляешся тым, што пачаў рабіць. Ужываючы гэту прыказку, сёння мала хто ведае, што аўтар гэтага афарызма – французскі епіскап Жэром дэ Анжэ, а асаблівай папулярызацыі гэтага афарызма і набыццю ім крылатасці вельмі ж пасадзейнічаў славуты французскі пісьменнік Франсуа Рабле ў сваім шырокавядомым рамане «Гарганцюа і Пантагруэль».

Яшчэ толькі некалькі прыказак, якія маюць свайго аўтара: *Маўр зрабіў сваю справу, Маўр можа ісці* (Ф.Шылер), *Кропля камень крышыць* (Авідзій), *Грошы не пахнуць* (Веспасіян), *З мілым рай і ў шалашы* (Н. Ібрагімаў), *Двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма* (Геракліт).

Шырока ўвайшоў у побыт крылаты выраз з байкі К.Крапівы «Сава, Асёл ды Сонца», ператварыўшыся ў звычайную прыказку: *Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала.* Гэта можна было б пацвердзіць чатырма прыкладамі з літаратурных крыніц.

А цяпер звернемся да прыказак, якія прыйшлі да нас з Бібліі. Іх – 19. Прывядзём гэтыя прыказкі, даючы ім сэнсавую ці сітуацыйную характарыстыку, ілюструючы іх ужыванне ў сучаснай мове толькі адным прыкладам з шэрагу некалькіх і называючы біблейскі тэкст, з якога яны пачыналі свой шлях у афарыстыку.

1. *Няма прарока ў сваёй айчыне.* Належным чынам не цэніцца ў сваёй айчыне ці ў акружэнні бліжніх чалавек, варты высокай ацэнкі. «На сваіх адукаваных і культурных ці то ніхто не зважае (бо, як вядома, няма прарока ў сваёй айчыне), ці то яны самі мімікрыюць да нашых умоў» (Звязда. 5.12.2000). Неаднойчы наўтараецца ў Бібліі (напрыклад, у «Евангеллі ад Марка», 6, 4) як словы Ісуса пра тое, што

не бывае прарока без пашаны, хіба толькі ў айчыне сваёй і ў доме сваім.

2. *Не хлебам адзіным жыве чалавек.* Чалавек павінен клапаціцца не толькі пра свае матэрыяльныя, але і пра духоўныя патрэбнасці. «Быў я надта галодны, нават пры сваёй прыроднай жарлівасці. Але не хлебам адзіным жыве чалавек...» (М.Гарэцкі). Паходзіць з евангельскага тэксту: «Не аб хлебе адзіным жыў будзе чалавек» (Лука, 4,4).

3. *Няма нічога тайнага, каб не стала яўным.* Гаворыцца пра непазбежнасць раскрыцця таго, што было чыёй-небудзь тайнай. «– Думаеш, на заводзе не ведаюць, што ты махлюеш? – Не злавіў за руку, не кажы – злодзей. – Зловяць! Няма нічога тайнага, каб не стала яўным» (І.Гурскі). З евангельскага тэксту (Марк, 4, 22): «Няма нічога тайнага, каб не зрабілася б яўным».

4. *Неспавядальныя шляхі Гасподнія.* Немагчыма прадугадаць усе павароты лёсу, прадвызначыць будучыню. Ужываецца і ў такіх варыянтах: *Неспаведныя шляхі твае, Госпадзе; Шляхі Гасподнія няведамы; Божыя дарогі неспазнаныя.* «Ці мог Васіль Быкаў, ваюючы супраць Германіі, лічачы немцаў смяротнымі ворагамі, думаць, што некалі, праз пяцьдзесят гадоў, будзе шукаць прытулку ў Германіі ад беларускіх цемрашалаў? І прызнавацца, што тут, у Германіі, ён адчувае сябе больш бяспечна, чым у Беларусі і Расіі? Неспаведныя шляхі твае, Госпадзе» (Л.Арабей). З «Паслання апостала Паўла да рымлянаў», 11,33 (паўкалька з царкоўнаславянскай мовы: «Неисповедимы пути Господни»).

5. *Хто сее (пасее) вецер, той пажне буру.* Таго, хто распачынае бойку, напад і пад., чакае жорсткая адплата, кара. «Гора таму, хто адважыцца пайсці на нас, яму будзе зламана галава. Не дарма ў нашым народзе кажуць: «Хто пасее вецер, той пажне буру» (І.Гурскі). З «Кнігі прарока Асіі» (8,7): «Як яны сеялі вецер, то і пажнуць буру».

6. *Супраць ражна не папрэш.* Немагчыма, бескарысна супрацьстаяць сіле, уладзе. «Абмануў мяне кудлаты чорт. А што ты яму зробіш? Супраць ражна не папрэш» (В.Каваль). Склалася на аснове выказвання, двойчы паўторанага ў «Дзяяннях святых апосталаў» (9,5; 26,14): «Цяжка табе перці супраць ражна».

7. *Хто не працуе, той не есць.* Гаворыцца пра недапушчальнасць дармаедства, паразітавання. «– А мы працуем на сябе. – Ды чуў... Пра гэта ўсюды трубяць. Павага, слава, чэсць. – Хто не працуе, той не есць» (К. Крапіва). З «Другога паслання апостала Паўла да фесаланікійцаў» (3, 10): «Калі хто не хоча працаваць, той не есць». Між іншым, пры савецкім рэжыме формула «Хто не працуе, той

не есць» хоць і лічылася прынцыпам сацыялізму, але насамрэч была крывадушным прыкрыццём грамадскай няроўнасці.

8. *Забаронены плод салодкі.* Штосьці прывабнае, спакуслівае, але недазволенае заўсёды прыцягвае, вабіць. «Гарвась спрабаваў зразумець, чым Рыхцік адурманьваў людзей, чаму яны цягнуліся да яго, як галодныя да хлеба, верылі паганаму слову, а не боскаму. «Забаронены плод салодкі», – вучыў ён братоў і сясцёр» (А.Кажадуб). Склалася на аснове біблейскага сюжэта пра дрэва пазнання дабра і зла, зрываць плады з якога Бог забараніў Адаму і Еве.

9. *Бог даў, Бог і ўзяў.* Гаворыцца, часта як суцяшэнне, пра чыю-небудзь смерць, а таксама пра страту чаго-небудзь. «Глушак хоць супакойваў сябе: бог даў – бог і ўзяў; хоць разважаў цвяроза: не ведаў жа, што так кончыцца, – калі маліўся аб малой, быццам прасіў ва ўсявышняга літасці і даравання» (І.Мележ). Паўкалька з царкоўнаславянскага тэксту: «Господь даде, Господь и отъя» (з «Кнігі Іова», 1, 2).

10. *Што пасееш, тое і пажнеш.* За свае ўчынкі даводзіцца расплачвацца. «Як насенне перад тым, як кінуць яго ў глебу, правяраецца па некалькі разоў, так павінна правярацца кожнае слова, што адрасуецца дзецям. «Што пасееш – тое і пажнеш», – не ў меншай меры, а яшчэ ў большай адносіцца да таго поля, назва якога – юная чалавечая душа» (Б.Сачанка). З «Паслання к Галатам апостала Паўла» (6, 7): «Не падманвайцеся: Бог зганьбаваны не бывае. Што пасее чалавек, тое і пажне».

Пяць прыказак выйшла з «Кнігі Эклезіяста», якая, як ужо ўпаміналася вышэй, вызначаецца выключным паэтычным майстэрствам.

1. *Нішто не вечна пад месяцам.* Гаворыцца як сцвярджэнне, што ўсё на свеце мінаецца, канчаецца. «І галоўнае тут вера. Пад яе крылом чалавек становіцца лепшы, чысцейшы, больш аб'ёмны... Нішто не вечна пад месяцам» (Г.Марчук). Прыказка (паўкалька з рускай мовы) паходзіць з верша М.М.Карамзіна «Дасведчаная Саламонава мудрасць, або Вобразныя думкі Эклезіяста» (1797), дзе ёсць радок «Ничто не вечно под луною», які з'яўляецца перайманнем з «Кнігі Эклезіяста» (1,9): «Што было, тое і будзе; і што рабілася, тое і будзе рабіцца, і няма нічога новага пад сонцам».

2. *Усё новае – гэта добра забытае старое.* Ужываецца як ацэнка чаго-небудзь нібыта новага, якое на самай справе ўжо было раней, адбывалася, бачылася, чулася і пад. «Кажуць, што ўсё новае – гэта добра забытае старое. Прайшоўшы праз рамантычна-жаноцкія 60-я і маладзёжна-раскаваныя 70-я, цяпер мода «зарулілa» ў

элегантныя 80-я, якія надаюць абёмнасць: фальбонаў, складак, валанаў, пышных рукавоў» (Звязда. 6.12.2001). Калька з французскай мовы. Лічыцца, што ўпершыню нібыта так сказала мадэмуазель Бертэн, мадыстка Марыі Антуанеты, паднавіўшы старую сукенку каралевы. У французскай мове гэты афарызм склаўся пад уплывам радкоў з «Кнігі Эклезіяста» (1, 10): «Бывае нешта, аб чым кажуць: «Глядзі, вось гэта новае, але гэта было ўжо ў вяках, якія былі да нас».

3. *Бойся Усявышняга і не гавары лішняга.* Ужываецца як перасцярога не гаварыць нічога лішняга. «Андрэй і Янка напісалі Райскаму (адказ на пісьмо), шмат выказвалі радасці, надзей на шчаслівы канец і накідаліся на нікчэмства ўсяе чыноўніцкай тармасні вакол настаўніцкага сходу. І ўсё ж такі дадалі евангельскія словы, упэўненыя, што іх пісьмо чыноўніцкіх рук не міне: «Бойся Усявышняга і не гавары лішняга» (Я.Колас). Склалася пад уплывам Эклезіяста (5,1): «Не спяшайся языком сваім, і сэрца тваё няхай не спяшыць вымавіць словы перад Богам».

4. *Не капай другому яму, сам у яе ўвалішся.* Непрыемнасць можа здарыцца з тым, хто жадае ці робіць яе іншым. Часцей ужываецца як перасцярога не рабіць благога каму-небудзь. Выкарыстоўваецца і ў такой разнавіднасці: *Хто пад кім яму капае, часта сам у яе ўпадае.* «– Цяпер ён сам трапіў у блакаду. Праўду людзі кажуць: не капай другому яму... – Сам увалішся, – падхапіла Аксана» (М.Гамолка); «Глядзі, мая перапёлачка, штоб з гэтага піва не выйшла якога дуру, бо знаеш прымаўку: хто пад кім яму капае, часта сам у яе ўпадае» (В.Дунін-Марцінкевіч). Параўнаем у Эклезіяста (10, 8): «Хто капае яму, той упадзе ў яе».

5. *Дай божа ў добры час сказаць, а ў ліхі (нядобры) памаўчаць.* Ужываецца як агаворка, што чалавек змушаны казаць пра што-небудзь нядобрае і што лепш бы пра гэта не гаварыць. «Ёсць у народзе сказ-прымоўка: «Дай божа ў добры час сказаць, а ў час нядобры памаўчаць», дык вось і думай тут, галоўка» (Я.Колас). Як лічыць І.І.Насовіч, прыказка склалася пад уплывам выказвання з «Кнігі Эклезіяста» (3, 1-7): «Усяму свой час... маўчаць і час гаварыць».

Чатыры прыказкі паходзяць з «Евангелля ад Матфея».

І. *Падняўшы меч, ад мяча і згіне.* Таго, хто распачынае несправядлівую барацьбу, чакае адплата, пагібель. «Расійскі «бальшавізм» спрыяе нацыянальным дамаганням і повен жадання здаволіць самыя крайнія дэмакратычныя вымогі, але нядоля яго ў тым, што ён нежыццёвы, не мае грунту і асуджаны на знішчэнне. Тут дапраўды справядлівы словы: падняўшы меч, ад мяча і згіне»

(Я.Лёсік). З «Евангелля ад Матфея» (26,52): «Тады гаворыць яму Ісус: вярні твой меч ў яго месца, бо ўсе, узяўшыя меч, мячом загінуць».

2. *Шукайце і знойдзеце.* Каб знайсці што-небудзь, трэба шукаць. «Талерантная натура Барыса Кіта прагнула міру і душэўнай гармоніі, пры якіх толькі магчыма было разгарнуць свае стваральныя здольнасці. Тое надарылася не адразу, але, як сказана, – шукайце і знойдзеце. Спадар Кіт шукаў» (В.Быкаў). Паўкалька з царкоўнаславянскай мовы: «Ищите и обрящете» (Матфей, 7,7).

3. *Не судзіце, ды не судзімы будзеце.* Гаворыцца звычайна як парада ці заклік не ўмешвацца ў непрыемнасці. «Што я табе, сынок, скажу? Вайна ўсё пераблытала. Быў добры – стаў дрэнны, а той, пра каго не думаў, чалавекам аказаўся... Не судзіце, ды не судзімы будзеце. Вайна» (А.Дзялендзік). Параўнаем: «Не судзіце, ды не судзімы будзеце, бо якім судом судзіце, такім будзеце судзімы; і якою мераю мераеце, такою і вам будуць мераць» (Матфей 7, 1-2).

4. *У чужым воку саломку бачым, а ў сваім і бервяна не заўважаем.* У іншых бачым нават дробныя недахопы, а ў сябе не заўважаем і вялікіх. «– У Ватыкане таксама не ўсё ідзе добра з іх «місіянерамі»... – У чужым воку саломку бачаць, а ў сваім і бервяна не заўважаюць, – уздыхнуў айцец Роберт» (І.Гурскі). Параўнаем: «Што ты глядзіш на сучок у воку брата свайго, а бервяна ў тваім воку не адчуваеш?» (Матфей, 7,5; Лука, 6, 41).

Як бачым, след Бібліі ва ўсім – вялізны, відавочны і неаспрэчны.

## ПРА ДВА ЗБОРНІКІ ПРЫКАЗАК

Цяжка пераацаніць значэнне Івана Іванавіча Насовіча (1788–1877) у гісторыі беларускай філалогіі, фалькларыстыкі і этнаграфіі. Ён займае пачэснае месца сярод выдатных дзеячаў беларускай культуры XIX ст. Яго справядліва называюць «беларускім Далем», супастаўляючы дзве славутыя працы У.І.Даля з кнігамі І.І.Насовіча – «Слоўнікам беларускай мовы» (СПб., 1870) і «Зборнікам беларускіх прыказак» (СПб., 1874). Праўда, паводле ахопу апісанага моўнага матэрыялу працы Насовіча значна ўступаюць далеўскім, але тут ёсць свае прычыны.

Беларуская мова ў тыя часы афіцыйнымі ўладамі не прызнавалася як самастойная, і Насовіч у адпаведнасці з устаноўкамі Расійскай Акадэміі навук уключаў у свой «Слоўнік...» далёка не ўсё, што было ў жывым народным маўленні беларусаў, а толькі тое, што не супадала з засведчанымі ў даведніках фактамі рускай мовы.

Другая праца Насовіча – «Зборнік беларускіх прыказак», – як і першая, была выдадзена Расійскай Акадэміяй навук. Аўтар сціпла назваў сваю працу зборнікам прыказак, а між тым гэта быў першы ў гісторыі ўсходнеславянскага мовазнаўства тлумачальны слоўнік прыказак. Е.Р.Раманаў справядліва ахарактарызаваў гэты слоўнік як «працу, пакуль што адзіную ў сваім родзе». Яшчэ да выхаду зборніка ў свет, азнаёміўшыся з рукапісам, Рускае геаграфічнае таварыства прысудзіла І.Насовічу залаты медаль і выбрала яго членам-супрацоўнікам Таварыства.

Дарэчы, і іншыя буйныя даследаванні вучонага, якія не страцілі сваёй вартасці па сённяшні дзень, былі высока ацэнены Аддзяленнем рускай мовы і славеснасці Акадэміі навук: за «Слоўнік беларускай мовы» І.Насовіч атрымаў Дзямідаўскую прэмію, за «Алфавітны паказальнік старых беларускіх слоў...» – Увараўскую.

Навукова-даследчай дзейнасцю Насовіч пачаў займацца ў 1848 г., маючы за плячыма вялікі жыццёвы вопыт, дасканала вывучыўшы багацце не толькі роднай яму Мсціслаўшчыны, але і Віленшчыны, Міншчыны, Аршаншчыны, дзе шмат гадоў настаўнічаў. Выйшаўшы ў 1844 г. у адстаўку, Насовіч пачаў папаўняць матэрыялы для слоўніка беларускай мовы. «Для паспяховага выканання гэтай справы, – пісаў сын вучонага В.І.Насовіч, – бацька мой не шкадаваў ніякіх выдаткаў, ездзіў у розныя беларускія мясціны, якія яго цікавілі. Жывучы з маленства сярод сельскага люду, добра ведаў як мову беларусаў, так і мноства іх песень, прыказак, прымавак і інш. Ён ведаў і шанаваў іх звычаі». І Насовіч заўсёды меў пры сабе сшытак, «куды неадкладна занатоўваў кожнае новае для яго слова, што траплялася яму ў гутарцы з простым чалавекам, кожную цікавую песню, прыказку».

Збіранню, асэнсаванню і вытлумачэнню прыказак І.Насовіч аддаў больш за дваццаць гадоў жыцця. Публікацыя гэтых матэрыялаў мае сваю гісторыю. Першая тысяча прыказак была надрукавана ў 1852 г. Затым, як зазначае сам даследчык, ён, збіраючы матэрыялы для «Слоўніка...», «адкрыў непараўнана большую колькасць прыказак, якія існуюць у гаворках беларускіх жыхароў, асабліва сялян... Беларусы ўсе факты, усе выпадковасці чалавечага жыцця, усе ўчынкі, як добрыя, так і дрэнныя, і ўсякае нават меркаванне пра што-небудзь падводзяць пад мерку прыказак сваіх... Паміж простых людзей ёсць шмат такіх здольных, якія на ўсякую падзею, на ўсякі выпадак, вясёлы, спрэчны, сумны, – адразу ж і дарэчы выдаюць прыказку, нібы яны знарок вывучалі іх, як тыя, хто, аваладваючы лацінскай мовай, завучвае на памяць дыстыхі Катонавы». У новы

зборнік (1867) увайшлі і раней апублікаваныя прыказкі, і новыя (больш за дзве тысячы). Апошняе выданне зборніка (1874) змяшчае 3715 прыказак. Да зборніка прыкладаецца тлумачальны слоўнік асобных слоў (каля дзвюх тысяч).

Выключнае значэнне гэтага зборніка найперш у тым, што амаль усе змешчаныя ў ім прыказкі растлумачаны. Не паясняюцца толькі тыя, якія ўжываюцца ў іх літаральным значэнні, напрыклад: *Брат брату панявалі прыяцель.* Сэнсавая, а часта і сітуацыйная характарыстыка, якая даецца прыказкам, амаль ва ўсіх выпадках прымальная і сёння. Напрыклад, пасля прыказкі *Маладое піва ўходзіцца* ідзе: «Говорят насчет шалостей, или вспыльчивости, или самой ревности к чему-либо молодого человека». Часамі да сітуацыйнай характарыстыкі далучаецца і стылістычная. Экспрэсіўна-ацэначная афарбоўка пазначаецца словамі: *з насмешкай, жартаўліва, насмешліва, у пахвалу, у папрок, з незадаволенасцю, з жальбай, з радасцю* і інш.

Прыказкі-сінонімы або прыказкі-варыянты суправаджаюцца адсылкамі: *тое самае, што; глядзі; параўнай.* Напрыклад: «Усе бабры дабры, адна выдра ліха яе бяры. *Адпавядае прыказцы*: Усе людзі як людзі, адзін чорт у калпаку».

Шкада толькі, што гэта каштоўная і патрэбная кніга ні ў савецкі час, ні ў апошнія 15 гадоў так і не перавыдавалася, хоць пра неабходнасць перавыдання неаднойчы гаварылася ў друку. Пісаў і гаварыў пра гэта і я, але звычайна адказвалі, што перавыдаваць яе нельга, бо ў ёй ёсць ідэалагічна непрымальны матэрыял, асабліва рэлігійны, часта ўжываецца «жыд» і іншае. Я спрабаваў пярэчыць: у зборніку У.І.Даля «Пословицы русского народа» ёсць і «жид», і цэлыя тэматычныя групы тыпу «Бог – вера», «Вера – грэх» (па 200 і болей прыказак у групе), аднак зборнік выдавалі чатыры разы (нядаўна выйшла яшчэ адно выданне). На пярэчанні, не задумваючыся, адказвалі: дык гэта ж, маўляў, Даль!..

У 1974 г. спаўнялася стагоддзе з дня выхаду ў свет «Зборніка...» І.Насовіча. У гэтай сувязі я прапанаваў часопісу «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» артыкул «Класічная праца айчыннай філалогіі». У адным месцы машынапіснага варыянта артыкула я назваў І.Насовіча «беларускім Далем», але ў рэдакцыі прапанавалі апусціць гэта, бо «ўсё ж Насовіч і Даль – не супастаўляльныя велічыні»...

Нічуць не прымяншаючы бясспрэчнай велічы далеўскага зборніка, хацелася б толькі спыніцца на некаторых не зусім дакладных сцвярджэннях, якія, як штосьці стэрэатыпнае, вандруюць з адной кнігі ў другую пры ацэнцы гэтай працы У.І.Даля.

Сцісла ахарактарызаваная вышэй праца І.Насовіча, як ужо гаварылася, не столькі зборнік прыказак, колькі парэміяграфічны тлумачальны слоўнік, у якім пададзеныя ў алфавітным парадку прыказкі апісваюцца ў семантычным і стылістычным плане. Далеўскія ж «Пословицы русского народа», упершыню апублікаваныя ў 1862 г., – гэта сапраўды зборнік прыказак. Яны тут аб'яднаныя ў 192 тэматычныя групы тыпу «Хорошо – худо», «Радость – горе», «Казна», «Царь», «Закон», «Пьянство». Толькі ў вельмі рэдкіх выпадках каля асобных прыказак даюцца паметы сэнсавага ці сітуацыйнага характару, напрыклад: «В нашем жите хорош росток (о женихе)»; або пазначаецца месца, дзе бытуе прыказка: *говорится в Сибири; новгородск.; солдатск.; матросск.*

Адзінадушна сцвярджаецца, што ў зборніку У.Даля больш як 30 тысяч прыказак. Але чамусьці не ўлічваюць, што гэта тоўстая кніга (амаль тысяча старонак) мае падзагаловак: «Сборник пословиц, поговорок, речений, присловий, чистоговорок, прибауток, загадок, поверий и проч.» Уся гэта збор-дружына сапраўды складае, па маіх падліках, амаль 32 тысячы адзінак. У.Даль у прадмове да зборніка, названай «Напутное», дае азначэнні ўсім гэтым жанрам вуснай народнай творчасці.

У тэматычных групах зборніка побач з прыказкамі змешчана каля 5 тысяч прымавак (поговорок): *не ровен час, как серпом по шее, чем черт не шутит, поминай как звали…* Сёння ў навуцы такія выразы маюць іншую назву – фразеалагізмы і падаюцца не ў зборніках прыказак, а ў фразеалагічных слоўніках. Даль у адных выпадках прыводзіць прымаўкі (фразеалагізмы) у іх сапраўднай форме, так, як і ў сучасных слоўніках (*мороз по коже пробежал, мурашки по телу бегают, знай наших*), часам з паказам іх абавязковай лексічна-граматычнай сувязі са словамі (*подсыпать кому перцу, согнуть кого в дугу*), а ў другіх выпадках змяшчае ў кантэксце, у акружэнні слоў, у кароткіх урыўках-сказах: *Он в рубашке родился; Он тебя в ложке утопит; Он из тебя веревки вьёт.*

У зборнику шмат загадак. Яны падаюцца як у асобных рубрыках, так і ў канцы той ці іншай тэматычнай групы; напрыклад: на с. 51–53, 107, 940 ( у выданні 1957 г.).

Ёсць у зборніку нямала няпрыказкавага і нефразеалагічнага матэрыялу, напрыклад, такія спалучэнні: *кругом виноват, есть маленько, развернись на все, подкузьмить кого.* Часам даюцца дыялогі з некалькіх рэплік, да прыкладу: « – Батька! Лезет черт в хату. – Не замай, лишь бы не москаль». Ля гэтай нібыта прыказкі ёсць паказчык, што яна запісана ў «Малороссии». Як пазначана ў

падзагалоўку зборніка, у ім маюць месца і «речения», «присловия», «чистоговорки», «прибаутки» ды іншыя маўленчыя з'явы, якія прыказкамі ніяк не назавеш.

Адказаць на пытанне, колькі ж тут прыказак (з пэўным, адзіным разуменнем гэтага тэрміна), вельмі цяжка. Бо, апрача сказанага вышэй, тут, па-першае, надта многія прыказкі пададзены не ў адной тэматычнай групе, а паўтараюцца ў некалькіх групах. Так, на розных старонках зборніка тройчы паўтараюцца, напрыклад, такія прыказкі: *Не все коту масленица; Нашла коса на камень; Бог дал, Бог и взял; Бог даст день, даст и пищу; На воре шапка горит; Гром не грянет – мужик не перекрестится.*

Па-другое, шмат якія прыказкі, уключаныя ў зборнік, наўрад ці былі і ў тыя ранейшыя часы агульнанароднымі, іх ужыванне было, відаць, абмежавана невялікім рэгёнам ці нават адной вёскай або некалькімі моўнікамі. Пра гэта можа сведчыць наступны факт. З.Т.Тарланаў у манаграфіі пра сінтаксіс рускіх прыказак піша аб «вялізнай ступені распаўсюджанасці бязззлучнікавых структур у мове прыказак» і ў якасці ілюстрацый прыводзіць 16 прыказак. Усе яны ўзятыя са зборніка У.Даля. Аднак ніводная з іх не трапіла ў сучасны «Слоўнік рускіх прыказак і прымавак» (2003) У.П.Жукава, дзе апісаны «найбольш часта ўжывальныя ў рускім маўленні і зафіксаваныя ў пісьмовых літаратурных крыніцах прыказкі».

Па адукацыі У.І.Даль не лінгвіст ці фалькларыст, а ваенны марак і ўрач (закончыў спярша марскі корпус, пасля медыцынскае аддзяленне універсітэта). Пачаўшы з 18-гадовага ўзросту, на працягу 35 гадоў Даль, як пасля пісаў, «не прапускаў дня, каб не запісаць выказ, слова, зварот на папаўненне сваіх запасаў». У памянёнай прадмове да зборніка Даль гаворыць і пра крыніцы, якімі ён карыстаўся. Прыкладна «пятая доля майго зборніка», – піша Даль, – узята з раней апублікаваных зборнікаў Княжэвіча і Снегірова. Астатнія – з прыватных запісак і сабраныя «по наслуху, в устной беседе», ад «доброхотных дателей, помощников и пособников». Пра тое, што гэта за «доброхотные датели», нічога не сказана. Але штонішто пра іх можна знайсці ў рускага пісьменніка Д.В.Грыгаровіча, які доўгі час быў знаёмы з Далем. У поўным зборы твораў (т. 12, 1896, с. 285) пісьменнік прыгадвае перыяд, калі Даль шмат гадоў да 1849 года быў дырэктарам канцылярыі ў міністра ўнутраных спраў Расіі Пяроўскага: Даль на бланках грознага міністэрства, «карыстаючыся сваім становішчам, рассылаў цыркуляры ўсім службовым асобам унутры Расіі, даручаючы ім збіраць і дастаўляць яму мясцовыя рысы звычаяў, песні, прыказкі і інш.».

Можна меркаваць, што ў зборнік У.Даля, дзякуючы «доброхотным дателям», трапілі дасланыя службовымі асобамі з беларускіх губерняў, напрыклад, такія прыказкі і прымаўкі (фразеалагізмы), якія ў іншых рускіх зборніках не фіксуюцца, але ёсць у нашых сучасных і ранейшых даведніках: 1) Богатый дивится, что бедному не живится (*бел.*: Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца; 2) За мое жито, да меня же бито (*бел.*: За маё жыта дый мяне пабіта); 3) От напасти не пропасти (*бел.*: Ад напасці не прапасці); 4) Душа кривая все примает (*бел.*: Мая душа не крывая, усё прымае). Прымаўкі (фразеалагізмы): 1) Косится, как середа на пятницу (*бел.*: крывіцца, скрывіцца, касіцца *як серада на пятніцу*); 2) А что мне до ланского снега? (*бел.*: патрэбны *як лонскі снег).*

Як бы там ні было, але сабраць аднаму чалавеку такую вялікую колькасць прыказак і сумежнага з імі матэрыялу – несумненны навуковы подзвіг Уладзіміра Іванавіча Даля.

Хай жа чытач не падумае, што кожны цыган сваю кабылу хваліць. Аддадзім належнае і Насовічу, і Далю. Як гаворыцца, паважай чужое, але і свайму ганьбы не давай.

## НЕДАКЛАДНЫЯ СЦВЯРДЖЭННІ

Змешчаны ў «Родным слове» (2005. № 10. С. 30–32) артыкул Наталлі Жоравай «Загляне сонца і ў наша ваконца» выклікае мноства пярэчанняў. У ім гаворка ідзе пра прыказкі і сэнсавы змест асобных прыказкавых кампанентаў.

Як вядома, прыказкі, калі іх разглядаць з семантычнага боку ці паводле пераасэнсаванасці іх састаўных частак, падзяляюцца на тры групы. У п е р ш у ю групу ўваходзяць прыказкі алегарычнага характару, г.зн. у іх гаворыцца пра адно, а маецца на ўвазе зусім іншае. Так, у прыказцы *Груган заугану вока не выдзеўбе* зусім не пра гругана і невыдзёўбванне вока ідзе размова; сэнс прыказкі – ‘людзі, звязаныя якімі-небудзь агульнымі, звычайна карыслівымі, інтарэсамі, дзейнічаюць заадно і не здрадзяць, не зробяць кепскага адзін аднаму’. Д р у г а я група аб’ядноўвае прыказкі, у якіх няма поўнага пераасэнсавання кампанентаў. Частка слоў тут захоўвае сваё літаральнае значэнне; да прыкладу, слова *вучыць* у прыказцы *Яйцо курыцу вучыць* (яна абазначае ‘малады, нявопытны вучыць старэйшага, вопытнага’). Ёсць і т р э ц я я група прыказак. Яны наогул ужываюцца толькі ў прамым значэнні. Агульны сэнс кожнай такой прыказкі вынікае з прамых значэнняў яе слоў-кампанентаў: *Вучыцца ніколі не позна; Брат любіць сястру багатую, а мужык жонку здаровую.*

Каб правільна вызначыць, да якой групы належыць пэўная прыказка, трэба ведаць, ш т о яна абазначае і ў якой сітуацыі ўжываецца. У адваротным выпадку атрымліваецца тое, што бачым у шматлікіх зборніках прыказак, у тым ліку ў акадэмічным зводзе «Прыказкі і прымаўкі ў дзвюх кнігах» (1976). Тут прыказкі згрупаваныя ў раздзелы «па асноўных сферах жыцця і быту народа». Але ў гэтых раздзелах ёсць вельмі многа прыказак, звязаных з назвай раздзела толькі этымалагічна або выпадкова, праз знешнія прыметы. Так, у раздзеле «Сельская гаспадарка» ёсць мноства прыказак, якія замацаваліся ў маўленні толькі ў пераносным значэнні і да сельскай гаспадаркі ніякіх адносін не маюць, напрыклад: *І баран бы касіў, каб хто касу насіў; Цераз сілу і конь не цягне; На лечаным кані далёка не заедзеш; Кабыла здыхае, а траву хапае.* Або ў раздзеле «Прырода, яе стыхія і з'явы»: *З вялікага грому малы дождж бывае*; у раздзеле «Харчаванне»: *На бязрыб'і і рак рыба.* Пададзеная ў раздзеле «Жывёльны свет» прыказка *Ваўка ногі кормяць* дастасоўваецца не да ваўка, а толькі да людзей і абазначае 'каб пракарміцца, трэба шукаць харчы, а не сядзець на адным месцы', таму ў складзе прыказкі яе кампаненты *воўк* і *ногі* страцілі свой першапачатковы сэнс, тут ужо зусім іншы *воўк* і не тыя слоўнікавыя *ногі*, як і не тыя ў прыведзеных вышэй прыказках *баран, конь, кабыла, гром, дождж, рак, рыба* і г.д.

Н.Жорава выбрала з гэтага зводу і іншых парэмійных зборнікаў прыказкі, у складзе якіх ёсць так званыя касмаганізмы *(сонца, месяц, зара, зорка, неба)*, і падзяліла іх не на тры, а на чатыры групы. У першую групу ўключаны прыказкі, якія «сёння ўжо не ўжываюцца ў прамым, літаральным значэнні»: *Свяціў бы мне свяцёл месяц, а звёзды і колам правяду; Каму месяц свеціць, таму зоры ўсміхаюцца* і г.д. Выходзіць, што раней яны ўжываліся «ў прамым, літаральным значэнні». Але якое ж прамое значэнне ў другіх частках гэтых прыказак: *звёзды і колам правяду, зоры ўсміхаюцца?!* Або ў такой прыказцы з ліку прыведзеных: *Ужо ты з пяткамі да неба пойдзеш.* Толькі адна з сямі пададзеных прыказак-прыкладаў тлумачыцца (са спасылкай на І.Насовіча), сэнсавы змест астатніх для сённяшняга чытача застаўся абсалютна незразумелы.

У другую групу, паводле Н.Жоравай, уваходзяць «прыказкі, што маюць літаральны і іншасказальны план, прычым у якасці прыказак, як правіла, выступае выраз у пераносным значэнні». Прыводзіцца 7 ілюстрацыйных прыкладаў-прыказак. Сярод іх і *Загляне сонца і ў наша ваконца*, якая, як вядома, гаворыцца ў цяжкі час з надзеяй, што няўдачы мінуцца, і абазначае 'даб'ёмся і мы свайго, збудуцца і нашы надзеі'. І наўрад ці хто ўжывае гэту прыказку

ў «літаральным плане». А пададзеную ў гэтай жа групе прыказку *Дождж намачыў, а сонейка высушыць* наўрад ці хто выкарыстоўвае ў «іншасказальным плане». Да таго ж вылучаныя аўтаркай першая і другая групы, па сутнасці, адно і тое ж. Падобная блытаніна і «нестыкоўка» назіраецца і пры апісванні іншых груп. Дарэчы, характарызуючы 4-ю групу прыказак, у якіх частка кампанентаў «захоўвае літаральнае значэнне», Н.Жорава стварае ўражанне, быццам аналагічнага погляду на класіфікацыю прыказак прытрымліваюцца і іншыя аўтары. Яна цытуе: «Такія нетрансфармаваныя элементы, – пішуць І.Лепешаў і М.Якалцэвіч, – захоўваюцца пры тлумачэнні зместу выслоўя». Ёсць і спасылка на наш «Слоўнік беларускіх прыказак» (1996, с. 6–7). Але такое цытаванне інакш не назавеш, як нядобрасумленным, бо ў згаданым «Слоўніку...» ні на с. 6–7, ні на іншых няма і ўпамінання пра «нетрансфармаваныя элементы» ці «змест выслоўя».

У многіх мясцінах артыкула нярэдка цытуюцца ўжо іншыя аўтары. Напрыклад, чытаем: «Больш за тое, нельга не пагадзіцца з А.Аксамітавым у тым, што прыказкі, як і фразеалагізмы, – «гэта такія вобразныя матываваныя адзінкі мовы, у значэнні якіх важным з'яўляецца не столькі дэнататыўны аспект, колькі рознага тыпу канатацыі, напластаванні, вобразы, эмоцыі і імпліцытныя ацэнкі». Калі б Н.Жорава больш удумліва і з пачуццём адказнасці ставілася і да сваіх сцвярджэнняў, і да некаторых чужых друкаваных выказванняў, то яна ў дачыненні да пададзенай цытаты мусіла б пісаць не «нельга не пагадзіцца» а «ніяк нельга пагадзіцца». Справа ў тым, што далёка не ўсе прыказкі вобразныя, а фразеалагізмы – часцей за ўсё бязвобразныя. Тое самае і наконт матываванасці. Матываванымі называюцца такія адзінкі мовы, матыў узнікнення якіх зразумелы сучаснаму носьбіту мовы. Напрыклад, *дуб* (дрэва) – нематываваная назва, а *дубовы* ('зроблены з дубу') – матываваная; *па галоўцы гладзіць* ('патураць каму-небудзь, хвалячы і адабраючы яго') – матываваны фразеалагізм, а *сабаку з'еў* (на чым) – нематываваны. І ў прыказках тое самае: *Ад лёсу не ўцячэш; Не жолаб да каня, а конь да жолаба ідзе* – матываваныя прыказкі, а *Кароль жа голы; І на сонцы плямы ёсць; Чырвонае – белае ўсё перадзелае* – нематываваныя.

Некалькі слоў пра вобразнасць прыказак. У мастацтве слова *вобраз* абазначае канкрэтна-пачуццёвую форму ўяўлення, адлюстравання рэчаіснасці. Вобразнасць слушна атаясамліваецца з пераноснасцю, метафарычнасцю, фігуральнасцю. Пры метафарычным пераасэнсаванні пэўнае абстрактнае суджэнне, увасобленае ў прыказцы, перадаецца праз канкрэтныя вобразы, праз нагляднае ўяўленне пра каго- ці што-небудзь. Скажам, прыказка *Бяздонную бочку не напоў-*

*ніш*, што значыць ‘ніяк немагчыма накарміць, напаіць, задаволіць каго-небудзь’, сфармавалася на базе адпаведнага свабодна арганізаванага сказа. Вобразнасць характэрна ў найбольшай ступені для прыказак з жывой унутранай формай. Нагадаем, што ўнутранай формай называюць вобраз, пакладзены ў аснову наймення прыказкавай адзінкі, або вобразнае ўяўленне, якое спадарожнічае парэмійнаму значэнню. Вобразнасць у дачыненні да прыказак – гэта сумешчанае бачанне дзвюх карцін. Так, пры ўжыванні прыказкі *Кашы маслам не сапсуеш*, якая абазначае ‘неабходнае, карыснае ніколі не зашкодзіць’, зыходны вобраз надзённа-харчовага паходжання, пакладзены ў аснову прыказкі, хоць і знаходзіцца як бы ў цені свядомасці, але не можа не прасвечвацца праз парэмійнае значэнне. Зазначым, што сярод трох груп, названых на пачатку гэтага артыкула, усе прыказкі 1-й групы – вобразныя. Прыказкі 2-й групы таксама трэба лічыць вобразнымі, ці, лепш сказаць, часткова вобразнымі, бо ў іх няма скразнога пераасэнсавання: *Ад бяды кіем не адаб’ешся; Дармовы сыр бывае толькі ў мышалоўцы.* Усе прыказкі 3-й групы – бязвобразныя.

Н.Жорава не робіць розніцы паміж прыказкамі ў сэнсе іх вобразнасці і агулам характарызуе іх як «лаканічныя па форме, але вобразныя і выразныя па змесце».

Маўленчая практыка замацавала за кожнай прыказкай ўстойлівы, сталы, нязменны сэнсавы змест і традыцыйнае ўжыванне ў розных, але падобных сітуацыях або ў строга акрэсленай сітуацыі. А Н.Жорава піша пра «семантычную няпэўнасць прыказкі», нейкі яе «прагматычна-рэгуляцыйны характар» і пра тое, што прыказка «ў розных сітуацыйных кантэкстах, у розныя гістарычныя перыяды і, верагодна, у розных мясцовасцях можа трактавацца па-свойму». Робіцца спроба падмацаваць гэта надуманае сцвярджэнне прыкладам *Сем вёрст да нябёс і ўсё лесам.* Прыклад запазычаны з памянёнага акадэмічнага зводу, дзе ён, аказваецца, змешчаны ў раздзеле «Транспартныя сродкі і шляхі зносін у дарозе», а паясняецца агульнай для некалькіх выказаў заўвагай: «Пра значэнне і стан дарог, пра даўнейшы дарожны быт». Чытаючы гэта, так і хочацца ўсклікнуць: «Ну і ну! Знарок не прыдумаеш!» А вось у адным рускім слоўніку Н. Жорава знайшла зусім іншае тлумачэнне – ужо прыслоўямі ‘шматслоўна і незразумела (пра доўгае, няяснае і заблытанае маўленне)’.

Калі б даследчыца звярнулася яшчэ і да іншых крыніц, дык пераканалася б, што *сем вёрст да нябёс і ўсё лесам* – гэта ніякая не прыказка, а самы звычайны акалічнасна-прыслоўны фразеалагізм, які ўжываецца пры дзеясловах закончанага трывання *нагаварыць, наплесці* і пад. і абазначае ‘вельмі многа і абы-чаго’, напрыклад:

*Маслянка магла па-бабску наплесці сем вёрст да нябёс і ўсё лесам, а вы тут, у сваёй міліцыі, ад няма чаго рабіць вушы і развесілі, замест таго, каб талкова разабрацца!* (А.Карпюк). З аналагічным прыслоўным значэннем выраз фіксуецца ў «Фразеалагічным слоўніку рускай мовы» (М., 1967, с. 60), «Слоўніку фразеалагічных сінонімаў рускай мовы» У.Жукава, М.Сідарэнкі, У.Шклярава (М., 1987, с. 343). У беларускай літаратурнай мове гэты фразеалагізм сінанімізуецца з такімі прыслоўнымі выразамі, як *бочку арыштантаў, мех з торбай, мех і кайстру, сем карабоў.*

Як бачым, каб аб'ектыўна сцвярджаць што-небудзь пра тую ці іншую прыказку або фразеалагізм, трэба найперш выразна разумець іх сэнсавы змест. А правільна раскрыць сэнс прыказкі, даць ёй дакладную сітуацыйную і стылістычную характарыстыку – далёка не лёгкая справа. Зрабіць гэта можна толькі пры апоры на апраўдальны ілюстрацыйны матэрыял. Найбольш істотнай і аўтарытэтнай крыніцай у гэтых адносінах з'яўляецца мастацкая літаратура, бо мастакі слова валодаюць і тонкім стылістычным чуццём, і дакладным разуменнем сутнасці той ці іншай моўнай адзінкі, у тым ліку і прыказкі. Выключнае значэнне мастацкай і публіцыстычнай літаратуры як надзейнай крыніцы для тлумачэння прыказак, як важнага, а часам асноўнага сродку іх апісання неаднойчы адзначалася рознымі даследчыкамі. Прычым арыентавацца трэба не на адзінкавае ўжыванне прыказкі ў тым ці іншым мастацкім тэксце, а на суму аднародных ужыванняў у многіх творах.

Артыкул Н.Жоравай мае такі падзагаловак: «Асаблівасці інтэрпрэтацыі касмаганічнай лексікі ў мове беларускіх прыказак». Робіцца выснова, што словы ў пераважнай большасці прыказак «успрымаюцца не ў прамым, а ў пераасэнсаваным (ці часткова пераасэнсаваным), пераносным значэнні». Але ж слова не можа быць «часткова пераасэнсаваным», яно або пераасэнсаванае, або непераасэнсаванае. Прамога і адназначнага адказу, як жа трэба інтэрпрэтаваць (растлумачваць, вытлумачваць) прыказкавыя словы-кампаненты, у артыкуле Н.Жоравай так і не знойдзеш. Тут ёсць толькі шматлікія, шматслоўныя і не надта зразумелыя разважанні пра «сэнсава-эмацыйныя прырашчэнні слова ў прыказцы», пра іх «слаістасць у сэнсе інфармацыі», а таксама такія, напрыклад, парады, не зусім адшліфаваныя з гледзішча культуры маўлення: «Даследчыку неабходна добра валодаць парэміялагічным фондам, які можа быць апісаны, што абумоўлівае немагчымасць адэкватна даследаваць фальклор іншых народаў, пазбягаючы штучна выведзеных, ірэальных значэнняў і страты рэальных тлумачэнняў».

А між тым, калі гаварыць пра інтэрпрэтацыю прыказкавых слоў-кампанентаў, варта мець на ўвазе наступнае.

Алегарычныя, пераносныя прыказкі (1-я семантычная група) утвараюцца не на лексічнай, а на сінтаксічнай аснове, г.зн. у выніку пераасэнсавання не кожнага слова паасобку, а ўсяго выказвання-сказа ў цэлым. Аб’ект пераасэнсавання (скажам, *Яблык ад яблыні недалёка падае*) як бы выварочваецца навыварат цалкам і адначасова, а не асобнымі сваімі словамі. *Яблык* і *яблыня* ў іх свабодным ужыванні, як засведчана ў тлумачальных слоўніках, наогул адназначныя назоўнікі, а *падаць* і *недалёка* маюць па некалькі слоўнікавых значэнняў. Адпаведныя ж словы-кампаненты ўнутры прыказкі *Яблык ад яблыні недалёка падае* дэактулізаваліся, як бы растварыліся ў агульным сэнсе прыказкі (‘свае недахопы ці станоўчыя рысы дзеці пераймаюць ад бацькоў’) і не маюць нічога агульнага з прамымі ці пераноснымі значэннямі гэтых слоў. Такім чынам, кампаненты алегарычных прыказак толькі знешне, сваёй гукавой абалонкай падобныя на адпаведныя словы. У семантычных жа адносінах яны страцілі свае асноўныя якасці: асобнае лексічнае значэнне, лексіка-семантычную самастойнасць, прадметную аднесенасць. Таму сэнс такіх прыказак заўсёды перадаецца зусім іншымі словамі, не такімі, якія ёсць у складзе прыказкі. Напрыклад: *Цягаў воўк, пацягнулі і воўка* – ‘прыйшоў час адплаты каму-небудзь за прычыненае зло’. Алегарычныя прыказкі сінтаксічна непадзельныя.

У прыказках 2-й семантычнай групы (напрыклад, *Мая хата з краю, нічога не знаю*) адны кампаненты *(хата з краю)*, як і ў прыказках 1-й групы, страцілі сваё асобнае лексічнае значэнне і, значыць, асноўныя прыметы слова, а другія ўспрымаюцца як звычайныя словы са сваімі слоўнікавымі значэннямі. Што да сінтаксічнага разбору такіх прыказак, то яны таксама сінтаксічна непадзельныя, хоць у іх не адбылося скразнога і адначасовага пераасэнсавання ўсіх слоў. Так, у прыказцы *Яйцо курыцу вучыць* дзеяслоўны кампанент захаваў сваё прамое значэнне, але і ў ёй *яйцо* (хоць і стаіць у форме назоўнага склону) не з’яўляецца прадметам нашай думкі і, значыць, дзейнікам.

Прыказкі 3-й групы (скажам, *Зяць любіць узяць*) сінтаксічна падзельныя. У іх кожнае паўназначнае слова выступае ў ролі пэўнага члена сказа і кожны кампанент рэалізуе сваё слоўнікавае значэнне.

## ПРЫКАЗКА І ЯЕ ВАРЫЯНТЫ

Калі па-руску хочуць сказаць, што далёка не ўсё залежыць ад жадання чалавека і не заўсёды бывае так, як хто-небудзь мяркуе, хоча, разлічвае, то звычайна выказваюць гэта прыказкай *Человек предполагает, а Бог располагает.* Яна скалькавана, хутчэй за ўсё, з лацінскай мовы**:** *Homo proponit, sed Deus disponit.* А магчыма, і з нямецкай *(Dez Mensch denkt, Gott lenkt)* ці англійскай *(Man pzoposes, Cod disposes).*

Як бачым, ва ўсіх гэтых мовах прыказка мае аднолькавую структуру, складаецца з дзвюх рыфмаваных частак.

А як перадаць гэту афарыстычную думку па-беларуску? Перакладны акадэмічны «Руска-беларускі слоўнік» (1953), відаць, з-за слова «Бог» у прыказцы не ўключыў яе ў адпаведнае месца слоўнікавых артыкулаў, дзе за знакам ромба даюцца рускія фразеалагізмы і прыказкі і іх беларускія адпаведнікі. Гэтак жа засталося і ва ўсіх перавыданнях слоўніка**,** хоць, як значыцца**,** яны «дапоўненыя і перапрацаваныя».

А між тым у жывой народнай мове беларусаў здаўна існавалі свае афарызмы, якімі перадавалася тое самае закончанае суджэнне, праверанае вопытам многіх пакаленняў, што і ў лацінскай, нямецкай, англійскай, рускай і некаторых іншых мовах. Гэтыя прыказкі-афарызмы занатаваны збіральнікамі беларускага фальклору. Напрыклад, у І.Насовіча знаходзім: *Чалавек так, а Бог інак.* Я.Ляцкі запісаў у Мінскай губерні аж тры прыказкі: *Чалавек прымярае, а Бог адразае; Чалавек памяркуе, а Бог пашванкуе*; *Чалавек думае так, а Бог іначай.* Ёсць два запісы і ў М.Федароўскага: *Чалавек так, а Бог сяк; Чалавек думае так, а выйдзе зусім інакш.*

На жаль, у беларускай мастацкай літаратуры і ў публіцыстыцы ніводная з гэтых прыказак не знайшла пашырэння і пісьмовай фіксацыі ў якім-небудзь творы. Але затое жывуць іншыя варыянты, нічуць не горшыя па сваёй сэнсавай сутнасці і мастацкіх якасцях за тыя, што запісалі фалькларысты і што ёсць у іншых еўрапейскіх мовах. Вось яны:

1.*Чалавек мяркуе, а Бог не чуе.* «Сябра сустрэў мяне на вакзале нейкі незадаволены. – Не шанцуе, ліха на яго!... Нездарма кажуць, чалавек мяркуе, а Бог не чуе» (У.Краўчанка).

2.*Чалавек плануе, а Бог выракуе.* «Людзі могуць планаваць на дзесяцігоддзі і стагоддзі сваё жыццё, а з’яўленне адной невядомай каметы лёгка можа парушыць гэтыя планы. Як кажуць, чалавек плануе, а Бог выракуе» (М.Тычына).

3. *Чалавек марыць, а Бог уладарыць.* « – Вось ажаню свайго Міколку, пабудуем новую хату і буду пры маладых няньчыць унукаў», – марыла немаладая, спрацаваная жанчына. Але, як кажуць, чалавек марыць, а бог уладарыць» (С.Сяргей).

4. *Чалавек мяркуе, а Бог распараджаецца.* «Ці ж гэта справядліва? Не, лепш не паглыбляцца, не разважаць. Нездарма кажуць, што чалавек мяркуе, а Бог распараджаецца. Што будзе, тое і будзе. А цяпер трэба думаць пра надзённае» (В. Кадзетава).

5. *Чалавек мяркуе, а Бог размяркуе.* «І каб хто сказаў тады Марцінкевічам, што акурат праз месяц яны будуць набываць нейкі там маёнтак за Радавам, ніхто б з іх не паверыў. Ды... чалавек мяркуе, а Бог размяркуе» (Я.Янушкевіч).

Звернем увагу: амаль ва ўсіх прыкладах аўтары, ужываючы прыказку, не лічаць сябе яе стваральнікамі, а спасылаюцца на чутае ў народзе («нездарма кажуць», «як ка-жуць»). Відаць, гэта сапраўды народныя варыянты адной прыказкі. А магчыма, ёсць і іншыя. Бо народная мудрасць – невычарпальная.

## ПРА АДНУ ПРЫКАЗКУ І ЯШЧЭ СЁЕ-ТОЕ

«Наша слова» (2001, № 22) змясціла артыкул М.Булавацкага «Моўны кансіліюм з Іванам Лепешавым». Аўтар мімаходзь паведамляе, што ён настаўнік матэматыкі. Цяпер гэта ўжо не навіна, калі за моўныя пытанні бяруцца не толькі лінгвісты, журналісты, пісьменнікі, але і людзі іншых, негуманітарных прафесій. Хоць матэматыка, як усе ведаюць, самая дакладная навука, аднак аўтар-матэматык паказаў сябе не зусім дакладным у галіне філалогіі. Вось адзін абзац з артыкула:

«Яшчэ адну папулярную памылку робіць спадар Лепешаў у прыказцы «На табе, божа, што нам нягожа». Ні ў аднаго народа (і ў беларускага таксама) няма такой зневажальнай для Бога прыказкі. Браткі-ўкраінцы, да прыкладу, кажуць так: «На тобі, небоже, що мені негоже». Нябога – бядак, небарака. А пры Саветах з гэтай прыказкі, адкінуўшы дзве літары, зрабілі атэістычную прапаганду, якую спадар Лепешаў гатовы ўжо лічыць нормай».

Тут шэраг недарэчнасцяў. Па-першае, яшчэ Саветамі і не пахла, калі гэту прыказку ўжывалі менавіта з кампанентам «божа». У 1881 г. у форме *На табе, божа, што нам нягожа* яе запісаў В.Дыбоўскі у Навагрудскім павеце. Крыху пазней яна была зафіксавана М.Федароўскім у Ваўкавыскім павеце. А ў 1898 г. яна, у ліку іншых 2022 прыказак, запісаных у Барысаўскім уездзе Мінскай

губерні, была змешчана ў «Матэрыялах...» Я.Ляцкага. З кампанентам «божа» яна апублікавана ў 1862 г. у славутым зборніку У.Даля «Прыказкі рускага народа». У гэткай жа форме прыказку ўжывалі 130 гадоў таму, напрыклад, Л.Талстой і М.Ляскоў.

Па-другое, ва ўсіх украінскіх парэміялагічных даведніках прыказка падаецца так: *На тобі, боже, що мені негоже.* Праўда, калі-нікалі яна ўжывалася і ўжываецца як ва ўкраінскай, так і ў беларускай мовах з кампанентам «нябожа». Тут можна было б праілюстраваць гэта трыма ўрыўкамі (з «божа») – з твораў П.Броўкі, І.Новікава, У.Кузьмянкова і адным (з «нябожа») – з аповесці К.Каліны «Світанне». Таму ў «Слоўніку беларускіх прыказак» (Мн., 1996) яна апісваецца ў такім загаловачным афармленні: *На табе, божа (нябожа), што нам (мне) нягожа.* А слова *нябога* ў беларускай мове, як і ва ўкраінскай, мае не адно, а тры значэнні: 1) пляменніца, 2) зварот да маладшага па гадах, 3) бядак, сірата. Цяжка сказаць, якое з гэтых значэнняў мелася на ўвазе ў, магчыма, першапачатковым варыянце прыказкі. Але наўрад ці трэцяе. Хутчэй, другое.

Па-трэцяе, няма ў гэтай прыказцы ніякай «атэістычнай прапаганды». Няма таксама і «зневажальных» адносін да Бога. Зрэшты, у народнай мове спакон веку бытуе нямала прыказак і выразаў іншага кшталту, у якіх кампанент «бог», калі яго апрадмечваць, вяртаць яму зыходны сэнс, знаходзіцца, з рэлігійнага гледзішча, у не зусім сумяшчальным суседстве (пачуўшы іх, праваслаўны святар, бадай, скажа: «Не богохульствуй!»): «Дзякуй богу за бога, што бог даў бога»; «Бог не цяля, бачыць круцяля»; «І бог ашуканствам жыве: у аднаго адбярэ, другому дасць»; «у бога цяля ўкраў», «браць бога за бараду», «(страляць) богу ў вокны», «як у бога за пазухай»...

Вернемся цяпер да першага радка з цытаванага абзаца: «Яшчэ адну папулярную памылку...» Не можа памылка быць ні папулярнай, ні непапулярнай. Гэты назоўнік ніколі не кантактуе з прыметнікам «папулярны». Тут чарговая недарэчнасць. Гэтак жа няправільна, памылкова ўжыванне *«моўны кансіліюм з...». Кансіліум* ні ў сваім звычайным значэнні («нарада некалькіх урачоў»), ні ў нібыта пераносным, выкарыстаным у загалоўку згаданага артыкула, аніяк не можа спалучацца з творным склонам назоўніка.

М.Булавацкі знайшоў у маёй кніжцы сказ, дзе гаворыцца, што Надзею Грэк абралі «старшынёй Вярхоўнага Савета». І пачынае мяне павучаць: маўляў, трэба пісаць не *старшынёй,* а *старшынём,* як і *пераможцам, мужчынам, цялём.* Тут ужо ўсё роўна як у тым лермантаўскім «Барадзіне»: «Смешались в кучу кони, люди и залпы

тысячи орудий». Пяцікласнік і той скажа, што гэта неаднародавыя назоўнікі: *цялё* – ніякага роду, *мужчына* – мужчынскага, а *пераможца* – агульнага роду. У творным склоне будзе: *жанчынай-пераможцай, мужчынам-пераможцам.* Ёсць агульнапрынятае правіла, замацаванае шматгадовай маўленчай практыкай, паводле якога назоўнікі мужчынскага роду з націскным канчаткам *-а (-я)* маюць у творным склоне пры мяккай аснове канчатак *-ёй (-ёю),* а пры цвёрдай – *-ой (-ою): старшынёй, суддзёй, тамадой, старшыной (роты), Крапівой, слугой.* Але выходзіць, што гэта правіла – не для ўсіх. Здаецца, дзіўна было б, каб які філолаг пачаў даказваць, што двойчы два – не чатыры, а пяць. Або што $(а+в)^2$ не $а^2 + 2ав+в^2$, а нешта іншае.

Яшчэ ў 1998 г. М.Булавацкі пісаў у «Нашым слове» (9.09.1998 г.) пра неабходнасць асобных знакаў-літар для абазначэння на пісьме злітных гукаў «дз» і «дж». Цяпер ён у «Моўным кансіліюме...» паведамляе, што з яго ўдзелам рыхтуецца часопіс для беларускіх настаўнікаў матэматыкі, у якім замест «дз» будзе выкарыстоўвацца знак *«z»,* а замест «дж» – знак *«d».* Тут ужо, як гаворыцца, вольнаму воля. Але падумаем: а ці на карысць гэта беларускай мове і яе графіцы?

Аўтар піша, што гэта не ягоная ідэя, што, «напрыклад, У.Дубоўка выдаваў з такімі літарамі сваё «Узвышша». Але гэта няпраўда. Ніколі ў Дубоўкі не было «свайго «Узвышша». І ніколі ён нічога не выдаваў «з такімі літарамі». Ён толькі апублікаваў у часопісе «Узвышша» (1928. № 4) артыкул «Праект літар для гукаў *дз* і *дж*».
Як вядома, у графіцы існуе агульнапрынятая сусветная практыка. Паводле яе, кожная літара алфавіта як асобны знак для абазначэння на пісьме пэўнага тыповага гука (фанемы) мае свой, толькі яму ўласцівы малюнак (абрыс), непадобны ні да адной іншай літары. Ідэальным мог бы лічыцца алфавіт, калі б у ім для кожнай фанемы была свая літара. Але такіх алфавітаў няма (яны былі б занадта шматлітарныя). У нашай графіцы, як і ў некаторых іншых, многія літары маюць два асноўныя значэнні (на-прыклад, літары *б, в* у словах *быць – біць, воз – вёз).* Няма у беларускай графіцы асобных знакаў-літар для фанем *«дж»* і *«дз».* Яны абазначаюцца на пісьме спалучэннем дзвюх літар, кожная з якіх ужо заняла ў алфавіце сваю нішу. Такія спалучэнні літар называюцца дыграфамі. І яны нармальна выконваюць сваю функцыю. Аналагічнае можна бачыць у шмат якіх іншамоўных алфавітах. Напрыклад, і ва ўкраінскай мове гукі *«дж»* і *«дз»* перадаюцца на пісьме дыграфамі: *бджола, дзвін.* Тое самае і ў польскай мове, дзе алфавіт складаецца з 33 літар, а па-за алфавітам ёсць яшчэ аж 7 дыграфаў, у тым ліку *dz, dż* для абазначэння

афрыкатаў *дз, дж.* Дыграфы ці паліграфы характэрныя і для англійскай, нямецкай, французскай моў. І ўсё гэта не маё, як лічыць М.Булавіцкі, «уласнае неаргументаванае меркаванне», а агульнавядомая ісціна. Яе, як і табліцу мно-жання, ніхто не аспрэчвае. Б.Тарашкевіч пісаў у 1929 г., што для кожнага з гукаў *дз, дж* ужываюцца па дзве літары, але «вымаўляюцца *дз* і *дж* як адзін гук». Амаль тое самае адзначаў і Я.Лёсік у 1926 г.: «Для абазначэння гукаў *дз* і *дж* пішацца па дзве літары, але чытаюцца яны не паасобку, а разам, злітна: *дзень, дзед».*

М.Булавацкі ў «Моўным кансіліюме...» не толькі спрабуе аспрэчыць мае вы-казванні, але і закранае іншыя пытанні. Піша, што яму шмат разоў «даводзілася выступаць у ролі словатворцы. Напрыклад, сучасныя слоўнікі перакладаюць расейскае *парус* як *ветразь,* а *парусник* чамусьці як *парусік...* У маіх пісаннях гэтае слова падаецца як *ветразень...* Буду настойліва карыстацца «сваім» словам у спадзяванні, што яно некалі стане нормай».

Апошнім часам досыць модна – выдумляць новыя словы. Пра словатворчы сверб пісаў і Н.Гілевіч:

Яшчэ і слоў арыгінальных
Хоць колькі мушу я ўтварыць, –
Цяпер жа вельмі непахвальна
Даступнай мовай гаварыць!
Каб з тымі докамі зраўняцца
1 заслужыць іх пахвалу –
Хоць раз мне трэба пастарацца
Надзець штаны праз галаву!

*Парус* не «расейскае слова». Яно прыйшло да нас з Грэцыі. Як паказана ў тлумачальных слоўніках, яно мае не адно, а чатыры значэнні. І толькі ў першым, зыходным значэнні яно сэнсава супадае са словам *ветразь.* Сэнсава, але не стылістычна. Таму ва ўсіх нашых акадэмічных слоўніках *ветраз»* мае памету «паэтычнае», г.зн. яго ўжыванне абмяжоўваецца толькі ўрачыста-ўзнёслай паэзіяй. Прапанаваны наватвор *ветразень* (як заменнік слова *парусік)* нелагічны, нічым не апраўданы. Да таго ж *парусік* мае тры значэнні: «парусны карабель», «той, хто шые парусы» і «той, хто займаецца парусным спортам».

Уявім сабе такую карціну. Дапусцім, замест *парус* (хоць бы ў яго першым, не батанічным і не архітэктурным значэнні) сталі б ужываць *ветразь* не толькі ў паэзіі, а ва ўсіх стылях мовы. Тады трэба было б прывесці ў сістэму ўсё лексічнае гняздо. А ў ім аж 8 слоў:

*парус, парусіна, парусінавы, парусна-вяслярны, парусна-маторны, парус-насць, парусік, парусны.*

Гэтыя і шмат якія іншыя наватарскія памкненні «палепшыць» мову толькі дыскрэдытуюць яе ды спараджаюць насмешкі з боку шматлікіх яе непрыхільнікаў. А між тым М.Булавацкі заканчвае свой артыкул заклікам: «Давайце займацца мовай. Яна даўно таго чакае». Пад «займацца мовай» разумеецца: «ачысціць яе, адмыць, упрыгожыць, вярнуць уласцівую ёй мілагучнасць і напеўнасць».

Не! Нельга гэтак кідацца словамі. Асабліва сёння, калі наша мова, па сутнасці, *«изъята из обращения»* (як сказаў В.Быкаў у інтэрв'ю маскоўскай «Общей газете»), калі над намі навісае рэальная пагроза страціць дзяржаўную незалежнасць, калі рашаецца лёс самой нацыі. Не бачыць гэтага можа толькі сляпы... Пішу гэтыя радкі часткова пад уражаннем змешчанага ў «Настаўніцкай газеце» (16.06.2001) «Звароту да грамадзянаў Рэспублікі Беларусь». Гэты зварот (на рускай мове) падпісалі 29 кіраўнікоў партый і грамадскіх аб'яднанняў (камуністычнай партыі на чале з Чыкіным, Беларускага патрыятычнага саюза моладзі, саюза афіцэраў, аб'яднання «Русь», ветэранаў, казацтва і пад.). Гэтыя кіраўнікі заклікаюць усіх грамадзянаў Беларусі «включиться в широкое народное движение в поддержку действующего Президента», пералічваюць «дасягненні» за апошнія сем гадоў, сярод іх і такое: *«белорусский и* русский языки стали равноправными государственными языками». Палохаюць: калі «нацыянал-радыкалы» і «иные силы, пользующиеся поддержкой извне» захопяць уладу, то яны «лишат нас государственного двуязычия», «сделают всё, чтобы оторвать Беларусь от России» і г.д.

Дык ці ж можна сёння, страчваючы адчуванне часу і прасторы, лічыць актуальным заклік: «Давайце займацца мовай» (у сэнсе «ачышчаць, адмываць» яе)? Займацца мовай трэба ў тым кірунку, на які арыентуе статут ТБМ імя Ф.Скарыны: «аднаўленне ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як да нацыянальнай святыні».

## НЯМА ТАГО, ШТО РАНЬШ БЫЛО

Радок, пастаўлены ў загаловак гэтых нататкаў, апошнім часам ператварыўся ў прыказку, а належыць ён Максіму Багдановічу, паходзіць з ягонага верша «1зноў пабачыў я сялібы», напісанага ў 1913 годзе. Ёсць у ім і такая страфа:

Я ў сад пайшоў. Ўсё глуха, дзіка,
Усё травою зарасло.

Няма таго, што раньш было,
І толькі надпіс «Вераніка»,
На ліпе ўрэзаны ў кары,
Казаў вачам аб той пары.

Верш, пакладзены на музыку (кампазітар І.Лучанок), стаў песняй, яе нярэдка чуюць па радыё і тэлебачанні. Згаданы радок набыў асаблівую крылатасць, выйшаў за межы твора, дзе пачынаў сваё жыццё, стаў вядомым для значнай часткі моўнікаў і шырока ўжываецца без спасылкі на яго аўтара як у вусным маўленні, так і ў друкаваных тэкстах. І гэта ўжо неаспрэчны доказ, што крылаты выраз стаў звычайнай прыказкай. Яна ўжываецца ў самых разнастайных маўленчых сітуацыях, калі трэба сцвердзіць адсутнасць, непаўторнасць, а то і немагчымасць былога, таго, што было некалі. За апошнія гады я зрабіў больш за 10 запісаў з ужываннем гэтага афарызма ў пісьмовых літаратурных крыніцах.

Вось толькі некаторыя прыклады (асобныя з намёкам на першакрыніцу): 1) У Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі знаходзіцца 9,7 працэнта моладзі, у Беларускім патрыятычным саюзе моладзі – 5,6 працэнта, у Беларускім саюзе моладзі – 1 працэнт. Словам, няма таго, што раньш было... (ЛіМ. 1.01.2001); 2) Раней мы грошы клалі ў кашалёк, а ўсю правізію – ў мяшок. Паэт, тваё прароцтва ажыло: «Няма таго, што раньш было» (Ю.Свірка); 3) Масква ўжо колькі гадоў не самы-самы горад па чытанні кніг. Няма таго, што раньш было (В.Дубінка); 4) Творцы, у тым ліку і пісьменнікі, і іхні саюз – збяднелі. Няма таго, што раньш было, як спяваецца ў вядомай песні (ЛіМ. 30.11.2001); 5) Пілі літровую гарэлку... Потым яшчэ нейкую, радзівілаўскага розліву. Даволі пякотную, тандэнтную. Няма таго, што раньш было, як сказаў паэт (С.Астравец); 6) Зараз, як тое ні скрушна сцвярджаць, няма таго багацця паэтычных кніг, хоць выдавецтваў стала болей у некалькі разоў... Няма таго, што раньш было. Чаму? На гэтае пытанне кожны адказвае па-свойму (В.Яраш); 7) Паказаць мужу (лісток са словамі: «Кахаю. Чакаю. Сумую»)? Ці пазнае ён сваё колішняе «пісьмо»? Не. Не хочацца бачыць скептычныя ўсмешкі або, горш таго, пачуць нешта, на яго думку, сціплае, накшталт: «Няма таго, што раньш было» (В.Кадзетава).

Часам афарызм ужываюць у крыху змененым выглядзе: 1) «Маліўся зранку дзед. Ледзь не разбіў чало. – Дай божа на абед «таго, што раньш было» (У.Ермалаеў); 2) –Ведаю, фору дасце маладым, калі часам прыглядная кабета з'явіцца. – Сёння была з'явілася адна... Ці, праўдзівей, я да яе. – І што? – Ой, цяжка прыйшлося. Саўсім не то, як пісаў знакаміты паэт, што раньш было (В.Адамчык).

Галоўнай крыніцай папаўнення фразеалагічнага і парэмійнага (прыказкавага) фонду беларускай літаратурнай мовы, якi, нягледзячы на сённяшнія неспрыяльныя ўмовы, працягвае развівацца, з'яўляецца жывая народная мова. Папаўняецца ён і індывідуальна-аўтарскімі наватворамі. Як пісаў А.І.Яфімаў, «на долю только немногих пісьменнікаў выпала шчасце ўзбагаціць фразеалогію роднай мовы ўдалымі афарызмамі – гэтымі неўміручымі помнікамі таленту, дасціпнасці і натхнення». Як у рускай фразеалогіі і парэміялогіі бясспрэчнае першынство ў гэтых адносінах належыць І.А.Крылову і А.С.Грыбаедаву, так у беларускай – Кандрату Крапіве. Каля 80 яго наватвораў утрымліваюць у сабе прыкметы фразеалагізмаў або прыказак.

Некаторыя яго выразы трывала увайшлі ў беларускую фразеалагічную скарбонку, фіксуюцца ў тлумачальных даведніках як агульнамоўныя: *свінтус грандыёзус, жаба ў каляіне, ні бэ ні мя, выдраць лысаму валоссе, акуляры наставіць, ездзіць па левым баку.* У «Слоўніку беларускіх прыказак» (2002) апісваюцца дзве крапівоўскія прыказкі: *Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала* (рэалізуецца ў маўленні са значэннем «справядлівую справу не перамагчы; праўду не схаваеш»); *Як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч* (абазначае «па манеры паводзін, па звычках, знешнасці адразу відаць, што гэта за чалавск»). Ужыванне гэтых прыказак ілюструецца адпаведнымі цытатамі, напрыклад: «Сёння ваша права, але наша праўда. І гэтую праўду вам не задушыць. Бо, як гаворыцца, каб сонца засланіць, вушэй асліных мала» (Я.Міско). Рэзервам літаратурнай мовы, патэнцыяльнымі крапівоўскімі прыказкамі можна лічыць і такія: «Другі баран – ні бэ ні мя, а любіць гучнае імя», «Лес не сякуць языкамі», «Ворану вышай арла не лятаць», «Варонаю не будзь, то і сарока не падвядзе», «Малому веліччу быць хочацца заўсёды», «Да славы прагныя, ды вузкія ў плячах».

З твораў Якуба Коласа ўвайшлі ў парэмійны склад літаратурнай мовы тры прыказкі: *Назад не прыйдзе хваля тая, што з быстрай рэчкай уплывае* (абазначае «нельга вярнуць ці паўтарыць тое, што прайшло, што было ў мінулым»); *Забілі зайца не забілі, а гуку многа нарабілі* (яе сэнс «хоць вынікі і нязначныя, але водгалас ад якіх-небудзь дзеянняў вялікі»; *Мой родны кут, як ты мне мілы* (гаворыцца пра замілаванне да роднага краю, да мясцін, дзе нарадзіўся хто-небудзь, да ўсёй Беларусі). Вось па адным прыкладзе на іх ужыванне: 1) Зразумела, механічна паўтараць малюнак вобраза і яго трактоўку сапраўдны артыст, мастак ніколі не згодзіцца. Жыццё ёсць жыццё. Назад не прыйдзе хваля тая, што з быстрай рэчкай уплывае (Б.Бур'ян); 2) – Як ваша ўражанне? Словам, раскажыце, якія вынікі ад

выбуху? – Вынік, – усміхнуўся Зазыба і пачухаў патыліцу, яўна спрабуючы гэтакім чынам зменшыць уражанне ад свае усмешкі. – Ведаеце, ёсць такая людская прымаўка: забілі зайца не забілі, а шуму многа нарабілі (І.Чыгрынаў); 3) Сяргей паставіў чамадан, радасна аглядае пакой: – Мой родны кут, як ты мне мілы... Праўду кажуць, у гасцях добра, а дома лепей (В.Зуб).

Вытокам прыказкі *Дум не скуеш ланцугамі* стала паэма Янкі Купалы «Курган». Ужываецца са значэннем «мысленне, думкі не могуць быць падуладнымі каму-небудзь»: «Дум не скуеш ланцугамі, – Купалавы словы, што былі ці не заўсёднымі ў вуснах Ф.Ждановіча ў спрэчках па надзённых пытаннях тэатральнай творчасці» (Б.Бур'ян).

Што да агульнанародных прыказак (а гэта афарыстычныя выказванні, праверaныя вопытам многіх пакаленняў), то яны шырока выкарыстоўваюцца і ў вусным маўленні, і ў мастацкіх ды публіцыстычных творах. Так, у трылогіі Я.Коласа «На ростанях» ужыта 109 прыказак, у п'есах Я.Купалы «Паўлінка « і «Раскіданае гняздо» іх адпаведна 18 і 21, у раманах «Сокі цаліны» Ц.Гартнага – 29, «Людзі на балоце» І.Мележа – 26, «Птушкі і гнёзды» Я.Брыля – 32, «Плач перапёлкі» І.Чыгрынава – 30, у аповесці С. 'Грахоўскага «Рудабельская рэспубліка» – 24.

Прыказкі гэтак жа, як і словы ці фразеалагізмы, адрозніваюцца адны ад другіх па часе ўзнікнення, па месцы, дзе ўпершыню склаліся, па шляхах, якімі трапілі ў нашу літаратурную мову. Я. Ф. Карскі пісаў: «Да многіх вывадаў, выкладзеных у прыказках, людзі прыйшлі ўжо даўным-даўно, можа, у эпоху індаеўрапейскага адзінства, затым – агульнаславянскага жыцця і ў прарускую эпоху..; асноўныя палажэнні многіх прыказак маглі быць запазычаны адным народам у другога шляхам розных зносін, але многія прыказкі з'явіліся і ў дадзенага народа».

Тое, што шмат якія прыказкі жывуць ужо многія стагоддзі, а можа, і тысяча-годдзі, нікім не аспрэчваецца. Пісьмовых жа пацвярджэнняў з даўнейшага жыцця якой-небудзь прыказкі амаль што няма. Рэдкім выключэннем з'яўляюцца «Лісты Філона С.Кміты-Чарнабыльскага» (1573–1574) – службовая перапіска аршанскага старасты з членамі каралеўскай рады Вялікага Княства Літоўскага. Тут ёсць такія прыказкі (адны з іх у сучасных парэміялагічных зборніках ужо не фіксуюцца, другія ўжываюцца ў абноўленай форме): *Голодному смерть на уме; Коли топили – топор давали, а выплывши ни топорища; Як доробило лихо, прорежутся и зубы; Мы от ворот, а он дирою вон; Богатому так, а убогому сяк; Просто як овца: где их больш берет волк, там оне за ним идут; И каши не хочу, и по воду не иду;*

*Ожогшыся на молоце, велено на воду дуть; Люди на пашы переели кашу, а я з голоду здох на сторожы.*

Звяртаючы ўвагу на прыказкі, ужытыя ў гэтых «Лістах...», Я.Ф.Карскі ў адным з сямі выпускаў сваёй капітальнай працы «Беларусы» пісаў у 1916 годзе, што «ў XVI ст. да прыказак зварочваліся асобы вышэйшай інтэлігенцыі, а не толькі просты народ, як цяпер». Гэтае супастаўленне «як цяпер» вымушае сказаць, што вельмі многія сучасныя аўтары, асабліва маладзейшага пакалення, пазбягаюць ужывання прыказак у сваіх творах. Так, у часопісе «Полымя» (2004, № 7) змешчаны аповесць, апавяданні, п'еса і іншыя творы, а прыказак тут усяго тры: дзве ў апавяданні У.Дамашэвіча (*Пасмяяўся кацёл з гаршка; Маслам кашы не сапсуеш*) і адна (*Сарока на хвасце прынесла*) у сямейнай хроніцы І.Дуброўскага. У «Полымі» (2004, № 10) – толькі адна прыказка – у аповесці А.Бароўскага «Вужык». У часопісе «Маладосць» (2004, № 9) – толькі дзве прыказкі, абедзве ў апавяданні Л.Левановіча.

Тут ужо так і просіцца на язык Багдановічаў радок-прыказка: «Няма таго, што раньш было».

## З ЖЫЦЦЯ ПРЫКАЗАК

У 1960 годзе Ф.Янкоўскі апублікаваў невялікую кнігу «Крылатыя словы і афарызмы». Сюды ўключаны 220 рознаструктурных адзінак, узятых з беларускіх літаратурных крыніц. Ёсць тут урыўкі, якія складаюцца з двух сказаў: «Будзь смелы, як вецер, як воля сама! Знай, смелых не чэпе ні крыўда, ні цьма! «(Я.Купала). Пераважаюць выказванні ў форме складаных ці простых сказаў. Многія з пададзеных літаратурных цытат маюць структуру словазлучэнняў: *Пан сахі і касы* (Я.Купала). У якасці крылатых адзначаны і асобныя словы: *Гарлахвацкі, Туляга.* Ужыванне ў літаратурнай мове ўключаных у зборнік выразаў і слоў толькі ў вельмі рэдкіх выпадках пацвярджаецца адзінкавай цытатай-ілюстрацыяй.

Вядомы тагачасны даследчык фразеалагізмаў і прыказак прафесар Л.І.Райзензон, увогуле станоўча ацэньваючы працу Ф.Янкоўскага як першую спробу стварыць беларускі зборнік крылатых выразаў, разам з тым адзначыў як яго істотны недахоп адсутнасць у кнізе «добрага ілюстрацыйнага матэрыялу, у якім выкарыстоўваецца дадзены зварот». Гэта хутчэй патэнцыяльныя, чым сапраўдныя крылатыя выразы. Ды і сам складальнік зборніка пісаў, што адбор пэўных выказванняў з літаратурных крыніц «непазбежна носіць у нейкай меры суб'ектыўны характар».

На якой падставе той ці іншы выраз можна прызнаваць крылатым? Думаецца, толькі пры ўмове, калі ён набыў крылатасць – выйшаў за межы таго твора, дзе пачынаў сваё жыццё, стаў вядомым для значнай часткі моўнікаў і ўжываецца ў маўленні без спасылкі на яго аўтара. Выраз можна лічыць крылатым, калі ёсць пацвярджэнні яго ўжывання ў літаратуры. Няма пацвярджэння – няма падстаў гаварыць пра крылатасць.

У артыкуле «Няма таго, што раньш было» ўжо даводзілася гаварыць, што ў нашай мове ёсць параўнальна нязначная колькасць фразеалагізмаў і прыказак, якія этымалагічна з'яўляюцца крылатымі выразамі з твораў асобных беларускіх пісьменнікаў. Прыводзіліся праілюстраваныя адпаведным чынам прыказкі (былыя крылатыя выразы) з твораў Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, К.Крапівы. Пададзім яшчэ дзве такія прыказкі.

**Зерне падае не на камень.** Так называецца аповесць І. Пташнікава, апублікаваная ў 1959 г. Сама назва аповесці ўтрымлівае ў сабе алегарычнасць, што садзейнічала ператварэнню яе ў прыказку. Сёння яна актыўна ўжываецца ў маўленні, абазначаючы «павінны быць належныя вынікі пасля чыёй-небудзь парады, размовы, настаўлення, агітацыі і інш.».

Праўда, яе дзеяслоўны кампанент выкарыстоўваецца, як у першапачатковым выглядзе, так і ў форме закончанага трывання *(упала)*, а таксама з лексічнай варыянтнасцю *(кінута).* Вось прыклады рэалізацыі гэтага былога крылатага выразу ў сучасным літаратурным маўленні: 1) Сахута зірнуў на гадзіннік. Але на гэты раз ён не спяшаўся «закругліць» абмеркаванне. А можа, будзе нейкая карысць з гэтай размовы, бо зерне падае не на камень (Л.Левановіч); 2) У страсным маналогу «кулака» Скуратовіча, акрамя недаверу да ўсіх на свеце, нямала горкай праўды пра жорсткасць жыцця, пра блізкі апакаліпсіс, калі дзеці, «трэцяе пакаленне», будуць бадзяцца беспрытульнымі па ваенных дарогах. Міхалка чуе гэтую яго правату: зерне падае не на камень (М.Тычына); 3) Адамовіч сказаў, што такая дакументальная кніга павінна быць, і такую кнігу можа зрабіць толькі жанчына. «Баба бабе раскажа тое, што ніколі не раскажа мужыку...» Святлана Алексіевіч тады працавала ў «Нёмане». Зерне ўпала не на камень (А.Кудравец); 4) Зерне было кінута не на камень – яно ўзышло, дало плады. Адным з тых, хто гэтую ідэю (мець сваю самастойную дзяржаву) падтрымаў і панёс далей, быў удзельнік паўстання 1863 года Ф.Багушэвіч (Б.Сачанка). 5) Тое, што зрабілі нашы вялікія папярэднікі ў сакавіку 1918-га, не было дарэмна: зерні ўпалі не на камень і далі ўсходы (Н.Гілевіч).

**Кіраваць то ты кіруй, ды не вельмі тузай.** Гэта два радкі з сатырычнага верша К.Крапівы «Едзе крытык малады» (1932), дзе гаворыцца, як верхаводзілі ў літаратуры пралетарскія пісьменнікі ды крытыкі-вульгарызатары і як нарэшце «не сцярпеў пакутнік: – Крытык! Родненькі! Даруй мне з маёю музай! Кіраваць то ты кіруй, ды не вельмі тузай». Цяпер гэта прыказка ўжываецца з незадавальненнем у дачыненні да тых кіраўнікоў, якія занадта любяць указваць, накіроўваць чыю-небудзь дзейнасць, распараджацца кім-небудзь, напрыклад: «Партыйная дысцыпліна, нібы жалезная аброць, прымушала трымацца баразны, па якой вялі вышэйшыя лідэры, што сядзелі ў Крамлі і трымалі лейцы. Каб жа толькі трымалі! Дык жа бязлітасна тузалі! І не раз узгадваў Андрэй крылатыя, мудрыя словы: «Кіраваць то ты кіруй, ды не вельмі тузай!» (Л.Левановіч). Адчуваецца гэта прыказка і ў наступным урыўку з п’есы А.Петрашкевіча «Дагарала свечачка»: «Нам і настаўнік гаварыў, што ў нас, маўляў, не цар кіруе, а палітбюро. А бабы ў адзін голас: хіба ж мы супраць таго бюро?! Па нас няхай бы сабе там хоць хто быў, абы па-людску кіраваў ды не вельмі тузаў. І каб дзетак нашых не забівалі ў далёкіх чужых землях за той доўг, якога мы ні ў каго не пазычалі...»

Прыказкамі становяцца і былыя крылатыя выразы з іншых моў. Так, **Бадалася цялё з дубам** – паўкалька з рускай мовы. Паходзіць ад назвы вялікай кнігі нарысаў А.Салжаніцына «Бодался теленок с дубом», напісанай у 1970-я гады і апублікаванай спачатку за мяжой, а праз 20 гадоў у Маскве. Гэтай прыказкай характарызуюць далёка не раўнасільную, але не бескарысную і не безвыніковую барацьбу адважных адзіночак з савецкім таталітарызмам. Напрыклад, артыкул А.Вярцінскага называецца «Як цялё бадалася з дубам», дзе расказваецца на аснове архіўных матэрыялаў ЦК КПБ, пра «Ліст 53-х» у абарону Васіля Быкава і прыводзяцца іншыя матэрыялы пра «культуру і ўладу, творчую інтэлігенцыю і палітыку».

Ёсць шэраг прыказак, што паходзяць з крылатых выразаў, аўтарамі якіх былі не пісьменнікі, а філосафы, грамадскія дзеячы і г.д. Напрыклад, **Пераможцаў не судзяць** – паўкалька з рускай мовы *(Победителей не судят).* Прыпісваецца імператрыцы Ка-цярыне ІІ, якая нібыта гэтак сказала пра Суворава, калі той самавольна павёў войскі на штурм Туртукая і авалодаў горадам. Прыказка гаворыцца ў абарону таго, хто хоць і заслугоўвае крытыкі ці іншага пакарання, але яму можна гэта прабачыць з-за ягоных ранейшых значных поспехаў, перамог у чым-небудзь: «Акапян чакаць не мог. Зямля прагрэлася, падсохла. Самы час араць. Загадаў забраць усе плугі для калгасаў

свайго раёна. Так і зрабілі: пакуль у вобласці будуць чухацца, яны адсеюцца. А пераможцаў не судзяць» (Л.Левановіч).

Шырока выкарыстоўваецца прыказка **Грошы не пахнуць**. Яна гаворыцца з неадабрэннем і абазначае «для каго-небудзь не мае значэння, якім шляхам атрыманы, здабыты грошы»: «Гэтыя за зарплату падстаўляць лоб пад кулю не надта адважацца, дый няма ніякіх гарантый, што некага з іх рэкет не купіць. Грошы, як ты кажаш, не пахнуць» (І.Канановіч).

Гэта прыказка – калька з лацінскай мовы: *Pecunia non olet.* Паходзіць са слоў рымскага імператара Веспасіяна (І ст. н.э.), які ўвёў падатак на грамадскія прыбіральні, а калі сын папракнуў бацьку за гэта, той паднёс да яго носа першыя грошы, сабраныя як падатак, і прапанаваў яму панюхаць, пытаючы, ці пахнуць яны.

Цікавую гісторыю мае прыказка **У нагах праўды няма.** Яе ўжываюць як запрашэнне сесці: «– Сядайце з намі, у нагах праўды няма, – весела гаворыць Юліус» (С. Законнікаў). Яна паводле паходжання паўкалька з рускай мовы: *В ногах правды нет.* У старажытныя часы выраз абазначаў «біццём па нагах наўрад ці дабʼешся праўды» і ўзнік, як мяркуе С.Максімаў, у сувязі з суровай судовай практыкай: падазронага ў чымсьці падвешвалі і білі па нагах тоўстымі прутамі, дапытваючыся праўды. Калі такія прыёмы следства зніклі, а значыць, і выраз *У нагах праўды няма* страціў апору на адпаведныя рэаліі, то яго форма запоўнілася новым зместам. Цяпер (і даўно ўжо) прыказка ўжываецца толькі як запрашэнне сесці.

## КОЛЬКІ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ У МОВЕ?

Пісьменнікі, фальклярысты, лінгвісты слушна называюць фразеалагізмы самародкамі, самацветамі роднай мовы, залацінкамі народнай мудрасці. Як і словы, фразеалагізмы абазначаюць пэўныя паняцці, але адрозніваюцца ад слоў найперш тым, што ў абсалютнай большасці выступаюць як трапныя, выразныя сродкі выказвання думак і пачуццяў, ажыўляюць маўленне, робяць яго сакавітым і эмацыянальным, ёмістым і сціслым. Таму імі шырока карыстаюцца ў звычайных гутаркова-бытавых зносінах і ў літаратурна-гутарковым маўленні. У мастацкай літаратуры яны адыгрываюць істотную ролю ў стварэнні вобразаў і стылістычных эфектаў. Вось прыклад з мовы персанажа ў аповесці Я.Брыля «Апошняя сустрэча»: «Я не *ківаю на Пятра*, я толькі гавару, што і мы *не ў бога цялятка ўкралі*». А гэта — з аўтарскай мовы ў рамане «Пушча» В.Карамазава: «Каму-каму, а

Валошку маніць — *не дай бог. На чыстую ваду ўсё роўна выведзе. Не сёння, дык заўтра*».

Даволі часта фразеалагізмы ўжываюцца ў публіцыстыцы, а таксама ў навукова-папулярных і, радзей, у навуковых тэкстах: 1) Радуе, што слоўнік *ідзе ў нагу* з жыццём: у ім мы бачым шмат шырокаўжывальных на сённяшні дзень слоў («Полымя»); 2) Набытая сума ведаў аб прыродзе і грамадстве ператвараецца ў сістэму перакананняў, што рэгулююць паводзіны маладога чалавека, *адкрываюць* яму *вочы* на сапраўдныя духоўныя вартасці («Настаўніцкая газета»).

Тут далей размова пойдзе не пра стылістычную ролю фразеалагізмаў, а пра іх колькасць у нашай літаратурнай мове.

У 1993 г. у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» выйшаў у свет падрыхтаваны мной двухтомны «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы». У ім пададзена 5 755 фразеалагізмаў сучаснай літаратурнай мовы. Кожны з іх атрымаў трохбаковую (семантычную, граматычную і стылістычную) характарыстыку. Неад'емным кампанентам слоўнікавага артыкула выступае ілюстрацыйны матэрыял – прыклады-цытаты, якія даюць поўнае ўяўленне пра нарматыўнае функцыянаванне фразеалагізма ў маўленні.

Як сказана ў прадмове да слоўніка, ён – першая спроба стварыць даведнік, у якім выяўлена і па магчымасці поўна апісана наша фразеалогія ў яе сучасным стане. Даецца такое азначэнне фразеалагізму: гэта ўстойлівая, узнаўляльная, не менш як двухкампанентная моўная адзінка, якая спалучаецца са словамі свабоднага ўжывання і мае цэласнае значэнне, не роўнае суме значэнняў яе кампанентаў (калі іх разглядаць на ўзроўні слоў). Кожны з выразаў, змешчаных у слоўніку, адпавядае гэтаму азначэнню.

У друку досыць часта сустракаюцца нічым не пацверджаныя звесткі пра колькасць фразеалагізмаў у сучаснай мове. Напрыклад, адзін аўтар піша, што «ў беларускай мове налічваюцца дзесяткі тысяч фразеалагізмаў»; другі сцвярджае: «фразеалагічны склад беларускай мовы – некалькі дзесяткаў тысяч адзінак». Яшчэ адзін аўтар лічыць, што беларуская фразеалогія «недастаткова распрацаваная» і што «ў самым вялікім на сённяшні дзень двухтомным «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» І.Я.Лепешава толькі 6 000 адзінак». Падаецца і супастаўленне: «Англо-русский фразеологический словарь» А.Куніна змяшчае 20 000 адзінак».

Тут усё залежыць ад таго, **што** разумець пад фразеалагізмамі. Як пісаў Ф.М.Янкоўскі, уключэнне ў фразеалогію выразаў тыпу *смех бярэ, дамашняе заданне, працоўныя поспехі, глыбей узарэш – болей збярэш* «вядзе амаль да бязмежнасці фразеалогіі». А што да англа-

рускага фразеалагічнага слоўніка, дык, па-першае, у яго ўвайшлі не толькі зрашчэнні і адзінствы, якія разам са словамі выступаюць будаўнічым матэрыялам для сказаў, але і «камунікацыйныя адзінкі – прыказкі і прымаўкі». Па-другое, не варта, напэўна, забываць і пра такі істотны фактар: у самым вялікім нашым «Слоўніку беларускай мовы» (1987) 118 тысяч слоў, а найвялікшы ў свеце лексікон – англійскі «Вялікі Оксфардскі слоўнік» – налічвае 600 тысяч слоў.

У прадмове да 1-га тома акадэмічнага «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (с. 13) гаворыцца, што фразеалагізмы «складаюцца з двух тыпаў адзінак: тэрміналагічных спалучэнняў і ўласна фразеалагізмаў» і што першыя (напрыклад, *вуглякіслы газ, лімонная кіслата*) змяшчаюцца ў канцы слоўнікавага артыкула асобным абзацам за знакам о (кружок), а другія («уласна фразеалагізмы») падаюцца таксама асобным абзацам за ромбавым знакам (◊). Тут, напрыклад, у слоўнікавы артыкул *воўчы* (с. 508) за знак ромба трапілі: *воўчы апетыт, воўчыя грыбы, воўчыя ягады, воўчая яма.* Ніводнае з гэтых словазлучэнняў ніяк нельга назваць ні проста «фразеалагізмам», ні «ўласна фразеалагізмам», бо, паводле гэтага ж слоўніка, *воўчы апетыт* – гэта «вельмі вялікі, нястрымны апетыт», *воўчыя грыбы* – «агульная назва неядомых грыбоў», *воўчыя ягады* – «чырвоныя або чорныя ягады ядавітых лясных раслін», *воўчая яма* – «глыбокая яма з прыманкай для лоўлі ваўкоў».

Звернемся яшчэ да двух даведнікаў: «Фразеалагічнага слоўніка мовы твораў Я.Коласа» (1993) і «Беларуска-польскага фразеалагічнага слоўніка» (Warszawa, 2000). У абодвух даведніках так званыя фразеалагічныя злучэнні, а таксама прыказкі і крылатыя выразы ды шмат які іншы нефразеалагічны матэрыял аказваюцца не за мяжой фразеалогіі, а ўключаюцца ў слоўнікі. Вось некалькі прыкладаў: *насупіць бровы, цялячае захапленне, бярэ злосць, у ціхай вадзе чэрці водзяцца, як бугай на прадвесні, ткаць карону залатую, двуногі звер; адклад не ідзе ў лад, жывая вага, забойная вага, абвяшчаць вайну, насценная газета, адкрытае галасаванне, ганаровая грамата, будзь гатоў!* і г.д. У другім з гэтых даведнікаў пад «апорным кампанентам» *сонца* змешчана 7 адзінак, 4 з іх – прыказкі: *Загляне сонца і ў наша аконца; Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць; Няма нічога новага пад сонцам (месяцам); І на сонцы ёсць плямы.*

У такім выпадку фразеалогію ператвараюць у звалачны пункт.

Яшчэ адзін прыклад – з рускай фразеаграфіі. Выдадзены ў 1967 г. і пасля тройчы перавыдадзены «Фразеалагічны слоўнік рускай мовы» (пад рэдакцыяй А.І.Малаткова) апісвае крыху больш за 4 000 фразеалагізмаў. А ў 1995 г. А.І.Фёдараў (адзін з чатырох складальнікаў

папярэдняга даведніка) апублікаваў у Навасібірску двухтомны «Фразеалагічны слоўнік рускай літаратурнай мовы». Тут ужо, як сказана ў анатацыі, «больш за 12 000 фразеалагічных адзінак». Аднак сюды ўключаны не толькі, як называе аўтар, «ідыёмы», але і «фразеалагічныя спалучэнні», а «таксама іншыя ўстойлівыя словазлучэнні, семантыка якіх мае патрэбу ў вытлумачэнні». Калі ў першым слоўніку не было ніводнага выразу з кампанентам *ангел*, то ў другім іх аж 8: *ангел без крылышек, ангел во плоти, ангел души моей, ангел непорочный, ангел-хранитель, падший ангел, тихий ангел пролетел*. У першым даведніку змяшчаліся пад граматычна галоўным кампанентам *дом* 4 адзінкі, у другім – іх 24, у тым ліку, напрыклад, такія: *воспитательный дом, дом свидания, инвалидный дом, картёжный дом, сиротский дом* і г.д. Цяжка знайсці што-небудзь фразеалагічнае ў гэтых словазлучэннях.

Адзін з рэцэнзентаў майго ФСБМ папракае мяне за тое, што не ўключыў у даведнік «шырокаўжывальныя ў сучаснай беларускай агульнанароднай гутарковай мове фразеалагізмы» (Наша слова. 1994. № 13). Называюцца і больш як 50 такіх «няўключаных» выразаў: *ад зубоў адскочыць, ані баліць ані свярбіць, доўбняй не заб'еш, на возе і пад возам, ні ў плот ні ў гарод, ні ў пень ні ў калоду, пень маляваны* і г.д. Але ўсе гэтыя і іншыя прыклады ўзяты рэцэнзентам з майго дыферэнцыяльнага слоўніка «З народнай фразеалогіі» (Мінск, 1991), дзе падаюцца выразы, якія не апісваліся ні ў нарматыўных слоўніках беларускай літаратурнай мовы, ні ў даведніках беларускай дыялектнай фразеалагіі і, такім чынам, належаць да фразеалагічнай нерушы. Яны не могуць быць уключаны ў фразеалагічны слоўнік **літаратурнай** мовы да таго часу, пакуль не паявяцца хоць бы адзінкавыя пацвярджэнні іх ужывання ў мастацкіх, публіцыстычных і іншых беларускіх тэкстах.

Амаль аналагічны папрок знаходзім і ў яшчэ адной рэцэнзіі на ФСБМ, змешчанай у часопісе «Полымя» (1995. № 2). Яе аўтар хацеў бы бачыць у двухтомніку «нямала цікавых сваіх, «незалежных» фразеалагізмаў, накшталт: *цераз казу руку падаваць, вясна вочы крадзе, аж нос упрысядкі ходзіць*», шкадуе, што «ў слоўнік не трапіла вельмі шмат цудоўных устойлівых выразаў жывой беларускай мовы, сабраных яшчэ М.Федароўскім, І.Насовічам, Я.Станкевічам ды іншымі слыннымі фалькларыстамі і мовазнаўцамі».

Нельга, аднак, блытаць паняцці «літаратурная мова» і «нацыянальная мова» (або «жывая народная мова»). Тлумачальныя слоўнікі фразеалагізмаў (як і слоў) літаратурнай мовы складаюцца толькі на аснове фактычнага матэрыялу, сабранага пераважна з

мастацкай і публіцыстычнай літаратуры. Менавіта на такой матэрыяльнай аснове і ствараўся ФСБМ. У ім выяўлена і, як ужо адзначалася вышэй, па магчымасці поўна апісана фразеалогія **літаратурнай** мовы на сучасным этапе яе існавання.

Зразумела, што фразеалагічны склад нашай мовы, нягледзячы на крайне неспрыяльныя ўмовы для яе функцыянавання і развіцця, увесь час папаўняецца. І я пастаянна пры чытанні беларускіх кніг, часопісаў, газет шукаю новыя выразы і час ад часу знаходжу іх. За апошнія 13 гадоў (пасля выхаду ФСБМ) такіх выразаў сабралася больш як 600. Прычым ужыванне амаль кожнага з іх у сучаснай літаратурнай мове пацвярджаецца не менш чым двума прыкладамі з твораў не аднаго, а розных аўтараў. Гэта ў пэўнай меры дае падставу лічыць, што перад намі не індывідуальна-аўтарская разгорнутая метафара, а фразеалагізм, няхай сабе іншы раз яшчэ і не агульнаўжывальны. Напрыклад: *выціраць ногі* (аб каго), *перакрываць кісларод* (каму), *вышэй вушэй* (чаго), *вадзіць казу, зайцы поле гнояць* (у каго, каму), *з пекла родам, уставаць з каленяў, шылам хлеб есці.*

Частка гэтых выразаў была апублікавана мною ў часопісе «Роднае слова», у газеце «Наша слова» (№ 10, 11 за 2006 г.). Іншыя змешчаны ў асобным даведніку, выдадзеным у Гродзенскім універсітэце.

Другіх публікацый з апісаннем фразеалагізмаў літаратурнай мовы няма ў нашай рэспубліцы. Такім чынам, усяго на сённяшні дзень іх каля 6 400.

## ШОСТАЕ ПАЧУЦЦЁ, ВОСЬМЫ ЦУД СВЕТУ...

Ёсць у нашай мове, як і ў шмат якіх іншых мовах, фразеалагізм *шостае пачуццё* – калька з французскай (*sixieme sens)* або англійскай *(sixth sense)* моў. Ён абазначае «здольнасць інтуітыўна ўспрымаць, прадбачыць, угадаваць што-небудзь». Вось некаторыя прыклады ягонага ўжывання ў маўленні: 1) Ён смутна, шостым пачуццём, як заўсёды пазнаеш знаёмае, пазнаў словы, мабыць, першага прыпеву (У.Караткевіч); 2) Я ганарыўся, радаваўся, што шостае пачуццё мяне не падвяло і што маё каханне з першага погляду мае пад сабой рэальную, урадлівую глебу (У.Міхно); 3) Сабака, дзякуючы свайму шостаму пачуццю, загадзя ведаў аб лёсе свайго гаспадара і прыбег на апошняе з ім развітанне (Ф.Аляхновіч).

Выток гэтага выразу, здаецца, зразумелы: чалавек і вышэйшыя жывёлы ўспрымаюць з'явы навакольнага асяроддзя з дапамогай пэўных органаў пяці пачуццяў – зроку, слыху, нюху, смаку, дотыку.

Выразам *шостае пачуццё* назвалі інтуіцыю – як дапаўненне да гэтых пяці пачуццяў. Першы, лічэбнікавы кампанент гэтага фразеалагізма не можа быць заменены ніякім іншым. Але супаставім надуманую, памылковую, нелагічную замену ў такіх кантэкстах: 1) «Нешта тут не так», – сёмым пачуццём Аляксандр адчуваў, што ўсё тут намнога складаней (І.Дуброўскі); 2) Пуол вышмыгнуў за дзверы. Ён нейкім дзесятым пачуццём улавіў: гэта той Яго Вялікасці Выпадак, які трэба хапаць за хвост (П.Місько); 3) Люба нейкім, як кажуць, сёмым пачуццём адчувала, што размова Ашота па тэлефоне будзе тычыцца яе (В.Праўдзін). У апошнім прыкладзе ёсць і стылеўказальная ці засцерагальная агаворка *як кажуць,* але менавіта т а к не кажуць, дакладней, не павінны казаць.

Выраз *шостае пачуццё* паводле этымалагічнай асновы свайго ўзікнення мае падабенства да выразу *восьмы цуд свету,* які прыйшоў у нашу мову і многія іншыя мовы як калька з англійскай мовы *(eighth wonder of the world)* і абазначае «штосьці дзіўнае, велічнае, незвычайнае». Два прыклады: 1) Калі і ёсць у нас нейкі варты самага шчырага здзіўлення і захаплення «кантэкст», дык менавіта наш «восьмы цуд свету», наша літаратура, якой адкрыта зайздросцілі самыя аўтарытэтныя знаўцы многіх наро-даў (Г.Шупенька); 2) І вось у беднай краіне пачынаецца будаўніцтва прызначанага здзівіць свет хрустальнага палаца, восьмага цуду свету (С.Букчын).

А склаўся гэты фразеалагізм так. У старажытныя часы лічылася, што на зямлі ёсць сем цудаў свету – грандыёзных надзвычайных збудаванняў: егіпецкія піраміды, вісячыя сады Семіраміды, храм Артэміды ў Эфесе, грабніца Маўсола ў Галікарнасе, Калос радоскі (медная статуя на востраве Родас), маяк на востраве Фарос, статуя Зеўса ў Алімпіі. У наш час выкарыстоўваюць выраз *восьмы цуд свету* для абазначэння чагосьці новага, нечаканага, надзвычайнага, як бы адштурхоўваючыся ад згаданых даўнейшых сямі цудаў (дарэчы, з магічным лікам «сем», які называюць лікам гармоніі і нябеснай дасканаласці; параўнаем: сем пірамід, сем мудрацоў, сем дзён у тыдні, сем колераў вясёлкі, сем нот, сем адтулін галавы, сем шыйных пазванкоў...).

Зразумела, што, калі б хто-небудзь замест нарматыўнага, правільнага, *восьмы цуд свету* ўжыў «дзевяты» ці «дзесяты» (цуд свету), гэта было б недарэчна, нелагічна, памылкова, як недарэчным з'яўляецца і выкарыстанне замест правільнага *шостае пачуццё* памылковага «сёмае», «восьмае», «дзесятае» (пачуццё).

Са сказанага, аднак, не вынікае, што ў фразеалагізмах нельга замяняць лічэбнікавы кампанент. Усе мы ўжываем, напрыклад, *сёмая*

*вада на кісялі* і *дзесятая вада на кісялі, да сёмага поту* і *да дзесятага поту, сёмая (дзесятая) спіца ў коле.* І гэтыя варыянты фіксуюцца слоўнікамі як нарматыўныя, цалкам прымальныя і дапушчальныя. Але такая варыянтнасць кампанентаў-лічэбнікаў пашыраецца звычайна на фразеалагізмы, у аснове якіх нерэальны вобраз, пабудаваны на тым ці іншым мастацкім прыёме: гіпербале, літоце, іроніі, алагізме і г.д. На пачатку свайго фразеалагічнага жыцця гэтыя выразы ўжываліся толькі з кампанентам *сёмы* (у розных яго склонавых формах), які першапачаткова абазначаў дастаткова вялікі лік. Пасля *сёмы* акруглілі, паралельна сталі ўжываць і *дзесяты.* Сэнс фразеалагізма ад такой замены не змяняўся, адчувалася тая самая нерэальнасць вобраза.

Што да этымалагічнай асновы фразеалагізма *на сёмым небе,* то яе толькі адносна можна лічыць нерэальнай. Выток фразеалагізма – уяўленні старажытных грэкаў, арабаў пра будову свету: купал неба нібыта складаецца з сямі крыштальных сфер; на верхнім, сёмым небе, дзе знаходзіцца Бог, – рай, царства нябеснае. На аснове гэтых уяўленняў склаўся фразеалагізм са значэннем «празмерна шчаслівы, вельмі задаволены»: 1) Яны і бацькі іх будуць на сёмым небе (Я.Колас); 2) Я быў, як кажуць, на сёмым небе (М.Хведаровіч). Ён супадае сваім значэннем, вобразнасцю, лексічным складам, граматычнай стуктурай з такімі ж адпаведнікамі ў славянскіх, а таксама англійскай, нямецкай і некаторых іншых мовах. Фразеалагізм прыйшоў ва ўсходнеславянскія мовы, відаць, як калька з французскай мовы *(au septieme ciel).*

Зыходная вобразнасць скалькаванага фразеалагізма сучаснымі носьбітамі мовы не ўсведамляецца, і гэтым можна вытлумачыць з’яўленне ў некаторых беларускіх гаворках варыянта *на дзесятым небе.* Варыянт стаў шырока выкарыстоўвацца і ў літаратуры: 1) На дзесятым небе быў, калі набіў зернем першы бункер (А.Мальдзіс); 2) Ніна была на дзесятым небе ад радасці (М.Лобан); 3) А калі ты падорыш мне дачку, а пасля і сына, дык мы на дзесятым небе будзем (І.Козел); 4) Жэня быў на дзесятым небе ад радасці (В.Праскураў). Ужыванне гэтага варыянта ў літаратурнай мове, народжанага па аналогіі з выразамі *сёмая (дзесятая) вада на кісялі, да сёмага (дзесятага) поту,* няма падставы кваліфікаваць як адхіленне ад нормы. Дарэчы, у сербскахарвацкай літаратурнай мове нормай лічыцца *на деветом небу.* У беларускіх слоўніках апошніх гадоў фразеалагізм падаецца ў форме *на сёмым (дзесятым ) небе.*

Калі цяпер вярнуцца да апісаных вышэй фразеалагізмаў *шостае пачуццё* і *восьмы цуд свету* і задумацца, а ці не можа і з імі

здарыцца такое ж, як з выразам *на сёмым небе,* дык адказ павінен быць толькі адмоўным. Яны трывала захоўваюць і надалей будуць захоўваць сваю адзіную, безварыянтную форму ва ўсіх ці амаль ва ўсіх еўрапейскіх мовах.

## ПАНТАЛЫК І ІНШАЕ

У часопісе «Крыніца» (2003. № 10. С. 89) У.Кісялёў змясціў невялікі артыкул «Таемнае слова – панталык», дзе робіцца спроба разгадаць паходжанне гэтага слова. Яно, як вядома, не мае свабоднага намінатыўнага значэння і ўжываецца толькі як кампанент у складзе фразеалагізмаў *збіваць (збіць) з панталыку* (каго) і *збівацца (збіцца) з панталыку.*

Бытуюць гэтыя выразы толькі ў беларускай, украінскай, рускай і польскай мовах. У беларускай мове абодва выразы двухзначныя. Першы *(збіваць з панталыку* каго) абазначае: 1) заблытваць каго-небудзь, выклікаць замяшанне, разгубленасць; 2) уздзейнічаючы якім-небудзь чынам, штурхаць на штосьці нядобрае; напрыклад: 1) Рудольф сваім паведамленнем пра вайну зусім збіў вас з панталыку (Ц.Гартны), 2) З старасцянкаю знюхаўся, а яна яго з панталыку збівае. Глядзі, сынок, каб ты праз яе сабакам не стаў! (К.Крапіва). Другі *(збівацца з панталыку)* мае значэнні: 1) заблытвацца, даходзіць за замяшання, разгубленасці; 2) пачынаць весці няправільны, заганны спосаб жыцця, кепска паводзіць сябе; напрыклад: 1) Я не меў на тое ўліку, трохі збіўся з панталыку (А.Астрэйка); 2) Працаднём гэтым мяне ашаламіў... А тут я шчэ ордэнам стаў спакушаць. Ці доўга з панталыку збіцца... (К.Крапіва).

Як ужо гаварылася, «таемны» назоўнікавы кампанент па-за межамі гэтых выразаў не ўжываецца. Таму трэба лічыць памылкай спробы некаторых складальнікаў тлумачальных ці перакладных слоўнікаў (І.Насовіча, М.Байкова, С.Некрашэвіча) падаваць *панталык* як асобнае слова і тлумачыць яго нібыта сінонімамі: *толк, фанабэрыя, саманадзейнасць* і інш. Параўнаем правільную фіксацыю гэтага слова ў пяцітомным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы»: «Панталык... У выразах: *збіцца з панталыку, збіць* з *панталыку».* Або ў «Українсько-російському словнику» (1964, С. 542): «Пантелик: *збивати / збити з пантелику».* Зрэдку можна сустрэць памылковае выкарыстанне гэтага слова-кампанента ў неўласцівай яму канструкцыі і ўжо па гэтай прычыне з нейкім іншым, ненарматыўным значэннем: «Я ведаю, што ты думаеш, быццам твая маці з’ехала з

панталыку... Думай што хочаш, толькі не спяшайся сказаць «не» (В.Праўдзін).

У.Кісялёў у памянёным напачатку артыкуле робіць спасылку на рускага мовазнаўца Ф.Корша (1843–1915), які «дапускаў турэцкае паходжанне гэтага слова» *(панталык),* звязваў гісторыю яго ўзнікнення з набегамі татараў праз чарнаморскія і прыкаспійскія стэпы, дзе найлепшыя шляхі гэтых набегаў пазначаліся невялікімі капцамі з камення ці дзёрну. Гэтыя капцы нібыта мелі назву *панталык* і рабіліся, каб не збіцца з дарогі.

Але з такім меркаваннем-легендай нельга згадзіцца, бо ў цюркскіх мовах (старажытных і сучасных) няма слова, блізкага гучаннем да *панталык.* У вядомым «Этымалагічным слоўніку рускай мовы» М.Фасмера (у дадатку рэдактара) слушна сказана, што меркаванне Ф.Корша «аб запазычанні з азербайджанскага *pand* 'майстэрства, хітрасць'+ *lik»* неверагоднае, недакладнае. Ніякай іншай версіі пра паходжанне гэтага слова У.Кісялёў не выказвае і толькі звяртаецца да чытачоў, каб «хто мог дапоўніць нешта новага па загадцы *панталыку».* А між тым да этымалогіі гэтага слова звярталіся многія даследчыкі. Напрыклад, у згаданым слоўніку М.Фасмера выказваецца думка, што ў слове *панталык* можна бачыць запазычанне з аўстрыйска-баварскага дыялекту – *pantl* ('каснічок, стужачка'), якое ў многіх славянскіх гаворках дало суфіксальнае ўтварэнне з тым жа значэннем: украінскае дыялектнае *пантлік,* польскае дыялектнае *pętlik, pętlika,* славацкае *pantlik,* мараўскае *pentlik.* Аднак наўрад ці магло ўступіць слова *пантлік* ці *панталык* (з яго названым значэннем 'каснічок, стужачка') у семантыка-граматычную спалучальнасць са словамі *збівацца* ці *збіць,* бо прадметна-лагічна яны аніяк не кантактуюць.

Больш прымальная думка М.Міхельсона, выказаная ў 1903 г. Ён звязвае этымалогію слова *панталык* з назвай гары ў паўднёвай Грэцыі – *Пентэлік.* У старажытныя часы гара славілася сваім мармурам, а таксама вялікай пячорай з гротам і вапнавымі нарасцямі, дзе лёгка было заблудзіць, заблытацца,

Думаецца, што фразеалагізмы *збіць з панталыку, збіцца з панталыку* склаліся ў маўленні гімназістаў, семінарыстаў. Засвоенае імі пры вывучэнні грэчаскай мовы слова *Пентэлік* атрымала сэнсавае прырашчэнне і было ўключана ў фразеалагічную формулу гатовай мадэлі *збіць з толку* (каго). А месцам, дзе гэтыя выразы пачалі сваё жыццё, варта лічыць Украіну. Тут яшчэ ў 1615 г. была заснавана Кіеўская акадэмія – вышэйшая духоўная ўстанова. У ёй выкладаліся не толькі багаслоўскія, філасофскія і іншыя навукі, але і лацінская і грэчаская мовы. Пра тое, што названыя выразы, вядомыя ў

беларускай, рускай і польскай мовах, узніклі ў Украіне, дадаткова сведчаць наступныя факты.

1. Самая ранняя фіксацыя (1794 г.) фразеалагізма *збіць з панталыку* належыць класіку ўкраінскай літаратуры І.Кацюбінскаму. У першай частцы ягонай паэмы «Энеіда» ёсць радкі, дзе Юнона просіць бога вятроў Эола: «Будь ласкав, сватоньку-старику! Избий Енея з пантелику, Тепер плыве на морі він». Выраз *збіцца з панталыку* выкарыстаны, відаць, упершыню рускім пісьменнікам А.Пагарэльскім. У яго рамане пра жыццё правінцыяльнага дваранства ў Украіне «Манастырка» (1830–1833) чытаем: – Що ты городышь, Галя! – сказала она мне. – Ты збылась с панталыку». Далей ідзе аўтарскі каментар: «Это по-здешнему, кажется, значит: ты с ума сошла». Выраз неаднаразова ўжываецца ў творах Т.Шаўчэнкі; у п'есе «Назар Стадола» (1844): *Дівці дівку недовго збить з пантелику;* у напісанай па-руску аповесці «Наймичка» (1844) у аўтарскай мове сустракаецца *сбить с толку,* а ў маўленні старога казака Якіма Гірла – *сбить с панталыку: Сбили с панталыку окаянные, та й годи.*

*2.* Ва ўкраінскай мове назоўнікавы кампанент *пантелику* (чытаецца: «пантэлыку») сваім гучаннем больш блізкі да грэчаскага *Пентэлік,* чым у беларускай, рускай *(панталыку),* польскай *(pantałyku)* мовах.

3. На аснове назоўнікавага кампанента гэтых фразеалагізмаў ва ўкраінскай літаратурнай мове ўтварыліся многія дзеясловы, дзеепрыметнікі, назоўнікі: *пантеличити, пантеличитися, спантеличиний, спантеличения, спантеличити, спантеличувати, спантеличитися.*

У некаторых працах па рускай фразеалогіі можна сустрэць выпадкі неаргументаванай кваліфікацыі пэўнага выразу як «уласна рускага». Паяснім гэта такім прыкладам.

У даведніку «Спроба этымалагічнага слоўніка рускай фразеалогіі» М.Шанскага, В.Зіміна, А.Філіпава (1987) выраз *даць дуба* вызначаны як «відаць, уласна рускі». Але, як засведчана ў слоўніках У.Даля і А.Праабражэнскага, гэты выраз у XIX ст. быў вядомы толькі ў паўднёвых гаворках (тэрыторыя сучаснай Украіны). Адсюль больш верагодна было б лічыць яго не «ўласна рускім», а «агульным для ўсходнеславянскіх моў» ці «ўласна ўкраінскім».

Або яшчэ прыклад. У той самай этымалагічнай працы выраз *очная ставка* (параўнаем: бел. *вочная стаўка,* укр. *очна ставка,* балг. *очна ставка)* прызнаецца «ўласна рускім» як утварэнне ад старой юрыдычнай формулы «ставити с очей на очи»; у пацвярджэнне прыводзіцца запіс 1606 г. – часоў цара Аляксея Міхайлавіча. Але

аналагічны запіс, толькі зроблены на стагоддзе раней (1511 г.), можна знайсці ў грамаце Вялікага князя Літоўскага «баярам, мяшчанам і ўсёй зямлі Полацкай»: *поставити его очи на очи на явном суде хрестіянскомъ, и того, хто вадитъ, и того, на кого вадитъ.*

У гэтай жа сувязі спынімся яшчэ на адным выразе, які ў той жа працы вызначаецца як «уласна рускі». Гаворка ідзе пра фразеалагізм *нашага палку прыбыло.* Ён ужываецца пры з'яўленні ў калектыве чалавека аднолькавых поглядаў, перакананняў і інш. і абазначае 'нас, такіх, як мы, стала больш', напрыклад: «[Клава:] Гэта друг таварыша Язвы, паэт. [Жлукта:] Значыць, нашага палку прыбыло» (К.Крапіва). Дзеясло́ўны кампанент ужываецца і ў форме цяперашняга часу: «О! Нашага палку прыбывае. Вельмі прыемна, што круг інтэлігенцыі павялічваецца» (Я.Колас).

Выраз прыйшоў са старадаўняй песні-гульні «А мы проса сеялі». Хлопцы і дзяўчаты станавіліся ў два рады, ці, іначай, палкі (даўней словам *полк* называлі не толькі вайсковую адзінку, але і, як засведчана У.Далем, гурт, чараду людзей). Калі з адной чарады ў другую пераходзілі, як таго патрабавалі ўмовы гульні, хлопец ці дзяўчына, полк, які атрымаў папаўненне, спяваў:

Нашага палку прыбыло, прыбыло,
Ой, дзідлада, прыбыло, прыбыло!

У вершаванай аповесці А.Бястужава-Марлінскага «Андрэй, князь Пераяслаўскі» апошні з прыведзеных радкоў песні падаецца ў такой арфаграфіі: *Ой, дид-ладо, прибыло.* Гэта праліваe святло на нацыянальна-этымалагічны бок песні. Украінскае *дід* – гэта 'дзед', *ладо* – 'лада' (у рускай і беларускай мовах), ці 'мілы'. Адсюль становіцца зразумелым, чаму ў назоўнікавым кампаненце фразеалагізма *нашага палку прыбыло* такі незвычайны канчатак – *-у*: і ў сучаснай украінскай мове слова *полк* у родным склоне адзіночнага ліку мае формы *пóлку* і *полкá,* а літаратурная норма фразеалагізма – *нашого пóлку прибуло.* Відаць, і ў памянёнай песні націск прыпадаў не на другі, а на першы склад назоўнікавай формы *полку.*

Вось такія пірагі... Як бачым, далёка не заўсёды «начинается земля, как известно, от Кремля» (С.Міхалкоў).

## ПРА ВЫРАЗ «ВЕСЦІ РЭЙ»

Гэты фразеалагізм у некаторых мовазнаўчых працах ацэньваецца як кніжны, але такой кваліфікацыі пярэчаць дзесяткі прыкладаў ягонага функцыянавання ў гутарковых і нейтральных кантэкстах. Так, у «Новай зямлі» Я.Коласа селянін-палясоўшчык Міхал,

паміраючы, гаворыць брату: «Антоська!.. родны мой!.. канаю... Пера-гарэў, адстаў, знікаю... Вядзі ж ты рэй, вядзі... адзін... Як лепшы брат, як родны сын». Або яшчэ два ўжыванні: «Дзякую, дружына, што не даяце ў крыўду мяне... З вашай дапамогай мне лягчэй будзе рэй весці» (К.Крапіва); «А камандаваць – хіба не работа? Рабіць – гэта кожны зможа, калі толькі захоча. А кіраваць, весці рэй, ды яшчэ разумна – не кожны. Хіба не праўда?» (В.Каваленка). Параўнаем так-сама ў вершаваным віншаванні Н.Гілевіча газеце «Літаратура і мас-тацтва» на яе пяцідзесятыя ўгодкі: «Цяпер ты ў самым тым узросце, каб мудра ўперад весці рэй...» Ужываецца ён і ў публіцыстыцы: «Пра «Чужую бацькаўшчыну» пісалі ахвотна і шмат. Рэй тут вялі празаікі і крытыкі маладзейшага пакалення» (Я.Лецка). Гэтыя і шмат якія іншыя кантэксты, а таксама адсутнасць вобразнасці і матывіроўкі, ацэначнасці і эмацыянальнасці, нязначная экспрэсіўнасць фразеала-гізма гавораць за тое, што ён не мае функцыянальна-стылёвай зама-цаванасці, свабодна ўжываецца ў размоўным, публіцыстычным, мас-тацкім стылях.

Выраз прыйшоў у беларускую літаратурную мову не з народ-ных гаворак, а кніжным шляхам. Першым ужыў яго яшчэ ў XIX стагоддзі А.Абуховіч. У «Мемуарах» ён пісаў: «Стары экс-спраўнік Гаўрыльчыц быў як бы ў старане, рэй вяла сама пані Ружа». Далейшай папулярызацыі фразеалагізма садзейнічалі творы Я.Купалы і Я.Коласа. У розных творах Я.Коласа ён выкарыстаны больш як 20 разоў. А паходзіць ён з польскай мовы як паўкалька *(wodzic rej)*. Слова *«рэй»* у польскай мове па-за фразеалагізмам не ўжываецца, але з'яўля-ецца часткай складанага назоўніка *wodzirej* (распарадчык танцаў), які ўзнік на аснове нямецкага *Reigen* («танец, хор, карагод»). Першапачат-кова фразеалагізм *wodzic rej* у польскай мове ўжываўся ў дачыненні толькі да танцаў – са значэннем «быць распарадчыкам танцаў». З блізкім да гэтага значэннем ён выкарыстаны ў паэме Я.Купалы «Бандароўна»: «У гульні сама рэй водзіць, весела міргае, задзіўляе ўсіх чыста, як зара якая».

Адзінае сучаснае значэнне фразеалагізма – «быць завадатарам, верхаводзіць, аказваць уплыў на ход чаго-небудзь». Ён сінанімічны з такімі выразамі: *задаваць тон, іграць першую скрыпку, камандаваць парадам, правіць баль, рабіць пагоду* (у чым, дзе), *трымаць лейцы ў сваіх руках*. Гэта выразна відаць як з раней прыведзеных прыкладаў, так і з наступных: 1) Яўхім злаваўся на самога сябе, што баба рэй вядзе ў хаце (З.Бядуля); 2) Весці рэй даручылі Дзіміну, і бяседа зашумела, як шуміць яна, калі ёсць юбіляры, аматары тостаў і людзі, якія паважаюць гаспадароў і сябе» (У Карпаў).

Як вядома, многім фразеалагізмам уласцівы жорсткія ўмовы ўзнаўляльнасці. Такія выразы ў параўнанні з іншымі моўнымі адзінкамі – «дэспатычна капрызная і няўлоўная рэч» (О.Есперсен). Няведанне або прыблізнае веданне фразеалагічнай нормы спараджае шматлікія памылкі разнастайнага кшталту, якія, трапіўшы на старонкі кніг, часопісаў, газет, часам становяцца як бы ўзорам для некаторых носьбітаў мовы.

Да ліку такіх «дэспатычна капрызных» належыць і фразеалагізм *весці рэй*. Паспрабуем, напрыклад, разгадаць, што ён абазначае ў наступным урыўку і кім ці чым кіруюць гракі: «Яшчэ вясне не скора сокам выспець, а ўжо шыбуе сонца напрасткі, і на пагорку талым, як на выспе, на поўны голас рэй вядуць гракі» (А.Звонак). Памылковае ўжыванне гэтага выразу ёсць і ў такім урыўку: «Хоць і суседзі яны, але ў Люцыне рэдка бываюць, пагасцінамі надта не дакучаюць. Бо з Сялявамі рэй не водзяць, на радзінах-хрэсьбінах не гуляюць» (Я.Янушкевіч). Гэты фразеалагізм пры нарматыўным яго ўжыванні не дапускае ўключэння ў свой склад ніякіх азначэнняў да назоўнікавага кампанента *рэй*. Аднак параўнаем няправільную рэалізацыю гэтага выразу – з парушэннем яго зместу і формы: «І трэці, і пяты, і восьмы вядуць непрыгожы рэй. Не заікніся – як восы, уджаляць і выпруць з дзвярэй» (У.Карызна). Памылковым трэба лічыць і такі прыклад з кнігі А.Сабалеўскага «Кандрат Крапіва», дзе пра Язву з п’есы «Мілы чалавек» сказана, што «ён вядзе рэй камедыі, памагае ёй развівацца».

*Весці рэй* – дзеяслоўны фразеалагізм. Ён абазначае дзеянне і выражае яго ў формах асобы, ладу, часу, ліку. Носьбітам гэтых формаў выступае граматычны цэнтр фразеалагізма – дзеяслоўны кампанент: *вяду рэй, вядзі рэй, вёў рэй, вялі рэй* і г. д. Што да катэгорыі трывання, дык у дачыненні да гэтага выразу трэба падыходзіць не стандартна, хоць у мове і існуюць, як *весці рэй* (незакончанае трыванне), так і *павесці рэй* (закончанае трываннне).

Справа ў тым, што не ўсе дзеяслоўныя фразеалагізмы маюць суадносныя трыва-льныя пары. Так, паміж *вадзіць за нос* і *павадзіць за нос* няма трывальнай суаднос-насці, як няма яе і паміж дзеясловамі *вадзіць* і *павадзіць*. *Павадзіць за нос* – гэта самастойны выраз са значэннем мнагакратнасці, ён мае ў сваёй сэнсавай структуры семы «нейкі час, звычайна працяглы» і «неаднаразова»: «Павадзіла партызанка тых фашыстаў за насы» (П.Панчанка). Нельга таксама лічыць трывальнымі формамі аднаго фразеалагізма *біць крыніцай* і *забіць крыніцай*, бо другі з іх паказвае не на завяршэнне дзеяння, а на пачатак, мае адценне пачынальнасці: «Забіла крыніцай культурнае жыццё» (Р.Шкраба).

Як відаць са сказанага, у некаторых выпадках, параўнальна нешматлікіх, словаўтваральныя афіксы, асабліва прыстаўкі *па-, за-,* не страчваюць свайго рэчыўнага значэння, утвараюць у адносінах да зыходнай формы фразеалагічныя дэрываты, якія павінны асобна апісвацца ў слоўніках на сваіх алфавітных месцах. Такім чынам, *павесці рэй* – гэта не трывальная форма да *весці рэй,* а самастойны вытворны выраз, які абазначае «пачаць верхаводзіць, пачаць кіраваць якой-небудзь справай, стаць завадатарам чаго-небудзь». Некалькі прыкладаў: 1) Грыгор борзда павёў рэй: – Хлопцы, адвернем наўперад брычку. Ну, жыва! (Я.Колас); 2) І спатрэбяцца месяцы, каб вярнулася здароўе, каб Галя магла перагаварыць з сябрамі, якія самі прыйдуць да яе, спадзеючыся – яна павядзе рэй (У.Карпаў); 3) Пачулася каманда ўстаць, зноў у залу ў заведзеным парадку ішлі суддзі і саслоўныя, зноў павёў рэй Кручкоў (Г.Далідовіч).

Пры ўжыванні гэтага фразеалагізма таксама сустракаюцца недакладнасці. Напрыклад, у пададзеным ніжэй сказе ён не мае свайго сталага фразеалагічнага значэння: «– Дык зачытаю ліст, – павёў рэй далей Аўторак, падносячы блізка да твару белы аркушык» («Маладосць»).

## СКУРА ДЫ АРМАТУРА

Напэўна, кожны з нас чуў, а пры выпадку і ўжываў выраз *скура ды косці.* Гэты фразеалагізм ёсць не толькі ў беларускай мове. Ён інтэрнацыянальны: у розных мовах (славянскіх, французскай, англійскай, нямецкай, італьянскай, румынскай, малдоўскай, венгерскай і некаторых іншых) ён ужываецца **з** такой самай вобразнасцю, значэннем, граматычнай структурай, стылістычнай афарбоўкай і адрозніваецца толькі гучаннем, кампанентным складам, а ў роднасных мовах супадае і гучаннем. Ён пранік у гэтыя мовы як калька з лацінскай мовы *(pellis totus est),* а ўпершыню быў выкарыстаны, відаць, у п’есе «Гаршчок» рымскага камедыёграфа Плаўта (III-II ст. да н.э.).

Хоць гэты фразеалагізм складаецца з назоўнікавых кампанентаў, звязаных злучнікавай сувяззю як спалучэнне аднародных членаў, але мае прыметнікавае значэнне «вельмі худы, змарнелы (пра чалавека, радзей пра жывёлу)». Ён надзелены яркай ацэначнасцю, таму ў сказе звычайна выступае як выказнік або недапасаванае азначэнне: I) Хлапчук быў скура ды косці, твар бледны, мурзаты (П.Місько); 2) Са шпіталя Ахрэма пусцілі памерці дамоў – чуў, што пра гэта між сабою ваенныя лекары гаварылі. Быў ён скура ды косці, а ў галаве ўсё

звінела і лопалася нешта (М.Капыловіч); 3) Яшчэ ўвосені 1915 года прыблукаўся на хутар Макара хлапчук – абарваны, страшны, скура ды косці (З.Бядуля); 4) Сідор узяў ваўка за хіб, выхапіў з вады і ўкінуў у лодку. Лёгкі з зімы і нядоеду, адна шкура ды косці. Дзіва што гавораць: сала, як на ваўку (М.Лобан); 5) Схуднелага – адна скура ды косці – прывезлі каваля дамоў (В.Гігевіч).

Як відаць з двух апошніх і шмат якіх іншых прыкладаў, фразеалагізм можа ўжывацца з дадатковым, нарошчаным, факультатыўным кампанентам *адна.*

У галіне фразеалогіі нярэдка можна назіраць такую з'яву, як узнікненне новага выразу на аснове іншага, ужо існуючага. Менавіта такім, унутрыфразеалагічным спосабам на базе прыметнікавага выразу *скура ды косці* (з факультатыўным кампанентам *адна)* склаўся ва ўсходнеславянскіх мовах іншы фразеалагізм: *(адна, толькі) скура ды косці засталіся* (на кім, у каго, ад каго). Нарадзіўшыся ў чыімсьці індывідуальным маўленні, выраз з цягам часу стаў агульнаўжывальным. Ён ужо не прыметнікавы, як ягоны прататып, а несуадносны з часцінамі мовы. Яго сэнс – «хто-небудзь вельмі схуднеў». Адпаведна змянілася і яго сінтаксічная роля: ён заўсёды выступае галоўным членам безасабовага сказа. Некалькі прыкладаў: I) А вось Ленка, у якой адна скура ды косці засталіся, здагадалася (пра іх свята), не забылася, безумоўна, знарок прыйшла... (І.Шамякін); 2) Асабліва цяжка было з харчаваннем. І без гэтага ад дзяўчыны засталіся толькі скура ды косці (Я.Маўр); 3) Ніхто не пазнаваў яго – скура ды косці засталіся на хлопцы (В.Праскураў); 4) Сыну ў мяне будзе курорт. Трэба паправіць яго трохі, а то адна скура ды косці засталіся (А.Шлег).

На базе выразу *скура ды косці* параўнальна нядаўна склаўся ў жывой народнай мове некаторых мясцін Беларусі яшчэ адзін (вельмі ж дасціпны) фразеалагізм: *скура ды арматура.* Дарэчы, для тых, хто не ведае, нагадаем, што словам *арматура* (у адным з яго значэнняў) называюць металічны каркас жалезабетонных збудаванняў. У наватворы паміж выцесненым кампанентам *косці* і яго заменнікам, калі іх разглядаць як звычайныя словы, прасочваецца нечаканая асацыятыўная сувязь. Да таго ж у гэтым новым выразе кампаненты змацаваны унутранай рыфмай.

Ён, абнавіўшы сваю вобразнасць, стаў больш зкспрэсіўным, чым яго папя-рэднік, дапоўніўся адценнем іранічнасці, жартаўлівасці. Выраз занатаваны ў маім дыферэнцыяльным слоўніку «З народнай фразеалогіі» (1991), выкарыстоўваецца, у прыватнасці, у Шчучынскім, Воранаўскім, Карэліцкім раёнах у такіх, напрыклад, кантэкстах: 1) – А Васіль як? – Яшчэ покуль жывы, але толькі скура ды арматура; 2) Мы

пра такіх худых кажам «скура ды косці», а ад маладых цяпер чуеш: «скура ды арматура».

Гэты выраз фіксуецца і ў нядаўна выдадзеным «Слоўніку дыялектнай фра-зеалогіі Гродзеншчыны» (2000) М.А.Даніловіча, зрэдку выкарыстоўваецца і ў мастацкай літаратуры. Напрыклад, у аповесці З. Дудзюк «Пакаранне для Ноны» чытаем: «Вар'яцтва! Пратэз, штучнасць! Трызненне нейкае! Здурнелі! Дык гэта ж псіх! І ты з ім у псіхапатку ператварылася! Паглядзі на сябе! Скура ды арматура!»

Варта сказаць і яшчэ пра адзін цікавы выпадак трансфармавання выразу *скура ды косці.* У студэнцкім асяроддзі бытуе такая загадка-гумарэска (у выглядзе пытання і адказу):

– *Хто такі «скура ды косці ды хвост?*

– *Студэнт, які вяртаецца дамоў пасля экзаменацыйнай сесіі.*

Тут *хвост* ужыты як бы ў двух значэннях адначасова. Ён абазначае, па-першае, «запазычанасць, няздадзены экзамен ці залік», а па-другое, «прыдатак на заднім канцы цела ў жывёл». Другое значэнне імгненна ўсплывае ў свядомасці і нават выступае на пярэдні план – па асацыяцыі з іншымі кампанентамі выразу, ужо нібы апрадмечанымі, канкрэтызаванымі, суадноснымі з назвамі частак цела.

## ПРА *НА СЛЫХУ*, *НА ЯЗЫКУ* І ІНШАЕ

Гэтыя нататкі выкліканы артыкулам Уладзіміра Дамашэвіча «Кніга павінна ачышчаць нашу мову» (ЛіМ. 2.04.2004). Пісьменнік, можна сказаць, усё сваё жыццё быў далёка не абыякавы як да нялёгкага лёсу нашай мовы, так і да культуры беларускага літаратурнага маўлення. Прыгадваюцца словы В.Быкава, прамоўленыя на VII з'ездзе Саюза беларускіх пісьменнікаў: «Дзесяткі гадоў мы змагаліся за родную мову – некаторыя касцьмі кладліся ў тым змаганні (як Уладзімір Дамашэвіч, напрыклад)».

Амаль усе меркаванні аўтара, выказаныя ў згаданым артыкуле, надзённыя і прымальныя. Але некаторыя, думаецца, патрабуюць удакладнення ці аспрэчвання.

Сцвярджаецца, напрыклад, што прыслоўе *перадусім,* якое ў творчасці маладых «сустракаецца цяпер даволі часта», – непатрэбная нашай мове калька з польскага «пшэдэ вшысткім» і што ў ёй «чуецца нешта цынічнае». Цяжка здагадацца, што ж тут цынічнага. Гэта слова з тым жа значэннем 'найперш' і ў форме *перадусім* здаўна з'яўляецца нарматыўным ва ўкраінскай літаратурнай мове. Бытуе яно ў жывой народнай мове паўднёва-заходніх беларускіх гаворак, фіксуецца ў некаторых дыялектных слоўніках, занатавана ў даведніку А.Каўруса

«Словы без прапіскі». Яго выкарыстоўваюць не толькі маладыя аўтары. Яно сустракаецца ў У.Дубоўкі, у даверaснёўскіх творах М.Танка і ў яго не так даўно апублікаваных «Дзённіках». Н.Гілевіч тройчы ўжыў гэта слова ў невялікім артыкуле «Добры ангел беларускасці», напрыклад: «Ад чаго пайшло ў мяне такое пісанне [дробна-дробна і густа-густа]? Перадусім – ад беднасці». Нярэдкае яно і на старонках «ЛіМа» (напрыклад, за 31.10.1997 г. ці 13.02.1998 г.). Або два такія прыклады: 1) Чалавек інтэлігентнай прафесіі ўспрымаўся перадусім як індывідуальнасць (У.Калеснік); 2) Браты Гарэцкія не толькі і не столькі летапісцы, а перадусім пераўтваральнікі жыцця (М.Мушынскі). Таму наўрад ці трэба сустракаць гэта прыслоўе ў штыкі. Няхай яно ўзбагачае слоўнік літаратурнай мовы, папаўняе сінанімічны рад слоў і спалучэнняў: *найперш, перш за ўсё, у першую чаргу, першым чынам.*

З артыкула вынікае, што дзеяслоў *згубіць* спалучаецца толькі з канкрэтнымі прадметамі, а *страціць* – толькі з абстрактнымі і што ўжыванні *згубіў розум, згубіў прытомнасць* – «гэта непісьменна!» Але з выкарыстаннем дзеясловаў *губляць, згубіць, траціць, страціць* не так ўсё проста, як здаецца. Усе яны, як засведчана ў акадэмічных тлумачальных слоўніках, мнагазначныя, маюць па сем і болей (з сэнсавымі адценнямі) значэнняў, і ў некаторых значэннях яны абсалютныя сінонімы, тоесныя ў семантычных і стылістычных адносінах і ўзаемазамяняльныя ў любых кантэкстах. Гэтыя значэнні ці адценні фіксуюцца ў нарматыўных даведніках не па волі складальнікаў-лінгвістаў, а на аснове маўленчай практыкі людзей, звычайна пры апоры на практыку аўтарытэтных аўтараў, на частотнасць ужывання пэўнага значэння, на іншыя крытэрыі, істотныя пры кадыфікацыі моўнай нормы. Нават тады, калі толькі пачынала складвацца сучасная беларуская літаратурая мова, у прыватнасці ў творах В.Дуніна-Марцінкевіча, сустракаем такія раўназначныя ўжыванні: «памяць, розум губляю», «не глядзі так на мяне, бо розум страчу». Яшчэ некалькі (скарочаных) прыкладаў: «згубіўшы свой «шляхетны» сорам» (К.Крапіва), «не губляючы часу» (І.Мележ), «жывёлы ўжо згубілі сувязь са сваім дзікім станам» (М.Лобан), «гэта *а* некалькі скарачаецца, але не губляе сваёй асноўнай якасці» (Ф.Янкоўскі).

Паводле У.Дамашэвіча, *на языку* – «гэта беларуская форма рускага *на слыху*, што ўжываецца цяпер у нашай прэсе». Але гэта не зусім так. Па-першае, абодва выразы агульнаўсходнеславянскія (рус. *на языке, на слуху*, укр. *на язиці, на слуху*). Па-другое, *на языку* і *на слыху* – не сінонімы, не тоесныя выразы. Першы (*на языку* ў каго) мае два значэнні: 1) гатова сказацца, быць вымаўленым; напрыклад: «І ў

кожнага на языку: што, што там, за лесам?» (Б.Сачанка); 2) пастаянна паўтараецца абмяркоўваецца кім-небудзь: «Такое пытанне, мусіць, у кожнага калі не на языку, то ў галаве» (І.Мележ). Другі выраз (*на слыху* ў каго) абазначае ‘пастаянна вымаўляецца кім-небудзь, мае шырокую вядомасць, папулярнасць’: «Цяпер на слыху ў газет і крытыкаў Ганна Ахматава, Пастэрнак, Мандэльштам, Бродскі і г.д.» (П.Панчанка); «А зусім нядаўна яго імя было ва ўсіх, як кажуць, на слыху» (Л.Арабей); «Верш амаль у кожнага, што называецца, на слыху» (В.Зуёнак).

У.Дамашэвіч прыгадвае ранейшыя дзесяцігоддзі, калі Я.Скрыган, Ф.Янкоўскі даволі часта выступалі ў друку з грунтоўнымі аглядамі стану нашай моўнай практыкі, і шкадуе, што «сёння пытаннямі мовы, стылю мала хто цікавіцца». Але ж і ў апошнія 10-15 гадоў было апублікавана ў перыёдыцы нямала добрых артыкулаў пра культуру сучаснага літаратурнага маўлення. Праўда, час ад часу сустракаюцца і перагібы, перабор меры ў імкненні ачысціць мову ад запазычаных слоў. Так, у газеце «Наша слова» (28.04.2004) на поўным сур’ёзе раяць ужываць замест назоўніка *подзвіг*, запазычанага з рускай мовы, «натуральнае – з спрадвечным коранем *-чын* – слова «вычын».

Звернемся цяпер да некаторых іншых прыкладаў парушэння нормы ў сучасным друку.

У 1933 г. пастановай Савета Народных Камісараў БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» афіцыйна ўзаконены шмат якія новыя нормы, у тым ліку ўжыванне канчатка *–ам* ( а не *–ом*) у давальным склоне і *-ах* (а не *–ох*) у месным склоне множнага ліку назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду, а таксама множналікавых назоўнікаў (*сані, сені, людзі, бацькі* і інш.). Да 1933 г. вымаўлялі і пісалі так (прыклады з «Тутэйшых» Я.Купалы): «не зміналі важным гасцём», «нам, бацьком, галава баліць», «у іншых мясцох», «аб гасцёх», «пры людзёх», «у вачох».

Цяпер некаторыя аўтары самачынна аднаўляюць старую норму, пашыраючы яе нават на назоўнікі жаночага роду. Так, у вершах А.Сыса знаходзім: «А за тое, што жыў, – пасадзіце ў нагох арабіну»; «Ох, Мікола, Мікола, а як ты памрэш – хто ж мяне па начох прысынаць будзе вершам?»

Часта парушаюцца правілы ўжывання фразеалагізмаў. Выраз *на шырокую нагу* нарматыўна выкарыстоўваецца толькі ў гэтай, адзінай ягонай форме. Гл. у маім «Этымалагічным слоўніку фразеалагізмаў» (Мн.: БелЭн. 2004. С. 258) пра гісторыю ўзнікнення гэтага выразу, звязаную менавіта з нагой, абуткам. Параўнаем, аднак, нічым не апраўданае адхіленне ад нормы пры ўжыванні гэтага

фразеалагізма ў рамане А.Наварыча «Літоўскі воўк»: «Давялося ладзіць прыём напоўніцу, па ўсіх правілах і *на шырокую руку*».

Выраз *як не ў сябе* ўжываецца толькі пры дзеясловах *есці, піць* і абазначае 'ўволю і ненасытна'. А ў наступным прыкладзе ён выкарыстаны з парушэннем і зместу, і формы: «Трэба было ледзь не дзве гадзіны стаяць у чарзе, потым задыхацца ў душнай парылцы, дзе мужчыны як не ў сабе хваталіся венікамі» (Маладосць. 2003. № 12. С. 75).

Фразеалагізм *нуль без палачкі* (для каго, без каго, перад кім) заўсёды выступае як выказнік пры дзейніку са значэннем асобы і мае сэнс 'нічога не значыць, нічога з сябе не ўяўляе'. Параўнаем яго памылковае ўжыванне: «Брыгадзір хадзіў ад хаты да хаты, стукаў у вокны, гнаў на працу, а за тую працу людзі атрымлівалі нуль без палачкі» (ЛіМ. 29.09.2000).

Правядзём яшчэ два прыклады, паказваючы ў дужках, у якой форме трэба было ўжыць пэўныя выразы: 1) З дзіравай торбай ходзіць, а такім начальнікам зрабіўся – куды там! На казе не аб'едзеш! (трэба: *на казе не пад'едзеш*). Не падступіцца, вы толькі гляньце! (Маладосць. 2004. № 2. С. 41); 2) Менавіта пісьмовы экзамен па мове з'яўляецца каменем сутыкнення (трэба: *каменем спатыкнення*) для многіх абітурыентаў (Настаўн. газ. 7.10.2000).

Кніга сапраўды, як піша У.Дамашэвіч, павінна ачышчаць нашу мову, а не засмечваць яе рознымі хібамі.

## ГАМБУРГСКІ РАХУНАК

Фразеалагізмы з прычыны сваёй яркасці, экспрэсіўнасці, а ў шмат якіх выпадках і вобразнасці вылучаюцца выключнай «прыліпчывасцю», здольнасцю пераходзіць з адной мовы ў другую. Як паказваюць даследаванні апошніх дзесяцігоддзяў (працы Э.М.Саладухі, Ю.П.Саладуба і інш.), у многіх літаратурных мовах на долю запазычанняў, калек і паўкалек прыходзіцца да паловы фразеалагічнага фонду. І гэта натуральная з'ява: «Як ніводзін народ не можа паўнакроўна існаваць без рознабаковых кантактаў з іншымі народамі, так і мова спустошылася б сама ў сабе, не знаходзячы падсілкавання ў іншых мовах і не аддаючы ў сваю чаргу ўласных жыватворчых сокаў» (В.М.Макіенка). Пры гэтым, ужываючы той ці іншы выраз, мы часцей за ўсё не адчуваем, што ён прышлы, што ён чужаземец паводле месца свайго ўзнікнення. Вось прыклады калек (пакампанентнага перакладу): *браць быка за рогі* – з іспанскай мовы, *асінае гняздо* – з

англійскай, *страляць з гарматы па вераб'ях* – з нямецкай мовы. А гэта, напрыклад, паўкалькі (часткова пераклад, часткова запазычанне): *блытаць карты* – з французскай, *згушчаць фарбы* – з нямецкай, *атрымліваць гарбуза* — з украінскай, *без году тыдзень, забаронены плод, чортаў тузін* – з рускай мовы.

Паўкалькай з рускай мовы трэба лічыць і выраз *гамбургскі рахунак* (руск. *гамбургский счёт).* Хоць яго прыметнікавы кампанент і генетычна ўтвораны ад назвы нямецкага горада Гамбург, але такі ці аналагічны фразеалагізм не значыцца ў слоўніках як нямецкай, так і іншых заходнееўрапейскіх моў. Аўтарам гэтага выразу з'яўляецца вядомы рускі літаратуразнаўца, крытык і пісьменнік В.Б.Шклоўскі (1893–1984). У 1928 г. выйшаў у свет ягоны зборнік крытычных артыкулаў «Гамбургскі рахунак». Сэнс гэтай назвы сам аўтар тлумачыць так: «Гамбургскі рахунак – надзвычай важнае паняцце. Усе барцы, калі боруцца, жульнічаюць і кладуцца на лапаткі па загадзе антрэпрэнёра. Раз у год у гамбургскім тракціры збіраюцца барцы. Яны боруцца пры зачыненых дзвярах і завешаных вокнах... Тут устанаўліваюцца сапраўдныя класы барцоў, – каб не схалтурыцца». Выраз набыў папулярнасць, стаў крылатым, пачаў ужывацца ў маўленні, але пераважна ў літаратурным асяроддзі, у кніжных стылях. Зрэдку гэты выраз можна напаткаць і ў сённяшнім беларускім друку, дзе ён абазначае «сур'ёзныя, прынцыповыя, бескампрамісныя адносіны, стасункі паміж кім-небудзь», напрыклад: «Сяброўства, знаёмствы, агульныя справы не мелі тады той улады, як сёння. Рахунак быў гамбургскі» (Г.Кісліцына).

На аснове гэтага (назоўнікавага) выразу з цягам часу склаўся прыслоўна-акалічнасны фразеалагізм *па гамбургскім рахунку.* Ён набыў тры значэнні. Па-першае, стаў абазначаць «сур'ёзна, прынцыпова, без скідак і ўступак», напрыклад: «З аднаго боку, я неафіт – нейкія там публікацыі, з другога – чытач, што ацэньвае ўсё па гамбургскім рахунку, з трэцяга – маю вопыт рэдактарскай працы...» (А.Сямёнава) Па-другое, «па-сапраўднаму, належным чынам, як і павінна быць»: «Ці ведаем па гамбургскім рахунку мы самі, дзе гэтая краіна Беларусь? Менавіта краіна, а не месца жыхарства? Ці ўмеем мы ёю ганарыцца?» (У.Арлоў). Па-трэцяе, «фактычна, у адпаведнасці з рэальнасцю»: «Нават «руская зямля» перыяду XIII ст. – гэта ўсё ж Кіеўская Русь. Уласна рускую думку па гамбургскім рахунку належыць пачынаць з Маскоўскага перыяду, калі ў яе нетрах пачалі фармавацца ідэі вялікадзяржаўя, самадзяржаўя, «сапраўднага рускага праваслаўя», выявай якіх з'ўлялася фармулёўка «Масква – трэці Рым» (ЛіМ. 11.04.2003).

У апошняе дзесяцігоддзе стаў вельмі папулярным і модным яшчэ адзін фразеалагізм: *па вялікім рахунку.* Пра яго досыць пашыранае і нярэдка памылковае, ня-правільнае ўжыванне мне ўжо даводзілася выступаць у друку, але мушу паўтарыцца, бо ён мае непасрэдную сувязь з разгледжанымі вышэй папярэднікамі. Этымалагічна яго ўзнікненне звязана з двума папярэднімі выразамі. Ён прыйшоў у беларускую мову як паўкалька з рускай мовы *(по большому счёту),* дзе ўпершыню быў ужыты ў рамане В. Каверына «Здзяйсненне жаданняў» (1935), але стаў шырока выкарыстоўвацца ў газетных жанрах толькі ў 1960-х гадах – пасля 3-га выдання згаданага рамана масавым тыражом у 1959 г. У В.Каверына гэты выраз склаўся на базе назоўнікавага – *гамбургскі рахунак.*

Выраз *па вялікім рахунку* напачатку меў адзінае прыслоўнае значэнне ацэнкі чаго-небудзь з найбольшай патрабавальнасцю. Прыкладна такі ж сэнс гэтага фразеалагізма, а менавіта «сур'ёзна, прынцыпова, без скідак і ўступак», захаваўся і сёння, не парываючы, такім чынам, першапачатковай, хоць і забытай ужо, эты-малагічнай сувязі з першакрыніцай. Вось толькі некалькі прыкладаў: 1) Я абураны тым, што рэпрэсіўныя метады прымяняюцца супраць такога таленавітага вучонага... Аднойчы камусьці за гэта прыйдзецца адказваць па вялікім рахунку (Н.Гілевіч); 2) Апошнімі гадамі яна часцяком успамінала цябе, асабліва калі хацела папракнуць мяне ў нечым. І не па дробязях, а, як кажуць, па вялікім рахунку (А.Петрашкевіч); 3) Уважліва прыглядзьцеся да сённяшняга мужыка: хто ён зараз, калі браць па вялікім рахунку? (В.Гроднікаў).

Пасля ў фразеалагізме *па вялікім рахунку* развіліся яшчэ два значэнні, аналагічныя з тымі, якія мае выраз *па гамбургскім рахунку.* Напрыклад, у наступных сказах рэалізуецца значэнне «па-сапраўднаму, належным чынам, як і павінна быць»: 1) Падзеі, што адбываюцца ў межах дзяржавы, па вялікім рахунку ёсць справа суверэннай дзяржавы (С.Дзедзіч); 2) Ад кожнага з нас, дзе б хто ні працаваў, залежыць многае. А па вялікім рахунку – быць ці не быць Беларусі незалежнай, цывілізаванай, духоўна і матэрыяльна багатай дзяржавай (С.Законнікаў); 3) А калі гаварыць па вялікім рахунку, Леанід Ігнацьевіч, ніякіх асабістых вашых комплексаў тут няма: вы ствараеце праекты, а мы іх ажыццяўляем (Я.Кантылёў).

Яшчэ адно значэнне (трэцяе), якое можна выявіць на аснове сённяшняй маўленчай практыкі, – «фактычна, у адпаведнасці з рэальнасцю»: 1) Прайшло больш за сорак гадоў, а сітуацыя па вялікім рахунку тая ж. Хіба што сучасны чытач яшчэ больш зменшыўся і стаў зусім кароткім... (Л.Галубовіч); 2) Цяжка сёння з упэўненасцю сказаць,

што з гістарычных дакументаў было вядома Купалу, а па вялікім рахунку інфармацыя тады была больш даступнай, чым нават сёння (І.Жук); 3) Дарэмна аўтар манаграфіі канстатуе ў ранняга Я. Чыквіна «дакладны памер», «выразнасць рытмічнага малюнка, рыфмоўкі»... Гэтага па вялікім рахунку проста няма ў першым зборніку, хоць крытыку вельмі хочацца згаданыя здабыткі знайсці (А.Пяткевіч).

Калі супаставіць выразы *па гамбургскім рахунку* і *па вялікім рахунку* паводле частаты іх выкарыстання і па функцыянальна-стылёвай афарбоўцы, дык першы варта кваліфікаваць як рэдкаўжывальны і кніжны, а другі – як высокачастотны і функцыянальна не замацаваны за пэўным стылем. Аднак назіранні за тым, як ужываецца выраз *па вялікім рахунку* ў сённяшніх друкаваных тэкстах і ў вусным маўленні, паказваюць, што пераважаюць выпадкі недарэчнага яго ўжывання. Немагчыма зразумець, што значыць гэты выраз, напрыклад, у такіх сказах: «Уся мая хітрасць, па вялікім рахунку, – у прастаце, у адмаўленні ад «цяжкавагавых» тэхналогій навучання замежнай мове»; «Калі настаўнік сам для сябе не вызначыць цвёрдай грамадзянскай пазіцыі, малаверагодна, што выхаванцы яго стануць сапраўднымі патрыётамі Беларусі, ды і ўвогуле па вялікім рахунку людзьмі».

Часта гэты выраз выкарыстоўваюць без сэнсавай нагрузкі, ператвараючы яго ў штамп (накшталт славутага Зноскавага *меджду протчым* з «Тутэйшых» Янкі Купалы), робяць яго нейкім пабочным словазлучэннем і выдзяляюць ці аддзяляюць коскамі: «А што робіць аўтар са сваімі героямі? Ён проста іх забівае. Бо, па вялікім рахунку, не ведае, што з імі рабіць»; «Па вялікім рахунку, дзякуючы ім (педагогам), мы на пытанне: «Ці хочаце вярнуцца ў школу?» – адказваем: я там сёння ўжо быў»; «Інвестыцый кот наплакаў. А без іх і ні туды і ні сюды. Іх, па вялікім рахунку, і не будзе пры цяперашняй уладзе»; «Наша акадэмічная падрыхтоўка становіцца бездапаможнай на амерыканскіх вуліцах, у інтэрнатах і кавярнях, дзе ёсць свае правілы зносінаў, свае словы, свая, па вялікім рахунку, мова».

Адзначым, дарэчы, што сустрэўся і такі маўленчы гібрыд, як *па вялікім гамбургскім рахунку:* «У сэнсе патэнцыяльнай недапраяўленасці па вялікім гамбургскім рахунку Барыс Пятровіч адзін з вельмі і вельмі нямногіх сярод трывала сфармаваных літаратараў».

Зразумела, што такія недакладнасці – не на карысць культуры маўлення пэўных аўтараў і самой беларускай мове ў цэлым.

## МІЖМОЎНЫЯ СУВЯЗІ Ў ФРАЗЕАЛОГІІ

У некаторых мовазнаўчых працах, напісаных амаль паўстагоддзя назад, гаварылася, што ў нашай мове, як і ў суседніх, на долю запазычаных слоў прыпадае каля 20 працэнтаў. Іншых, больш сучасных падлікаў пакуль што няма. А гэтыя, думаецца, устарэлі. Дастаткова прыгадаць, што толькі ў апошняе дзесяцігоддзе цэлым патокам хлынулі ў нашу мову іншаземныя словы пераважна з англійскай мовы, напрыклад, такія: *стрэс, бестселер, мэрыя, сераль, менеджэр, спонсар, шоу, кемпінг, брыфінг, тэлефакс, імідж, рэйтынг, фазэнда, менталітэт, бартэр, кансэнсус.*

Што да фразеалогіі, то, паколькі кожны фразеалагізм складаецца не менш як з двух кампанентаў, у ёй запазычанні з іншых моў – параўнальна рэдкая з’ява. Запазычаныя выразы з няроднасных моў амаль што адзінкавыя. Іх чужаземнае паходжанне адчуваецца выразна. Гэта найчасцей запазычанні з лацінскай мовы: *воленс-ноленс, альма-матэр, персона нон грата, гомо сапіенс,* з французскай: *тэт-а-тэт.* Ёсць запазычанні з роднасных моў, але яны таксама нешматлікія. Найбольш – з рускай мовы, напрыклад: *дражніць гусей, з карабля на баль, ні вашым ні нашым, рожкі ды ножкі, неба ў алмазах, <адна> шайка-лейка, архіпелаг ГУЛАГ, наступаць на граблі.* Прыклады запазычанняў з польскай мовы: *даць дыхту, збіваць з тропу, шарая гадзіна, вастрыць зубы,* (відаць) *пана па халявах.* З украінскай мовы: *даць гарбуз, даць ляшча, як дурань з пісанай торбай, збіваць з панталыку.*

Затое ў многіх развітых літаратурных мовах, у беларускай таксама, больш як трэцяя частка фразеалагізмаў прыпадае на калькі і паўкалькі. Перафарбоўваючыся пад нацыянальную ідыяматыку, яны арганічна ўваходзяць у маўленне, уліваюцца ў агульную плынь нацыянальнай мовы.

Калькі – гэта своеасаблівыя копіі іншамоўных выразаў, у якіх кожны кампанент перакладзены на нашу мову сэнсавым адпаведнікам. Напрыклад, *як на іголках* – калька з нямецкай мовы *(wie auf Nadeln)*; яна ўзнікла ў выніку паслоўнага перакладу: *wie* – як, *auf* – на, *Nadeln* – іголках. Паколькі структурная схема іншамоўнага фразеалагізма запоўнена нашымі словамі, то звычайна іншамоўнасць скалькаваных выразаў зусім не адчуваецца. Многія з іх усведамляюцца як жывыя метафарычныя ўтварэнні з яркім воб-разным стрыжнем, сфармаваным на аснове слоў канкрэтнага значэння. Таму не як чужародны, скалькаваны, а як свой, нацыянальны ўспрымаецца на першы погляд, напрыклад, фразеалагізм *браць быка за рогі.* На самай

жа справе гэта – калька з іспанскай мовы, і ўзнікненне фразеалагізма звязана з такім масавым відовішчам у Іспаніі, Партугаліі, як карыда – бой тарэадора з быком.

Паўкалькі (або няпоўныя калькі) – гэта часткова пераклад, часткова запазычанне з іншай мовы. Так, фразеалагізм *рубікон перайсці* ўтварыўся з лацінскага *Rubiconem transeo,* у якім апошні кампанент перакладзены словам *перайсці,* а першы не патрабуе перакладу, бо ў сваім зыходным значэнні гэта назва ракі ў Старажытным Рыме. *Пальма першынства* – паўкалька з нямецкай мовы *(die Palme der Prioritat). Без году тыдзень* – паўкалька з рускай мовы *(бéз году неделя).*

Назіраючы за жыццём фразеалагізмаў у прасторы і часе, можна бачыць, што 104 выразы з 403 не так даўно праэтымалагізаваных мною (у дадатак да ранейшых этымалогій – 1981, 1993 гг.) – уласна беларускія. Вось толькі некаторыя з іх: *адмыкаць адамкнёныя дзверы, мераць асьмінай,* муж *аб'еўся груш, абкласці чырвонымі сцяжкамі, адвеяць зерне ад паловы, асёл маляваны, без пальцаў* піць, *два канцы адной палкі, ездзіць па левым баку, закідаць наперад, і жук і жаба, і лейцы ў рукі, і ў коле і ў мяле, курту з гурту* выбраць, *на пень брахаць, наставіць акуляры, ніжэй калена, ружовы туман, серада з-пад пятніцы* відаць, *у сабакі вачэй пазычыць, шаркі на баркі, як босаму разуцца.*

У некаторых выпадках цяжка, а то і немагчыма вызначыць, якім дакладна трэба лічыць пэўны фразеалагізм паводле яго паходжання. Возьмем, напрыклад, *кум каралю* (ужываецца і з дадаткам: *кум каралю і сват міністру).* У беларускай літаратурнай мове ён мае тры значэнні, зрэдку ён сустракаецца ў рускай і ўкраінскай мовах, але як адназначны. Першапачатковая структура фразеалагізма – двухкампанентная *(кум каралю).* Другая ж частка, факультатыўная і не часта ўжывальная, нарошчана, змадэліравана на ўзор першай і звязана з ёю злучнікам «і». Сустракаюцца выпадкі далейшага, праўда, індывідуальна-аўтарскага, разгортвання вобразнай асновы фразеалагізма і яшчэ большага пашырэння кампанентнага складу: «О, ты цяпер кум каралю і сват міністру... лёгкай і харчовай прамысловасці» (П.Місько). У аснове фразеалагізма, хутчэй за ўсё, – нерэальны, прыдуманы, іранічна-гіпербалізаваны вобраз. Магчыма, выраз напачатку ўжываўся як параўнальны зварот: «Я цяпер, брат, жыву, як кум каралю» (Р.Сабаленка); параўнаем і ва ўкраінскай мове: «Тепер, взимку, я розкошую, мов кум королю» (М.Стэльмах). Выраз мог узнікнуць тады, калі Беларусь была ў складзе Рэчы Паспалітай, якой кіраваў кароль. Ужыванне ў беларускай мове гэтага трохзначнага

фразеалагізма можна было б пацвердзіць 22 прыкладамі з мастацкіх тэкстаў, тады як ва ўкраінскай і рускай мовах ён адназначны і ілюструецца ў слоўніках 2-3 цытатамі. Таму гэты выраз па месцы ўзнікнення, відаць, уласна беларускі.

Больш як 90 фразеалагізмаў (з 403) з'яўляюцца агульнымі для трох усходнеславянскіх моў. Некалькі прыкладаў: *і карты ў рукі* каму, *кацялок варыць, куры не клююць* грошай, *на плыву, на слыху, па чым фунт ліха, гуляць у адны вароты, з міру па нітцы, радыё АБС, як зайцу стоп-сігнал.* Зразумела, што вызначэнні тыпу «агульны для ўсходнеславянскіх моў», «агульны для беларускай і ўкраінскай моў» ці «агульны для беларускай, польскай і ўкраінскай моў» – гэта не зусім дакладная кваліфікацыя фразеалагізмаў: сярод іх могуць быць і ўласна беларускія, якія перайшлі ў іншыя мовы, і, наадварот, запазычаныя з рускай, украінскай ці польскай моў. Дакладную характарыстыку ў генетычным плане гэтыя выразы, магчыма, атрымаюць толькі з шырокім вывучэннем славянскай фразеалогіі ў гістарычным плане, калі будуць складзены гістарычныя слоўнікі фразеалагізмаў славянскіх моў. На сённяшнім жа этапе развіцця гістарычнай фразеалогіі выкарыстанне тэрмінаў тыпу «агульны для беларускай і рускай моў» больш правамернае, чым неаргументаваная кваліфікацыя пэўнага выразу як «уласна беларускага» ці «ўласна рускага» і г.д. Гэта паяснялася ўжо на прыкладах *даць дуба, вочная стаўка, нашага палку прыбыло* – у нататках «Панталык і іншае».

Ёсць фразеалагізмы, геаграфія бытавання якіх выходзіць за межы ўсходнеславянскага рэгіёна. Яны агульныя для беларускай, рускай, украінскай і польскай моў. Іх каля 30; напрыклад: *абводзіць вакол пальца, муціць ваду, кот наплакаў, кропля ў моры, на свой капыл, садзіцца на мель, язык свярбіць.*

Некаторыя выразы ўжываюцца толькі ў дзвюх якіх-небудзь мовах суседніх з беларусамі народаў. Так, толькі ў беларускіх і рускіх слоўніках фіксуюцца такія, напрыклад, фразеалагізмы: *адпраўляць у Магілёўскую губерню, аршын з шапкай, з лёгкай парай, рукой падаць* да чаго, *усякага жыта па лапаце, часам з квасам, а парою з вадою.* Агульнымі для беларускай і ўкраінскай моў выступаюць фразеалагізмы *вадзіць казу, выпускаць лейцы з сваіх рук, зубы замаўляць,* зажываць *як на сабаку;* агульнымі для беларускай і польскай моў – фразеалагізмы *наварыць піва, у гарачай вадзе купаны.* Чатыры выразы агульныя для беларускай, украінскай і польскай моў: *пазнацца на фарбаваных лісах, стаяць на чале* чаго, *як палец, як пятае кола ў возе.*

Амаль кожны з гэтых і іншых выразаў мае цікавую і непаўторную гісторыю ўзнікнення. Напрыклад, агульны для беларускай і ўкраінскай моў фразеалагізм *вадзіць казу* этымалагічна звязаны са звычаем, які існаваў у Украіне і ў многіх паўднёвых раёнах Беларусі. Як сведчаць фалькларысты і этнографы, звычай захоўваўся яшчэ і на пачатку XX ст. У святочныя дні, пераважна перад Новым годам, гурт хлопцаў хадзіў па хатах калядаваць. Адзін з хлопцаў быў адзеты пад казу – з драўлянай казінай галавой і саламяным хвастом. Хлопцы віншавалі гаспадароў, спявалі калядныя песні, «каза» танцавала пад музыку. Каляднікаў частавалі гарэлкай, давалі падарункі. Усё гэта называлася «вадзіць казу». Абрад «ваджэння казы» падрабязна апісаны ў «Этнаграфіі Беларусі» (Мн., 1989. С. 230–231). У сучаснай літаратурнай мове *вадзіць казу* ўжываецца з двума значэннямі: 1) хадзіць гуртам у стане ап'янення: «[Грачоў гаворыць тром п'яным калгаснікам, якія ідуць абняўшыся:] Што вы сабе думаеце, хлопцы! Пасяўная не за гарамі, а вы ў рабочы час *казу водзіце* па сяле» (А.Макаёнак); 2) п'янстваваць, напівацца: *«Вадзілі казу* беларускія творцы і да вайны, натхніцелямі былі такія «геніі», як Алесь Кучар, і ён жа даносіў на п'яную «свабодалюбівую» балбатню сваіх калег, і некаторыя з іх паплаціліся за гэта жыццямі ці доўгай катаргай» (І.Шамякін).

Як ужо гаварылася вышэй, запазычваюцца фразеалагізмы досыць рэдка, ды і то звычайна толькі з роднасных моў. Так, з 403 выразаў прыйшлі да нас у сваім гукавым абліччы два фразеалагізмы з украінскай мовы *(з гакам, так бы мовіць),* тры — з польскай мовы: *вывесці ў поле* каго, *фіглі-міглі, як піліп з канапель.* Больш за 20 фразеалагізмаў запазычана з рускай мовы: *ад коркі да коркі, адпраўляць у штаб Духоніна, іскра божая, востры на язык, галопам па еўропах, закідаць шапкамі, трын-трава, усякая ўсячына, чорны воран, шапка Манамаха, шуры-муры* і г.д.

Шмат фразеалагізмаў прыйшло ў беларускую літаратурную мову шляхам калькавання (поўнага ці няпоўнага). Вось прыклады калек з рускай мовы: *літара ў літару* (руск. *буква в букву), зорная гадзіна* (руск. *звездный час).* Асабліва многа калек з французскай мовы: *лёд разбіты, мець справу, мяняць пласцінку, на вы, на ўсе чатыры бакі, падразаць крылы, паказваць пяткі, пахне смаленым, гарачая галава,* вернемся *да нашых бараноў, з неба зваліўся, таптаць у гразь, у парадку рэчаў, чуваць як муха пралятае, як рукой зняло* і інш.

Яшчэ прыклады калек з іншых моў. З англійскай: *крок за крокам, паляванне на ведзьмаў, прамываць мазгі, восьмы цуд свету, жалезная заслона, хадзячая газета, хто ёсць хто.* З нямецкай: *вісець*

*у паветры, залатое дно, зацягваць пояс, парадак дня, плячом к плячу, страляць з гарматы па вераб'ях, трымаць язык за зубамі, хаваць галаву ў пясок* і інш. З італьянскай: *свет цесны, а ўсё ж такі яна рухаецца.* З лацінскай: *ад яйца* пачынаць, *сабе найме, гаворыць сам за сябе.*

Сярод праэтымалагізаваных фразеалагізмаў сустракаюцца і паўкалькі. Больш як 20 – з рускай мовы: *адным махам семярых забівахам, баль у часе чумы, на благі канец, на які ляд, ні пры якой пагодзе, па вялікім рахунку, вясельны генерал, дзірка ад абаранка, хто ў лес хто па дровы, як піць даць* і інш. Пададзім яшчэ паўкалькі з іншых моў. З царкоўнаславянскай: *валтасараў баль,* час *збіраць камяні.* З грэчаскай: *ні на ёту.* З нямецкай: *квадратура круга, паказваць фігу, у абдымкі марфея.* З англійскай: *гог і магог.* З французскай: *стрыгчы купоны.*

Многія са скалькаваных выразаў з'яўляюцца інтэрнацыяналізмамі, г.зн. ужываюцца больш як у трох няроднасных мовах (напрыклад, у рускай, англійскай, іспанскай і венгерскай). У розных мовах яны ўжываюцца з такім самым значэннем, з той самай вобразнасцю (калі яна ўласціва гэтаму фразеалагізму), з той жа граматычнай структурай, стылістычнай афарбоўкай і адрозніваюцца толькі гучаннем, кампанентным складам (у роднасных мовах некаторыя з такіх выразаў супадаюць і гучаннем).

У беларускай літаратурнай мове ёсць каля 300 фразеалагізмаў з нерэальным вобразам у іх аснове. Іх узнікненне – плён народнай фантазіі. Асобныя з іх склаліся і пад пяром пісьменнікаў; напрыклад, К.Крапіва стварыў выраз *выдраць лысаму валоссе,* З.Бядуля – *рыцар ночы,* К.Чорны – *адмыкаць адамкнёныя дзверы,* В.Быкаў – *ружовы туман.*

У аснову гэтых і падобных фразеалагізмаў пакладзены прыдуманыя, нерэальныя вобразы, вельмі многія з іх сэнсава алагічныя: *ваду ў ступе таўчы, грушы на вярбе, сёрбаць боршч, голаму за пазуху, як босаму разуцца, сабакам сена касіць, сем пятніц на тыдні, ад яйка адліць, вароты пірагамі падпёртыя* ў каго, *выходзіць сухім з вады, абуць сэрца ў лапці, смаловы дуб, бярозавая каша, цырк на дроце* і шэраг іншых залацінак народнай мудрасці.

Сюды можна было б аднесці і фразеалагізм *птушынае малако,* але гэта патрабуе некалькіх агаворак.

Па-першае, у адрозненне ад папярэдніх, ён інтэрнацыянальны, яго ўжываюць (з такой самай вобразнасцю, значэннем, стылістычнай афарбоўкай і аднолькавай ці пашыранай граматычнай структурай) не толькі славяне, але і грэкі, італьянцы, іспанцы, французы, літоўцы,

татары, венгры, албанцы і шмат якія іншыя народы. Выраз з'яўляецца калькай з грэчаскай мовы: *gala ornithon* (літаральна «малако птушынае»). Ён неаднаразова сустракаецца ў творах старажытных грэчаскіх паэтаў, якія, апяваючы прыродныя багацці вострава Самаса, пісалі, што там ёсць нават птушынае малако.

Па-другое, у беларускіх, рускіх, украінскіх і польскіх тлумачальных і фразеалагічных слоўніках выраз падаецца не як двухкампанентны, а ў пашыранай граматычнай структуры – *толькі (аднаго) птушынага малака няма (не хапае, бракуе)* у каго – і абазначае 'ўсяго ўволю, удосталь'. Напрыклад: «Пра Казіміра Ляшчынскага вяскоўцы гаварылі, што ў таго *не хапае толькі птушынага малака»* (М.Парахневіч). Праўда, як будзе далей паказана, на самай справе ў нашай мове выраз існуе і як назоўнікавы – у форме *птушынае малако.*

Па-трэцяе, можна меркаваць, што на ўзнікненне гэтага фразеалагізма паўплывалі не прыдуманыя, а рэальныя з'явы з жывёльнага і расліннага свету. Як вядома, шмат якія птушкі, напрыклад галубы ці пінгвіны, кормяць сваіх птушанят падобнай на малако тварожыстай масай, што выпрацоўваецца ў валляку бацькоў-птушак. Біёлагі называюць такую ежу птушыным малаком. І яшчэ: ва ўсіх батанічных даведніках адна з раслін мае назву птушкамлечнік *(ornithogalum),* вядомую ўжо старажытным рымлянам. Гэта – цыбулевая расліна з бязлістым сцяблом (кветкавай стрэлкай) і прыкаранёвым лісцем. Сокам гэтай расліны, якую ў народзе называюць птушыным малаком, ласуюцца птушкі. Такім чынам, птушкамлечнік можна лічыць першым значэннем фразеалагізма *птушынае малако.* Вось прыклад з рамана З.Бядулі «Язэп Крушынскі: «– Не бойся, маленькая, – супакойвае Настачка. – На табе *птушынае малако!* – Настачка нагінаецца, адрывае траўку пад назвай *«птушынае малако».* З сцяблінак мяккай расліны паказваецца густы, як малако, сок».

Найбольш вядомае ж і ўсім знаёмае значэнне гэтага фразеалагізма – 'нешта неверагоднае, казачнае, яўна немагчымае (часцей пра ежу)': «У нас, бывае, разбэшчваюць спартсменаў з самых юных гадоў. Ты толькі выступі добра, а мы табе і *птушынага малака* не пашкадуем. Рэкорды спартсменаў адыходзяць, а звычка да *птушынага малака* застаецца» (М.Замскі). Дарэчы, у англійскай мове прыметнікавы кампанент фразеалагізма з гэтым значэннем іншы, канкрэтызаваны: *pigeon's milk* (літаральна «галубінае малако»).

Птушыным малаком называюць яшчэ і вельмі смачны торт, а таксама цукеркі асобнага гатунку. Напрыклад, у нарысе А.Крыгі «Чарнобыльскі лабірынт» чытаем: «Няёмка спрачацца з прадстаўнікамі радыяцыйнай медыцыны, бо няма ніякіх сумненняў, што яны добра

ўяўляюць абстаноўку ў пацярпелых раёнах, калі іх не заманіш у забруджаныя мясціны нават *«птушыным малаком»* – дэфіцытам, які сапраўды вырабляецца з мясцовых прадуктаў у брагінскай кулінарыі».

Свядомае і асэнсаванае засваенне, а затым і ўжыванне шмат якіх фразеалагізмаў студэнтамі і вучнямі (і не толькі імі) можа быць паспяховым толькі пры ўмове, калі яны ведаюць вытокі, гісторыю ўзнікнення гэтых выразаў. У вельмі многіх з іх, як пісаў Б.А.Ларын, «усе словы вядомыя, а сэнс цэлага застаецца няясным». Так, частаўжывальны, асабліва ў апошняе дзесяцігоддзе, фразеалагізм *пятая калона* (калька з іспанскай мовы) абазначае 'варожая агентура ўнутры краіны'. А каб зразумець, пры чым тут *калона* і чаму *пятая,* трэба ведаць этымалогію гэтага выразу. А бывае так, што сэнс фразеалагізма, напрыклад, *шуры-муры* ('любоўныя справы') прывычны, знаёмы, вядомы, а яго састаўныя часткі, неўжывальныя па-за фразеалагізмам, незразумелыя, таямнічыя. А між тым гэты выраз склаўся ў рускай мове ў выніку некаторага скажэння французскага свабоднага словазлучэння *cher amour* (чытаецца як «шэр амур»), дзе *cher* – 'дарагі, мілы', а *amour* – 'любоў, каханне' і 'страсць, жарсць'.

Такім чынам, этымалагізацыя фразеалагізмаў неабходна не толькі ў тэарэтычным плане (як адказ на пытанне: «Чаму мы так гаворым?»), але і ў практычных мэтах. А самі этымалогіі вельмі многіх фразеалагізмаў з'яўляюцца яркім сведчаннем міжмоўных сувязей, што складваюцца гістарычна ў выніку разнастайных кантактаў паміж народамі.

## НЯСЕЯНАЕ РОДЗІЦЦА...

У многіх усходніх раёнах Беларусі шырока ўжываецца выраз *нясеянае родзіцца* (у каго), калі гавораць пра тых, хто выдумвае, сцвярджае што-небудзь без апоры на факты. Выраз фіксуецца ў маім дыферэнцыяльным слоўніку «З народнай фразеалогіі» (Мн., 1991), ілюструецца шэрагам прыкладаў. Вось адзін з іх, запісаны ў вёсцы Халіпы Горацкага раёна: «Я знаю, што ў іх нясеіныя родзіцца, і слухыць паетыму ні хачу».

Гэты выраз, прывычны з маленства, прыгадваецца мне досыць часта, калі па радыё ці тэлебачанні або проста з чыіх-небудзь вуснаў чую якую-небудзь лухту, бязглуздзіцу ці, чытаючы надрукаванае, натыкаюся на штосьці неаб'ектыўнае, не-дарэчнае.

Нядаўна Лідзія Арабей апублікавала ў часопісе «Полымя» (2003. № 4) вялікую нізку мініяцюр, абразкоў пад агульным загалоўкам «Пошукі ісціны». Адзін абразок называецца «Ад Пушкіна». Вось ён:

Як жа шмат згубіла руская мова з часоў Пушкіна! Некаторыя ідыёмы нам сёння і разгадаць цяжка. Напрыклад, з «Яўгенія Анегіна», дзе аўтар расказвае, што дзядзька Яўгенія ад суму «в окно смотрел и мух давил». Аказваецца, «мух давил» – выпіваў. Такая вось ідыёма. Ад яе да нас дайшло хіба – «пад мухай»... Таксама, як ідыёма «уважать себя заставил» азначала – памёр. Ну, падобна на тое, як сённяшняе – «приказал долго жить»...

Паўторым адзін з папярэдніх сказаў: «Аказваецца, «мух давил» – выпіваў». Пісьменніца не раскрывае сакрэтаў сваёй разгадкі ў «пошуках ісціны», не кажа, на падставе чаго робіцца такая выснова. Аказваецца – і ўсё на гэтым... Шостае пачуццё спрацавала... На самай жа справе і ранейшы чытач, часоў Пушкіна, і сённяшні слушна ўспрымае радок «в окно смотрел и мух давил» толькі ў звычайным, прамым значэнні гэтых слоў.

На тое, што тут няма ніякай ідыёмы, паказвае і больш шырокі кантэкст (страфа 3-я з 2-й главы «Яўгенія Анегіна»), і аўтарытэтны даведнік, створаны Інстытутам мовазнаўства АН СССР. Маецца на ўвазе 4-томны «Словарь языка Пушкина» (1956–1961). Тут у 1-м томе (с. 576) апісана слова *давить.* Яно мнагазначнае ў творах Пушкіна. 3-е значэнне – «раздавливая, уничтожать» – ужыта Пушкіным 4 разы і праілюстравана прыкладам: «Он в том покое поселился, // Где деревенский старожил // Лет сорок с ключницей бранился, // В окно смотрел и мух давил». У 2-м томе (с. 643) падаецца назоўнік *муха,* выкарыстаны Пушкіным 11 разоў і толькі ў яго адзіным значэнні – «насякомае». Між іншым, у тыя часы, пра якія ідзе гаворка, мух было куды больш, чым цяпер; прыгадаем гогалеўскія «эскадроны мух» або казку братоў Грым «Храбры кравец» (1814), дзе кравец адным махам забівае сем мух.

Увогуле ж у рускіх літаратурных тэкстах *пасляпушкінскага* перыяду (у творах Ф.Дастаеўскага, Д.Маміна-Сібірака, А. Чэхава) ужываўся фразеалагізм *муху раздавить* (*зашибить, задавить*) у значэнні «выпіць спіртнога». Узнікненне выразу звязана з карцёжнай гульнёй у муху (або «мушку»). Паводле В.У.Вінаградава, спачатку склаўся ў жаргонна-прафесійным асяроддзі карцёжнікаў і ваенных фразеалагізм *забіць муху* (выпіць віна), а затым на яго аснове азначальны выраз *з мухай.* Апошні першапачатко-ва абазначаў «з выйгрышам, з перамогай пры гульні ў муху», а пасля стаў характарызаваць стан нецвярозага чалавека. Пазней на базе выразу *з мухай* складваецца фразеалагізм *пад мухай,* мадэллю для якога маглі паслужыць аналагічныя ўтварэнні тыпу *пад чаркай.* Як ужо было паказана раней,

у пушкінскім радку «в окно смотрел и мух давил» і пад мікраскопам нельга ўбачыць нават намёку на фразеалагізм.

Л.Арабей у памянёным вышэй абразку залічвае ў ідыёмы і яшчэ адно словазлучэнне. Дарэчы, пра яго яна пісала і раней (ЛіМ. 10.10.1997) у карацельцы «Уважать себя заставил...». Паўторым яе цалкам:

Я пыталася шмат у якіх паэтаў, празаікаў: як разумеюць яны пушкінскія радкі з «Яўгенія Анегіна»:

Мой дядя самых честных правил,
Когда не в шутку занемог,
Он уважать себя заставил...

Вось гэта як разумеюць: «уважать себя заставил»? І ўсе мне казалі, што разумеюць буквальна *(па-беларуску трэба – літаральна. – І.Л.):* прымусіў сябе паважаць. А на самай справе ў часы Пушкіна гэта была ідыёма, па сэнсе такая, як «приказал долго жить», «сыграл в ящик». Карацей кажучы – памёр. І гэта трэба ведаць у першую чаргу перакладчыкам.

Пры ўсёй пашане да вядомай пісьменніцы мусіш насцярожыцца: катэгарычнасць яе сцвярджэння рызыкоўная. Калі *он уважать себя заставил* абазначае «ён памёр», то ці ж кантактуе гэта з двума папярэднімі радкамі і як тады разумець чарговы, чацвёрты, радок гэтай анегінскай страфы? А ён такі:

И лучше выдумать не мог.

Атрымліваецца няўвязка, лагічная нестыкоўка, неяк канцы з канцамі не сыходзяцца. І гэта пярэчыць творчай манеры Пушкіна, для якога, паводле ягонага вызначэння, дакладнасць і сціслась – найпершыя вартасці літаратуры.

Далей ідзе радок:

Его пример другим наука.

Тут ужо міжволі ўсклікнеш: «Барані божа! Якая жорсткасць!.. Няхай людзі жывуць...»

Не, як з папярэдніх радкоў, так і з далейшага тэксту гэтай жа страфы выразна відаць, што дзядзька не памёр, што ён толькі хворы:

Но, боже мой, какая скука
С больным сидеть и день и ночь,
Не отходя ни шагу прочь!
Какое низкое коварство
Полуживого забавлять,
Ему подушки поправлять,
Печально подносить лекарство,
Вздыхать и думать про себя:

Когда же черт возьмет тебя!

Уся пададзеная вышэй страфа рамана – гэта думкі «маладога гулякі» Анегіна, які па раптоўным выкліку свайго хворага дзядзькі імчаўся да яго, употай спадзеючыся стаць спадкаемцам дзядзькавага маёнтка. Пакуль Анегін едзе («летит в пыли на почтовых»), аўтар робіць рэтраспектыўны экскурс, знаёміць чытача са сваім героем, расказвае пра яго мінулае. І толькі ў 52-й страфе вяртае нас да таго, з чаго пачаў свой раман. Аказваецца, як ні спяшаўся Анегін, але, «прилетев в деревню дяди»,

Его нашел уж на столе,
Как дань готовую земле.

У згаданай карацельцы сцвярджаецца, што ў часы Пушкіна была ідыёма *уважать себя заставил* са значэннем «памёр». Не, не было такой ідыёмы, таму яе і не падаюць тагачасныя акадэмічныя слоўнікі рускай мовы (1794, 1822, 1847). Калі б яна была, яе абавязкова ўключыў бы ў свае знакамітыя працы У.Даль, які, дарэчы, быў сябрам Пушкіна і на руках якога памёр паэт пасля дуэлі. Калі б нават такая ідыёма і існавала, то ў кантэксце прыведзенай страфы яна недарэчы. Названы раней «Словарь языка Пушкина» апісвае на сваіх алфавітных месцах кожнае з трох слоў асобна *(уважать, себя, заставить)* і ўсякі раз дае, побач з іншымі, спасылкі на раман «Яўгеній Анегін»: 1, 1, 3, г.зн. першая глава, першая страфа, трэці радок.

Л.Арабей сваё, нібыта пераноснае, фразеалагічнае, але, як паказана, недакладнае разуменне спалучэння *уважать себя заставил* раіць «ведаць у першую чаргу перакладчыкам». Штосьці не чуваць, каб хто-небудзь з нашых паэтаў зноў узяўся за пераклад «Яўгенія Анегіна» пасля таго, як гэта зрабіў (лічаць: на высокім узроўні) А.Куляшоў. Гэты пераклад паэт уключаў і ў Зборы сваіх твораў. Вось першыя радкі ў перакладзе А. Куляшова:

Мой дзядзька правіл без заганы,
Калі не жартам занямог,
Усіх прымусіў да пашаны
І лепей выдумаць не мог.

Як бачым, А.Куляшоў таксама ўспрыняў сэнс памянёнага спалучэння літаральна і адназначна. Як і павінна быць.

Памылковае ж атаясамліванне гэтага спалучэння, як і папярэдняга *(мух давил),* з неіснуючай ідыёмай не на карысць не толькі перакладчыкам, але і звычайным чытачам, асабліва студэнтам ды вучням, якіх у такім разе можна ўвесці ў зман.

Нясеянае родзіцца... Зноў гэты народны фразеалагізм прыходзіць на думку, калі чытаеш такі ўрывак з нядаўна апублікаванага рамана А.Казлова «Мінск і воран, Парыж і здань»: «Трэба, як гавораць англічане, «to call a spade a spade», што значыць называць рыдлёўку рыдлёўкай, а па-нашаму, па-славянску, адпавядае просценькаму выразу, каб рэчы называліся сваімі імёнамі». Героі рамана – беларусы, і дзеянне адбываецца ў Беларусі (а пасля і ў Парыжы). Найперш здзіўляе гэтае «па-нашаму, па-славянску». Навошта ж такое атаясамліванне? Далёка не ўсе славяне ўжываюць выраз «называць рэчы сваімі імёнамі» менавіта ў такой гукавой абалонцы. Напрыклад, па-руску ён гучыць так: «называть вещи своими именами», па-ўкраінску: «називати речі їх іменами», па-польску: «nazywać rzeczy po imieniu» і г.д. А самае недарэчнае ў прыведзеным урыўку, дык гэта тое, што не такі ўжо і «просценькі» гэты выраз і не такі ўжо ён «наш, славянскі». Ён кніжны і прыйшоў да нас і ў іншыя славянскія мовы як калька з французскай мовы: *appeler les choses par leurz noms.*

У артыкуле Галіны Тычкі «Магія слова» (Крыніца. 1995. № 3) ёсць упамінак пра «наркатычную захопленасць друкаваным словам чычыкаўскага фурмана Восіпа». Працытаваны ўрывак мае зашмат ляпсусаў. Фурманам у Чычыкава быў не Восіп, а Селіфан. Восіп жа – гэта ўжо, як кажуць, з другой оперы. Ён герой іншага гогалеўскага твора («Рэвізор»), слуга Хлестакова. А «высакародны нахіл да чытання кніг, зместам якіх не турбаваўся», меў не фурман і не Восіп, а лакей Пятрушка. «Ему нравилось не то, о чем читал он, но больше самое чтение, или, лучше сказать, процесс самого чтения, что вот-де из букв вечно выходит какое-нибудь слово, которое иной раз черт знает что и значит». Наўрад ці можна такое чытанне называць «наркатычнай захопленасцю друкаваным словам».

У.Караткевіч у эсэ «Сцюдзёная вясна, або 1000 год і 7 дзён» з абурэннем піша пра некаторыя маўленчыя факты з той жа сферы «нясеянае родзіцца»:

Падумайце аб лёсе песні палескай. Бо вось рукой падаць да Тонежа, а з цеплахода абражае хаты і Прыпяць надрыўна барабанны пошчак і голас (ну, дакладна, як у тым віску): «Гю-ю-ю-ййны». А пасля невялікага перапынку нешта яшчэ:

Вы слыхали, как поют дрозды?
Нет, не те дрозды, не полевые,
А лесные, русские дрозды,
Певчие избранники России.

Тут проста ў кожным слове абраза здароваму сэнсу. Нават навуцы аб птушках. Таму што няма ні стэпавых, ні палявых драздоў.

Усе – лясныя. А палявы дрозд – такая самая абракадабра, як ледніковы заяц або горны гіпапатам.

Ад паэтаў, вядома, цяжка патрабаваць логікі. Глушэц «шчоўкае» і «скшыжыкае», але ніяк не «плачет со звонами». Гівал (івалга), хоць усё жыццё чакай, не «схоронится в дупло» і не стане «плакать».

Але тут ёсць адна вялікая розніца. Гэта Ясенін, паэзія, і «што вольна ваяводзе, то...».

Паяснім асобныя мясціны з выказвання У.Караткевіча. Страфа пра драздоў – з песні на словы С.Астравога, а ў размове пра глушца і івалгу маюцца на ўвазе наступныя радкі з безназоўнага верша С.Ясеніна:

Выткался на озере алый цвет зари.
На бору со звонами плачут глухари.
Плачет где-то иволга, схоронясь в дупло.
Только мне не плачется – на душе светло.

А «што вольна ваяводзе, то...» – гэта недагавораная У.Караткевічам польская прыказка «Co wolno wojewodzie, to nie tobie, smrodzie». Дарэчы, гэту прыказку сустракаем і ў «Дрыгве» Я.Коласа: «– Я думаў, што ў «дэмакратычнай» панскай Польшчы права судзіць дано ўсім, – іранічна заўважыў Нявідны.

– Што можна ваяводзе, то не тобе, смродзе, – так жа спакойна адказаў следчы.

– Дасканалая «дэмакратычная» прыказка,– засмяяўся Нявідны»

«Адна вялікая розніца»,— піша У.Караткевіч. А вельмі часта ўжываюць і такое трафарэтнае спалучэнне: *дзве вялікія розніцы.* Ды яшчэ з неадменнай дзівацкай дабаўкай... Справа ў тым, што па маскоўскім тэлебачанні ў неаднойчы паўторанай праграме з удзелам артыста М.Жванецкага гэта спалучэнне прагучала з дадаткам «як кажуць у нас у Адэсе». Сказанае прынялі за чыстую манету, і цяпер у друку ўжыванне гэтага спалучэння абавязкова суправаджаецца дабаўкай пра Адэсу. Напрыклад, у аповесці І.Навуменкі «Вір» чытаем: «Яго завуць Аляксандрам (а не Грышкам), і гэта, як гаворць у Адэсе, дзве вялікія розніцы». Або ў «Зацемках...» Л.Галубовіча: «Гэта ж дзве вялікія розніцы, як баюць у Адэсе». Ці яшчэ: 1) Расія і Беларусь – гэта дзве вялікія розніцы, як кажуць у Адэсе (Л.Гразнова); 2) У Еўропе ўведзена прынцыпова новая валюта – еўра. У нас жа не ўводзіцца нейкая агульная валюта саюзнай дзяржавы, а расійскі рубель у Беларусі. А гэта, як сказалі б у Адэсе, дзве вялікія розніцы (А.Драбчук). Але так гаварылі і гавораць не толькі ў Адэсе. Так казаў у 1918 г. і Мікіта Зносак з Купалавых «Тутэйшых»: «Меджду протчым, не раздаю, а прадаю, а гэта вялікія дзве розніцы».

Адны фразеалагізмы хоць часам і жывуць ужо многія стагоддзі, але і сёння ўспрымаюцца як жывыя, часцей метафарычныя, радзей метанімічныя ці сінекдахічныя ўтварэнні. Недакладнасці пры іх ужыванні, неапраўданыя парушэнні іх нарматыўнасці параўнальна рэдкія.

Другія ж страцілі сваю былую вобразнасць, але па-ранейшаму актыўна ўжываюцца ў маўленні. Такім пасівелым ад часу метафарам уласцівы «даволі жорсткія ўмовы ўзнаўляльнасці» (Л.І.Скварцоў). Няведанне або прыблізнае веданне фразеалагічнай нормы спараджае шматлікія памылкі разнастайнага характару, якія, трапіўшы на старонкі кніг, часопісаў, газет, часам становяцца як бы ўзорам для некаторых носьбітаў мовы.

Адзін матэрыял, змешчаны ў газеце «Народная воля» (11.02.1998), мае надрукаваны буйнымі літарамі загаловак «Рана біць у фанфары». Тут сутыкаемся з фразеалагічным гібрыдам, нічым не апраўданым зліццём, аб'яднаннем двух выразаў у адзін: *біць у літаўры* + *трубіць у фанфары.* Абодва выразы сінанімічныя і абазначаюць «празмерна хваліцца чым-небудзь». Фанфарай называюць, як вядома, медны духавы інструмент у выглядзе падоўжанай трубы. Ніхто ніколі не б'е ў фанфары (у прамым значэнні гэтых слоў), у іх толькі трубяць.

Крыху падобную кантамінацыю, зліццё частак двух фразеалагізмаў, толькі аднаго – рускага (*кишка кишке кукиш кажет*), а другога – беларускага (*кішкі марш іграюць*), знаходзім у рамане Л.Дайнекі «Людзі і маланкі»: «Праскоўя на фабрыцы працуе, трохі зарабляе, ды я свой салдацкі паёк прыношу. Перабіваемся. Як кажуць: кішка кішцы марш іграе». Тут яшчэ ёсць і стылеўказальная ці засцерагальная агаворка *як кажуць,* але менавіта т а к не кажуць ні ў літаратурнай, ні ў дыялектнай мове. Сустрэўся і самачынны «вольны пераклад» памянёнага рускага фразеалагізма: «Калі кішка кішцы дулю будзе паказваць, то не наўме будзе бунтаваць» (Р.Сабаленка). Пры такім перакладзе выраз страчвае свае мастакія якасці – алітэрацыйную згушчанасць гука *к* і тую каламбурную гульню слоў, пра якую пісаў М.Горкі: «Звяртаючы ўвагу аднаго літаратара, аўтара вялікага рамана, на тое, як з двух слоў, неасцярожна пастаўленых побач, утвараецца непатрэбнае і, часта, смешнае трэцяе, я напомніў яму прымаўку: «Кишка кишке кукиш кажет». Ён апублікаваў гутарку са мною і паўтарыў прымаўку ў такім выглядзе: «Кишка кишке кажет кукиш», не заўважыўшы, што з двух апошніх слоў прымаўкі трэці раз створана «кишка-же», – моўная гульня, якая і робіць прымаўку цікавай

акрамя яе вобразнасці. Такая глухата вельмі звычайная ў маладых пісьменнікаў».

А.Звонак у вершы «Беларускія жанчыны» піша: «Гэта ваша бессмяротнасць увасоблена ў Харужай, з вашай мужнасцю Мазанік меч дамоклаў узняла!» Тут, з парушэннем элементарнай логікі, аб'яднаны два сэнсава несумяшчальныя фразеалагізмы: *узняць меч* (выступіць са зброяй супраць каго-небудзь) і *дамоклаў меч* (пастаянная небяспека, неадступная пагроза).

Выраз *лебядзіная песня* з'яўляецца калькай з грэчаскай мовы (*kukneion asma*). Яго ўзнікненне звязана з павер'ем, што лебедзь спявае адзін раз у жыцці – перад самай смерцю. Відаць, павер'е мае пад сабой грунт: як сведчаць вучоныя-заолагі, уздыхі раненага лебедзя нагадваюць песню. Гэтым фразеалагізмам называюць апошні, найбольш значны твор каго-небудзь, апошнюю праяву таленту, здольнасцей. А ў наступных прыкладах у выраз укладваецца нейкі іншы, ненарматыўны, незразумелы сэнс: 1) Агонь любові! Я на ім спалю адчай сумневу шараю гадзінай. Ад нараджэння гэтую зямлю мне славіць песняй лебядзінай (Т.Мельчанка); 2) Над вузкім шнуром сагнуўшыся, хадзіла-блудзіла вясна маёй бабы Франусі песняй лебядзінай (Д.Бічэль-Загнетава).

Дзеянне ў рамане Л.Дайнекі «Меч князя Вячкі» адбываецца ў XII ст. У адным з эпізодаў расказваецца, як аднойчы «заўважыла княгіня, што маленькая князёўна і маленькі смерд Мірошка сябруюць між сабой... «– Крапіўнае семя, – аж задыхнулася Дабранега. – Як смее гэты брудны смерд набліжацца да княжацкай дачкі?..» У сучасных фразеалагічных слоўніках як рускай, так і беларускай моў выраз *крапіўнае семя* падаецца з паметкай «устарэлы» як пагардлівае абазначэнне чыноўнікаў — кручкатвораў і хабарнікаў. Таму здзіўляешся: няўжо ў XII ст. гэты выраз абазначаў нешта іншае? І яшчэ: а ці існаваў ён наогул у тыя часы?

Твор гістарычнага плана не павінен перанасычацца архаічнымі, незразумелымі моўнымі сродкамі. Разам з тым у ім нельга ўжываць такія словы, фразеалагізмы, прыказкі, якія выразна ўспрымаюцца як храналагічна неадпаведныя пэўнай эпосе. Інакш кажучы, пісьменнік павінен «адчуваць узрост кожнага слова» (С.Я.Маршак) і фразеалагізма. Вальтэр Скот, неперасўзыдзены майстар гістарычнага рамана, слушна лічыў, што ў творы пра даўнейшую эпоху нельга дапускаць слоў і выразаў сучаснага паходжання. Ён пісаў, што адна справа выкарыстоўваць мову і пачуцці, аднолькава ўласцівыя і нам, і нашым продкам, другая – навязваць ім перажыванні і мову, характэрныя толькі для іх нашчадкаў.

Несумненным фразеалагічным анахранізмам трэба лічыць выраз *з калена выламаць,* выкарыстаны ў згаданым рамане Л.Дайнекі:

– Дабраслаўчык, ці не дасі мне трут? Я свой згубіў.

– Што я табе з калена выламлю? – вылаяўся Дабраслаў, і воі адышлі ад вазоў.

Празмернае асучасніванне мовы персанажаў адчуваецца і пры ўжыванні іншых моўных сродкаў. Напрыклад: «Ды рана радавалася Гарэлая Весь... Толькі паменела снегу ў пушчы і на рэках, як прыйшла ў Свіслацкае княства дружына друцкіх князёў. Кажуць жа людзі: *куды конь з капытом, туды і рак з клюшняй...* Другчане палезлі на вал, але сустрэў іх Рагвалод стрэламі калёнымі, каменнямі-галышамі з камнястрэльнай машыны, смалой і агнём». Выкарыстаная тут прыказка – парэміялагічны анахранізм. Да таго ж ужыта яна не з тым значэннем, якое замацавалася за ёй у народнай мове. Яе звычайны сталы сэнс — «за старэйшым і больш вопытным, пераймаючы яго, цягнецца і маладзейшы, нявопытны». У другім рамане Л.Дайнекі – «След ваўкалака» – апісаны падзеі XI ст.; адзін прыклад:

– Цябе ж маглі забіць у лесе... Ведаеш, колькі ў цябе ворагаў?

– Гэта і вожык ведае.

Адразу кідаецца ў вочы і рэжа вушы непрыдатнае ў гэтым кантэксце, анахранічнае «і вожык ведае» — нядаўна ўзніклае, скалькаванае з рускага «и ежу известно».

За адным заходам прывядзём прыклады лексічных анахранізмаў — з рамана Г. Далідовіча «Гаспадар-камень». Стары селянін (дзеянне адбываецца ў сакавіку-чэрвені 1914 г.) кажа: «Цяпер жа страшнейшая вайна будзе, чым крымская ці японская. Усе кулямётаў, танкаў, аэрапланаў, падводных лодак, газу і яшчэ ўсякай халеры нарабілі ды назапасілі». Сярод слоў, укладзеных у вусны персанажа-селяніна, ёсць і такія, якіх у той час не было і не магло быць, як і не было яшчэ саміх рэалій, абазначаных гэтымі словамі. Кулямёты ўжо выкарыстоўваліся, пачынаючы з англа-бурскай вайны 1899– 1902 гг. Былі і падводныя лодкі, а таксама аэрапланы (праўда, напярэдадні вайны 1914–1918 гг. яны ляталі са скорасцю толькі каля сотні кіламетраў у гадзіну). А што да танкаў, то яны ўпершыню выкарыстаны англічанамі ў 1916 г. Не мог персанаж-селянін нічога ведаць і пра газы (атрутныя рэчывы), бо яны ўпершыню былі ўжытыя нямецкімі войскамі 22 красавіка 1915 г. каля бельгійскага горада Іпр (адсюль і назва атрутнай хімічнай зброі – *іпрыт*).

Вернемся зноў да недарэчна скарыстаных фразеалагізмаў.

Фразеалагізм *падымаць* (*узнімаць*) *на шчыт* абазначае «залішне расхвальваць каго- ці што-небудзь». Ён скалькаваны з нямецкага

*aux den Schield heben* першапачаткова меў значэнне «зрабіць правадыром». Выток фразеалагізма – звычай старажытных германцаў: выбраўшы на полі бою правадыра, яны ўзнімалі яго на шчыт, каб усе навакол бачылі, каго выбралі. У «Настаўніцкай газеце» (17.10.1987) выраз ужыты з парушэннем семантычнага характару: «Усе вострыя праблемы выхавання трэба было падымаць на шчыт гадоў дзесяць назад. А мы пляскалі ў далоні па прычыне і без прычыны».

Пра сэнс і гісторыю ўзнікнення фразеалагізма *пракрустава ложа* ведаюць, бадай, усе, пачынаючы са школьнікаў. Першы, прыметнікавы кампанент не ўжываецца па-за межамі фразеалагізма. У акадэмічным пяцітомным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» на сваім алфавітным месцы пададзена так: «**Пракрустаў**, -ава; у выразе: **пракруставa ложа**, *гл.* ложа. А вось у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» (22.06.1984) чытаем: «Памеры для перыёдыкі – усё ж не тое, каб пракруставы межы, але... Толькі б пагаварыць, а тут закругляцца трэба».

На гэтым варта спыніцца, хоць у мяне ёсць яшчэ сотні выпісак з друкаваных крыніц – прыкладаў з «адмоўным маўленчым матэрыялам» (Л.У.Шчэрба), якія так ці інакш кантактуюць з сэнсавай структурай выразу *нясеянае родзіцца* і шкодзяць культуры беларускага літаратурнага маўлення.

## *НА БЕЛАРУСІ* ЦІ *Ў БЕЛАРУСІ*?

Часопіс «Роднае слова» (1999. № 10. С. 92–94) змясціў артыкул «*На Беларусі* ці *ў Беларусі*», у якім робіцца выснова, што «словазлучэнне *на Беларусі* – натуральная, заканамерная адмысловая сінтаксічная канструкцыя ў беларускай мове» і што яе «шырока выкарыстоўвае сучасны нацыянальны друк». Як пацвярджэнне прыводзіцца тры прыклады з перыёдыкі на спалучэнне *на Беларусі* (аўтары – Т.Грыб, Э.Зайкоўскі, С.Законнікаў). Дадаецца, што «выкарыстоўвалі гэтую канструкцыю і класікі беларускай літаратуры, да прыкладу, чытаем у Янкі Купалы: *Да сягоння жыве памяць / Аб злым гэтым дусе / На ўсёй чыста Украіне / І на Беларусі*».

Тут адразу напрошваецца некалькі контраргументаў.

Па-першае, у Купалавай страфе нельга ўжыць *у Беларусі*, бо гэта парушыла б рытмамеладычны лад і паралелізм пабудовы апошніх двух радкоў. Дарэчы, паэт шырока скарыстоўвае абедзве канструкцыі. Вось прыклады (скарочаныя) з кнігі «Жыве Беларусь» (1993): у гэтым краі, *у Беларусі*; кожнае лета праводзіць *у Беларусі*;

Мураўёў гаспадарыў *у Беларусі*; праз два гады *на Беларусі*; будзе *на Беларусі* не такое свята; дык жа ўцям: *на Беларусі* жывуць беларусы.

Па-другое, «сучасны нацыянальны друк» (і ранейшы) выкарыстоўвае і *на Беларусі*, і *ў Беларусі*. Апошняе спалучэнне, хутчэй за ўсё, больш частотнае. Так, у сталай калонцы «Кола дзён» газеты «ЛіМ» (5.05.2000) тройчы ўжыта *ў Беларусі: Цяпер мяркуйце самі, каму ў Беларусі жыць добра; На сённяшні дзень у Беларусі...; І ўсё ж у Беларусі...* Некалькі прыкладаў на гэта спалучэнне з твораў аўтарытэтных аўтараў: 1) *У Беларусі* прафесійным літаратарам ёсць Васіль Быкаў. Быў прафесіяналам і Уладзімір Караткевіч (Р.Барадулін); 2) *У Беларусі* таксама ёсць, вядома ж, і таленавітыя, і добра падрыхтаваныя прадстаўнікі гэтай катэгорыі літаратараў... (Я.Брыль); 3) Іван... і на фронце *ў Беларусі* ўспамінае свае «далёкія сенажаці, роднае поле...» (Дз.Бугаёў); 4) Толькі *ў Беларусі* за час яжоўска-берыеўскіх рэпрэсій 30-х гадоў знішчана каля двух мільёнаў чалавек (В.Быкаў); 5) «*У* адроджанай эканамічна *Беларусі*, – пісаў Г.Гарэцкі, – закрасуюць мастацтва, навука, закрасуе беларуская мова» (А.Вярцінскі); 6) Па-дурному зразуметы ў нас, *у Беларусі*, «інтэрнацыяналізм» дагэтуль не дае цвяроза паглядзець на рэальны стан рэчаў у сферы міжнародных адносін (Н.Гілевіч); 7) Я раздумваў над тым, якім павінен быць рускі буквар *у Беларусі*. Не той усесаюзны рускі буквар, якім карысталіся *ў Беларусі* і ў якім, зразумела, нічога не было пра Беларусь (А.Клышка); 8) Мала *ў Беларусі* / Разумных гісторыкаў, / Якія любяць і ведаюць / Родную гісторыю (П.Панчанка). Можна працягваць і працягваць аналагічныя прыклады з твораў гэтых і шмат якіх іншых аўтараў.

Па-трэцяе, праблема функцыянавання шматлікіх прыназоўнікава-склонавых канструкцый з прасторавым значэннем дэталёва і на вялізным фактычным матэрыяле даследавана прафесарам М.С.Яўневічам у яго вядомай манаграфіі «Сінтаксічная сінаніміка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове» (1977). Ёсць у гэтай кнізе і апісанне спалучэнняў *у Беларусі* і *на Беларусі*. Яны слушна кваліфікуюцца як сінанімічныя, узаемазамяняльныя. «Сэнсавыя адрозненні паміж імі настолькі нязначныя, што пры выбары канструкцыі з *у* ці *на* яны амаль не ўлічваюцца. Аднак пры выкарыстанні гэтых спалучэнняў варта мець на ўвазе, што прыназоўнікава-склонавая форма *на Беларусі* паводле значэння блізкая да спалучэння *на тэрыторыі Беларусі*, а *ў Беларусі* – да спалучэння *ў Беларускай рэспубліцы*» (с. 234).

У вуснай народнай творчасці таксама можна напаткаць выпадкі раўнапраўнага, варыянтнага ўжывання гэтых канструкцый; напрыклад, у акадэмічным выданні «Прыказкі і прымаўкі ў дзвюх

кнігах» (1976); *На Белай Русі (у Беларусі) пчолы як гусі, рэзгінамі мёд носяць* (с. 68).

Калі прыназоўнікава-склонавая форма разрываецца залежным ад назоўніка азначэннем, то выкарыстоўваецца толькі канструкцыя *ў... Беларусі,* замяніць якую іншай (з прыназоўнікам *на*) нельга: 1) І словам я сцверджу усё, што люблю / Ў народзе сваім і *ў* сваёй *Беларусі* (П.Панчанка); 2) Важнейшыя дакументы паміж сабой падзялілі, каб вывозіць прасцей было, – і думалі дзе-колечы *ў* Заходняй *Беларусі* затрымацца («Маладосць»); 3) Мясцовае [крымскае] радыё, газеты ва ўсе званы званілі, якое добрае жыццё *ў* братняй *Беларусі*, пенсіі і заробкі выдаюцца своечасова («Народная воля»).

У часопісным артыкуле, згаданым напачатку, гаворыцца, што «прыназоўнік *на* мае куды больш шырокае выкарыстанне ў беларускай мове параўнальна з рускай, дзе яму нярэдка адпавядае прыназоўнік *в*», і што «ў шэрагу выпадкаў словазлучэнні з прыназоўнікам *у* механічна пераносяцца з рускай мовы (канструкцыі з прыназоўнікам *в*)». Але дастаткова знайсці ў ТСБМ апісанне прыназоўнікаў *у* і *на*, як становіцца відавочным, што прыназоўнік *у* больш функцыянальна нагружаны, чым *на*, перадае аж 14 розных семантычных адносін (*на* – 11) і што яго лексікаграфічная распрацоўка займае ў слоўніку куды большую плошчу, чым апісанне *на*.

А што да таго, як у нашай мове склаліся паралельныя спалучэнні *ў Беларусі* і *на Беларусі,* дык тут не ўсё так проста, як здаецца, і гаварыць пра «механічнае перанясенне з рускай мовы» канструкцыі *ў Беларусі* наўрад ці ёсць падставы.

У дачыненні да ўсіх дзяржаў свету для выражэння прасторавых адносін ужываецца пры назве краіны прыназоўнік *у*: *у Індыі, у Польшчы, у Францыі, у Грузіі, у Літве* і г.д. Выключэнне складаюць толькі Украіна і Беларусь: *на Украіне, на Беларусі.*

Самі ўкраінцы ў дасавецкі час не гаварылі, што яны жывуць *на Украіне.* Ужывалі толькі: *в Україні.* І Тарас Шаўчэнка ў 1847 г. пісаў: *Мені однаково, чи буду / Я жить в Україні /, чи ні.* Або: *Сю ніч будуть в Україні / Родиться близнята. / Один буде, як той Гонта, / Катів катувати!* Спалучэнне *на Украіне*, хутчэй за ўсё, узнікла ў Расіі. Пасля таго як Украіна стала часткай Расійскай імперыі, слова *Украіна* пачалі (з шавіністычных пазіцый) атаясамліваць з *окраиной (ускраінай).* Па аналогіі з *на окраине* стала ўжывацца *на Укра́ине* (Украйне) – з пераносам націску з трэцяга на другі склад. Напрыклад, у паэме Пушкіна «Палтава» 9 разоў выкарыстана *Украйна* ў розных склонавых формах: *Украйна глухо волновалась; И перенес войну в Украйну; Но независимой державой / Украйне быть уже пора* і г.д.

Параўнаем і ў аповесці Гогаля «Тарас Бульба»: *Начались разыгрываться схватки и битвы на Украйне за унию.* Хоць першае ўпамінанне назвы *Украіна* фіксуецца летапісцамі ў 1189 г., яшчэ задоўга да ўпамінку пра Маскоўскае княства (там тады яшчэ ваўкі вылі), але на гэта не зважалі. Нават на пачатку XX ст. адзін з губернатараў у рапарце міністру ўнутраных спраў Расіі прапаноўваў слова *Украіна* «тлумачыць як «окраину» Расійскай дзяржавы з даўніх часоў». А ў савецкі перыяд, як піша прафесар Я.Радзевіч-Вінніцкі ў кнізе «Україна: від мови да нації» (1997), «ужыванне прыназоўніка *в* са словам *Україна* кваліфікавалася як буржуазна-нацыяналістычнае» (с. 32).

Можна меркаваць, што прыназоўнікава-склонавая форма *на Беларусі* сфармавалася пад уплывам *на Украіне*. Прыгадаем, дарэчы, словы Сталіна: «Белоруссия — не просто *окраина* нашей державы. Она – форпост социализма на западе страны» (гл.: Полымя. 2000. № 2. С. 84).

Характэрна, што ў сённяшняй Украіне рашуча адмовіліся ад навязанай ім канструкцыі *на Украіне*. Два прыклады. У кнізе «Мова і нація» (1994) В.Іванішына і Я.Радзевіча-Вінніцкага дзесяткі разоў сустракаем *в Україні* і ніводнага – *на Україні: Уже другий раз у нашому столітти в Україні йде мова про українізацію* (с. 195). А вось урывак з парламенцкай газеты «Голос України» (9.04.1996): «Однойменне аповідання друковалося в Україні; Фільм, правда, заборонений для прокату в Білорусі. Я дуже радий, що в Україні становище не таке безнадійне». Сёння ва ўкраінскіх сродках масавай інфармацыі ўжываюць толькі *в Україні*. Больш за тое, і ў сучасных рускіх, а таксама беларускіх тэкстах амаль ва ўсіх выпадках выкарыстоўваюць *в Украине, ва Украіне*.

З гэтага, аднак, не вынікае, што і мы не павінны ўжываць *на Беларусі*. Далейшы лёс паралельных спалучэнняў можа вырашыць толькі маўленчая практыка.

## ВАЛЕНТНА АБМЕЖАВАНАЕ ЗНАЧЭННЕ СЛОЎ

Часопіс «Роднае слова» (2003. № 9. С. 51) пад рубрыкай «Меркаванне мовазнаўцы» змясціў артыкул доктара філалагічных навук, прафесара В.І.Рагаўцова «Ці ёсць фразеалагічна звязанае значэнне?». Тут ставіцца істотнае тэрміналагічнае пытанне, звязанае з вузлавой праблемай лексікалогіі і лексікаграфіі – тыпамі лексічных значэнняў слова. Хочацца верыць, што пастаўленае пытанне не застанецца па-за ўвагай мовазнаўцаў. Адразу ж, са свайго боку, зазначу, што пра-

панаванае В.І.Рагаўцовым «перайменаванне» тэрмінаспалучэння цалкам прымальнае і надзённае. Варта, аднак, больш падрабязна спыніцца на сутнасці самога пытання, зрабіць экскурс у гісторыю гэтага тэрміна, прыгадаць адвольную яго інтэрпрэтацыю ў шматлікіх беларускіх навуковых, навучальных і метадычных працах.

Словы паводле іх семантыка-граматычнай спалучальнасці з іншымі словамі далёка не аднолькавыя. І гэта абавязкова ўлічваецца пры раскрыцці лексічнага значэння слоў.

Праблема свабодных і несвабодных значэнняў упершыню ў мовазнаўстве была пастаўлена і вырашана (у 1953 г.) акадэмікам В. У. Вінаградавым, які звязаў яе з «фразавым акружэннем» і сэнсавай структурай слова. Па ступені лексічнай спалучальнасці слова з кантэкстам вылучаюцца, паводле В.У.Вінаградава, такія тыпы лексічных значэнняў, як свабоднае намінатыўнае, фразеалагічна звязанае, сінтаксічна абумоўленае і канструкцыйна абмежаванае. Гл.: *Виноградов В.В.* Избр. труды: Лексикология и лексикография. – М., 1977.

Словы з намінатыўным значэннем свабодна ўступаюць у сувязь з іншымі словамі, але, зразумела, не з усімі: сувязі паміж словамі абумоўлены прадметна-лагічна, «прамымі логіка-рэчыўнымі адносінамі паміж прадметнымі значэннямі» (с. 135). Напрыклад, слова *агароднік* мае свабоднае значэнне і спалучаецца са словамі *малады, стары, высокі, ісці, рабіць, паліваць, даглядаць* і г. д. (пры немагчымасці нелагічных спалучэнняў з такімі, скажам, словамі, як *акіян, асфальт,* семантычна несумяшчальнымі з назоўнікам *агароднік,* бо яны не маюць з ім агульных паняццевых прымет).

Многія словы абмежаваныя ў сваіх сувязях не прадметна-лагічнымі адносінамі, а ўнутранымі семантычнымі заканамернасцямі моўнай сістэмы. Лексічныя значэнні гэтых слоў выяўляюцца толькі ў спалучэнні са строга акрэсленымі словамі. Такія значэнні В. У. Вінаградаў назваў фразеалагічна звязанымі. Існуе нямала аднавалентных па спалучальнасці слоў, здольных рэалізаваць сваё лексічнае значэнне толькі пры спалучэнні з адным пэўным словам. Напрыклад, прыметнік *прасёлачная* ўступае ў кантакт толькі са словам *дарога* і абазначае ‘грунтавая, паміж некалькімі населенымі пунктамі’; прыметнік *рабінавая* (у значэнні ‘навальнічная’) спалучаецца толькі са словам *ноч.* Некаторыя словы ўступаюць у сувязь з двума і больш словамі: *расквасіць* (нос, твар), *закадычны* (сябар, прыяцель).

Калі слова мнагазначнае, то адны яго значэнні могуць быць свабоднымі, а другія – фразеалагічна звязаныя. Так, мнагазначнаму прыметніку *кароткі* (мае 7 значэнняў і 5 адценняў) уласцівы такія фразеалагічна звязаныя значэнні: у словазлучэнні *кароткая памяць* –

‘кепская’, у словазлучэннях *кароткі прысуд, кароткае рашэнне* – ‘рашучы, хуткі, строгі’, у словазлучэннях *кароткі прыметнік, кароткае скланенне* – ‘які характарызуецца кароткай формай канчатка або адсутнасцю яго’.

Спалучэнні, у якіх адно слова мае фразеалагічна звязанае значэнне, В.У.Вінаградаў назваў фразеалагічнымі злучэннямі і ўключыў іх у фразеалагічны склад мовы, услед, так бы мовіць, за сапраўднымі фразеалагічнымі адзінкамі – зрашчэннямі (тыпу *вадзіць за нос* каго) і адзінствамі *(трымаць вуха востра).* «Фразеалагічныя злучэнні не з’яўляюцца безумоўнымі семантычнымі адзінствамі. Яны аналітычныя. У іх слова з несвабодным значэннем дапускае сінанімічную падстаноўку і замену, ідэнтыфікацыю» (с. 137). Такое значэнне цяжка раскрыць апісальным спосабам, бо «агульнае прадметна-лагічнае ядро не выступае ў ім так рэльефна, як у свабодным значэнні. Яно не выцякае ні з функцый марфемных частак слова (калі яно вытворнае), ні з адносін гэтага слова да рэальнай рэчаіснасці. Значэнне гэтага роду – «рассеянае»: яно схільна драбіцца на шэраг адценняў» (с. 177). Таму «часцей за ўсё такое значэнне не столькі апісваецца, колькі характарызуецца, асвятляецца шляхам падбору сінонімаў, якія могуць выказаць яго і замяніць у адпаведным словазлучэнні» (с. 135). У такім спалучэнні яго састаўныя часткі ўспрымаюцца як асобныя словы, кожнае са сваім лексічным значэннем. «Праўда, адно са значэнняў, што ўваходзіць у склад фразеалагічнага злучэння, ужыта ў несвабодным, звязаным значэнні і, значыць, не зусім самастойнае. Але і яно не страчвае тут сваёй семантычнай паасобнасці, адасобленасці, бо гэта несвабоднае слова лёгка можа быць заменена сінонімам» (с. 138): *закадычны сябар – блізкі сябар; праліўны дождж – моцны дождж; расквасіць нос – разбіць нос; насупіць бровы – нахмурыць бровы; патупіць вочы – апусціць вочы; зайздрасць узяла — зайздрасць ахапіла; царскі абед – багаты, пышны абед.* Падсумоўваючы гаворку пра такія і падобныя спалучэнні слоў, В.У.Вінаградаў пісаў: «Такім чынам, у фразеалагічным злучэнні лексічнае значэнне кожнага з кампанентаў лёгка вызначаецца. Гэта – няхай і несвабодныя, устойлівыя, але раскладальныя, семантычна падзеленыя злучэнні слоў» (с. 138).

Калі цяпер супаставіць тры тыпы фразеалагічных адзінак, вылучаныя В.У.Вінаградавым у артыкулах 1946–1947 гг., то вымалёўваецца такая карціна. Фразеалагічныя зрашчэнні і адзінствы, будучы цэласнымі, семантычна непадзельнымі адзінкамі, супрацьпастаўленымі паміж сабой паводле матываванасці-нематываванасці агульнага значэння, якасна адрозніваюцца ад так званых фразеалагічных злучэнняў тыпу *траскучы мароз, кароткая памяць,* у якіх адно слова

*(мароз, памяць)* мае свабоднае значэнне, а другое *(траскучы, кароткая)* – несвабоднае, звязанае. Фра-зеалагічныя злучэнні ўспрымаюцца ў агульнай схеме падзелу фразеалагізмаў як чужародныя, як з'явы рознага лінгвістычнага характару. І гэта, відаць, усведамляў В.У.Вінаградаў. Таму ў сваёй пазнейшай працы «Асноўныя тыпы лексічных значэнняў слова» (1953) фразеалагічна звязанае значэнне слова ён разглядаў як адзін з тыпаў лексічнага значэння слова сярод іншых тыпаў (свабоднага, сінтаксічна абумоўленага, канструкцыйна абмежаванага).

Супраць уключэння фразеалагічных злучэнняў у склад фразеалогіі пярэчыў яшчэ ў 1956 г. Б.А.Ларын: «Не бачу неабходнасці захоўваць трэцюю групу ў схеме акад. Вінаградава («фразеалагічныя злучэнні»), таму што сюды трапляюць выразы з мінімальнай ступенню ідыяматычнасці, якія знаходзяцца як бы на перыферыі сапраўдных фразеалагічных зваротаў, не маюць сваіх характэрных прымет» і з'яўляюцца, такім чынам, як і свабодныя словазлучэнні, аб'ектам вывучэння ў лексікалогіі і сінтаксісе. Ёсць шэраг іншых падобных выказванняў, а таксама значных даследаванняў, дзе абгрунтоўваецца беспадстаўнасць аднясення так званых фразеалагічных злучэнняў да фразеалогіі. Дарэчы, фразеа-лагічныя злучэнні не ўключаюцца ў сучасныя акадэмічныя і школьныя фразеалагічныя слоўнікі беларускай, рускай і ўкраінскай моў.

Нягледзячы на адзначаную відавочную супярэчнасць, тэрміны «фразеалагічнае злучэнне» і «фразеалагічна звязанае значэнне слова» шырока выкарыстоўваюцца ў рускім мовазнаўстве. Прычым характэрна, што амаль ва ўсіх падручніках і навучальных дапаможніках па рускай мове пры разглядзе паняцця аб фразеалагічна звязаным значэнні слова паслядоўна прытрымліваюцца тэарэтычных выкладак В.У.Вінаградава і ілюструюць гэтае паняцце такімі, напрыклад, словазлучэннямі: *чревато последствиями, щекотливое положение, безысходная тоска, скоропостижная смерть, карие глаза, вороная лошадь, преклонный возраст.*

Што да шматлікіх прац па беларускай мове, то ў іх можна назіраць неаднастайнае, расплывістае і няпэўнае, адвольнае разуменне гэтага паняцця. Па-першае, некаторыя аўтары лічаць што кожны кампанент любога фразеалагізма мае фразеалагічна звязанае значэнне. Напрыклад, у адным метадычным артыкуле чытаем: «З улікам матэрыялу па фразеалогіі лексічны разбор папаўняецца яшчэ адной характарыстыкай – слова з'яўляецца свабодным ці фразеалагічна звязаным, уваходзіць яно ў сказ, словазлучэнне ці ў фразеалагізм. Калі ўваходзіць у сказ, словазлучэнне, – слова свабоднае; у фразе-

алагізм – фразеалагічна звязанае». Сцвярджэнні, выказаныя ў прыведзенай цытаце, ні ў якім разе нельга прымаць як слушныя. Яны ўводзяць і настаўніка, і вучня ў зман. І гэта досыць лёгка заўважыць, калі ўзяць для разбору любы сказ, у складзе якога ёсць фразеалагізм, напрыклад: *Рытвінскага вельмі злавала думка, што нейкі хлапчук колькі часу вадзіў яго за нос* (С.Баранавых). Нелагічнасць папярэдніх сцвярджэнняў выяўляецца адразу ж: тут абодва кампаненты фразеалагізма ўваходзяць і ў сказ, і ў словазлучэнне *вадзіў яго за нос,* і ў фразеалагізм *вадзіў за нос* (каго). Гэты фразеалагізм, як і любы іншы, заўсёды выступае як будаўнічы матэрыял, як структурны элемент сказа і спалучаецца са словамі свабоднага ўжывання. Ён мае цэласнае значэнне 'падманваць, абяцаючы і не выконваючы што-небудзь, дзейнічаючы нядобрасумленна', якое абсалютна не звязана са значэннямі асобных кампанентаў, калі іх разглядаць на ўзроўні слоў.

Другі «пункт гледжання». У навуковым выданні «Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы» (1994) паняцце пра фразеалагічна звязанае значэнне ілюструецца прыкладамі-фразеалагізмамі *чорны дзень, наламаць дроў.* Пры гэтым у кампаненце *наламаць* штучна вылучаецца значэнне 'нарабіць памылак', уласцівае ўсяму фразеалагізму, а не яго асобнай частцы. Абодва кампаненты гэтага выразу, як і любога іншага, страцілі раней уласцівыя ім лексічныя значэнні, якія можна аднавіць толькі этымалагічным аналізам. Таму ў ТСБМ фразеалагізм *наламаць дроў* як выраз, семантычна не звязаны з сістэмай значэнняў, што належаць словам *наламаць* і *дровы,* вынесены ў канец слоўнікавага артыкула за знак ромба як асобная моўная адзінка, як аб'ект фразеалогіі. Падобную недакладнасць знаходзім і ў нядаўнім артыкуле В.П.Краснея «Асноўныя тыпы лексічных значэнняў слова» (Роднае слова. 2002. № 7. С. 53): «Фразеалагічна звязаным называецца такое лексічнае значэнне, якое выяўляецца толькі ў складзе ўстойлівых спалучэнняў слоў. Так, значэнне 'драмаць, то апускаючы, то ўзнімаючы галаву' дзеяслова *кляваць* выяўляецца толькі ў спалучэнні са словам *нос (кляваць носам);* значэнне 'мімаходам бачыць каго, што-небудзь' слова *край* рэалізуецца толькі ў спалучэнні са словам *вока (краем вока)».* Так і хочацца запытаць: а што ж тады застаецца на долю кампанентаў *носам* і *вока?!*

Трэці «пункт гледжання». У шмат якіх навучальных дапаможніках у раздзеле «Лексікалогія», дзе разглядаюцца тыпы лексічных значэнняў с л о в а, фразеалагічна звязанае значэнне ілюструецца чамусьці толькі прыкладамі-ф р а з е а л а г і з м а м і : *зубы прадаваць* 'смяяцца', *зубы з'есці* 'напрактыкавацца', *лынды біць, даць пытлю, тачыць балясы* і інш. У такім разе змешваюцца два моўныя ўзроўні і

зусім неадна-тыпныя моўныя з’явы, пераносіцца на ўласна фразеалагізмы тое, што характэрна толькі для так званых фразеалагічных злучэнняў. Калі прызнаць, што словы-кампаненты ў фразеалагізме *тачыць балясы* маюць фразеалагічна звязанае значэнне, то заканамерна вынікае пытанне: а які менавіта сэнс мае кампанент *тачыць* і кампанент *балясы?* Гэта ж адносіцца і да любога іншага зрашчэння ці адзінства. Напрыклад, у фразеалагізме *зубы з’еў* (на чым, у чым), што значыць ‘мае вялікі вопыт, навыкі ў чым-небудзь’, лексічным (дакладней, фразеалагічным) значэннем валодаюць не яго паасобныя кампа-ненты, а ўвесь выраз у цэлым: *Я, малады чалавек, зубы з’еў на планіроўках* (І.Шамякін).

Такая блытаніна спараджаецца, хутчэй за ўсё, наяўнасцю кампанента «фразеалагічна» ў састаўным тэрміне «фразеалагічна звязанае значэнне», што міжвольна выклікае асацыяцыю з фразеалогіяй. Аднак, як ужо было паказана, паміж уласна фразеалагізмамі і двухкампанентнымі спалучэннямі тыпу рускага *чревато последствиями* ці беларускага *рабінавая ноч* няма нічога агульнага, апрача ўстойлівасці і ўзнаўляльнасці. Але ж «у мове ўсё ўстойлівае і ўсё ўзнаўляльнае» (А.І.Малаткоў).

Звернемся цяпер да тыпаў фразеалагічнага значэння. «Сукупнасць усіх мажлівых спалучэнняў фразеалагізма са словам (словамі) характарызуе спалучальныя, валентныя ўласцівасці фразеалагізма» (У.П.Жукаў). Зазначым, між іншым, што тэрмін «валентнасць» найчасцей ужываецца ў хіміі. Ім называюць уласцівасць атама аднаго элемента далучаць да сябе пэўную колькасць атамаў другога элемента. Тэрмін шырока ўжываюць і ў мовазнаўстве, дзе ён выступае як сінонім слова *спалучальнасць.*

З улікам лексіка-граматычнай спалучальнасці фразеалагізмаў, ці, інакш, іх валентнасці, сінтагматычных адносін паміж фразеалагізмамі і словамі, вылучаюць чатыры тыпы значэнняў: адносна свабоднае, валентна абмежаванае, сінтаксічна абумоўленае і канструкцыйна абмежаванае.

Валентна абмежаванае значэнне фразеалагізмаў мае падабенства з фразеалагічна звязаным значэннем слоў. Выразы гэтага разраду здольныя рэалізаваць свой сэнс толькі пры злучэнні з адным пэўным словам, радзей – з двума і больш. Напрыклад, фразеалагізм *з кароткімі гужамі,* што значыць ‘вельмі настойліва, неадступна’, кантактуе толькі са словам *прыставаць; на горкі яблык* ‘вельмі моцна, бязлітасна’ – толькі з дзеясловам-суправаджальнікам *збіць; на свае вочы* ‘непасрэдна сам’ – са словамі *бачыць, пераконвацца, упэўнівацца.*

Аднолькавыя ці вельмі падобныя моўныя з'явы павінны мець і аднолькавую назву для іх абазначэння. Гэта адпавядае элементарным законам логікі і сістэмным адносінам у мове. Таму ёсць усе падставы замяніць, як гэта прапанаваў В.І.Рагаўцоў, тэрмін «фразеалагічна звязанае значэнне» іншым – «валентна абмежаванае значэнне». У такім разе пры разглядзе тыпаў лексічных значэнняў слова ўсё становіцца на сваё месца і наўрад ці хтосьці стане шукаць і знаходзіць валентна абмежаванае значэнне слова сярод фразеалагізмаў ці яшчэ якіх-небудзь устойлівых словазлучэнняў. Сам сэнс гэтага тэрмінаспалучэння не дае ніякіх падстаў разумець яго неадназначна.

Некалькі заўваг пра падачу слоў з гэтым тыпам лексічнага значэння ў слоўніках. У пяцітомным «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» няма паслядоўнасці пры апісанні такіх значэнняў. У адных выпадках, звяртаючыся да ТСБМ, можна бачыць, што перад намі слова з валентна абмежаваным значэннем. Напрыклад, *агністы* ў адным са значэнняў тлумачыцца як 'палымяны, бліскучы' з паказам у дужках: *пра вочы, позірк.* Аналагічна апісаны дзеясловы *адплюшчыць, зажмурыць, заплюснуць, вытарашчыць,* якія спалучаюцца толькі са словам *вочы.* Параўнаем яшчэ: *арліны* —'горды, смелы, пранікілівы (пра погляд, вочы)'; *бляяць* – 'крычаць (пра авечак)'; высалапіцца – 'высунуцца з рота (пра язык)'.

У другіх выпадках словазлучэнні, у якіх ёсць слова з валентна абмежаваным значэннем, чамусьці трапляюць за знак ромба, г.зн. кваліфікуюцца як фразеалагізмы, хоць з апісання гэтых словазлучэнняў відаць, што ў іх адно слова мае свабоднае значэнне, а другое – звязанае, абмежаванае ў сваіх валентных магчымасцях. Некалькі прыкладаў: *воўчы апетыт* – 'вельмі вялікі, нястрымны апетыт'; *цялячае захапленне* – 'бурнае або беспрычыннае захапленне'; *рабінавая ноч* – 'цёмная летняя ноч з громам, маланкай, праліўным дажджом'.

Часам беспадстаўна ўключаюць у фразеалогію спалучэнні таўталагічнай структуры, пабудаваныя па мадэлі «прыслоўе + дзеяслоў»: *кішма кішэць, крычма крычаць, біткам набіць, лежма ляжаць, валам валіць, гульма гуляць* і інш. Тут дзеясловы рэалізуюць сваё слоўнікавае значэнне, а аднакаранёвыя прыслоўі, неўжывальныя па-за гэтымі спалучэннямі, маюць валентна абмежаванае значэнне ('вельмі', 'моцна' і г. д.), выконваюць узмацняльную функцыю да дзеяння, выражанага дзеясловам.

Праўда, варта зазначыць, што чатыры словазлучэнні гэтай мадэлі фразеалагізаваліся, набылі часткова цэласнае значэнне. У выразах *есці поедам* і *хадзіць ходырам (хадуном)* іх дзеяслоўныя сэнсаўтваральныя кампаненты суадносяцца (але не супадаюць!) з

перыферыйнымі значэннямі адпаведных слоў. Гэтыя выразы, агульныя для ўсходнеславянскіх моў, па праву фіксуюцца беларускімі, рускімі і ўкраінскімі фразеалагічнымі і тлумачальнымі слоўнікамі. У двух другіх выразах дзеяслоўныя кампаненты (таксама сэнсаўтваральныя) застылі ў форме загаднага ладу, а самі фразеалагізмы сталі выклічнікавымі: *прападзі пропадам* (што, хто), *гары ён* (яна, яно, яны) *гарам.*

## ЗАЎВАГІ ДА «ЗАДАННЯЎ І ТЭСТАЎ...»

У часопісе «Беларуская мова і літаратура» (2004. № 2. С. 41–49) змешчаны «За-данні і тэсты па раздзелах «Лексікалогія» і «Фразеалогія», падрыхтаваныя настаўніцай вышэйшай катэгорыі В.М.Сіўковіч. Матэрыял, як сказана ў кароценькай прадмове, разлічаны на выпускнікоў школ і абітурыентаў. Ёсць тут і пазначаныя зорачкай «заданні і тэсты павышанай цяжкасці», якія аўтар рэкамендуе выкарыстоўваць у групах з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы і пры падрыхтоўцы да алімпіяд. Несумненна, апублікаваны матэрыял знойдзе прымяненне ў школьнай практыцы шмат якіх настаўнікаў-мовазнаўцаў.

Хацелася б, аднак, выказаць некаторыя заўвагі па асобных кантрольных пытаннях, а таксама заданнях і тэстах. Іншы раз аўтар далёка выходзіць за межы і тых падручнікаў для V–XI класаў, якімі карыстаюцца вучні ды настаўнікі, і сучаснай праграмы па беларускай мове, у тым ліку і праграмы «з паглыбленым вывучэннем». Ствараецца ўражанне, што заданні і тэсты складаліся на аснове навучальнага дапаможніка В.П.Краснея «Грані слова: Факультатыўны курс «Лексіка і фразеалогія беларускай мовы». А на некаторыя пытанні, пададзеныя В.М.Сіўковіч, не знойдзеш адказу і ў згаданай кнізе. Яго трэба шукаць толькі ў навучальнай літаратуры для філалагічных факультэтаў. Напрыклад, ёсць пытанне: «З якімі раздзеламі мовазнаўства звязана лексікалогія?» Няўжо выпускнік школы ці абітурыент або нават удзельнік алімпіяды павінен назваць гэтыя раздзелы і патлумачыць, якім чынам яны звязаны з лексікалогіяй? Або такое пытанне: «Якімі неабходнымі адзнакамі характарызуецца слова?» На гэта даволі складанае пытанне можна, выходзячы за межы школьнай праграмы і памянёнага факультатыўнага курса, адказваць двояка. З аднаго боку, слова мае форму (гукавое аблічча) і змест (лексічнае значэнне). З другога боку, асноўнымі прыметамі слова як лінгвістычнай адзінкі з'яўляюцца аж 12 характарыстык, апісаных у навуковай літаратуры: фанетычная аформленасць, семантычная валентнасць, непранікаль-

насць, адзіны націск, пастаянства гучання і значэння, узнаўляльнасць і г. д. Але ж ці абавязкова гэта ведаць нават таму, хто хоча паўдзельнічаць у алімпіядзе?

Пра амонімы вельмі сцісла (усяго 6 радкоў) згадваецца толькі ў падручніку для X класа: даецца іх азначэнне і гаворыцца, што няўмелае іх ужыванне «можа выклікаць непатрэбныя асацыяцыі, зрабіць больш цяжкім успрыняцце сэнсу выказвання». У публікацыі ж В. М. Сіўковіч пададзены два заданні на амонімы (па 25–30 радкоў), чатыры тэсты (па 10–12 радкоў) і такія кантрольныя пытанні: «Што такое амонімы? На якія віды яны падзяляюцца? Прывядзіце прыклады лексічных (поўных і няпоўных), марфалагічных, фанетычных і акцэнтуацыйных амонімаў. Якія іншыя назвы яны маюць?».

У гэтых пытаннях ёсць істотная недакладнасць. Справа ў тым, што амонімы ні на якія віды не падзяляюцца. Амонімы – гэта словы, якія аднолькава гучаць і пішуцца, але не маюць нічога агульнага ў сэнсавых адносінах. Напрыклад, ёсць аманімічная група з чатырох *кос: каса*$^{1}$ – ‘прылада для кашэння’, *каса*$^{2}$ – ‘селязёнка’, *каса*$^{3}$ – ‘доўгія заплеценыя валасы’, *каса*$^{4}$ – ‘доўгая вузкая мель’. З’яву аманіміі можна праілюстраваць адной з «Загадак дзеда Кандрата» К.Крапівы, у якой лёгка адгадваюцца гэтыя косы:

Я касой траву кашу
У зялёным лузе,
А другую я нашу
Пастаянна ў пузе.
Трэцюю, я вам скажу,
Носіць мая дочка,
На чацвёртай я ляжу –
Грэюся ў пясочку.

В.М.Сіўковіч падзяляе амонімы на чатыры віды: лексічныя, амаформы, ама-фоны і амографы. Зрэдку такі падзел можна сустрэць і ў некаторых іншых працах, напрыклад, ва «Уводзінах у мовазнаўства» П.У.Сцяцко: «Амонімы і іх тыпы» (лексічныя, амаформы, амафоны, амографы). Але для такой класіфікацыі няма належных падстаў. Амафоны – гэта словы, якія аднолькава гучаць, але пішуцца па-рознаму: *плот* і *плод*, *рот* і *род, мець* і *медзь*, *каска* і *казка, весці* і *везці.* Амаформы — гэта аднолькавыя гучаннем і напісаннем формы аднаго і таго ж слова або розных слоў. Прыкладам амаформаў у межах парадыгмы таго самага слова могуць служыць аднолькавыя формы прыметніка *зялёная* ў родным, давальным, творным і месным склонах адзіночнага ліку: *зялёнай травы, зялёнай траве, зялёнай травой, у зялёнай траве.* А вось прыклады амаформаў у межах

парадыгмы розных слоў адной і той жа часціны мовы ці розных часцін мовы: *лячу* (ад *ляцець*) і *лячу* (ад *лячыць*), *піла* 'прылада для разразання дрэва, металу' і *піла* (ад дзеяслова *піць*).

Акадэмік В.У.Вінаградаў яшчэ ў 1960 г. пісаў, што «амафонія – паняцце куды больш шырэйшае, чым аманімія. Яно ахоплівае ўсе віды адзінагучча ці сугучча. З аманіміяй ва ўласным сэнсе гэтага слова нельга змешваць і нават збліжаць разнастайныя тыпы амафоніі». Амафонія і амаформія – гэта з'явы, сумежныя з аманіміяй, але ніяк не відавыя ў дачыненні да яе. Яшчэ больш аддаленыя як ад амонімаў, так і ад амафонаў і амаформаў так званыя амографы – словы і словаформы, якія вымаўляюцца па-рознаму, але пішуцца аднолькава. Яны адрозніваюцца адзін ад аднаго месцам націску і значэннем: *мукá* і *мýка*, *мýзыка* і *музыка*, *кáса* і *касá*, *сáмы* і *самы*, *ямý* і *яму*, *сказáў* і *скáзаў*.

Дарэчы, амаль ва ўсіх дапаможніках па беларускай мове, калі гаворка заходзіць пра амаформы, прыводзяцца і такія прыклады: *вусны* 'губы' (назоўнік) і *вусны* 'не пісьмовы' (прыметнік), *вось* 'тонкі вал, на які насаджваюцца колы' (назоўнік) і *вось* (указальная часціца), *варта* 'ахова' (назоўнік) і *варта* 'трэба, неабходна" (прэдыкатыўнае слова), *рабочы* (дзень) і *рабочы* (з завода). Калі ж звярнуцца да тлумачальных слоўнікаў або да перакладных (напрыклад, беларуска-рускага), то адразу кідаецца ў вочы нічым не апраўданая разбежка, супярэчнасць паміж традыцыйнай, агульнапрынятай лексікаграфічнай практыкай апісання лексічных адзінак у слоўніках і тэарэтычным асэнсаваннем слоў у навуковай і навучальнай літаратуры. У слоўніках нелагічна і немагчыма апісваць у адным слоўнікавым артыкуле, скажам, назоўнік *вусны* і прыметнік *вусны* або назоўнік *справа* і прыслоўе *справа*, назоўнік *як* 'бык' і злучнік *як*. Таму яны і падаюцца асобна, як амонімы: *вусны*$^{1}$, *вусны*$^{2}$, *справа*$^{1}$, *справа*$^{2}$, *як*$^{1}$, *як*$^{2}$. Гэтыя і падобныя словы (а іх больш за 300) аналагічна кваліфікуюцца і ў слоўніках амонімаў. У навучальных жа дапаможніках такія словы адносяць да амаформаў, зыходзячы з таго, што яны належаць не да адной і той жа часціны мовы і супадаюць толькі ў адной форме. Пры гэтым чамусьці не ўлічваецца, што перад намі не абы-якія формы слоў, а пачатковыя, асноўныя, зыходныя слоўнікавыя формы. Зразумела, што аманімічныя словы гэтага тыпу адрозніваюцца ад уласна амонімаў накшталт *каса*$^{1}$, *каса*$^{2}$, *каса*$^{3}$, *каса*$^{4}$, таму шмат якія лінгвісты (Р.А.Будагаў, В.С.Ахманава, Л.А.Увядзенская, А.Я.Баханькоў, В.Д.Старычонак і інш.) вылучаюць гэтыя амонімы ў асобны тып, называючы іх лексіка-граматычнымі амонімамі.

Ёсць асобныя заўвагі і па некаторых пытаннях, заданнях і тэстах па фразеалогіі.

Ужо самае першае пытанне («Што разумеецца пад фразеалогіяй у шырокім і вузкім сэнсе?») выклікае пярэчанне. Гадоў сорак назад, калі фразеалогія толькі складвалася як асобная лінгвістычная дысцыпліна, гэта пытанне было, што называецца, на слыху. Сёння ж яно састарэлае і нелагічнае. Як ніводны іншы раздзел мовазнаўства і ніводная іншая нелінгвістычная навука не існуюць у вузкім і шырокім разуменні, гэтак жа немажліва адначасовае існаванне дзвюх фразеалогій – «вузкай» і «шырокай». Яшчэ ў 1977 г. вядомы рускі фразеолаг А.І.Малаткоў рашуча аспрэчваў правамернасць двух поглядаў на прадмет фразеалогіі: «Няма абёму фразеалагічных адзінак мовы ў «шырокім» або «вузкім» сэнсе слова, такое вызначэнне аб'екта фразеалогіі ненавуковае; у склад фразеалогіі колькасна ўключаюцца ўсе адзінкі мовы, якія якасна вызначаюцца як фразеалагізмы. Яны могуць дыферэнцыравацца па семантычна-тэматычных, стылістычных, лексіка-граматычных і іншых разрадах, але па катэгарыяльнай сутнасці адрозніваца не могуць» .

Заданне № 5 і тэст № 12 звязаны з перакладам фразеалагізмаў з рускай мовы на беларускую ці, дакладней, падборам «беларускіх адпаведнікаў да фразеалагізмаў з рускай мовы». Але з трыццаці пададзеных тут выразаў якраз палова (15) ніяк не можа кваліфікавацца як «рускія фразеалагізмы», бо яны ў аднолькавай меры ўжываюцца ў абедзвюх, а то і ў некалькіх іншых мовах. Напрыклад, прапанаваны для перакладу выраз *кот наплакаў* – агульны для беларускай, рускай (*кот наплакал*), украінскай (*кіт наплакав*) і польскай (*kot napłakał*) моў. *Мець зуб* (руск. *иметь зуб*), *з вуснаў у вусны* (руск. *из уст в уста*) – калькі з французскай мовы, *плысці па цячэнні* (руск. *плыть по течению*) – калька з нямецкай мовы. Агульнымі для ўсходнеславянскіх моў з'яўляюцца выразы: *чорт яго знае (ведае), набіць аскоміну, як мёртваму прыпарка, палец аб палец не ўдарыць, адным мірам мазаны, хоць бы хны, ні за што ні пра што, і дзела з канцом* і інш. Апошні з прыведзеных выразаў ужываецца ў нашай літаратурнай мове з варыянтнасцю другога кампанента: *і дзела (справа) з канцом;* напрыклад: *Больш за палавіну [зямлі] адхвацілі, і дзела з канцом* (К.Чорны); *Скажы, хто з нас табе лепшы друг – і справа з канцом* (У.Караткевіч).

У заданні № 5 падаецца як «фразеалагізм з рускай мовы» *десятому заказать,* аднак ён ні ў адным рускім слоўніку не фіксуецца, але ёсць у беларускай і ўкраінскай мовах. Пяць выразаў з памянёных трыццаці прыйшлі ў беларускую мову з рускай як запазычанні (*з*

*бухты-барахты, у чорта на кулічках*), калькі (*як вавёрка ў коле*) ці паўкалькі (*два боты пара, як ні ў чым не бывала*). Апошні з пералічаных тут фразеалагізмаў ужываў, напрыклад, Я. Купала: *Паўлінка хавае фатаграфію за абраз і як ні ў чым не бывала садзіцца за шыццё.* У «Руска-беларускім слоўніку» (1982, т. 1, с. 392) рускі фразеалагізм *у черта на куличках* перадаецца адпаведнікамі *за блізкім светам, за блізкі свет,* але ў сучаснай беларускай літаратурнай мове актыўна выкарыстоўваецца гэта запазычанне з рускай мовы, што можна пацвердзіць прыкладамі з твораў А.Асіпенкі, В.Быкава, А.Масарэнкі, П.Місько, Р.Сабаленкі і інш.

Як бачым, пераклад фразеалагізмаў ці падбор адпаведнікаў – справа далёка не лёгкая, і наўрад ці яна пад сілу выпускнікам школ або ўдзельнікам алімпіяд. А тыя нібыта беларускія адпаведнікі, якія В.М.Сіўковіч падае да нібыта рускіх фразеалагізмаў у тэсце № 12 і якія, несумненна, запазычыла з «Малога руска-беларускага слоўніка прыказак, прымавак і фразем» З.Санько (1991), не вытрымліваюць ніякай крытыкі: *кот наплакал* – сарока хвастом змяце; *і дзела з канцом* – і вуды вобземлю, *одним миром мазаны* – усе чэрці адной шэрсці; *ни за что ни про что* – з ласкі на пацеху і г. д. Да названага слоўніка З.Санько, як ужо не раз адзначалася ў друку, трэба ставіцца з аглядкай, крытычна: гэта «вольны пераклад», зроблены на аматарскім узроўні.

Шмат якія іншыя заданні і тэсты па фразеалогіі, прапанаваныя В.М.Сіўковіч, параўнальна няцяжкія, але ёсць і заданне № 2, тэсты 3–5, на якіх варта спыніцца асобна і больш падрабязна. Тут гаворка ідзе пра падзел фразеалагізмаў у залежнасці ад ступені семантычнай злітнасці іх кампанентаў.

Упершыню такі падзел быў зроблены В.У.Вінаградавым, заснавальнікам фразеалогіі як навукі, у яго вялікім артыкуле «Асноўныя паняцці рускай фразеалогіі як лінгвістычнай дысцыпліны» (1946). Фразеалагізмы падзелены ім на тры тыпы: фра-зеалагічныя зрашчэнні, фразеалагічныя адзінствы, фразеалагічныя злучэнні (спалу-чэнні). Зрашчэнні В.У.Вінаградаў характарызуе як абсалютна нераскладальныя, непадзельныя звароты, «значэнне якіх зусім не залежыць ад іх лексічнага складу, ад значэння іх кампанентаў і такое ж умоўнае і адвольнае, як значэнне нематываванага слова – знака». Аўтар ілюструе гэта шматлікімі прыкладамі накшталт такіх: *как пить дать, собаку съел, сбоку припека, заморить червячка, под мухой.* Што да фразеалагічных адзінстваў, г. зн. матываваных выразаў тыпу *па галоўцы гладзіць* (каго) ‘патураць каму-небудзь, хвалячы і адабраючы яго’, то гэта моцна спаяныя групы, якія «лёгка расшыфроўваюцца як

пераносныя выразы». У іх таксама «значэнне цэлага абсалютна нераскладальнае на асобныя лексічныя значэнні кампанентаў. Яно як бы разлітае ў іх – і разам з тым як бы вырастае з іх семантычнага зліцця». У пацвярджэнне аналізуецца шэраг прыкладаў, у тым ліку: *держать камень за пазухой, семь пятниц на неделе, плыть по течению*. Як бачым, у зрашчэннях і адзінствах словы-кампаненты не маюць ніякага самастойнага лексічнага значэння. Таму гэтыя моўныя адзінкі з цэласнай семантыкай і вывучаюцца не ў лексікалогіі, а ў фразеалогіі.

Апрача зрашчэнняў і адзінстваў, В.У.Вінаградаў вылучыў фразеалагічныя злучэнні (спалучэнні), напрыклад: *страх берет, заклятый враг, безвыходное положение, гробовое молчание*. Гэта, як правіла, двухкампанентныя ўстойлівыя словазлучэнні, у якіх адно слова мае звычайнае, самастойнае, свабоднае значэнне, а другое – несвабоднае значэнне, якое выяўляецца толькі ў спалучэнні з адным ці некалькімі строга акрэсленымі словамі, сваімі пастаяннымі кантэкставымі партнёрамі. Напрыклад, прыметнік *кароткая* рэалізуе сваё несвабоднае значэнне 'кепская' толькі тады, калі ўступае ў кантакт з назоўнікам *памяць*. Параўнаем таксама: *праліўны* (дождж), *закадычны* (сябра), *расквасіць* (нос, твар), *прасёлачная* (дарога). Такія несвабодныя значэнні, абмежаваныя ў сваіх спалучальных сувязях, В.У.Вінаградаў назваў фразеалагічна звязанымі значэннямі, а самі словазлучэнні, у якіх адно слова мае фразеалагічна звязанае значэнне, – фразеалагічнымі злучэннямі. У фразеалагічным злучэнні яго састаўныя часткі ўспрымаюцца як асобныя словы са сваім лексічным значэннем. Словы з фразеалагічна звязаным значэннем, у адрозненне ад фразеалагічных кампанентаў сапраўдных фразеалагізмаў, захоўваюць усе адзнакі слова: маюць пэўнае лексічнае значэнне, выконваюць назыўную функцыю, выступаюць у ролі асобнага члена сказа.

Пра нелагічнасць уключэння так званых фразеалагічных злучэнняў у склад фразеалагіі ўжо гаварылася ў папярэдніх нататках («Валентна абмежаванае значэнне слоў»), прыводзіліся і адпаведныя доказы аўтарытэтных даследчыкаў фразеалогіі. Да гэтага можна дадаць яшчэ некалькі. Венгерскі вучоны Бела Татар, навуковым кансультантам якога ў 1965–1967 гг. быў В.У.Вінаградаў, прыгадвае: «Ён не адхіляў катэгарычна маю канцэпцыю адносна наяўнасці толькі двух тыпаў семантычнай класіфікацыі, па якой так званыя фразеалагічная злучэнні, будучы ўстойлівымі, а не фразеалагізаванымі, застаюцца па-за межамі фразеалогіі». Звернем увагу і на выказванне Ф.М.Янкоўскага: «Фразеалагічныя спалучэнні – гэта нібы прамежкавае звяно паміж звычайнымі, пераменнымі словазлучэннямі і фраземамі. Таму не выпадкова, што фразеалагічныя спалучэнні тыпу *страх*

*берет, беспробудный сон* у фразеалагічных слоўніках, як правіла, не падаюцца». Вартае ўвагі і такое выказванне вядомага даследчыка славянскай фразеалогіі В.М.Макіенкі: «У гэтай класіфікацыі [В.У.Віна-градава] фразеалагічныя зрашчэнні і адзінствы размяжоўваюцца па ступені матываванасці, а фразеалагічныя злучэнні – па прымеце абмежавання спалучальнасці, што з'яўляецца відавочным алагізмам».

Такім чынам, уключэнне ў фразеалогію толькі зрашчэнняў і адзінстваў, г. зн. выразаў з цэласным сэнсам, – найбольш прымальны і пераканальны пункт погляду. У такім разе ў фразеалогіі аб'ядноўваюцца аднародныя адзінкі, а сама навука аб фразеалагізмах прымае стройны характар.

У некаторых жа падручніках і дапаможніках, у тым ліку і ў згаданых вышэй падручніку для Х класа і кнізе В.П.Краснея «Грані слова», па-ранейшаму вылучаюць не толькі зрашчэнні і адзінствы, але і так званыя фразеалагічныя спалучэнні, прычым укладваюць у апошні тып зусім не тое, што меў на ўвазе В.У.Вінаградаў. Сюды трапляюць звычайныя, тыповыя адзінствы (*падтуліць хвост, скаліць зубы, павесіць нос, іграць ролю, залаты фонд*), зрашчэнні (напрыклад, *крывіць душой*), а часцей за ўсё — словазлучэнні, якія не маюць да фразеалогіі ніякага дачынення: *закрануць годнасць, закрануць пачуцці, даніна павагі, знайсці выхад, браць удзел* і інш. Напрыклад, у словазлучэнні *аддаць жыццё* абодва словы рэалізуюць свае слоўнікавыя значэнні. *Аддаць*, як засведчана ў ТСБМ (т. 1, с. 130), тут абазначае 'ахвяраваць кім-, чым-н. дзеля каго-, чаго-н.' і ілюструецца прыкладамі: *аддаць сілы, здароўе, кроў, жыццё.* Варта зазначыць, што ў фразеалагічных слоўніках сустракаецца невялікая колькасць выразаў (каля сотні), у складзе якіх ёсць сэнсаўтваральны кампанент; напрыклад, прыметнікавы кампанент у фразеалагізме *пад злосную руку* 'ў стане злосці'. Сюды ж адносяцца *згараць ад сораму, падняць на смех* і інш. Такія фразеалагізмы слушна кваліфікуюцца як матываваныя, як «фразеалагічныя адзінствы з часткова цэласным значэннем» (У. П. Жукаў).

В.М.Сіўковіч таксама аддала даніну апісаным вышэй устарэлым, недакладным поглядам на семантычную класіфікацыю фразеалагічных адзінак.

У часопісе «Беларуская мова і літаратура» (2004. № 3) змешчаны адказы да заданняў і тэстаў, апублікаваных у папярэднім нумары. З гэтых адказаў відаць, што аўтарка дакладна вызначыла зрашчэнні і адзінствы. А што да фразеалагічных спалучэн-няў, то тут ёсць шэраг няправільнасцей. У заданні № 2 *аддаць жыццё* — не фразеа-лагізм, (быць) *на віду* і *акінуць вокам* — адзінствы. У тэсце №

5 трэба лічыць не спалучэннямі, а адзінствамі: *з рук у рукі, выводзіць у людзі, не за гарамі*; зрашчэннямі: *іграць першую скрыпку* (калька з нямецкай мовы), *да глыбіні душы* (калька з лацінскай мовы). Зрашчэннем з’яўляецца і выраз *будаваць на пяску*, што значыць ‘засноўваць на ненадзейных звестках, паказчыках’. А склаўся ён на аснове евангельскай прытчы (Матфей, 7, 26-27).

Гэты мой артыкул быў апублікаваны ў часопісе «Беларуская мова і літаратура» (2005. № 8. С. 36–41). Услед на с. 41–42 даецца слова аўтарцы – В.М.Сіўковіч. Вось два першыя абзацы з яе «апраўдання».

У часопісе «Беларуская мова і літаратура» (2004. № 2) змешчаны мае «Заданні і тэсты па раздзелах «Лексікалогія» і «Фразеалогія». Яны дэталёва прааналізаваны доктарам філалагічных навук І. Я. Лепешавым. Хочацца выказаць шаноўнаму Івану Якаўлевічу шчырую падзяку, бо гэта, можна сказаць, першы такі аналіз дыдактычных матэрыялаў новага тыпу. На жаль, не выклікалі значных водгукаў у прэсе матэрыялы для цэнтралізаванага тэсціравання, хоць у іх ёсць спрэчныя моманты і ў частцы заданняў, і ў частцы адказаў.

Прафесар І.Я.Лепешаў выказаў некалькі заўваг па маіх матэрыялах. Цалкам згаджаюся з тым, што часта выходжу за межы падручнікаў па беларускай мове, аднак хачу сказаць некалькі слоў «у апраўданне» такога падыходу. Па-першае, заданні і тэсты не абавязкова маюць на мэце кантроль ведаў. Прапанаваныя матэрыялы носяць навучальны характар, таму яны і ўключаюць больш шырокі спектр пытанняў. Па-другое, настаўнік можа «раскласці» прапанаваныя заданні і тэсты на розныя ўзроўні.

## ДЗЯКУЙ

Э.Ялугін у газеце «Наша слова» (5.10.2003) спрабуе аспрэчыць выказванні аднаго журналіста наконт слова *дзякуй*. Дарэчы, свае, так бы мовіць, не зусім прымальныя адносіны да гэтага слова ён выяўляў і раней. Э.Ялугін, быдучы рэдактарам «Нашага слова», у гутарцы з супрацоўнікам часопіса «Роднае слова» (1996. № 11. С. 202) рэкамендаваў выказваць сваю ўдзячнасць толькі словам *дзякую*, а не «з дапамогай загаднай формы дзеяслова – *дзякуй*», бо гэтае *дзякуй* – «нонсэнс, недарэчнасць, якая ўзнікла пад уплывам рускамоўя».

А народ наш здавён-даўна, не ведаючы гэтых рэкамендацый, ужываў і ўжывае і *дзякую*, і (найчасцей) *дзякуй*, замацаваў менавіта апошняе ў фразеалагізмах *дзякуй у шапку, за дзякуй, дзякуй богу,*

*дзякуй за ласку* ды ў шматлікіх прыказках. Вось толькі некаторыя з іх: *За дзякуй пірага не купіш; Не кажы дзякуй, калі цябе не частуюць; Дзякуй не дзякуй, а заплаціць мусіш; Дзякуй не з'ясі; Дзякуй гэтаму дому, пойдзем к другому; Дзякуй гэтаму столу, а мы пойдзем дадому, Дзякуй на хлеб не намажаш.*

*Дзякуй* – гэта не «загадная форма дзеяслова», як лічыць Э.Ялугін, а двухзначнае слова, якое ў адных выпадках выступае як часціца (*Дзякуй за хлеб-соль*), а ў другіх – як нескланяльны назоўнік у значэнні 'падзяка, удзячнасць'. Дарэчы, у ТСБМ (т. 2, с. 179), дзе пададзены абодва гэтыя значэнні, пры апісанні другога, назоўнікавага значэння ёсць граматычная памета *н.* (ніякі род). Але, як паказвае маўленчая практыка, *дзякуй*, ужываючыся ў значэнні назоўніка, выкарыстоўваецца, бадай, з аднолькавай частотнасцю то ў ніякім, то ў мужчынскім родзе. Вось некалькі прыкладаў: *Дзякуй, вялікі дзякуй* (А.Вярцінскі), *вялікі табе дзякуй* (А.Бачыла), *даўшы адпаведны дзякуй* (І.Чыгрынаў), *сардэчны дзякуй* (Я.Скрыган), *вялікі вам дзякуй* (Я.Колас), *вялікае дзякуй* («ЛіМ»), *дзякуй шчырае пачуеш* (М.Чарот), *вялікае дзякуй нашым шэфам* (П.Броўка). Праўда, у апошняе дзесяцігоддзе амаль ва ўсіх выпадках прыметнікі і займеннікі дапасуюцца да слова *дзякуй* у мужчынскім родзе, напрыклад: *мой дзякуй* (Р.Барадулін).

У згаданай напачатку публікацыі Э.Ялугін піша, што «расейскае «спасибо» распаўсюдзілася ў асноўным у савецкі час» і што «ў савецкі ж час распаўсюдзіўся і беларускі аналаг – загадная форма дзеяслова *дзякаваць* у якасці назоўніка». Але, па-першае, няма ніякіх падстаў звязваць з савецкім часам распаўсюджанне рускага слова *спасибо.* У рускіх акадэмічных слоўніках яно ілюструецца прыкладамі-цытатамі з твораў Пушкіна, Гогаля, Ганчарова і іншых аўтараў XIX ст., а таксама і пазнейшага перыяду. Існавала гэтае слова і ў папярэднія стагоддзі – да Пушкіна.

Па-другое, наша *дзякуй* сфармавалася не ў савецкі час. Яно фіксуецца ў вядомым слоўніку І.І.Насовіча (1870), запісанае складальнікам непасрэдна ў жывой народнай мове. Яно фігуруе ў шэрагу пералічаных вышэй народных прыказак, а яны ўзніклі, зразумела, не ў савецкі перыяд. Яно выступае кампанентам некалькіх раней названых фразеалагізмаў, сярод іх – *дзякуй богу.* Гэты выраз выкарысталі ў сваіх творах В.Дунін-Марцінкевіч – у «Шчароўскіх дажынках» *(Дзякуй богу, што ўжо ачуняла)* і ў «Пінскай шляхце» *(Відна, відна, – дзякуй богу),* Ф.Багушэвіч – двойчы ў паэме «Кепска будзе» (*Дзякуй богу, добры ўдаўся; Надта есці стаў памногу і паправіўсь, дзякуй богу).* Ужывалася гэтае слова (як часціца) у іншых

дасавецкіх творах: *Дзякуй, дзякуй, ягамосці, за весці такія!* (Ф.Багушэвіч), *А за гэта дзякуй!* (Цётка).

Па-трэцяе, ніяк нельга гаварыць, што наша *дзякуй* склалася пад уплывам і па аналогіі з рускім *спасибо* (з «спаси Бог») і з'яўляецца «загаднай формай дзеяслова *дзякаваць* у якасці назоўніка». У далейшых разважаннях Э.Ялугіна шмат блытаніны. Ён звязвае ўзнікненне *дзякуй* то з назоўнікам *дзяка, дзякло*, то з дзеясловам *дзякаваць*.

*Дзяка,* як засведчана ў тлумачальных, гістарычных і этымалагічных слоўніках беларускай мовы, абазначала і абазначае (фіксуецца ў ТСБМ) 'падзяка, удзячнасць', г.зн. тое самае, што і *дзякуй* у значэнні назоўніка. А паводле Э.Ялугіна, *дзяка* – «гэта самы пачэсны падарунак, знак асаблівай павагі да чалавека – хлебам». Што да назоўніка *дзякло,* дык ён даецца ў «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» (выпуск 9, с. 135) са значэннем 'падатак збожжам' і 'мера збожжавага падатку' і, як бачым, гэтак жа, як, скажам, і *дзяк*, не мае ні этымалагічнай, ні сэнсавай сувязі са словам *дзяка, дзякуй. Дзякло* – гэта, паводле А.М.Булыкі, запазычанне з літоўскай мовы.

Пад канец свайго артыкула Э.Ялугін ледзь не сенсацыйна аб'яўляе: «Цяпер назаву імя таго, хто яшчэ дакладна ведаў сэнс гэтага слова [«дзякую»] і ўжываў яго ў сваіх творах на пачатку XVI стагоддзя. Маю на ўвазе вялікага беларуса Францішка Скарыну». Аднак далей прыводзяцца тры цытаты са Скарынавых перакладных твораў, але ва ўсіх цытатах замест чаканага *дзякую* знаходзім дзеяслоў: *дякуеть, дяковал, дяковал.* Затым гаворыцца, што «не складана прывесці і яшчэ пераканаўчыя прыклады з твораў самых аўтарытэтных беларускіх майстроў літаратуры самых розных пакаленняў, у тым ліку дасавецкага Янкі Купалы, але, мяркую, дастаткова аўтарытэту Скарыны». Шкада, што Э.Ялугін не заглянуў у «Слоўнік мовы Янкі Купалы» (т. 2, с. 52). Тут паказана, што Я.Купала 47 разоў выкарыстаў слова *дзякуй* у сваіх творах у значэнні як часціцы, так і назоўніка. І ёсць прыклады з Купалавай дасавецкай творчасці, сярод іх і такі: «Пашлём *дзякуй* «Нашай долі», родненькай газеце».

Як сведчыць «Этымалагічны слоўнік беларускай мовы» (т. 3, с. 137) і манаграфія А.М.Булыкі «Даўнія запазычанні беларускай мовы» (с. 104), словы *дзяка* і *дзякаваць* прыйшлі ў нашу мову з польскай, назоўнік *дзяка* ў польскай мове (*dzięka*) паходзіць ад нямецкіх *dank, danken*. Беларускае ж *дзякуй* (у такой форме не фіксуецца ў іншых мовах) утварылася на базе назоўніка *дзяка.* Дарэчы, у слоўніку І.І.Насовіча (с. 134) фіксуюцца з тоесным значэннем *дзякі, дзяку, дзякуй.*

## СПАДЫЛБА

Ва ўсіх беларускіх нарматыўных слоўніках здаўна падаецца аднолькавае напісанне прыслоўя *спадылба*. А ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 5, кн. 1, с. 242) прыводзіцца сэнс гэтага слова – ‘з-пад нахмураных броваў, недаверліва, злосна (глядзець і пад.)’ – і дзве ілюстрацыі з ужываннем слова ў кантэксце. Да іх можна дадаць шэраг іншых, напрыклад: 1) Васька пазіраў *спадылба*, чакаў (М.Лынькоў); 2) Ты, гаспадыня, не зіркай *спадылба*. Мы не бандыты з вялікай дарогі (Л.Маракоў). Утварылася гэта прыслоўе ад асновы назоўніка *лоб,* (у родным склоне – *ілба)* пры дапамозе прыстаўкі *с-пад-* і суфікса *-а*. Такое ж ці падобнае ўтварэнне бачым і ў прыслоўях *спадыспаду, спаднізу, спадцішка.*

Арфаграфічныя і пунктуацыйныя навыкі выпрацоўваюцца не толькі, а можа, і не столькі пры вывучэнні граматыкі, колькі пры чытанні кніг, газет, часопісаў. Ад частага бачання надрукаванага слова ствараецца яго зрокавы вобраз і імгненна ўсплывае пры пісьме. Калі ж у друкаваных тэкстах час ад часу трапляюць няправільныя напісанні, то навык можа пахіснуцца. І не толькі ў вучняў, а і ў дарослага чалавека.

Апошнім часам стала чамусьці модным пісаць прыслоўе *спадылба* адразу з некалькімі арфаграфічнымі хібамі. Ужо абрыдла выпісваць з перыядычнага друку сказы з памылковым напісаннем гэтага слова. Вось толькі некалькі прыкладаў: 1) Нават падхалім-падначалены і той зыркнуў *з-пад ілба,* што моцна ўразіла важную птушку (І.Макаловіч); 2) – Не трэба акторства, – *з-пад ілба* зірнуў ён на палкоўніка (І.Клімянкоў); 3) Фролка *з-пад ілба* паглядзеў на Ілью Аляксандравіча (У.Гніламёдаў); 4) Ён быў па-ранейшаму насуплены, пазіраў *з-пад ілба,* нібы чакаў, што гэтыя хлопцы могуць зрабіць яму нешта кепскае (У.Дамашэвіч); 5) На майго мужа нават і *з-пад ілба* не смей зірнуць (А.Казлоў); 6) Ён жа адчуваў толькі злосць, калі гэтыя малакасосы прыдзірліва, *з-пад ілба* пазіралі на яго (Дзеяслоў. № 7. С. 17). Сустрэўся і такі сказ: «Як воўк, *з падлоб’я* кіне позірк злы!» (М.Мятліцкі).

Цікава: калі вучань у дыктоўцы, пераказе ці сачыненні напіша *з-пад ілба,* то колькі памылак трэба прызнаць у такім напісанні? Як вядома, класічны ўзор непісьменнасці належыць пяру імператрыцы Кацярыны II, якая ўхітрылася ў слове *еще* зрабіць чатыры памылкі *(исчо).* З той пары нікому не ўдавалася дабіцца такой высокай шчыльнасці правапісных ляпсусаў на адзін квадратны сантыметр тэксту. Аднак, як бачым, аматары спаборніцтва ў парушэнні

словаўтваральных нормаў і правапісу не пакідаюць надзеі пераплюнуць імператрыцу.

## *ПАЎСТАГОДДЗЯ*, А НЕ *ПАЎСТАГОДДЗЕ*

Часопіс «Беларуская мова і літаратура» (2004. № 6. С. 23–29) змясціў артыкул М.Супрунчука «Статус і спалучальнасць марфемы *паў-* у беларускай мове». Тут знаходзім шмат новых, аргументаваных звестак пра марфему *паў-*. У артыкуле закранаюцца і пытанні культуры маўлення; напрыклад, ужыванні тыпу *паўгады* (замест *паўгода*), *з паўлітрам, купіў паўлітру* ацэньваюцца як парушэнне літаратурнай нормы. Сярод больш як 140 слоў з часткай *паў-*, выкарыстаных у артыкуле, чамусьці, аднак, няма назоўніка *паўстагоддзя*. А між тым якраз пры ўжыванні гэтага слова досыць часта сустракаюцца няправільнасці.

У складаных назоўніках тыпу *паўгода*, *паўстагоддзя*, *паўсутак*, *паўгадзіны*, *паўкіламетра* першая састаўная частка абазначае 'палавіна чаго-небудзь' і спалучаецца з адпаведным назоўнікам у форме роднага склону.

Для назоўніка *паўстагоддзя* менавіта гэтая ягоная форма – зыходная, першапачатковая. У такой форме (з паметай «назоўнік ніякага роду») ён падаецца ў нашых нарматыўных слоўніках. Вось толькі некалькі прыкладаў яго правільнага ўжывання: 1) На вайне раніцай не ведаеш, ці дажывеш да вечара, а думаць пра тое, што і як стане праз некалькі гадоў, а тым больш на *паўстагоддзя* наперад, – і ў галаву не прыходзіла (В.Быкаў); 2) Ці змянілася што на сяле за *паўстагоддзя*? (П.Місько); 3) У такім уборы можна гуляць па людным праспекце сёння, праз пяць гадоў і, мабыць, праз *паўстагоддзя* (С.Бязлепкіна); 4) *Паўстагоддзя* таму знаны настаўнік прапаведаваў у Амерыцы сваё вучэнне (А.Іванчанка). Параўнаем таксама правільнае ўжыванне гэтага слова ў блізкім суседстве з аднакаранёвымі *стагоддзе*, *дзесяцігоддзе*: 1) Ці ўсё тое, што пішуць сёння нашы пісьменнікі, тым больш тое, што пісалі *паўстагоддзя* ці нават *стагоддзе* таму назад, цікава сённяшняму маладому чытачу? («Маладосць»); 2) Яго ўнук вынайдзе тут праз *паўстагоддзя* камп'ютэр... Глядзі, бачыш, той, што залез на дрэва... Ён праз *дзесяцігоддзе* будзе самым славутым архітэктарам (Р.Баравікова).

Акурат, відаць, пад уплывам гэтых *стагоддзе*, *паўгоддзе*, *дзесяцігоддзе* і іншых шмат якія аўтары аўтаматычна і не задумваючыся пішуць і *паўстагоддзя* з памылковым канчаткам *-е*, напрыклад: 1) Больш за *паўстагоддзе* ён лічыў, што яго навука –

гісторыя – па дакладнасці і «вучоным кансерватызме» набліжаецца да матэматыкі (І.Шамякін); 2) Праз *паўстагоддзе* чуцён камісараўскі голас.... (У.Ліпскі); 3) Падобнае здараецца раз на *паўстагоддзе* (Л.Славік); 4) Няма ўжо там, у Пружанах, ні мамы, ні таты, шмат каго няма. *Паўстагоддзе* забрала іх у нябыт («Нар. воля»); 5) За *паўстагоддзе* працы ён зрабіў столькі, што мог бы ўжо тры разы па ордэну атрымаць, але, як кажуць, дзякуй і за медаль («Наша слова»).

Акадэмічна «Беларуская граматыка. Ч. 1» (1985. С. 65–66) апрача першага, другога і трэцяга скланення назоўнікаў вылучае «так званае нулявое скланенне», якое ўтвараюць нязменныя назоўнікі. Тут пералічваюцца аж 7 груп такіх нязменных, ці нескланяльных, назоўнікаў. Адна з іх – «словы, якія складаюцца з часткі *паў-* і роднага склону адзіночнага ліку назоўніка: *паўбутэлькі*, *паўвярсты*, *паўгода*, *паўлімона*, *паўнеба*, *паўяблыка*, *паў-Мінска*». Думаецца, што *паўстагоддзя* варта лічыць выключэннем з гэтай групы. Наўрад ці можна ацэньваць як адхіленне ад нормы ўжыванне *паўстагоддзем* у наступным сказе: «З'явай, прыглушанай больш чым *паўстагоддзем* маўчання, сталася і аповесць Власта «Лабірынты», апублікаваная ўпершыню на старонках «Крывіча» (Я.Янушкевіч). Або *паўстагоддзю*: «Лірычнымі радкамі распачаўся ўрачысты вечар, прысвечаны *паўстагоддзю* тэхнічнай вучэльні..» (Я.Тышко).

У памянёным напачатку арыкуле М.Супрунчука сказана: «Азначэнне пры назоўніку з марфемай *паў-* павінна быць у множным ліку: *тыя цяжкія паўмесяца, твае паўзвода ўжо на пазіцыі*». Але ў дачыненні да азначэння пры назоўніку ніякага роду *паўстагоддзя* неяк язык не паварочваецца ўжываць гэта азначэнне ў множным ліку. Яно дапасуецца ў родзе да базавага назоўніка (*стагоддзе*). Параўнаем прыклады менавіта такога дапасавання (праўда, з памылковым напісаннем *-е* замест *-я* ў слове *паўстагоддзя*): 1) Прайшло цэлае *паўстагоддзе* з таго часу, як адбылася гэта выдатная, добра памятная мне падзея (К.Крапіва); 2) Дорага каштавала Еўропе тое *паўстагоддзе*, наступствы яго не ліквідаваны і да сёння (В.Быкаў); 3) На цэлае *паўстагоддзе* імя Вацлава Ластоўскага было кінута ў бяспамяцтва (Я.Янушкевіч); 4) Усё яе цела, якое чакала мужчынскай ласкі цэлае *паўстагоддзе*, перапаўняла спрадвечная жарсць (Л.Левановіч).

**ЗАКАДЫЧНЫ**

Акадэмічны пяцітомны ТСБМ на алфавітным месцы апісаў прыметнік *закадычны*, паказаўшы, што ён мае формы мужчынскага, жаночага і ніякага роду, абазначае ‘вельмі блізкі, сардэчны (пра сябра, сяброўскія адносіны)’. Прыводзіцца два адпаведныя пацвярджэнні – ілюстрацыйны матэрыял. Адно з іх – з трылогіі класіка беларускай літаратуры і аднаго з заснавальнікаў беларускай літаратурнай мовы Якуба Коласа: «Смалярня стала на некаторы час галоўным штабам двух *закадычных* прыяцеляў, Лабановіча і Тукалы». Яшчэ адзін слоўнікавы прыклад – таксама не з другарадных аўтараў – Алеся Якімовіча: «[Юзік] ахвотна згаджаўся з усім, з чым былі згодны яго *закадычныя* сябры Васіль і Міхась».

Можа, каму здасца, што тут мала прыкладаў-ілюстрацый (усяго два). Але такая была дадзена ўстаноўка «зверху»: у ЦэКа дазволілі выдаць першы ў жыцці Беларусі вялікі тлумачальны слоўнік беларускай мовы, але не больш як у пяці тамах (параўнаем: у рускай мове – 17-томны, ва ўкраінскай – 11-томны). І складальнікі (пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы) як ні стараліся ўкласціся ў дазволеную норму, але не ўкладаліся. Прыйшлося прасіць дазволу выдаць пяты том ў дзвюх кнігах. «Зверху» крыху прыгразілі, але далі дазвол.

Між іншым, у рускіх слоўніках (напрыклад, у 17-томным) часам прыводзяцца пад загаловачным словам па 5, а то і па 10 цытат. Думаецца, гэтак жа і складальнікі пяцітомнага ТСБМ маглі б, калі б іх не абмяжоўвалі, праілюстраваць слова *закадычны* не дзвюма цытатамі, а дзесяткамі. Вось некалькі прыкладаў – з картатэкі аўтара гэтых радкоў. К.Крапіва (рэдактар амаль усіх нашых акадэмічных слоўнікаў) у адной байцы піша, што хлопчык «меў шмат *закадычных* адданых сяброў, гусей з імі пасвіў і нават кароў». Яшчэ прыклады: 1) – Земляком прыкінуўся, сябрам *закадычным*! – усё больш распальваў сябе Андрэй (М.Лынькоў); 2) Сёння нават пабыў Марцін у свайго *закадычнага* сябра Рыгора Галузы (М.Лупсякоў); 3) Міша і Грыша сапраўды былі *закадычнымі* сябрамі (А.Якімовіч); 4) За здароўе іх [жонкі і дачкі Данілы] *закадычныя* сяброўкі паднялі, як заведзена трэці тост (А.Ветах).

Чаму тут ідзе размова пра гэты прыметнік? Справа ў тым, што ў «Нашым слове» (9.09.2004) змешчана невялікая нататка пра слова *закадычны*. Хто яе аўтар, невядома, бо яго прозвішча пад нататкай не пазначана. У ёй робіцца выснова, што гэта «неўласцівы беларускай мове фразеалагізм». Ёсць тут і іншыя няправільнасці, а яшчэ і падтасоўкі, зробленыя, каб толькі сцвердзіць згаданую выснову.

Перш за ўсё гэта ніякі не фразеалагізм, што выразна відаць з прыведзеных вышэй прыкладаў і з апісання прыметніка *закадычны* ў ТСБМ (т. 2, с. 318-319). Праўда, ён адрозніваецца ад многіх іншых прыметнікаў найперш сваімі спалучальнымі магчымасцямі. Скажам, прыметнік *вясёлы* свабодна ўступае ў лексічную сувязь з вялікім мноствам розных слоў-назоўнікаў (*хлопец, жартаўнік, настрой, характар, спектакль, чалавек* і інш.), але, зразумела, не з усімі: сувязі паміж словамі абумоўлены прадметна-лагічна. Прыметнік жа *закадычны* абмежаваны ў сувязях не прадметна-лагічнымі адносінамі, а ўнутранымі семантычнымі заканамернасцямі моўнай сістэмы. Яго лексічнае значэнне 'вельмі блізкі, сардэчны' выяўляецца толькі ў спалучэнні са строга акрэсленымі назоўнікамі, сваімі пастаяннымі кантэкставымі партнёрамі (*сябар, прыяцель, друг*). Інакш кажучы, гэтаму прыметніку ўласціва валентна абмежаванае значэнне. І да фразеалогіі гэта не мае ніякага дачынення.

Такіх слоў (з абмежаванай спалучальнасцю-валентнасцю) даволі многа. Напрыклад, прыметнік *пралійны* рэалізуе сваё значэнне 'вельмі моцны' толькі пры спалучэнні з назоўнікам *дождж*. Яшчэ прыклады: *прасёлачная* (дарога), *траскучы* (мароз), *расквасіць* (нос, твар), *насупіць* (бровы), *патупіць* (вочы), *воўчы* (апетыт), *вытарашчыць* (вочы), *бляе* (авечка), *высалапіць* (язык), *воўчыя* (ягады) і г.д. Зразумела, што ні *закадычны сябар*, насуперак сцвярджэнню невядомага аўтара, ні *пралійны дождж* і сотні іншых падобных спалучэнняў ніяк нельга залічваць у фразеалогію, бо кожны фразеалагізм мае цэласнае, сэнсава непадзельнае значэнне, несуадноснае са значэннямі слоўкампанентаў. Напрыклад, *і жук і жаба* абазначае 'ўсе без выключэння, усякі, кожны чалавек'.

У нататцы сказана, што «Руска-беларускі слоўнік» (1953) пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі падае: «Закадычный: 3. друг *разг.* неразлучны друг, шчыры друг». Пасля дадаецца: «Пацвярджаецца гэта ўсімі наступнымі перавыданнямі гэтага даведніка. Напрыклад, РБС-82, РБС-93 і інш.».

Нельга, аднак, забываць, што згаданы даведнік (1953 г.) укладаўся ў крайне неспрыяльных умовах, без належнай картатэкі і даведачнай літаратуры. А што да перавыданняў гэтага даведніка (1982, 1993 гг. і інш.), дык перавыдаюцца яны амаль што стэрэатыпна, толькі часткова папаўняючыся новымі, нядаўна ўзніклымі словамі. Праўда, у гэтых слоўніках ёсць адна відавочная супярэчнасць. Рэдактары РБС-53 Я.Колас і К.Крапіва як бы адмаўляюць існаванне ў беларускай мове прыметніка *закадычны*, а самі, як было паказана вышэй, выкарыстоўваюць яго ў сваіх творах.

Ёсць у нататцы і іншыя падтасоўкі. Сцвярджаецца, напрыклад, што, апрача ТСБМ (т. 2. с. 318-319), «ніводзін іншы беларускі слоўнік не фіксуе гэтага выслоўя». Аднак гэта няпраўда. У «Беларуска-рускім слоўніку» пад рэдакцыяй К.Крапівы (1988, т. 1, с. 441) чытаем: «Закадычны *разг.* закадычный». Фіксуецца гэта слова і ў нарматыўным акадэмічным даведніку «Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне» пад рэдакцыяй М.В.Бірылы (1987, с. 246): закадычны *разм.*

Цікава: на каго разлічана такая дэзінфармацыя і на чый млын лье ваду гэты невядомы аўтар?

Сцвярджаецца, што «новы «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (1996) справядліва не падае на сваіх старонках гэтага неўласцівага беларускай мове фразеалагізма». Але ж гэты слоўнік аднатомны. У ім усяго 60 тысяч слоў. Як жа ён мог змясціць у сабе абсалютна ўсе словы, якія даюцца ў ТСБМ (у ім 100 тысяч слоў) ці ў СБМ (у ім 118 тысяч слоў)? Як бачым, тут з боку аўтара нататкі чарговы ход канём.

Пачынаецца нататка вялікім ўрыўкам з ТСБМ, дзе апісваецца прыметнік *закадычны*. Але ва ўрыўку знарок апускаецца ілюстрацыйны прыклад з трылогіі Я.Коласа. Бо гэта не на карысць аўтару нататкі. І гэта зноў ход канём.

Далей робіцца нібыта выкрыццё складальнікаў ТСБМ, якія як быццам скапіравалі прыведзены раней урывак – з вядомага «Слоўніка рускай мовы» С.І.Ожагава (1982, с. 184). Але ж калі супаставіць абодва ўрыўкі, дык няцяжка заўважыць, што яны шмат у чым адрозніваюцца. Да таго ж азначэнні, якія даюцца словам у тлумачальных слоўніках, аднолькавыя ў сусветнай лексікаграфічнай практыцы. Усюды – і ў Францыі, і ў Расіі, і ў Польшчы, і ў Беларусі – сэнс слова раскрываецца адным з чатырох вядомых у свеце спосабаў: апісальным, структурна-семантычным, сінанімічным і адсылачным. У тлумачальных слоўніках амаль усіх краін свету значэнне, скажам, назоўніка *стол* раскрываецца аднолькава ці амаль аднолькава: 'прадмет мэблі ў выглядзе гарызантальнай дошкі на высокіх падпорках'. І гэта ніхто не лічыць спісваннем, капіраваннем і г.д.

Як бачым, усё ў разгледжанай нататцы хісткае, непраўдападобнае, у ёй тэндэнцыя бярэ верх над логікай фактаў.

Што да паходжання прыметніка *закадычны*, дык ён прыйшоў у беларускую мову з рускай, дзе, як засведчана ў этымалагічных слоўніках, утварыўся шляхам суфіксацыі прыназоўнікава-склонавай формы *за кадык* на аснове фразеалагізма *заліць за кадык*, што абазначала 'напіцца гарэлкі'. На пачатку свайго жыцця словазлучэнне

*закадычны друг* абазначала ‘сабутэльнік’, а пасля, даўно ўжо, прыметнік стаў ужывацца з сучасным значэннем ‘вельмі блізкі, сардэчны’. Гэты прыметнік, як і тысячы іншых слоў, запазычаных з рускай, польскай, украінскай, англійскай, французскай і іншых моў, даўно стаў фактам беларускай мовы і зусім неразумна і нелагічна заносіць сякеру над ім.

## НОВАЕ ЯК ЗАБЫТАЕ СТАРОЕ

У трылогіі Я.Коласа «На ростанях» ёсць такі дыялог: «–Як лепей назваць па-беларуску: чай ці гарбата? – Як ні называеш, – усё будзе добра, абы смачна, – адказаў жартам Лабановіч». Назоўнік **гарбата** шырока ўжываўся ў жывой народнай мове беларусаў у XIX і ў першых дзесяцігоддзях XX ст. Больш за 10 разоў ён выкарыстаны ў «Паўлінцы» Я.Купалы: «Мужчыны сядзяць з аднаго канца стала, а жанчыны — з другога. П’юць гарбату, наліваючы на сподкі». Пасля гэты назоўнік перайшоў у пасіўны склад. У пяцітомным ТСБМ ён падаецца з паметай «устарэлы». А цяпер ён зноў вяртаецца ў мову, як і многія іншыя (напрыклад: *кавярня, травень, паасобнік*), актыўна ўжываецца ў перыядычным друку, у мастацкай літаратуры і заслугоўвае ўключэння ў нарматыўныя слоўнікі: 1) Цім прывітаўся. Света прамаўчала. Пачалі піць *гарбату* (А.Федарэнка); 2) Завару ў парцалянавым кубку *гарбату* (У.Арлоў); 3) — Але пачаставаць вас няма чым. Хіба *гарбаткай*? – Добра – *гарбаткай*! – аж узрадаваўся я, учуўшы гэта знаёмае з дзяцінства слова. Так некалі вымаўляла маці, вясковая настаўніца, бацька ж заўсёды казаў «чай», а маці ўпарта папраўляла яго: «*гарбата*» (В.Быкаў).

Далей гаворка пойдзе пра два словы, да якіх выдатна падыходзіць прыказка *Усё новае – гэта добра забытае старое.* Яна прыгадалася, калі аднойчы ў газеце «Народная воля» (29.10.2003) сустрэўся сказ: «Я адчуваю, як новая, будучая Беларусь **пакрыёма**, але няўхільна набірае моцы». Можна падумаць, што тут *пакрыёма* – новае слова, якога няма ў нашых акадэмічных слоўніках. Але яно «добра забытае старое». Яго ў свой час выкарыстаў Я.Купала ў паэме «Курган» (1910): «Толькі модлы раслі небу ў сэрцах людзей і праклянцце расло *пакрыёма*». Ужываў яго і В.Ластоўскі: «Забарона літоўскага друку прымусіла ліцьвінаў вучыцца граматы *пакрыёма*, па хатах». А паходзіць гэта слова з польскага спалучэння *po kryjomu* і абазначае ‘ўпотай, непрыкметна для другіх’. Можна гаварыць, што яно зноў пачало актыўна ўжывацца ў літаратурнай мове і варта таго, каб

трапіць у нарматыўныя слоўнікі. Вось некалькі прыкладаў з перыёдыкі апошніх гадоў: 1) Ні ў форме палкоўнік, ні ў штацкім маёр мяне на кручку не трымаў *пакрыёма*. І хоць у пакутах сумленне маё – мне ніцая радасць раба незнаёма (Н.Гілевіч); 2) Бацька не ганяў мяне памагаць яму ў гаспадарскіх клопатах, сам рэзаў сечку карове, насіў з далёкага гумна сена авечкам, парыў бульбу свінням і *пакрыёма* шаўцаваў (С.Яновіч); 3) Бурбоны баяцца, што двайнікі могуць дапамагчы Напалеону *пакрыёма* пакінуць востраў (У.Арлоў); 4) Сышлі *пакрыёма* і адранцвенне, і холад магільны ад сонца, цяпла, ад бадзёрага плёскату вёслаў…(А.Мінкін); 5) Каб *пакрыёма* злавіць тое, што ў яве не страціў… (Э.Акулін); 6) Зварганілі яму калісь плоцік з арматурнага жалеза ў калгаснай кузні. Па блату, *пакрыёма* ад старшыні: «жалеззя» не хапала нават на рамонт калгаснай тэхнікі (П.Місько); 7) Аркадзь Рыгоравіч *пакрыёма* баіцца, што пакіне Людка яго тэатр (М.Южык); 8) І я *пакрыёма* адчуў на сабе: гады – след у след за падзеямі, словамі... (К.Жук); 9) З тых дат Вінцэнт багата чаго намагаўся чыніць у жыцці *пакрыёма*. Нават перад каханай Юзэфкай (Я.Янушкевіч).

На аснове прыслоўя ўтварыўся ўжо ўласна беларускі прыметнік **пакрыёмны**: «Павылазілі на свет сціжмы слухачоў, віжоў і даказчыкаў, што на вуліцах і ў дамах размовы ціхія падслухоўвалі і ў твары людскія пільна ўглядаліся, *пакрыёмныя* думкі ў злачынствы прыдумляючы» (У.Арлоў).

Двойчы сустрэўся ў сучасным перыядычным друку назоўнік **перакінчык**, якім называюць таго, хто перакінуўся на бок праціўніка, хто стаў яго прыхільнікам ці хаўруснікам. І гэта слова не новае, а забытае старое. У артыкуле «А ўсё ж такі мы жывём!» (1914) Я.Купала пісаў пра вялікадзяржаўнікаў «паноў саланевічаў і таму падобных»: «Для *перакінчыкаў* законы жыцця і праўды-справядлівасці ў рахунак не ідуць». Часам у друку лічаць гэта слова наватворам Я.Купалы. Але гэта не так. Яшчэ раней, у 1911 г., В.Ластоўскі пісаў: «… бадай толькі адны *перакінчыкі*-беларусы крыва глядзелі на беларушчыну». Неаднойчы ўжыў гэта слова Я.Лёсік: «Найгоршымі ворагамі нашага руху ёсць беларусы-*перакінчыкі*, атрымаўшыя выхаванне расійскае ці польскае». Яшчэ прыклад: «Як вольны з вольным, роўны з роўным, пойдзе ён, працоўны беларускі народ, поруч з другімі народамі, а ў тым ліку і з польскім, але не з панамі, прыхваснямі польскага імперыялізму, хоць бы вы былі і тутэйшымі здраднікамі і *перакінчыкамі*, забыўшымі бацьку і мацер сваю» (А.Гарун). Відаць, гэты назоўнік варты ўвагі лексікографаў, тым больш што ён ніколькі не страціў сваёй актуальнасці. А паходзіць ён з

украінскай мовы (*перекинчик*), дзе фіксуецца ў слоўніках як звычайнае нарматыўнае слова, праўда, з паметай «размоўнае».

## З ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ!

Гаворка пойдзе пра назву нашай дзяржавы мінулых эпох. У акадэмічных «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», выдадзеных асобнай кнігай у 1959 годзе, гаварылася, што ў афіцыйных назвах дзяржаў усе паўназначныя словы пішуцца з вялікай літары. І тут, і ў шматлікіх іншых даведніках, падручніках, дапаможніках правіла ілюструецца прыкладамі тыпу: *Злучаныя Штаты Амерыкі, Федэратыўная Рэспубліка Германія, Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, Каралеўства Непал, Кітайская Народная Рэспубліка.* Сюды ж можна дадаць і параўнальна нядаўнія аналагічныя складаныя найменні: *Садружнасць Незалежных Дзяржаў, Рэспубліка Беларусь, Расійская Федэрацыя.* Але ў энцыклапедыях, манаграфіях, падручніках і артыкулах па гісторыі ці літаратуры, як толькі размова заходзіла пра Вялікае Княства Літоўскае, другое слова, насуперак правілу, пісалі з малой літары.

У 1999 годзе быў апублікаваны акадэмічны праект новай рэдакцыі «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі». Сярод розных удакладненняў тут на с. 56 паўтараецца ранейшае правіла аб напісанні з вялікай літары ўсіх слоў у назвах дзяржаў, але ў якасці прыкладаў прыводзіцца ўжо і *Вялікае Княства Літоўскае.* У кастрычніку 1999 года «Настаўніцкая газета» змясціла інтэрв'ю з дырэктарам Інстытута мовазнаўства акадэмікам А.І.Падлужным, пад кіраўніцтвам якога ажыццяўляўся праект новага правапісу. Аляксандр Іосіфавіч выказваў спадзяванне, што да сярэдзіны 2000 года будзе адпаведная ўрадавая пастанова аб увядзенні ў дзеянне абноўленых правілаў, а да канца года плануецца перавыдаць папраўлены акадэмічны «Слоўнік беларускай мовы». З таго часу прайшло сем гадоў, але няма ні саміх правілаў, ні абноўленага нарматыўнага слоўніка. Між іншым, гэты факт пра многае гаворыць сам за сябе.

Незалежна ад гэтага, аднак, у друкаванай маўленчай практыцы памалу ўсталёўваюцца некаторыя напісанні, занатаваныя ў праекце арфаграфічных правілаў. Так, амаль ва ўсіх беларускіх выданнях цяпер пішуць з вялікай літары: *Бог, Гасподзь, Усявышні, Уладыка Нябесны, Божая Маці* і пад. Пішуць «э» ў канцы нязменных слоў *(рэзюмэ, рэнамэ),* у сярэдзіне шмат якіх запазычаных назоўнікаў: *вальдшнэп, дыспансэр, джэнтльмэн, кансэнсус, мадэмуазэль, нонсэнс, паланэз, сэрвіс, тунэль, экзэма, экзэмпляр* і інш.

Цяпер «Настаўніцкая газета» (напрыклад, за 21.XII.2000 г.), «Літаратура і мастацтва», «Маладосць», «Роднае слова» (напрыклад, у № 10 за 2003 г., с. 6) пішуць з вялікай літары ўсе словы ў назве *Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае* і, само сабой зразумела, у абрэвіятуры *ВКЛ*. Але ў некаторых выданнях прадаўжаюць друкаваць па-ранейшаму; напрыклад, у часопісе «Полымя» (2003. № 10. С. 18): *па пратэкцыі палявога пісара Вялікага княства Літоўскага;* у «Народнай волі» (29.10. 2003): *Вялікае княства Літоўскае*. Або пішуць і так і гэтак; напрыклад, у «Нашым слове»: *Вялікае княства Літоўскае* (29.10.2003) і *Вялікага Княства Літоўскага* (5.11.2003).

Будзем спадзявацца, што ўсе аўтары стануць трымацца логікі, а не традыцыі і фанатычнага кансерватызму ў арфаграфіі, будуць пісаць з вялікай літары ўсе словы ў назве нашай дзяржавы мінулых эпох, як пішуць гэта ў назвах іншых дзяржаў.

## З НАРОДНЫХ ПРЫПЕВАК

Амаль увесь ранейшы, савецкага перыяду фальклор, які ў свой час актыўна прапагандавалі, прымушалі вывучаць у сярэдніх і вышэйшых школах, выдавалі асобнымі кніжкамі, а пасля ўключылі ў шматтомны акадэмічны збор пад агульнай назвай «Беларуская народная творчасць», сёння непрыемна, агідна, сорамна чытаць. Ледзь не ўсе гэтыя савецкія казкі, песні, прыказкі, загадкі, прыпеўкі далёкія ад сапраўднай вуснай народнай творчасці. Яны часцей за ўсё прымітыўныя, саматужныя, апалагетычныя, зробленыя ў духу сацыялістычнага рэалізму, падпарадкаваныя прынцыпу партыйнасці. Чаго вартыя, напрыклад, такія нібыта прыказкі, поўныя ўсенароднага самаўніжэння: *Каб не ленінскія творы, мы б усе жылі ў гор; Дзякуй партыі, што мы людзей вартыя; Каб не Ленін і не партыя, былі б нічога мы не вартыя.* Або такая прыпеўка: *Слава сокалу, што родам з-пад каўказскіх скалаў, што з Крамля праменні сее з юнацкім запалам.*

А была ў тыя часы і сапраўдная вусная паэзія, толькі крытычнага кірунку. Але яе і блізка не дапускалі да друку ды і запісваць з чыіх-небудзь вуснаў не адважваліся.

Газета «Народная воля» ўвесну 2004 года распачала была рубрыку «Народныя прыпеўкі», а пасля чамусьці перастала іх друкаваць. Пасылаў туды і я некалькі прыпевак, але яны так і не пабачылі свет. А прыпеўкі гэтыя не мною прыдуманыя, а пачутыя ў апошнія 10-15 гадоў ад знаёмых, а то і зусім незнаёмых мне людзей ці

на вечарынах мастацкай самадзейнасці. Значыць, гэта ўжо ў нейкай ступені народныя прыпеўкі. Дык няхай жа яны і далей ідуць у народ, запамінаюцца, пашыраюцца, узгадваюцца ў патрэбны момант. Вось яны:

А як Ленін паміраў,
Сталіну наказваў:
– Многа хлеба не давай,
Мяса не паказвай.

Нам сонца не трэба:
Нам Партыя свеціць!
Не трэба нам хлеба –
Работу давай.

Прайшла зіма, настала лета.
Ой, дзякуй Партыі за гэта!

Народ і Партыя адзіны,
Ды не адны ў іх магазіны.

У Гаване і Афгане
Нам прыйшлося пабываць:
Там браты нашы славяне,
Трэба ж ім дапамагаць.

У Гаване і Афгане
Нам прыйшлося пабываць.
Не ў свае мы селі сані
Цягу мусілі даваць.

У Гаване і Афгане
Нам прыйшлося набываць.
Дзе б яшчэ паспрабаваць
Камунізм пабудаваць?

З неба атамка упала
Проста міламу ў штаны.
Хай ўзарвецца, што папала –
Толькі б не было вайны!

Ой ты, бульбачка
Беларуская...
А як выганяць гарэлку,
Пішуць: «Русская»...

Ой, купіла я карову,
Захацела малака.
Ды карове ж трэба сена
І наглядчыка з ЦэКа.

У калгасе добра жыць:
Адзін косіць, сем ляжыць.
А як сонца прыпячэ,
Дык і гэты уцячэ.

Ёсць ў калгасе птушка ферма,
І другая хутка будзе.
А калгаснік бачыць яйцы,
Калі ў лазні мые грудзі.

Я па кладачцы іду,
Кладачка хістаецца.
Ой, не верце камуністам,
Пакуль не пакаюцца.

Я па кладачцы іду,
Кладачка хістаецца.
Гэта ж з кадраў ВПШ
Вертыкаль складаецца.

Паглядзіце: хто ў сенаце?
Колькі там былых людзей!
Малафей у той палаце,
Сакалоў і Дземянцей.

Ёсць у нас такое цуда,
Што і ўвечары, і рана
Аблівае толькі брудам
Ўсіх з блакітнага экрана.

Спадарожнік наш лятае,
Аж падняўся ў край нябес,
І навекі праслаўляе
Маць тваю КПСС!

Я ўкраў мяшок гароху,
А Пятровіч – самалёт.
Паўшчувалі яго троху,
Мне ж усыпалі пяць год.

Ой, ляцелі гусі,
Каля рэчкі селі.
А чаму ж на Беларусі
Ўсе так абруселі?

## ПРА ЗАГАЛОЎКІ МАСТАЦКІХ ТВОРАЎ

З выказванняў многіх пісьменнікаў (напрыклад, Л.Талстога) вядома, што даць твору найбольш адпаведную назву – даволі цяжкая задача. К.Федзін пісаў: «Перабярэш дзесяткі назваў, пакуль спынішся на адной. Прыйдуць у галаву цудоўныя варыянты, але выяўляецца, што яны былі ўжо ў іншых пісьменнікаў» (Лит. газ. 25.10.1956). В.Адамчык у публікацыі «З дзённіка 1999 года» прыгадвае: «Зноў круціцца ў галаве новая назва старога апавядання: «Да мёртвых не спяшаюцца» альбо «Да мёртвых успееца», «Я ўсё ж яго ўпаляваў», «Паляванне на хутары», «Упаляваны сусед», «Паляванне пры студні». А найлепш – «Злыдзень» альбо «Злыдух», «Смерць на парозе».

Сэнс загалоўкаў шмат якіх твораў лёгка ўсведамляецца і пры чытанні пэўнага твора, і асабліва тады, калі загортваецца яго апошняя старонка. Напрыклад, добра разумеем, чаму Я.Купала назваў менавіта гэтак свае паэмы «Бандароўна», «Курган», «Магіла льва» ці камедыю «Паўлінка» або «Прымакі». А ёсць шэраг твораў, загалоўкі якіх прымушаюць чытача задумацца. Яны або атрымалі сэнсавае прырашчэнне, або ў іх суіснуюць два значэнні.

Загаловак апавядання Я.Брыля «Memento mori», што ў перакладзе з латыні абазначае ʻпомні пра смерць (пра непазбежны канец)ʼ у сэнсавых адносінах не мае нічога агульнага з лацінскім выразам (гэта прывітальная формула, прынятая ў манаскім ордэне трапістаў, члены якога былі звязаны абяцаннем маўчання). Загаловак выкарыстаны ў двух значэннях: першае – гэта ʻпомні пра смерць (бязвінных ахвяр у сотнях беларускіх Хатыняў)ʼ; другое – ʻумей і памерці Чалавекам (як памёр герой апавядання – стары пячнік)ʼ.

У загалоўку паэмы «Тарас на Парнасе» таксама сутыкаюцца два значэнні. Прамы сэнс загалоўка непасрэдна звязаны з казачным сюжэтам, з апісаннем таго, як палясоўшчык Тарас трапіў на Парнас і што ён там бачыў. Разам з тым загаловак мае абагульнены сэнс, які выцякае з ідэйнага зместу паэмы: просты чалавек, прыгонны селянін – вось хто становіцца, павінен стаць героем, аб'ектам літаратуры. Прыгадаем, што Булгарына і Грэча, рэакцыйных пісьменнікаў, не

пускаюць на Парнас, «дзяржаць на палу». Пушкін жа, Лермантаў, Жукоўскі і Гогаль свабодна і велічна «прайшлі, як павы, на Парнас». Свабода пранікае туды і прыгонны селянін Тарас.

Сэнс загалоўка камедыі К.Крапівы «Хто смяецца апошнім» успрымаецца без цяжкасці. Але гэты загаловак трэба разглядаць не як звычайнае спалучэнне слоў, а як аўтарскае скарачэнне вядомай прыказкі «Добра смяецца той, хто смяецца апошнім», што бытуе ў нашай і многіх іншых мовах як калька з французскай мовы *Rira bien qui rira le dernier*.

Звернем увагу на назву Купалавай трагікамедыі. Слова *тутэйшы* ў маўленні розных персанажаў паўтараецца пяць разоў і ўсюды з яго звычайным значэннем, а ў загалоўку, на фоне ўсяго твора, набывае сэнсавае прырашчэнне, атрымлівае трагічна-саркастычны сэнс: ‘людзі, хворыя на *тутэйшасць’* – «хранічную хваробу беларускага грамадства» (У.Конан). Пераважная большасць герояў твора – з ліку такіх «тутэйшых», гэта, паводле Янкі Здольніка, – «тожа беларусы, з пароды рэнегатаў і дэгенератаў». Аўтар словамі Здольніка праводзіць ідэі беларусізацыі, кліча пазбаўляцца «тутэйшасці», знішчыць «даўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе».

Зазначым, дарэчы, што калі б пры хоць крышачку іншай «палітычнай сітуацыі» трагікамедыя не была забароненая і гэтак жа часта, як «Паўлінка», ставілася на сцэне, выдавалася і чыталася, то многія яе фразы, спалучэнні, словы набылі б крылатасць, сталі б лятучымі стрэламі супраць кагорты «з пароды рэнегатаў і дэгенератаў». П’еса магла б стаць сцягам Беларушчыны, паслужыць вялікай справе Адраджэння. Але, каб, не дай бог, гэтага не здарылася, яе і забаранілі (у 1926 г.).

«Каласы пад сярпом тваім» – так называецца раман У.Караткевіча. «Думка аб гістарычнай неабходнасці і апраўданасці паўстання выказана, як мне здаецца, ужо ў самім загалоўку рамана, вельмі ёмістым і метафарычным, – піша А.Мальдзіс у «Полымі» (1980. № 11. С. 236). – Падзеі 1863 года – гэта велічнае і трагічнае жніво, дзе серп гісторыі жаў лепшыя жыцці дзеля таго, каб наступныя пакаленні маглі правесці новы пасеў».

Нярэдка ў якасці загалоўка выкарыстоўваецца фразеалагізм. Кантэкстам, у якім рэалізуецца значэнне фразеалагізма, у такіх выпадках звычайна з’яўляецца ўжо не сказ як мінімальная камунікацыйная адзінка, а цэлы твор або яго значная частка. Фразеалагізмам *на ростанях*, што значыць ‘у стане сумненняў, хістанняў, у нера-

шучасці перад выбарам чаго-небудзь', назваў сваю трылогію Я.Колас, і гэта назва цесна звязана з галоўным вобразам трылогіі, з яе тэмай, з адлюстраваннем тых складаных шляхоў, якімі ішла народная інтэлігенцыя ў пошуках праўды, сэнсу жыцця. Фразеалагізм, вынесены ў загаловак, ёсць і ў самім творы: «У яго [Лабановіча] цяпер не было ніякага акрэсленага шляху, ён проста апыніўся *на ростанях*, выбіты з каляіны так ці іначай усталёванага жыцця».

Шмат якія загалоўкі маюць падвойны сэнс. Так, назва байкі К.Крапівы «Жаба ў каляіне» ўсведамляецца як з прамым, так і з абагульнена-пераносным значэннем, звязаным з баечнай мараллю, – 'нікчэмнасць, асуджаная на пагібель'. Гэты крылаты крапівоўскі выраз, менавіта з яго метафарычным зместам, стаў моўным фразеалагімам, што можна пацвердзіць шасцю ўрыўкамі з твораў І.Гурскага, Л.Прокшы, М.Чавускага і іншых аўтараў. Напрыклад: 1) Партыя цяпер апынулася ў ролі жабы ў каляіне («ЛіМ»); 2) Я гэтаю вёскаю і табою, як жаба ў каляіне, раздушаны (А.Жук); 3) Ну хто ён сам і тыя, каго ён залічвае да сонцазорнага аэрапагу?.. Вартая жалю, амбіцыёзная жаба ў каляіне… (С.Кліменценка).

Фразеалагізаваўся і загаловак апавядання В.Быкава «Ружовы туман» (1995). Гэта знешне алагічнае словазлучэнне ўжыта з пераасэнсаваным значэннем 'стан ілюзорнага, таталітарна-савецкага ўспрымання рэчаіснасці' ўжо і ў загалоўку самога апавядання пра чалавека з саўковымі звычкамі, і двойчы ў тэксце апавядання, у тым ліку ў заключным сказе пра дзевяностагадовага Барсука, які, «можа, хай жыве ў сваім ружовым тумане, дажывае век і носіць вазончыкі да падножжа помніка». Нядаўна ўзнікшы, выраз набыў крылатасць, што бясспрэчна пацвярджаецца шматлікімі прыкладамі яго выкарыстання ў друку («Полымя», «Маладосць», «ЛіМ») у творах Р.Тармолы-Мірскага, Л.Рублеўскай, С.Грышкевіча і многіх іншых аўтараў. Вось толькі два прыклады: 1) Магчыма, Быкаў стаў тым пісьменнікам, які першы выйшаў з ружовага туману (С.Дубавец); 2) Гісторыя літаратуры 20–50 і пазнейшых гадоў яшчэ чакае ўдумлівага асэнсавання. У ёй быў не толькі ружовы туман, узведзеная ў закон фальсіфікацыя (У.Казбярук).

У загалоўку аповесці В.Быкава «У тумане» таксама сутыкаюцца два значэнні. Дзеянне пачынаецца ў лясных прыцемках позняй восені, акутаных сцюдзёным туманам, і заканчваецца на трэція суткі золкай туманнай ноччу. Другі туман – ужо не атмасферная з'ява, а ідэалагічная, вынік шматгадовага савецкага выхавання. Гэты туман – сімвалічны вобраз маральных дэфармацый, якія раз'ядноўваюць людзей, спараджаюць недавер і нічым не апраўданыя ахвяры. Адзін з

трох персанажаў, Война, так і загінуў у тумане дэмагагічнай пільнасці, у поглядах другога, Бурава, перад самай смерцю наступае сякое-такое прасвятленне.

Мнагазначнасцю вылучаецца і загаловак апавядання «Труба» В.Быкава. П'янаваты загадчык клуба Валера Сарока, хаваючыся ад дажджу, залез у газаправодную трубу, а газавікі, пакуль ён спаў, трубу заварылі. Там ён і загінуў, не змогшы выбрацца з трубы. «У пэўным сэнсе нешта падобнае адбылося і з намі, з нашым грамадствам, – піша Дз.Бугаёў у «Родным слове» (1999. № 1. С. 16). – Кіруючыся спакуслівай, але, як аказалася, утапічнай камуністычнай ідэалогіяй, яно таксама выбрала, здавалася, надзейны і самы кароткі шлях да ўсеагульнага шчасця, а ў канчатковым выніку загнала сябе ў тупік, фігуральна кажучы – у трубу, з якой мы ўсё ніяк не можам выбрацца і пасля развалу краіны, якая з гонарам заяўляла, што пракладае дарогу да лепшай будучыні ўсяму чалавецтву». Такія ж думкі апаноўвалі і Валеру, калі ён блукаў у трубе, шукаючы выйсця.

## ТЭКСТАЛАГІЧНЫ АНАЛІЗ КУПАЛАВАЙ «ПАЎЛІНКІ»

Тэксталагічны аналіз, г.зн. параўнанне розных рэдакцый аднаго і таго ж твора, аўтарскіх чарнавікоў, рукапісаў, выступае як істотны дапаможны сродак пры вывучэнні твора, садзейнічае іншым відам аналізу – літаратуразнаўчаму, стылістычнаму, лінгвістычнаму. Ён дазваляе ўбачыць творчыя «пакуты слова»: як пісьменнік шукаў і нарэшце знайшоў самае неабходнае, адзіна магчымае слова ці выраз для пэўнай маўленчай сітуацыі, як удасканальваў ідэйны змест твора.

Адны аўтары пры перавыданні сваіх твораў зноў і зноў вяртаюцца да іх, уносяць сякія-такія змены. Напрыклад, Я.Колас у 1954 г., рыхтуючы да друку трылогію «На ростанях», зрабіў вялізнае мноства правак, па сутнасці, перапісаў абедзве палескія аповесці. К.Крапіва тройчы папраўляў байку «Дыпламаваны Баран».

Другія ж – шліфуюць, удасканальваюць свой твор толькі ў яго рукапісным выглядзе, а пасля таго, як ён пабачыў свет, не вяртаюцца да яго. Так, В.Быкаў і ў 1990-я гады пры перавыданні аповесцей не аднаўляў нават купюр савецкага цэнзурнага паходжання. Як піша Р.І.Гульман, у кнізе «Тэксталогія твораў Янкі Купалы» (1971), паэт Янка Купала свае творы, аднойчы апублікаваныя, таксама амаль ніколі не перарабляў. Відаць, адзіным выключэннем з'яўляецца камедыя «Паўлінка». У дзевяцітомным Поўным зборы твораў (2001, т. 7, с. 377) сказана, што гэта п'еса друкуецца «па Зб. тв., 1927, т. III з

улікам некаторых змен, унесеных аўтарам у выданне 1937 г.». Што ж гэта за «некаторыя змены» і чым яны былі абумоўленыя?

Калі ад дзвюх іншых Купалавых п'ес («Прымакі» і «Раскіданае гняздо») захаваліся толькі белавыя аўтографы, а ад «Тутэйшых» і такога рукапісу не засталося, то «Паўлінцы» пашанцавала. Захаваліся яе і чарнавы, і белавы аўтографы. Відаць, таму, што Я.Купала ў студзені 1930 г. перадаў іх праз К.Душэўскага ў дэпазіт Беларускага музея імя І.Луцкевіча ў Вільні. Як бачым, перадаў не ў які-небудзь мінскі архіў, а ў віленскі. Прыгадаем, што гэта быў год, калі ва-ўсю ішло змаганне з так званымі «нацдэмамі» і калі 20 лістапада Я.Купала спрабуе развітацца з жыццём. А 1937 годзе, калі аўтар мусіў унесці змены ў «Паўлінку», – гэта пік злачыннай вайны таталітарнай улады супраць свайго народа. Параўноўваючы сучасны тэкст п'есы з яе двума аўтографамі, бачым, што драматург мусіў зрабіць настаўніка Якіма Сароку ледзь не горкаўскім Буравеснікам. У 2-ю з'яву 1-га акта было ўключана наступнае: Паўлінка «абнімае Якіма, раптам знаходзіць у кішэні кнігу», пытаецца: «А гэта што?» І далей: «Чытае няўмела першыя радкі з «Песні аб Сокале» М.Горкага. Потым Якім забірае ў яе кнігу і сам чытае». У каментарыях да п'есы (т. 7, с. 384) слушна гаворыцца, што «на той пе-рыяд вельмі істотнай з'яўлялася ўстаўка аб чытанні Якімам Сарокам «Песні аб Сокале» М.Горкага», хоць, калі сказаць словамі Георгія Коласа, «Якім не быў ні Буравеснікам, ні Сокалам – ён быў *Сарока*». Магчыма, гэта ўстаўка была зроблена не без уздзеяння І.Гурскага – старшыні секцыі драматургаў, які да таго ж быў рэдактарам выдання «Паўлінкі» ў 1937 г. У гэта выданне былі ўнесены і іншыя змены: значныя скарачэнні, пера-працоўка заключнай часткі, аднак у сучасных выданнях п'есы яны, за выключэннем устаўкі пра Сокала, не прымаюцца пад увагу. Выдаючы камедыю ў такім выглядзе, Я.Купала ўсё ж дамогся, каб на тытульнай старонцы кніжкі было пазначана: «З рэпертуару БДТ-2» (пастаноўку «Паўлінкі» на працягу многіх гадоў ажыццяўляў Беларускі дзяржаўны тэатр № 2).

Звернемся цяпер да правак у двух аўтографах. У чарнавым іх 205, у белавым – 118. Усе яны сведчаць аб карпатлівай працы пісьменніка, аб яго імкненні давесці камедыю да бездакорнасці ва ўсіх адносінах.

Больш як у 60 выпадках адно слова заменена другім, больш прыдатным і дакладным у пэўным кантэксце. Напрыклад, у рэпліцы Паўлінкі спачатку было: «Ну, але тата сваё, Якім сваё, а я – сваё. *Папрабуем,* чый верх будзе: таткаў, ці мой, ці яго?» Пасля выдзеленае слова заменена іншым: *паглядзім.* Гэтак жа мэтанакіравана дзеяслоў

*раскідаць* замяняецца адназначным у дадзеным кантэксце дзеясловам *разнясці:* «Што ж гэта пана Адольфа конь хацеў *разнясці»*

Тонка адчуваючы, здаецца, нязначную розніцу ў сэнсавай структуры слова, драматург рабіў апраўданыя замены, напрыклад, дзясловаў *прытварацца, чапаць* на *прыкідвацца, кратаць,* прыслоўя *моцна* на *добра* («добра прывязаў каня») і г.д. У пэўным слоўным акружэнні лепш адчуваецца беларускасць маўлення пры выкарыстанні замест *крэпка, гаварыць, другі* іх заменнікаў *моцна* («спаць моцна»), *казаць* («людзі казалі»), *іншы* («на іншы лад», «як у іншых») або замест прыназоўнікаў *к* і *ад* – *да* і *за* («да ўсякай», «лепшы за нас»). Часам замена абумоўлена стылістычнымі і іншымі прычынамі. Так, у рэпліцы Агаты, у двух суседніх сказах, былі амаль што паўтарэнні: «ці ж зрушыш з месца» і «з месца не зрушыцца»; пасля ў другім словазлучэнні замест *зрушыцца* стала *скранецца.* У вусны Сцяпана спачатку было беспадстаўна ўкладзена скажонае слова *сызматык* (замест *схізматык),* пасля зроблена замена: «з гэтым *бязбожнікам».*

Не варта таксама забываць, што п’еса пісалася ў 1912 г., г.зн. тады, калі беларуская літаратурная мова была яшчэ замала апрацавана, знаходзілася ў стадыі фармавання. Я.Купала, як адзін з галоўных яе стваральнікаў, «шукаў нормаў» (М.Лужанін). Гэтым вытлумачваюцца шмат якія праўкі ў «Паўлінцы». Напрыклад, неўласцівае беларускай мове *напрасліну* («Нашто напрасліну вясці») заменена на *дарэмшчыну; вучыцельскія* («вучыцельскія курсы») – на *настаўніцкія; не панімаеш* («нічога ніколі не панімаеш») – на *не кеміш; скаціна* («скаціна парадачная») – на *быдлё.* У адной аўтарскай рэмарцы спачатку было *з дасадай;* аўтар шукаў заменніка для гэтага рускага спалучэння і ўрэшце спыніўся на польскім слове *паірытавана,* якое абазначае ‘з раздражненнем’.

У аўтографах, асабліва чарнавым, дзесяткі разоў сустракаюцца замены іншага характару. Так, замест «Адольф Быкоўскі» спачатку ўсюды было «Станіслаў Пустарэвіч». Іншы раз ацэначнае, у стасунку да персанажа, слова замяняецца словазлучэннем *(чучала – начніца касавокая),* адно словазлучэнне – іншым сло-вазлучэннем *(стары мухамор — гнілая качарэжка).* Або: *дроў прынясе – дрэўкі пашчапае.* Адны сінтаксічныя канструкцыі замяняюцца іншымі, асабліва ў рэпліках Паўлінкі, што робіць яе выказванні больш дакладнымі і выразнымі. Напрыклад, замест «што я з табой дужа блізкае знаёмства забрала» стала: «што мы з табой злюбіліся». Дарэчы, некаторыя папраўленыя канструкцыі не сталі нормай літаратурнай мовы: «Пад сэрцам так баліць, так баліць, што і сказаць не магу» – «так пад сэрцам баліць, што і жыць *неўмагату».* Ёсць зменены канструкцыі і

ў маўленні Агаты: «твой тата яго не хоча» – «твой тата на яго заеўся». Перароблены на беларускі лад развітальныя фразы Быкоўскага: «На відзене панне Паўлінцэ. Проша чэкаць...» – «Дабранач панне Паўлінцы! Проша чакаць...»

Яшчэ адзін від правак – скарачэнні. Закрэсліваецца цэлы шэраг рэплік: напрыклад, 7 суседніх рэплік у 3-й з'яве 2-га акта, неістотных для развіцця дзеяння ў п'есе; асобныя рэплікі Паўлінкі, напрыклад, яе іранічна-жартаўлівае выказванне пра Вінцуся, які ўжо выпіў пятую шклянку гарбаты («Наловіць рыбы, каб я так жыла»); злосная, абражальная рэпліка Сцяпана пра Якіма («Не хачу, каб і імя гэтага сызматыка, гэтага плюгаўства ў маёй хаце ўспаміналася»). Апушчаны асобныя словы: двойчы паўторанае *прынёс, каталік* (у характарыстыцы, якую Сцяпан дае Быкоўскаму), словазлучэнне *шагам марш* (у выказванні Паўлінкі) і інш. Аўтар часткова ачышчае ад слоўнага шалупіння («собственно», «вось-цо-да») маўленне Пранціся.

У рукапісах камедыі ёсць каля 50 дапісак, дадаткаў, уставак. Адны з іх, як і папярэднія праўкі, носяць моўна-стылёвы характар, другія – узмацняюць ідэйнае гучанне п'есы.

Да асобных назоўнікаў дапісваюцца мастацкія азначэнні: «*свянцоныя* кроплі» (пра гарэлку), «хаты *роднай», «трухлявую* калоду» (так Агата характарызуе мужа), «суд... *правы і суровы».* Стварэнню вобразнасці садзейнічаюць дапісаныя параўнальныя звароты, не банальныя, а з элементамі навізны, нечаканасці: «плявузгаць, *як латак у млыне»,* «мне і так горка на душы, *як бы хто там палын засеяў».* У маўленне Паўлінкі робяцца такія, напрыклад, устаўкі: «і так лёганька, лёганька на сэрцы», «І чаму я такая няшчасная?», «або згіну, каб і следу не засталося».

У розныя мясціны п'есы дадаткова ўстаўлены па дзве, тры і чатыры рэплікі, а таксама дадаткі — сказы ці часткі сказаў. Амаль ва ўсіх выпадках яны працуюць на ўзбагачэнне ідэйнага сэнсу твора. З гэтых дадаткаў даведваемся, якое станоўчае ўздзеянне аказваў Якім на Паўлінку, чаму вучыў («Хораша так аб усім расказваў... як трэба жыць»). Што-ніштo даведваемся дадаткова і пра фанабэрыстага задаваку Быкоўскага, які, аказваецца, «сам голы, як бізун».

Асобна спынімся на выніках тэксталагічныхназіранняў за выкарыстаннем фразеалагізмаў у «Паўлінцы».

1. Аўтар уводзіць у тэкст фразеалагізм, каб узмацніць экспрэсіўнасць выказвання. Так, у рэпліку Сцяпана дапісваецца выраз *вушы развесіўшы:* «А ты, каханенькая, родненькая, не слухай, вушы развесіўшы, ды лепей гасцей глядзі». Рэпліка Паўлінкі «Ну, ну, ужо маўчу...» дапаўняецца агульнанародным выразам *як рыба* з

далучэннем азначэння *нямая* да назоўнікавага кампанента.

2. Некаторыя свабодныя словазлучэнні, у якіх асобныя словы не стваралі адзінага мастацкага вобраза, заменены фразеалагізмамі. Замест *жыўцом спаліў* стала *жыўцом з'еў,* замест *прахам сплыў — вадою сплыў* (быў яшчэ і варыянт *з вадою сплыў):* «Ён-то нічога, але тата — дык жыўцом бы яго з'еў», «Быў час, ды вадою сплыў».

3. Слова замяняецца фразеалагізмам. У абодвух аўтографах спачатку было: «Ну, хай будзе *па-твойму».* Пасля і ў чарнавым, і ў белавым аўтографах заменена: «Ну, хай будзе, *як Сора казала».*

4. З двух сінанімічных выразаў аўтар выбірае больш прыдатны, такі, які лепш адпавядае мове пэўнага персанажа. Так, у мове Альжбеты замест *прах ведае* стала *немач ведае:* «А немач цябе ведае!..»

5. Каб пазбегнуць сэнсавай таўталогіі, аўтар апусціў слова *лаза,* пакінуўшы толькі фразеалагізм *бярозавая каша.* Замест «Лазы, пане дабрудзею, бярозавай кашы!..» стала: «Бярозавай кашы не пашкодзіла б, пане дабрудзею».

6. Іншы раз фразеалагізм замяняецца словам. Напрыклад, Быкоўскі пакрыўдзіўся на Паўлінку, яна папрасіла прабачэння, сказала: «У мяне *так сабе* вылецела слаўцо». Мнагазначны выраз *так сабе ў* тэксце не зусім выразна праяўляе адно са сваіх значэнняў – 'без пэўнай мэты', таму аўтар замяніў выраз словам *наўмысле* — 'выпадкова, без якога-небудзь намеру'. Фразеалагізм *тыцкаць нос* заменены на *тыцкаца* («прыкусі язык і не тыцкайся, куды цябе не просяць»). У сучасным тэксце камедыі ёсць такое выказванне Паўлінкі пра Быкоўскага: «І собіла ж богу стварыць гэткую *чапялу недарэчную!»;* перш чым драматург знайшоў больш мэтазгоднае *чапялу недарэчную,* ён перабраў такія варыянты: *трубу Ерыхонскую, кукарэку.*

Варты ўвагі і яшчэ адзін прыклад, але ўжо іншага характару. Абмежаваны, недалёкі Быкоўскі ўжывае выразы, якія ў мове маюць зусім іншы сэнс. Так, двухзначны фразеалагізм *па самую шыю,* спалучаючыся са словамі *заняты, загружаны,* абазначае 'вельмі моцна', а ўжываючыся пры дзеясловах *нарабіць, нацярпецца* і пад., рэалізуе значэнне 'звыш усякай меры'. Гэты фразеалагізм не можа ўжывацца пры дзеяслове *закахацца* і яго сінонімах, аднак у рэпліцы Быкоўскага чытаем: «Відаць, дзеўка ўлялюскалася ў мяне па самую шыю». Пра тое, што Я.Купала знарок падкрэслівае недарэчнасць гэтага выразу ў мове Быкоўскага, сведчыць варыянт чарнавога аўтографа «Паўлінкі», у якім было: «Відаць, дзеўка ўлялюскалася ў мяне па самыя цыцкі».

Камедыя «Паўлінка», створаная амаль сто гадоў назад талентам і карпатлівай працай Янкі Купалы, і сёння не сыходзіць са сцэны (у двух значэннях гэтага выразу).

## ПРА БЛІЗКАЕ СВАЯЦТВА МОЎ

Паміж шмат якімі мовамі ёсць падабенства ў граматыцы, гукавой сістэме, каранях слоў. На гэтай аснове роднасныя мовы аб'ядноўваюцца ў моўныя сем'і. У ліку найбольш пашыраных звычайна называюць 12 моўных сем'яў: індаеўрапейскую, семіта-хаміцкую, цюркскую, мангольскую, кітайска-цібецкую і інш. Адны мовы, што ўваходзяць у пэўную моўную сям'ю, тэрытарыяльна блізкія, а другія – аддаленыя адна ад другой тысячамі кіламетраў. Так, фіна-угорскую моўную сям'ю складаюць мовы, многія з якіх, хоць некалі былі суседзямі, сёння знаходзяцца адна ад адной за трыдзевяць зямель. Гэта, з аднаго боку, фінская, карэльская, эстонская, а з другога – комі-пярмяцкая, комі-зыранская, удмурцкая, мардоўская, марыйская і яшчэ больш аддаленыя венгерская, мансійская і хантынская (дзве апошнія ў Цюменскай вобласці Расіі).

Звычайна сям'я моў падзяляецца на некалькі моўных груп, а група на падгрупы. Сустракаюцца групы ці падгрупы з адной мовы – без роднасных сувязяў з іншымі. Напрыклад, грэчаская, албанская і армянская мовы належаць да індаеўрапейскай моўнай сям'і, але кожная з іх – мова-адзіночка, не мае родзічаў.

Беларуская мова ўваходзіць у самую вялікую моўную сям'ю, якая называецца індаеўрапейскай. Гэта назва паказвае на вельмі далёкую, але ўсё ж роднасць розных моў Еўропы і Азіі. Сучасныя індаеўрапейскія мовы – нашчадкі адной мовы-асновы (пра́мовы), якая, распаўшыся ў 4-3 тысячагоддзі да нашай эры, спарадзіла гэтыя мовы ці, дакладней, пра́мовы, мовы-асновы. Індаеўрапейская сям'я моў складаецца з 12 моўных груп: індыйская, германская, раманская, славянская, іранская, грэчаская, балтыйская, кельцкая, армянская, албанская і дзве мёртвыя – хецкая, тахарская. Многія з іх у сваю чаргу распадаюцца на падгрупы. Група славянскіх моў падзяляецца на тры падгрупы: усходнюю (руская, украінская, беларуская мовы), заходнюю (польская, чэшская, славацкая, сербалу́жыцкая), паўднёвую (балгарская, сербскахарвацкая, славенская, македонская).

Пра незайздросны лёс беларускай мовы і гвалт над ёю сёння ведаюць амаль усе. Аж тры стагоддзі нас то варылі ў катле паланізацыі, то смажылі на патэльні русіфікацыі. Пачынаючы з другой паловы XIX стагоддзя, русіфікатарскі махавік гвалту набывае

ўсё большы разгон. Уключаюцца тры асіміляцыйныя рычагі ўздзеяння: рускае начальства, руская школа, праваслаўная царква.

Яшчэ генерал Мураўёў, ахрышчаны мянушкай «Вешальнік», пасля задушэння паўстання 1863–1864 гадоў гаварыў (ва ўнісон з графам Уваравым): «Што не змог зрабіць рускі штык, даробіць руская школа». Гэты крывавы кат, як сказана ў «Нарысах па гісторыі Беларусі» (1994, с. 334), не давяраючы мясцовым настаўнікам і чыноўнікам, асабліва каталікам, амаль цалкам замяніў іх выхадцамі з цэнтральных расійскіх губерняў, прывабіўшы павышэннем акладаў на 50 працэнтаў і перспектывай хуткай кар'еры. І пачалося «даробліванне»...

Дарэчы, Мураўёву належыць і такая ўстаноўка (ёю, як здаецца, не перастаюць кіравацца і цяперашнія ўлады): «У Паўночна-Заходнім краі так званую беларускую мову неабходна звесці на нішто. Бо, калі гэтага не зрабіць, яна пастаянна будзе інспе-рыраваць думку аб асобным беларускім народзе і аб праве гэтага народа на этнічную самастойнасць і нацыянальна-дзяржаўную суверэннасць, чаго дапусціць нельга».

Вялікадзяржаўнікі, прышлыя і «свае», ушчэнт «разбэсцілі вялікі мой народ», – пісаў Пімен Панчанка. 21 жніўня 1989 года ён занатаваў у сваім дзённіку: «Высмеялі народ, беларускую мову, не вучылі чвэрць веку роднай мове (забаранілі) нашых дзяцей, а пасля кажуць: «Ніхто не разумее беларускай мовы, не хоча на ёй размаўляць і вучыцца».

Сёння амаль усе беларусы валодаюць рускай мовай, але далёка не ўсе ведаюць сваю, матчыну мову. А ў кнігах, газетах і праз тэлебачанне настойліва і неадчэпна ўбіваецца ў галовы, што руская мова («великий, могучий, свободный, правдивый русский язык») стала для беларусаў другой роднай мовай, што для нас яна самая блізкая з усіх славянскіх моў. Але ці сапраўды яна самы блізкі родзіч?

Каб адказаць на пытанне, можна правесці такія супастаўленні. Для беларуса, які не ведае рускай мовы, вельмі многія рускія словы ў наступным урыўку будуць абсалютна незразумелымі:

Блажен, кто рано поутру
Имеет стул без понужденья.
Тому и пища по нутру,
И все доступны наслажденья.

Гэтак жа для таго, хто не ведае беларускай мовы, патрабуюць тлумачэння шмат якія словы з верша Янкі Купалы «Час!»: «Час склікаці ўжо грамаду на вялікую нараду, на вялікі сход». Або з твора С. Грахоўскага: «У выраі ветразь знікае за хваляй, нібы на спачын».

А вось, скажам, такі ўрывак з рытарычнага пытання, пастаўленага ўкраінскім пісьменнікам Барысам Алейнікам, цалкам зразумее без усякага перакладу кожны беларус:

Як могли себе усведомлювати росіянами споконвічні українці, які одвічно жили на берегах Дніпра, більш як сім століть до народження Москвы, заснованої київським князем, і яка потім уже стала столицею Російскої держави?

Амаль аналагічны, адпаведна-суадносны адказ на пытанне пра сваяцтва паміж усходне-славянскімі мовамі і пра тое, якая мова для беларусаў – самы блізкі родзіч, можна зрабіць, прачытаўшы наступныя радкі з кнігі В.Іванішына і Я.Радзевіча-Вінніцкага «Мова і нація» (выданне 4-е; Дрогобич, 1994, с. 103): «Найближчою до української мови із східнослов'янських мов е білоруська, із південнослов'янських – сербохорватська, из західнослов'янськнх – сорбська (серболужицька). Близькими до неї е також російська та польська мови».

## СЛОВА НЕ ВЕРАБЕЙ, НАВАТ КАЛІ ВЫЛЯТАЕ З «ВЫСОКІХ» ВУСНАЎ...[1]

«Народная воля» (1.12.2006) ўжо цытавала сенсацыйнае, беспрэцэдэнтнае прызнанне А.Р.Лукашэнкі падчас прэс-канферэнцыі для ўкраінскіх журналістаў: «Так, мы сфальсіфікавалі мінулыя прэзідэнцкія выбары. Я ўжо заходнікам гэта сказаў. За прэзідэнта Лукашэнку прагаласавалі 93,5 працэнта выбаршчыкаў. Але гавораць, што гэта не еўрапейскі паказчык. Мы зрабілі 86. Гэта праўда, было. І калі пачаць пералічваць бюлетэні, я не ведаю, што з імі рабіць увогуле». Вельмі многія, і я ў тым ліку, былі ашаломлены: аказваецца, шматлікія заявы апазіцыйных дзеячаў наконт фальсіфікацыі мелі пад сабой грунт! Пэўна, да такой высновы прыйшлі многія тэлегледачы і радыёслухачы той прэс-канферэнцыі.

Але ўзяў у рукі газету «Советская Белоруссия» за 25 лістапада 2006 г., прачытаў надрукаваную там стэнаграму прэс-канферэнцыі з паметкай, што *«публікуецца з нязначнымі скарачэннямі».* Пад скарачэнне, зразумела, трапіла і пададзенае вышэй выказванне пра фальсіфікацыю выбараў. Але ж гэтае выказванне чулі, напэўна, сотні тысяч грамадзян! Слова не верабей, нават калі яно вылятае з «высокіх» вуснаў.

---

[1] Пад такой назвай гэты артыкул (у крыху скарочаным і падпраўленым выглядзе) 18 студзеня 2007 г. апублікавала газета «Народная воля». У маім машынапісе артыкул меў загаловак «Лапша на вушы».

Знайшоў у стэнаграме і шэраг іншых цікавых адказаў. Вось пытанне госця-журналіста: «Ваш беларускі пісьменнік Янка Брыль сказаў, што той беларус *(мелася на ўвазе і «кіраўнік»),* які прапануе беларусам гаварыць на сваёй нацыянальнай мове, адродзіць беларускую мову, той будзе вялікім беларусам. Ці не хацелі б Вы ўвайсці ў гісторыю Беларусі не толькі як вельмі добры, эфектыўны гаспадарнік, але і як чалавек, які адрадзіў нацыянальную мову?»

Адказ на пытанне быў доўгі і блытаны, але не прамы. Хоць сказана і такое (вядома ж, па-руску): *«Мы свой язык, сваю родную мову, возродили. Когда были у власти, их называли «националистами», я по привычке тоже так называю, Шушкевич и его команда, тогда в вузах на белорусском языке сочинение, изложение писали 15–20 процентов. Сейчас, при Лукашенко, который якобы «препятствует возрождению беларускай мовы» (теперь серьезные люди уже так не говорят), у нас больше половины сочинений на экзаменах пишут на беларускай мове. Отличный результат!»*

Але ж ужо каторы год на экзаменах абітурыенты не пішуць ні сачыненняў, ні пераказаў, а маюць справу толькі з тэстамі. Ды і адкуль жа яны будуць пісаць на беларускай мове, калі сфера яе выкарыстання ў грамадскім жыцці звузілася ледзь не да крытычнага мінімуму і калі, кажучы словамі Ніла Гілевіча,

Ад Берасця да Віцебска,
Ад Гомеля да Гродні –
Са школы мову выцесніў
Чыноўны хам бязродны.

Адказваючы яшчэ на адно пытанне, А.Лукашэнка безапеляцыйна заявіў: *«У нас на беларускай мове даже нет терминов в физике, химии».* Але ў гэтым выказванні такая ж праўда, як і ў яго сцвярджэннях, быццам Васіль Быкаў *«пісаў вершы»,* а Францішак Скарына шмат гадоў *«жыў у Піцеры»...*

Насамрэч беларуская мова ўваходзіць у лік прыкладна 500 развітых моў свету, гэта значыць добра вывучаных, даследаваных, унармаваных. Ёсць у ёй і фізічныя, і хімічныя, і матэматычныя, і ўсякія іншыя тэрміны. Яшчэ ў 20–30-х гадах мінулага стагоддзя Беларуская навукова-тэрміналагічная камісія надрукавала 24 (!) выпускі тэрміналогіі па розных галінах навукі, тэхнікі і культуры. Шмат якія тэрміны пазней, у 1960–1970 гады, былі ўдакладнены Тэрміналагічнай камісіяй БелСЭ. У 1990-х былі выдадзены многія тэрміналагічныя слоўнікі. Праўда, некаторыя з іх зроблены на аматарскім узроўні і не зацверджаныя адпаведнымі ўстановамі.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь 17 жніўня 1993 года сваёй пастановай стварыў Дзяржаўную камісію па ўдакладненні правапісу беларускай мовы. А ў 1999 годзе акадэмічны Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа апублікаваў праект новай рэдакцыі «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі». Прайшло больш як сем гадоў, і думалася, што праект так і застанецца пісьмовым помнікам нашай незайздроснай гісторыі. Ды вось летам 2006 года ў сродках масавай інфармацыі паведамілі, што Прэзідэнт РБ даручыў Міністэрству адукацыі падрыхтаваць пакет дакументаў для прыняцця рашэння аб увядзенні ў дзеянне праекта новай рэдакцыі «Правілаў...». Узаконенне гэтага праекта паклала б канец таму разнабою, які існуе ў друкаваных выданнях пры ўжыванні некаторых слоў, выразаў, тэрмінаў. Час ідзе, а аб прыняцці адпаведнага рашэння – ні слыху ні дыху.

Лукашэнка сказаў украінскім журналістам: «Язык – это очень тонкая материя. Это очень важно! Нельзя этот вопрос разыгрывать, как карты, и принуждать людей, «железной рукой гнать их к счастью»... Это мы проходили. Согласитесь, что, кроме языка, есть еще очень много проблем – прежде всего, чтобы люди нормально жили во всех цивилизованных смыслах. Тогда они будут интересоваться не только беларускай мовай, но и другими – и украинской, и немецкой, и английской».

І тут, як бачым, нас вядуць не ўслед за цывілізаваным светам, а нейкім «сваім», дзіўным шляхам. Палітыка далёкага прыцэлу... Прыгадваюцца важкія словы вядомага рускага педагога-вучонага К.Дз.Ушынскага: *«Калі знікне мова — народа больш няма.... Адыміце мову, і ён ніколі ўжо больш не створыць яе; нават новую радзіму можа стварыць народ, але мову — ніколі; вымерла мова ў вуснах народа — вымер і народ».*

## У АБАРОНУ ГАЗЕТНАГА АРТЫКУЛА

Ідзе пасяджэнне універсітэцкай атэстацыйнай камісіі. У цэнтры ўвагі – выбранне па конкурсу на вакантыя пасады і прысваенне вучоных званняў. Абмяркоўваецца кандыдатура прафесара-юрыста (без яго прысутнасці, як і належыць па інструкцыі). З патрэбнымі дакументамі усё ў парадку. Вучоны сакратар гаворыць і пра навуковыя публікацыі прэтэндэнта за апошнія пяць гадоў: выдаў навучальны дапаможнік для студэнтаў, надрукаваў 24 артыкулы – у навуковых часопісах, зборніках, матэрыялах канферэнцый. Дадаецца: пяць артыкулаў з 24-х апублікаваны ў газетах.

На гэта дадатковае паведамленне адзін з членаў камісіі зрэагаваў са здзіўленнем і папрокам: «Ну, як гэта?! Прафесар, а папусціўся друкавацца ў газетах ды яшчэ ўключаць гэта ў спіс навуковых публікацый».

Я (таксама член камісіі) не стрымаўся, сказаў, што чытаў некаторыя з гэтых артыкулаў, што ў іх ставяцца вострыя, надзённыя пытанні і робіцца спроба арыгінальна, па-новаму рашыць іх. Артыкулы гэтыя, несумненна, навуковыя ці, хутчэй за ўсё, паводле стылю, навукова-папулярныя, даступныя не толькі спецыялістам, а і шырокаму колу чытачоў.

Старшыня камісіі зазначыў, што, можа, яно і так, але, паводле інструкцыі, газетныя пулікацыі не ўлічваюцца, не ідуць у рахунак.

У нас усё па інструкцыі. Часам насуперак логіцы. У савецкі перыяд і пры абароне дысертацый, і ў справаздачах выкладчыкаў аб навукова-метадычнай і навукова-даследчай працы газетныя артыкулы таксама не прымаліся пад увагу. Праўда, было выключэнне: матэрыялы, апублікаваныя ў *«Правде»* (самай галоўнай газеце), залічваліся. І толькі ў *«Правде»,* але не ў *«Звяздзе»* ці якой іншай цэнтральнай або рэспубліканскай газеце. Рабілася таксама выключэнне і для надрукаваных у газеце рэцэнзій. Яны залічваліся.

Калі выкладчык, літаратар або мовазнаўца, апублікаваў вялікі, на цэлую паласу, грунтоўны артыкул у *«ЛіМе»,* – не лічыцца, не прызнаецца за навуку. І нават калі гэта ў часопісе *«Полымя»,* пра які Р.Барадулін слушна пісаў:

Твор з знакам якасці, калі
Надрукаваны ў «Полымі».

Ёсць у гэтым часопісе рубрыка *«Навука»,* і здавалася б, што публікацыя пад гэтай рубрыкай не павінна выклікаць ніякіх сумненняў. Ажно не: часопіс, маўляў, не навуковы, а літаратурна-мастацкі ды грамадска-палітычны.

Пры ўліку публікацый захоўваюць пэўную градацыю. Чамусьці асабліва высока каціруецца надрукаванае выкладчыкам у далёкім зарубежжы, «за бугром». Асобна, і з вялікім балам, улічваюцца артыкулы, змешчаныя ў навуковых часопісах, хоць, як вядома, тыраж іх занадта маленькі, асабліва ў апошнія гады. Астатнія публікацыі ідуць графой «у навуковых выданнях». Гэта часцей за ўсё матэрыялы канферэнцый. Яны хоць і праводзяцца ў Беларусі, але звычайна лічацца міжнароднымі. Напрыклад, адна з іх меркавалася як рэспубліканская, але на яе прыехалі выкладчыца з Украіны і два аспіранты – карэйцы па нацыянальнасці. Як вынік – на вокладцы зборніка з матэрыяламі канферэнцыі пазначана, што яна міжнародная. У

канферэнцыях звычайна ўдзельнічаюць амаль усе выкладчыкі, сярод іх і тыя, хто нідзе, апрача як у зборніках такіх канферэнцый, не публікуецца.

Тыраж гэтых зборнікаў невялічкі – каля сотні экзэмпляраў. Палову разбіраюць самі аўтары, частка адпраўляецца (як абавязковая рассылка кантрольных экзэмпляраў) у бібліятэкі і некаторыя ўстановы. У продаж такі зборнік не паступае, як вынік – колькасць яго чытачоў крайне мізэрная.

Артыкулы зборніка, да таго як трапіць у друк, чытаюцца, апрача аўтара, не больш чым дзвюма асобамі: рэцэнзентам і адказным за выпуск.

Таму, калі гаварыць шчыра, часта прачытаеш які-небудзь артыкул і дзіву даешся: ну і што ж тут новага, арыгінальнага сказаў аўтар? Амаль усё чутае-перачутае, толькі вымаўленае іншымі словамі.

А змест іншага артыкула, перанасычанага тэрмінамі, ніяк не хоча засвойвацца з-за навукападобнага стылю: «Дэнататыўныя азначэнні адлюстроўваюць паміма прыкмет, якія ўваходзяць у сігніфікатыўнае значэнне, яшчэ і прыкметы сігніфікатыўнага фону…»; «Капцэпт, як ментальная існасць, ствараецца з тых азначэнняў, што складаюць яго найменне, і з тых адносін, у якія гэта найменне ўступае…».

Інакш кажучы, многія матэрыялы такіх зборнікаў пакідаюць жадаць лепшага. І не ідуць ні ў якае параўнанне з добрымі газетнымі публікацыямі. Я маю на ўвазе не ўсякі газетны матэрыял (хроніку, пашыраную інфармацыю, інтэрв'ю, справаздачу пра грамадска-палітычныя падзеі і інш.), а менавіта артыкул – праблемны, дыскусійны, прапагандысцкі або з абагульненнем вопыту работы. Тут шырокае поле для гісторыкаў, літаратараў, мовазнаўцаў, прававедаў, спецыялістаў іншых прафесій.

Звычайна такія артыкулы пішуцца не з ходу, а доўга выношваюцца. Назапашваецца фактычны матэрыял, робяцца накіды, запісваюцца асобныя думкі, што жывуць пакуль што ўразброд, чакаючы спарадкавання. Заўсёды сутыкаешся з праб-лемай зачыну, першага сказа. Дбаеш адначасова пра змест і форму. Не забываеш пра дакладнасць, лагічнасць і даступнасць выкладу. Пішучы, разлічваеш, што напісанае, а пасля, магчыма, і надрукаванае будуць чытаць не па дыяганалі, а дачытаюць да канца. Пішаш з вялікай адказнасцю за кожнае слова і з арыентацыяй не на два дзесяткі чытачоў ці слухачоў рэспубліканскай або міжнароднай канферэнцыі, а на масавую чытацкую аўдыторыю газеты са шматтысячным тыражом. Артыкул выстаўляецца як бы «на ўсенародныя вочы», хоць ён і аднадзённы, як і сама газета, што захоўваецца толькі ў падшыўках.

Толькі той з навукоўцаў, хто ніколі не надрукаваў ніводнага радка у газеце (а надрукавацца ў ёй не так лёгка, як у зборніку міжнароднай канферэнцыі), – толькі ён і можа грэбліва ставіцца да газетных артыкулаў свайго калегі.

Не цураліся газет прафесар Ф.М.Янкоўскі або акадэмік В. У. Віноградаў. Друкуе ў «Настаўніцкай газеце» вялікія (з працягам) публікацыі акадэмік І.Ф.Харламаў. Вельмі актыўна супрацоўнічае са многімі газетамі доктар гістарычных навук Л.Лыч. Часам выказваюцца ў газетах прафесары М.Мішчанчук і У.Конан. І яшчэ шмат хто. І не бядуюць, што іх артыкулы не кваліфікуюцца як навуковыя публікацыі. Іх чытаюць!

А можа б, на гэты конт па-іншаму сказалі сваё слова Міністэрства адукацыі або ВАК Беларусі?

Дарэчы, у Польшчы, як паведаміў мне прафесар Беластоцкага універсітэта М.Кандрацюк, некаторыя газетныя артыкулы прызнаюцца як навуковыя.

**З М Е С Т**

